# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
═ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ═



№ 7
1926



Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК



Да 20-гадовага юбілею літаратурнай дзейнасьці беларускага пісьменьніка і поэты
**Якуба Коласа—Тараса Гушчы.**

# ЗА ПАРОГАМ*)

Тарас Гушча

## XIII

У жыцьці кожнага чалавека бываюць моманты, што складаюць у ім пэўны паваротны пункт, уводзяць у новы круг бытаваньня. Такім момантам у Нінчыным жыцьці быў гэты вечар.

Гадзіны дзьве сядзелі яны ў кіно плячо ў плячо, цесна прытуліўшыся. Ніна ўважна глядзела на экран, але адчувала, што яе сусед, Шулевіч, часта пераводзіць свае вочы з экрана на яе і нейк вельмі пільна ўзіраецца ў яе твар і ва ўсю яе постаць. Нінцы часамі проста было не па сабе ад такога разгляданьня. Яна ведала, што ня гэты экран займае тут для іх першае месца, а нешта другое, і што гэта „другое“ прывяло іх сюды. Часамі і яна адрывалася ад экрана і кідала мгненны погляд на Шулевіча. Яе вочы сустракаліся тады з яго цёмнымі бліскучымі вачамі, а з губ іх зьляталі многазначныя, хоць бясслоўныя ўсьмешкі. І тады ціхенька браў Шулевіч яе руку ў свае рукі, лёгенька трос яе і гладзіў. Ніна не працівілася, толькі баязьліва азірнецца навокала, а ён шэпча ёй: „Мілая, любая Ніначка!“ Ніне паказалася, што на іх углядаюцца чыесь вочы і ўвесь час сачаць за ёю.

Бліскучае вока экрана лыпнула ў апошні раз, паказаўшы слова „канец“, і публіка раптам загула і з шумам рушылася ў выхад. Дзяржучыся за рукі, Ніна і Шулевіч уліліся ў людзкую плынь і вышлі на вуліцу. Сымон Галыза, ня спускаючы іх з вока, ішоў за імі на некаторай адлежнасьці. Чаго?—ён і сам ня мог даць на гэта адказу. Незаметны для іх, ён лавіў кожны рух Ніны, кожную яе ўсьмешку... Эх, як ненавідзеў ён цяпер свайго больш удатлівага супарата! А Ніна!.. Эх, Ніна, Ніна! пабіць-бы цябе—і больш нічога. За што? За тое, што з-за яе так балюча-цяжка і спакою няма яму. Яму хацелася падысьці да іх і сказаць ім якое-небудзь крыўдна-абразьлівае слова, каб яно апякло іх. Але чаго ён гэтым дасягне? Нічога. Пасьмяюцца з яго—і толькі, і гэтым ён выказаў-бы сябе з найгоршага боку. І вінават тут толькі ён сам, бо з дзяўчатамі трэба ўмець абходзіцца—з бою трэба іх браць, а ня быць кісялём, якім быў ён. Лепш не паказваць і віду таго, што цяпер у яго сэрцы робіцца. І Сымон крута павярнуў у другі бок і пайшоў совацца

*) Гл. „Полымя“ № 7 за 1925 г. і №№ 5, 6—за 1926 г.

па вуліцы. Востры боль нейкай утраты прыціх, у галаве радзіліся новыя мысьлі. Іх трэба выказаць на паперы самому сабе, і тады яму стане лягчэй. Сымон пайшоў на кватэру.

Ніна і Шулевіч апыніліся на вуліцы. Тут было людна і шумна. Гэта быў якраз той раён, куды сьпіраліся людзі кавалерскай ахварбоўкі, бы тая рыба ў часе яе нерасту. Гэта была гарадзкая біржа каханьня, дзе завязваліся, а часамі і разьвязваліся яго ня зусім здаровыя ніці.

— Пойдзем адгэтуль,—сказала Ніна.

— Пойдзем,—згадзіўся Шулевіч:—тут нават і пагаварыць няма як. А пагаварыць, Ніначка, нам трэба.

Голас яго гучаў ціха і нейк хрыпавата. Зьвярнулі на другую вуліцу, дзе было цямней і спакайней. Прайшлі некалькі крокаў моўчкі, як-бы не знаходзячы слоў. І раптам Ніна пачула, як яго рука шчыльней прытуліла да грудзей яе руку. Яна чуць апусьціла сваю галаву і вочы, і ёй трохі нейк страшна стала: вось скажа тое, што і вабіла і пужала яе. Як-бы ў адказ на гэтае прыжыманьне яна таксама лёгенька паціснула яго руку. Шулевіч азірнуўся навокала. Момант якраз добры. Моўчкі павярнуў голаву і пацалаваў яе ў шчоку, пацалаваў моцна, з запалам, у засос.

— Што робіш?—з боязьню ў голасе сказала Ніна:—на вуліцы?

— Гэтым, Ніна, я сказаў усё, ясна, проста і выразна,—папролетарску.

Шулевіч тут пачуў, што той цяжар і неспакой, што быў у ім момант назад, цяпер прайшлі бяз сьледу, а гэтае яе „на вуліцы" прывяло яго ў радасьць: стала быць, там, дзе ніхто не пабачыць, цалаваць яе можна.

Труднавата было зрабіць пачатак, а далей пайшло лягчэй. Зайшлі ў глухое месца. Цалаваліся там, покі гэты сьверб цалаваньня не прайшоў. І расказалі адно другому, калі хто каго пакахаў, як пакахаў і за што.

— Я люблю ў табе, Ніна, тваю дзявочую ціхасьць, можа, ад таго, што сам я—мяцежная натура, рэволюцыянэр па прыродзе. Люблю тваю нейкую затоеную засмучанасьць, і калі я толькі зірнуў на цябе, я сказаў: „Яна! Вось тая, хто можа быць маім найлепшым таварышам!" Я чую, што толькі ты, ты адна, і можаш быць тым, з кім і можна рука ў руку ісьці па дарозе змаганьня за сьветлыя ідэалы комунізму... Ніна!—зьмяніў ён тон прамовы:—я многа сказаў-бы на гэтую тэму, але не хачу прыпадабляцца буржуазным ідэолёгам, каб не сказаць буржуазнай дрэбедзені. Я люблю цябе—і баста!

Ніну вельмі кранулі словы Шулевіча, асабліва тыя, дзе казалася пра яе затоеную засмучанасьць. Праўда, у яе была яна. Як глыбока ён зірнуў у яе душу!

— А я люблю твае цёмныя вочы, Марцін. Яны так глыбокі—не хапае сьмеласьці зірнуць у іх бяздоньне. Яны і вабяць, і чаруюць, і па-

лохаюць. І голас люблю твой, і твой розум, і тваё ўменьне ва ўсім разьбірацца. І яшчэ люблю цябе і за тое, што мяне ты палюбіў.

Ніна ўздыхнула.

— Толькі ты не насьмейся з мяне,—прамовіла ціха яна, і ў голасе яе чулася трывога і нейкая боязьнь. „Буржуазнае прызнаньне ў каханьні“, мільгнула ў галаве Шулевіча. Увесь гэты час ён адчуваў, што яго „я“ распалася на дзьве часткі, як-бы падзялілася на двух Шулевічаў. Адзін Шулевіч гаварыў, а другі слухаў і бязьлітасна крытыкаваў яго, бо гэты другі часта адчуваў нейкую нялоўкасьць за першага. Гэтае самае „буржуазнае прызнаньне ў каханьні“ належала другому Шулевічу. Першы Шулевіч прыкінуўся, што не пачуў гэтых слоў і сказаў:

— Ніколі, Ніначка!—прыгарнуў і стаў цалаваць.

З гадзіну пагуляўшы па глухой вуліцы, зайшлі ў сталовую і павячэралі, каб хоць гэтым адзначыць сваё шчырае каханьне.

## XIV

На кватэры застаўся адзін толькі Сьцёпка. Яго таварышы разышліся, хто куды. Яму нават і на руку было гэтае адзіноцтва, бо часамі-ж трэба пабыць аднаму, зусім аднаму, каб ня чуць і голасу людзкога. Карыстаючыся вольным днём, Сьцёпка падчытаў сёе-тое з таго, што ўваходзіла ў програму яго дзейнасьці на вёсцы. На гэтую справу Сьцёпка глядзеў сур'ёзна. Чытаючы, рабіў сякія-такія нататкі, выпіскі, а нарэшце, паставіў сабе такое пытаньне: ці не пайсьці яму па сканчаньні рабфаку ў які-небудзь спэцыяльны вуз—па будаўнічай ці па агрономічнай часьці? Гэтае пытаньне Сьцёпка покі што пакінуў адкрытым, бо наўперад трэба скончыць рабфак, а затым жыцьцё і практыка летам на вёсцы памогуць яму правільна разьвязаць гэтае пытаньне. І яшчэ была адна прычына, што таксама казала за адклад: сёньня якраз прышоў ліст ад Аленкі. У гэтым лісьце было многа цікавага, але Сьцёпка прачытаў яго борзьдзенька—проста не хацеў пры таварышах сядзець над ім доўга, каб ня выклікаць гэтым іх зубаскальства, бо зараз-жа падхопяць на язык: „Го, Сьцёпку дзяўчаты лісты прысылаюць!“ Гэта — яго пэрсональная справа, да якой другім няма ніякага дзела. Цяпер, калі нікога ня было, можна прачытаць ліст з належнаю ўвагаю.

Трэба сказаць, што Сьцёпка даўно ўжо чакаў адказу на свой ліст. Але час праходзіў, Аленка-ж упарта маўчала. Якая была ці магла-б быць гэтаму прычына? А прычын магло быць многа: ліст мог не дайсьці да яе, магла яна пакрыўдзіцца на яго за тое, што пісаў ён ёй аб поэтах, магла яна, урэшце, з кім-небудзь і сардэчную дружбу завесьці. Ва ўсякім разе, Аленка і яе адказ вельмі займалі Сьцёпкавы мысьлі. І вось, гэты доўгачаканы ліст у Сьцёпкавай кішэні.

Вынуў Сьцёпка з кішэні ліст, палажыў на разгорнутую кнігу, на ўсякі выпадак, і стаў чытаць.

„Мілы, дарогі і слаўны Сьцёпачка!“ пісала Аленка.

Прачытаў Сьцёпка, прыглядзеўся да гэтых слоў, сказаў іх шапатком, каб пачуць гукавую прыроду іх, вуха сваё задаволіць, і нават пастараўся пачуць іх у вуснах Аленкі, —з усіх канцоў добра! А як называе яго—„Сьцёпачка!..“ Чатыры толькі словы, а колькі ў іх зьместу! Добра нават і тое, што іх тут да пары.

„Ня гневайся на мяне, Сьцёпка: хацела напісаць табе, як дадому прыехала, ды прастудзілася і так кашляла, што аж страшна было слухаць. Хварэла ўсе канікулы і з хаты нікуды ня выходзіла, так можна сказаць увесь час на печы і прасядзела.

Алесь і Юрка сяды тады да нас забягалі. Яны ходзяць у школу і вельмі рады, што ты вучышся ў горадзе. „І мы“, кажуць, „скончым школу і таксама пяхотам пойдзем навукі шукаць“. Дома ў вас усе здаровы. І матку тваю бачыла, але пагаварыць з ёю ня прышлося. Калі ты пайшоў тады з сяла, то ўсе казалі, што цябе бог пакарае і што ня будзе табе шчасьця. А як даведаліся, што ты паступіў і вучышся, то зьдзівіліся, а некаторыя казалі, нават, што такім бязбожнікам, як ты, памагае чорт. Пра „сьвяты калодзеж“ забыліся. Язэп Дзыгун кінуў сваё „папячыцельства“ ў царкві. Сьмяялася мая маці і расказвала, што, падвыпіўшы, Язэп прызнаўся людзям, што ён даўно адышоў-бы ад бога, але, паважаючы божую матку, ня хоча ён па старасьці рабіць прыкрасьці. З навін нашага сяла можна яшчэ адзначыць, што памёр дзед Трондзель.

Перад сьмерцю казаў, што калі апыніцца на тым сьвеце, то першым дзелам пацікавіцца, ці ёсьць там рай і пекла, а потым прысьніцца старшыне сельсавету, каб ён афіцыяльна паведаміў людзей на сходзе і расказаў усё, што знойдзе там дзед Трондзель.

Цяпер я зноў у Загор'і. У нас тут залажыўся краязнаўчы гурток. У гэтым гуртку і я працую. Запісала шмат песень, прыказак, сабрала многа ўзораў тканін Ёсьць у нас і свой краязнаўчы музэй... Вельмі цікавая работа ў краязнаўчым гуртку.

Да канца заняцьцяў засталося два месяцы, а там залікі і—бывай здарова, сямігодка! Мне нейк і шкода, што скора прыдзецца разьвітацца з сямігодкаю, куды я потым дзенуся—сама ня ведаю. А хацелася-б яшчэ павучыцца, прабіцца ў вышэйшую школу, пажыць у горадзе. А ці ўдасца гэта, сказаць трудна. Калі я была дома і мне нездаровілася, то маці казала, што гэтае нездароўе ад навукі, бо навука высушвае мазгі, заганяе ў сухоты. Ёй здаецца, што я і так ужо вучоная. Адным словам, відаць, што яна ня хоча каб я далей вучылася. Кажа, што ёй цяжка, што многа работы, а памагаць ёй няма каму.

Я так рада, Сьцёпка, што ты свайго дабіўся, жывеш і вучышся ў горадзе. Дзе ты будзеш летам? Прыяжджай да бацькоў, яны будуць рады, калі ты прыедзеш. І мне хацелася-б пабачыць цябе, якім ты стаў

цяпер. Напішы мне, як ты жывеш там, ты гэта абяцаў у сваім пісьме. Я вельмі была рада, калі прышоў ліст ад цябе. Чытала яго многа разоў.

Завошта зьнеpower так поэтаў? Мусі быць ты проста хацеў з мяне пасьмяяцца? Я хацела пасьля гэтага зусім кінуць пісаць вершы, але часамі надыдзе такая мінута, што вельмі хочацца напісаць. Тады я саджуся і пішу і ў гэтым знаходжу вялікую асалоду. Але я больш чытаць і паказваць табе сваіх вершаў ня буду. Дараваць сабе не магу, на што я тады чытала табе свой верш. Ну, але ты глядзі на гэта, як на дзіцячую забаўку—проста дурная была. Цяпер дур гэты ў мяне прайшоў.

Ну, бывай здаровы. Усяго табе найлепшага. Ды ня сьмейся з майго ліста. Хацелася напісаць і больш і лепш. Ну, але няхай на гэтым будзе канец і застаецца так, як напісалася.

Алена Гарнашка.

Прачытаў Сьцёпка і задумаўся. Шкода нейк стала Аленкі. І такою блізкаю, роднаю ўвайшла яна ў яго сэрца! А ён сам пакрыўдзіў яе ў тым сваім лісьце. І за што? За яе шчырасьць да яго. А які слаўны ліст напісала яму яна! Яна хоча пабачыць яго, яго, такога жорсткага і нячулага!

І Сьцёпка стаў упікаць сябе за гэтую жорсткасьць. А ўсё ад таго, што ён аб сабе думае больш, чым гэта трэба. Ён і матку сваю пакрыўдзіў, і з Алесем разьвітаўся тады зусім не пабрацку, і Аленцы прычыніў прыкрасьць. Чаму ён такі нягодны?

Сьцёпка акуратненька злажыў Аленчын ліст і схаваў. Устаў, прайшоўся па кватэры раз, другі. Вобразы дзяцінства і яго вёскі ўсплыл перад ім так яскрава, як-бы яны былі намалёваны перад яго вачамі. Хадзіў Сьцёпка і разважаў. Перш за ўсё ён Аленцы напіша, напіша безадкладна, сёньня-ж. У Сьцёпкавай галаве пачаў складацца ліст да Аленкі. Ён апіша, у якой абстаноўцы чытаў яе ліст і з якою прыемнасьцю чытаў, як нецярпліва чакаў яго, як прабіраў ён самога сябе за свае неабдуманыя словы аб поэтах, і ён зусім ня меў на ўвазе тут Аленкі. Калі-ж у яе такое моцнае цягненьне да складаньня вершаў, то гэта ёсьць ужо адзнака таго, што Аленка—сапраўдная поэтка. Няхай яна піша, але вясёлыя, жывыя, поўныя энэргіі вершы, бо ў жыцьці так многа радасьці, а ўсякае гора, няўдачы трэба асіліць. А што Сьцёпка ня вораг поэзіі, то гэта відаць з таго, што ён з прыемнасьцю чытаў верш Сымона Галызы „Гэй“. Ён нават папросіць у Сымона гэты верш і пашле яго Аленцы, як прыклад тых вершаў, якія Сьцёпку падабаюцца. Далей напіша, каб Аленка весялей глядзела на жыцьцё, на сваю далейшую навуку. Калі што, то ён дапаможа ёй!

Сьцёпка ўжо быў памкнуўся, каб узяцца за пісаньне ліста Аленцы, ды раптам спыніўся: прышоў Сымон Галыза.

— А ты ўсё дома сядзіш?

— А што мне рабіць?—пытаньнем адказаў Сьцёпка, трохі нездаволены прыходам Сымона.

— Зайздрошчу табе, Сьцёпка: ты заўсёды роўны, спакойны—ніякое ліха не бярэ цябе.

— А чаго мяне ліха браць будзе? Лепш я сам вазьму яго за жабры ды кіну так, каб яно і ня ўстала.

— Скажы, Сьцёпка, што лепей: пасьмяяцца з человека ці заплакаць над ім?

Паглядзеў Сьцёпка на прыяцеля, усьміхнуўся.

— Ведаеш, Сымон, што?

— Ну?

— Садзіся напішы верш: кажу табе—на яць выйдзе!

— Чаму ты так думаеш?—зьдзівіўся Сымон.

— Бачу па табе.

— Няхай ты згары: усё ты бачыш!.. А скажы: ці могуць мяне дзяўчаты любіць?

— А чаму не? ня хлопец ты, ці што?

— А чаму-ж яны, гадаўкі, ня любяць?

— А хіба ты іх пытаў?

— Не, брат, ня пытаў і пытаць ня буду. Ну іх к чорту!

Сымон крута завярнуўся. Узяўся за кнігі.

— Вучыцца трэба, вось што.

А праз некаторы час у руках яго энэргічна захадзіў карандаш.

## XV

Утомлены і заклапочаны, ляжаў Шулевіч на цьвёрдай і бруднай канапцы ў сваёй кватэры. Гэта—яго другая кватэра. Плаціць за яе чатыры рублі. У яго бюджэце чатыры рублі—значныя грошы. Іх можна было-б і ня траціць, але іначай яму нельга. Наўперад ён апраўдваўся тым, што ён актывісты, вядзе грамадзкую работу. Яму трэба гатавацца да дакладаў па розных пытаньнях, трэба праштудыяваць спэцыяльныя кнігі ў сувязі з работаю на вёсцы, а таксама трэба і навукаю займацца. Усё гэта лепш зрабіць, калі маеш асобную кватэру. Вось чаму і мусіў ён наняць яе. Так ён і ўсім казаў, так запэўніваў і самога сябе. Цяпер-жа, разьбіраючыся ў сабе самым, у сваіх паступках і падводзячы ўсяму гэтаму падрахунак, ён мусіў прызнацца, што ўсё гэта—выдумкі, а кватэру ён наняў толькі з-за Ніны, бо трэба было мець прытулак, дзе-б яны маглі адчуваць сябе вольна і выгодна, каб цалкам аддацца „лепшаму і вышэйшаму“ пачуцьцю. Гэтае „лепшае і вышэйшае“ пачуцьцё, як называў яго Шулевіч некалькі месяцаў таму назад, прыгалубліваючы Ніну, цяпер пачынала яму карцець, замінаць, лажылася на яго лішнім, непатрэбным клопатам.

І чаму так абярнулася гэтая „песьня вясны“, песьня каханьня? Чаму апошнія акорды яе зьвіняць для яго ланцужным звонам? А вельмі проста: ён шукаў у ёй таварыша, друга, а знайшоў толькі жанчыну і прытым з мяшчанскаю ахварбоўкаю, бо ёй трэба мяшчанскае гняздо, яна хоча зьвязаць яму крыльле, прымацаваць яго да сябе. З-за яе адышоў ён ад грамадзкае работы, запусьціў навуку, траціцца на лішнія выдаткі, залез у доўг. І яшчэ многа іншых довадаў знаходзіў ён, і ўсе гэтыя довады казалі за тое, што іх каханьню трэба зрабіць канец і што ва ўсім гэтым вінавата толькі Ніна. Вінавата яна нават і ў тым, што так лёгка і борзда пайшла за ім і пайшла на ўсё. Варта было яму толькі кіўнуць пальцам, каб яна зараз-жа і прыліпла да яго. І яшчэ нейкія прэтэнзіі мае да яго, у Загс яго цягне! Не, брат, дудкі! Няма дуракоў з першаю сустрэчнаю ў Загс хадзіць, паперы толькі псаваць. Узяць на сябе ролю жанатага чалавека, завесьці сям‘ю, чуць на сваёй шыі абузу,—тфу! Дзіка і недарэчна.

Ён падняўся з канапы, залажыў рукі за карк і стаў хадзіць з вугла ў вугал, раздумваючы, як латвей тут зрабіць адступленьне... Э, да што тут многа разважаць: такія гісторыі дзесяткамі тысяч налічаюцца!

Дзесь з двара пачуўся скрып дзьвярэй.

— Дома, дома!—казаў гаспадынін голас.

„Яна!“ падумаў Шулевіч і скрывіўся, як-бы нешта кіслае папала яму ў рот. Правёў рукою па валасох, адкінуў іх назад. У яго дзьверы пастукала чыясь нясьмелая рука, а разам з гэтым пявучы дзявочы голас ціхенька запытаў:

— Можна?

Шулевіч моўчкі адчыніў дзьверы.

— Рады, што я прышла?—запытала Ніна, спыніўшыся каля парогу. Шчокі яе разрумяніў асеньні холад, на губах блукала ціхая, як-бы вінаватая ўсьмешка, а сінія вочы пазіралі засмучана і крыху пужліва.

— Раней ты ніколі ня прыходзіла да мяне з такім запытаньнем... Сядай, Ніна,—абарваў ён сябе самога, бо пачуў, што ня так пачаў, як трэба.

Яна ўздыхнула.

— Але-ж раней ты не сустрачаў мяне з такою кіслаю мінаю, Марцін.

Яна зрабіла намаганьне над сабою, каб усьміхнуцца яму.

— Ты выдумляеш, Ніна, я заўсёды рад табе,—вочы Шулевіча зірнулі кудысь у бок.

— Не, Марцін: ня лжы ты сабе самому, раней ты быў не такі, зусім не такі. Хіба-ж я ня бачу? Раней, калі я прыходзіла да цябе, то ў мяне на сэрцы было спакойна, сьветла, радасна. А цяпер я чую, што я чужая табе, і я адчуваю нейкі страх, калі падыходжу да твайго парогу, бо ты ня любіш мяне... А можа ты мяне і ніколі ня любіў.

— Ты сама сабе супярэчыш, Ніна: наўперад у тваім сэрцы было сьветла, радасна і яшчэ там нешта было, бо ты ведала, што я цябе люблю. А цяпер ты раптам кажаш, што можа я цябе і ніколі ня любіў.

— За словы, Марцін, лёгка ўчапіцца, але-ж ня ў словах тут сіла, а ў факце.

— Якая ты нудная, Ніна!—з болем у голасе прамовіў Шулевіч:—я ня ведаю, чаго ты хочаш ад мяне?

— Ну, ня злуйся, Марцін, мой мілы, мой харошы! Люблю-ж я цябе,—з ласкавасьцю ў голасе сказала Ніна і памкнулася да яго, каб прыгарнуцца.

Шулевіч зморшчыўся і махнуў рукою, як-бы ад дакучлівай мухі бароньячыся.

— Ужо чуў гэта я... Ніна! ня дзеці мы. Пара ўжо і дзелам заняцца, ня век-жа лізацца нам,—груба адрэзаў Шулевіч.—Досыць ужо гэтага мяшчанскага шчасьця! Ты толькі падумай, Ніна, якую каніцель разводзім мы тут, навошта мы час трацім! Ня трэба забывацца, хто і дзе мы, якія грамадзкія і рэволюцыйныя задачы стаяць перад намі. Мы павінны быць авангардам рэволюцыйнага пролетарыяту, мы павінны працярэбліваць дарогі ідэям комунізму і ўсясьветнай рэволюцыі, а не сядзець абняўшыся, ахаць ды вохаць і распускаць нюні: любіць—ня любіць... Не хватае яшчэ для паўнаты гэтай ідыліі сарваць кветачку і гадаць, зрываючы пялёстачкі: „любіць—ня любіць, пацалуе—плюне, к сэрцу прыжме—к чорту пашле!!! Тфу, якая гадасьць! Да якога мяшчанства можна дакаціцца!

То бледнасьць, то чырвань выступалі на яе твары. Слухала, але чула толькі словы, сэнсу-ж іх улавіць не магла. Адно толькі ясна было ёй: яна тут лішняя, нялюбая,—прыелася яму. Усё, што можна было ўзяць ад яе, узята, і больш яна яму непатрэбна.

— Марцін! я ўсюды пайду за табою, на якое хочаш змаганьне пайду. Я буду верным памочнікам табе, ні на крок не адстану ад цябе. Я многа не патрабую ад жыцьця, бо я выгадавалася ў бядоце і ў цяжкай працы. Я ўмею працаваць і магу працаваць.

Яна панізіла голас і напомніла яму:

— Ты-ж казаў мне, што знайшоў у мне друга-таварыша, і я паверыла табе, паверыла са ўсёю шчырасьцю свайго сэрца. Я хачу быць тваім таварышам-другам.

Шулевіч панура слухаў, не пазіраючы на яе.

— Так, я думаў знайсьці ў табе друга, але памыліўся. Што зрабіла ты да гэтага часу для рэволюцыі? Ты мала працуеш над сабою, ты не актыўна. Ты нават даходзіш да такога мяшчанства, што пачынаеш падвівацца, як якая-небудзь буржуазная паненка. Ніна! я памыліўся ў табе. Ну, што-ж? мы павінны вучыцца на нашых памылках. Не памыляецца толькі той, хто нічога ня робіць. Я чую, што ты цягнеш мяне ў мя-

шчанскае балота. Заняўшыся сабою, мы забыліся аб інтарэсах пролетарыяту. З-за цябе я закінуў навуку, адстаў, у доўг залез, ты зрабіла мяне праступнікам, бо я растраціў шэсьць рублёў мопраўскіх грошай, ты разьбіла маю мару, маю лепшую мару аб таварышу-другу. Я насіў, я песьціў, калыхаў яе ў калысцы майго сэрца. Я так прагна, я так палка шукаў у табе гэтага друга і не знайшоў яго!—трагічна выкрыкнуў ён апошнія словы.

Шулевіч увайшоў у ролю прамоўцы. „Самая лепшая абарона—перайсьці ў наступленьне“, падумаў ён і зачасьціў, засыпаў звонкімі словамі. Чым больш гаварыў ён, тым меней заставалася ў Ніны сумненьня, што яна тут непатрэбна, што яна абманута гэтымі прыгожымі, гучнымі словамі і што ёй ня ўтрымаць яго пры сабе. Дый на што? Якая карысьць з гэтага? Яму проста хочацца адвязацца ад яе, але ён не адважваецца сказаць ёй гэта проста і адкрыта. Горка і крыўдна стала ёй.

— Слухай, Марцін!—цьвёрда сказала яна:—нашто ты ломіш гэтую камэдыю? Чаму не хватае ў цябе сьмеласьці сказаць мне проста: „Пашла к чорту, ты мне не патрэбна“? Цяпер ты мне разьвязаў вочы, і я ўбачыла, хто ты такі. Я думала, ты—сталы чалавек, я паверыла табе, што ты—рэволюцыянэр. Ты-ж толькі апаскуджваеш гэтае вялікае слова і прыкрываеш ім сваю брыдоту. Я не хачу нікому быць абузаю, але нашто ты зводзіў мяне? Нашто ты мне лгаў? Нашто ты лжэш цяпер—і мне і самому сабе? Скажы: якога друга-таварыша шукаў ты ў мне?

— Ты ня можаш сваім розумам зразумець мяне,—пачаў ён, але змоўк у той момант, калі Ніна з усьмешкаю, поўнаю зьнявагі, і з дакорам паківала галавою.

— Кінь, Марцін. Можа ты і добры... камэдыянт, але цяпер я бачу наскрозь усю тваю мізэрную істоту. Табе проста трэба было маё цела... Ты помніш, як часта кідаўся ты і цяпер кідаешся словам „мяшчанства.“ Ты гэтым „мяшчанствам“ зьбіў мяне з тропу, з дарогі. Праз гэтае „мяшчанства“ ты зрабіў мяне няшчаснаю. Ды я ўжо гаварыць аб гэтым ня буду... Я прышла да цябе, як да блізкага мне чалавека, бо ў мяне нікога няма больш блізкага, як ты... якім ты быў для мяне яшчэ нядаўна. Я хацела пагаварыць з табою аб пасьледках нашай блізкасьці, як нам далей быць, а ты мне пачаў жалавацца на мяне, што я цябе зрабіла няшчасным... Хто-ж ты пасьля гэтага? У цябе ёсьць многа звонкіх слоў, гучных слоў, выберы-ж з іх самае адпаведнае табе і прылажы да сябе.

Ніна крута павярнулася, каб выйсьці.

— Пастой, Ніна!.. Як-жа гэта? Аборт там, ці што?.. Я дапамагу табе.

Яна ўскінула на яго вочы, поўныя гневу і ненавісьці.

— Ня сьмей прыкранацца да мяне, бо я плюну ў твае зладзейскія вочы, няшчасны... самец!

Як аплявушаны, стаяў ён на месцы, і нейкая крывая ўсьмешка застыла на яго губах.

— Хацеў затрымаць, пагаварыць, выясьніць, аналізаваць, дапамагчы а яна плюнула на мяне... Сама вінавата.

## XVI

Як ніколі ў жыцьці, адчувала Ніна сваё адзіноцтва і боль абману тай дзяўчыны. Паверыла ў сваё шчасьце, і так балюча і жорстка пакарана за гэта! І асабліва цяжкі былі для яе першыя мінуты, тады, як вышла на вуліцу. Куды-ж ёй цяпер дзецца? Што рабіць? Ногі кудысь несьлі яе, але яна не зважала гэтага. На вуліцы было пуста і глуха, дзьмуў халодны сустрэчны вецер, на гарачы твар падалі дробныя кроплі дажджу. У яе душы было таксама пуста і цёмна, як і на гэтай вуліцы. Не магла нават сабраць сваіх мысьляй і хоць на чым-небудзь спыніцца. Нейк раптам усё на сьвеце апусьцела для яе, ня было за што зачапіцца, каб ня ўпасьці ў бяздоньне. Сьвежае паветра і гэты халодны дождж прывялі яе ў памяць.

„Куды-ж я іду?“ падумала дзяўчына. Азірнулася назад: была патайная надзея, што ён дагоніць яе, верне. З-заду па мокраму тротуару пачуліся чыесь крокі. Напэўна ён. Але яна ня вернецца. Не, ня вернецца! І з заміраньнем сэрца прыпыніла свой крок. Не, гэта ня ён. Мінуў яе, прайшоў далей. Незнаёмы чалавек, чужы. Усе ёй тут чужыя, а яна адна, адна, як ніхто на сьвеце, адна з сваёю крыўдаю, з сваім болем! Яна павярнула на другую вуліцу. Тут сьвятлей і больш людна. Азірнулася яшчэ раз. Па другі бок вуліцы поруч з ею нырала ў цемнаце нейчая постаць. Ці мала хто ідзе? Але гэтая постаць незаметна для Ніны таксама павярнула на тую вуліцу, куды пайшла і яна. Прайсьці гэтаю вуліцаю і павярнуць направа—якраз выйдзеш к рабфаку. Але ёй туды ня хочацца ісьці. Лепш тут пахадзіць. Па яе твары пазнаюць аб цяжкай крыўдзе яе, аб грубым зьневажэньні, што ёй прышлося зазнаць. Можа хто-небудзь і парадуецца ўсяму гэтаму.

Некалькі часу хадзіла Ніна па вуліцы. Яна думала аб сваім апошнім спатканьні, успамінала ўсё, што казаў ён і што сказала яна. Перадумала ўсё, узважыла кожнае сваё і яго слова. Часамі брала сумненьне, ці не сказала яна чаго-небудзь такога, што магло-б пашкодзіць ёй, выклікаўшы такі канец, ці не яна сама вінавата. Можа і праўда, што залішне многа думала аб сваім шчасьці і замінала яму несьці пэўныя грамадзкія абавязкі. Яна ўспомніла, што прапусьціла некалькі сходаў ячэйкі.

Былі моманты, калі яна гатова была прызнаць сваю віну і апраўдаць яго, і ў такія мінуты ёй было яшчэ цяжэй.

— Ніна!—пачула яна.

Здрыганулася дзяўчына, ступіла крок, назад азірнулася.

Прыветна ўсьміхаючыся, Сымон параўняўся з ёю.

— Дамоў ідзеш, Ніна?—спытаў ён і ўзяў яе за руку.

Цяпер толькі прыпомніла Ніна цёмную постаць, што мільгнула ў яе ваччу. Напэўна гэта і быў Сымон. Што яму трэба ад яе? І чаму ён так запытаў? Няўжо ён ведае ўсё? Няўжо сачыў за ёю? Ніна ведала, скарэй адчувала гэта, што Сымон як-бы трохі кахае яе, але ёй ня было калі спыніцца на гэтым, бо сама была захоплена і асьлеплена сваім няшчасьцем.

Яна пастаралася перамагчы сябе, каб затаіць цяжкі стан свае душы. Яна спадзявалася пачуць насьміханьне, кпіны, зьдзек з яе няшчасьця. Ну, што-ж? ёй усё роўна.

— Пройдземся, Ніна, з табою хоць раз у жыцьці.

— Пройдземся.

Што-ж было гаварыць ёй?

Некалькі хвілін яны маўчалі. Ніна ішла панурая.

— Ты як-бы чымся засмучана, Ніна?—у голасе Сымона была ласка і спагаданьне яе смутку.

— Чаго так нявесела галаву павесіла?—дадаў ён.

— Да так трохі не па сабе мне, Сымонка.

І раптам, закрыўшы рукою твар, горка-горка наўзрыд заплакала дзяўчына.

На вуліцы было цёмна, бязьлюдна.

— Што з табою, Ніна? Ніначка, што здарылася? Чаго ты плачаш?

— Пусьці мяне!—здушаным голасам прамовіла яна.

— Гэта было-б не патаварыску, Ніна. Нікуды ня пушчу цябе. Супакойся, Ніначка!

Гэты плач і тыя сьлёзы болем аддаліся ў Сымоне. Ён як-бы нейк страціўся і ня ведаў, што яму рабіць. Уцяшаў, як мог. Гаварыў ёй, але гутарка яго была няскладная, зьбітая. Словы ня слухалі яго, заікаўся. У голасе-ж яго была шчырасьць сапраўднага друга, гатовага адгукнуцца на чужое гора і тым болей на яе гора.

Будынак рабфаку быў недалёка. У такім стане паказацца ёй там нельга. Ёй трэба выплакацца, выліць сваё гора.

— Вернемся, паходзім яшчэ, Ніначка. Табе трэба супакоіцца. Тут нікога няма.

Яна пакорна пайшла за ім і ўсё ўздрыгвала ад здушанага плачу.

— Перастань, Ніначка! ну, галубка мая, ня трэба так... Ніна! Я—магіла: нікому—ні-ні. Скажы, што з табою?

Як моцна пакрыўджанае дзіця, палажыла яна галаву на яго плячо і ўсё моўчкі плакала. Ёй было так цяжка і горка. Пякучы боль рваў ёй грудзі.

Сымон не знаходзіў слоў і маўчаў. Сэрца яго балела за любую дзяўчыну і за самога сябе было яму горка. Але ў той-жа час яму было так прыятна, што на яго плячы вылівае сваё гора бедная дзяўчына. Яму хацелася сказаць ёй, як дарага яна для яго, як ён любіць яе, але

ён баяўся сказаць гэта цяпер: на што ёй каханьне яго, калі яна палюбіла другога і з-за гэтага другога плача цяпер?

— Я ведаю, Ніна, чаго ты плачаш,—з ноткаю засмучэньня пачаў Сымон:—можа я і ня ўсё ведаю, але я шмат чаго ведаю. Не падумай толькі, Ніна, што я хачу прычыніць табе боль або я думаю аб табе нядобра. І я перамучыўся, перабалеў... з-за цябе, Ніна. Я аб гэтым нікому не казаў, толькі чорныя радкі на паперы асталіся, як сьлед маіх бяссонных начэй і майго жалю... Ну, але-ж гэта для цябе, Ніна, можа і ня цікава.

Ніна выцерла сьлёзы і цяжка ўздыхнула. Адгалоскі плачу і перажытага болю яшчэ калыхалі яе грудзі, і гэты ўздых вышаў яшчэ больш цяжкім.

— Ты добры, Сымон. Даруй, калі з-за мяне пераэкыў ты горкія мінуты... Ня варта я таго.

Яна як-бы яшчэ хацела штось сказаць, але зноў замкнулася ў сабе і змоўкла. Памаўчаў і Сымон.

— Ты сама ня ведаеш, Ніна, якая ты слаўная, мілая. А хто ня ўмее цябе ацаніць, плюнь таму ў вочы!.. Ніна, ты любіш Шулевіча?

— Кончана ў мяне з ім... Сымон, цяжка мне гаварыць аб гэтым.

— Ён зводзіць, Ніна, цябе. Ня вер яму. Ён любіць толькі самога сябе.

— У мяне з ім усё кончана. Ня будзем гаварыць аб ім.

— І з-за яго ты столькі перанесла, так горка плакала!.. Ты яго і цяпер, Ніна, любіш!

— Павер мне, Сымон, усё кончана. Мне горка і крыўдна, што я паверыла яму, паверыла, як чалавеку, а гэтага чалавека ў ім і не аказалася. Я любіла яго... а можа мне гэта толькі здавалася. Я сама не магу разабрацца ў гэтым. Можа я і сама вінавата... Калі-небудзь я табе ўсё раскажу, а цяпер пакінь мяне адну, Сымон.

— Я ведаю, Ніна, табе ня цікава быць са мною.

— Сымонка, дарагі, ты памыляешся! Мне проста трэба сабраць свае мысьлі, сябе ў парадак прывесьці. За мяне ты ня бойся. Я магу сябе ў рукі ўзяць.

— Ты маладзец, Ніначка! Помні, што ўсё гэта хоць і балюча, але-ж гэта толькі нашы асабістыя болі. А ёсьць яшчэ і болі грамадзкія. Хто не перасіліць сваіх боляй, то які-ж ён грамадзкі работнік? Мне цяжка, Ніна, з-за цябе і з-за сябе самога. Але памятай, што Сымон, хоць ён і Галыза,—з ноткаю жарту сказаў ён,— ніколі цябе не забудзе і калі трэба, дапаможа табе.

— Веру табе, Сымон. Сэрца твае залатое.

— Дай-жа мне слова, што ты будзеш маім прыяцелем і возьмеш сябе ў рукі.

Ніна ўсьміхнулася засмучонаю ўсьмешкаю і паціснула яму руку.

— Даю... Ну, пойдзем разам,—передумала яна.

І яны накіраваліся ў будынак рабфаку.

## XVII

Астаўшыся адзін, Шулевіч пачуў нейкую пустату. Разьвязка, да якой ён ішоў, вышла нечаканая. Ён ніяк не спадзяваўся, што Ніна выявіць такую цьвёрдасьць і так сьмела кіне яму абвінавачаньне. Думаў яе пабіць, а пабітым аказаўся сам. У першую мінуту хацеў кінуцца, дагнаць яе, вярнуць, але стрымаўся. У чым-жа віна яго? У тым, што ён пакахаў дзяўчыну і разышоўся з ёю? І хіба ён вінаваты, што яго каханьне да яе заглухла ў ім? І няўжо было-б лепей, каб яны не разыходзіліся, ня гледзячы на тое, што яго каханьне прайшло? Няўжо лепей было-б і далей абманваць яе, казаць ёй аб сваім каханьні?

Гэтыя і падобныя пытаньні ўставалі перад ім і вымагалі адказу. А ў яго вушох зьвінелі яе словы: „Нашто ты мне лгаў?" „Нашто ты лжэш і мне і сабе?" „Нашто ты ломіш гэтую комэдыю?" „Табе трэба было маё цела"... Ад гэтых слоў яе павявала холадам, і білі яны метка, білі востра і балюча. Ці мела яна права сказаць так яму?

Тут Шулевіч ізноў як-бы падзяліўся. Адзін Шулевіч адчуваў востры стыд за другога Шулевіча, а другі ўсімі сіламі стараўся апраўдацца. І ў той-жа час перад ім стаяў вобраз дзяўчыны, стаяў неадступным жывым дакорам... Што-ж яна будзе рабіць? Аб пасьледках іх блізкасьці хацела сказаць і не сказала. Гэта ўжо было нешта новае, што давала пэўную ахварбоўку яго адносін да яе.

У галаве яго завязваўся заблутаны і заціснуты вузел.

— Тфу!—злосна плюнуў ён.—Над чым прыходзіцца ламаць галаву, траціць мазгавую энэргію. Ну, сышліся, разышліся. Узялі падатак ад свае маладасьці—і квіта!

Але і такі вывад, нават аздоблены ў значнай меры ўдальством, ня даў яму заспакаеньня. Збоку гэтае „родавае пытаньне" здаецца простае і лёгкае, а як ублутаўся ў яго сам, дык і ня ведаеш, дзе акно і дзе дзьверы.

— Самае лепшае—зрабіць дыскусію па гэтым пытаньні.

Шулевіч сеў і пачаў накідаць тэзісы да новага дакладу.

Захапіўся сваім новым дакладам. Даклад аказаўся вельмі паважным і ў працэсе абдумваньня выяўляліся ўсё новыя і новыя пэрспэктывы і вынікалі новыя аргумэнты за правільнасьць узятай ім лініі. У захапленьні казаў сабе: „Прэч буржуазнае хістаньне і лірыку! Трэба факты браць так, як яны ёсьць". Да дакладу ён падгатуецца грунтоўна, падчытае розныя крыніцы,—на скорую руку яго ня скідаеш. У сувязі з дакладам можна нават узяць камандыроўку, каб азнаёміцца з гэтаю справаю ў комсамольскіх ячэйках на мясцох. Гэта—самае лепшае, што можна зра-

біць яму цяпер: няхай пройдзе некаторы час і ўціхне вострасьць моманту ў яго адносінах да Ніны.

Толькі на трэці дзень даведалася Ніна аб яго камандыроўцы. Сэнс гэтае камандыроўкі для яе быў ясны. Ну, што-ж? так можа і лепш, па крайняй меры, не засталося ніякіх пустых надзей. „Узяць сябе ў рукі", мільганула ў яе галаве. Так казала яна Сымону, і гэта яна зробіць, пераможа свой боль, хоць і цяжка ёй, ніхто ня ведае, як цяжка!

Ужо другі месяц глядзіць яна за сабою, і чым дальш, тым больш ясна для яе, што з ёю здарылася гэтае няшчасьце. Яна так баялася яго, і яно ня мінула яе. Тайком хадзіла да спэцыяльнай асобы, каб упэўніцца ў сваёй дзявочай бядзе. Бяда гэтая прышла, прышла і ашаламіла дзяўчыну. Вось чаму так было балюча ёй, калі прышла яна да блізкага чалавека, каб падзяліцца з ім сваёю прыгодаю, і не пачула ад яго ласкавага слова. Мала таго, што аплёван яе дзявочы гонар, бо ён-жа кінуў яе, ён-жа і абвінаваціў яе ў сваім няшчасьці! Каб яна ведала, як няветла сустрэне яе, не пайшла-б да яго і ніколі-б ня прызналася яму ў тым, у чым не хапае ў яе сьмеласьці цяпер прызнацца таварышкам. На што казала яна яму аб гэтым?.. Ну, але-ж назад ня вернеш таго, што сказала. Трэба нешта зрабіць, ужыць некаторыя меры, на нешта адважыцца. Трэба з кім-небудзь парадзіцца. А можа лепш зьліквідаваць усю гэтую справу цішком?

Гэтая прыгода засланіла сабою ўсё. Аб ёй многа думала, насіла яе ў сваім сэрцы, у сваіх мысьлях, балела, мучылася ею. І не хацелася ёй, каб аб гэтым даведаліся ўсе. Праўда, усе ведаюць, што сышлася яна з Шулевічам. Да ці мала хто з кім сходзіцца? Сыйдуцца і разыйдуцца. Такіх здарэньняў многа, асабліва цяпер. І калі паглядзець на гэту справу бяз усякіх забабонаў, проста, то што-ж тут нязвычайнага? Яе-ж страхі і стыд—адгалоскі даўнейшых поглядаў на жанчыну, калі яна была занявolена і цалкам аддана пад уладу мужчыны. І тыя многалікія факты, калі сучасная жанчына перастала лічыцца з старымі поглядамі на цнатлівасьць, і погляды сучаснасьці на яе,—усё казала Ніне за то, што ёй няма чаго сароміцца таго, што з ёю здарылася. І тым ня меней у яе няма сьмеласьці прызнацца ў гэтым перад таварышкамі. Відаць, яшчэ моцны ў ёй тыя ніці, што зьвязваюць яе з жанчынаю старога часу. Ну, а што, калі-б яна расказала ўсё Сымону? З Сымонам яна гуляла ў часе перапынкаў. Ён быў з ёю вельмі добрым, уважлівым і далікатным. Цікава, як-бы ён паглядзеў на гэта і як-бы да яе аднёсься. Гэта мысьль моцна засела ў галаве Ніны, але сказаць яму ўсё-ж такі не адважвалася—проста ў гэтым і патрэбы ня было. Але рана ці позна яна скажа яму ўсё.

Некалькі дзён Ніны ня відаць было на рабфаку. У той-жа дзень Сымон заўважыў гэта. Ганна Будай, таварышка яе па кватэры, на яго запытаньне, што з Нінаю, сказала, што Ніна хворая. А калі вечарам ён

прышоў даведацца яе, то аказалася, што яе адвезьлі ў больніцу. Гісторыя простая: Ніна спрабавала нейкі дамарослы спосаб. Ёй стала нядобра, і яе чуць жывую адвезьлі ў больніцу. Праз тыдзень яна вярнулася. Ніна значна пахудзела і была бледна, апала з твару. Але маладыя сілы і здаровы організм памаглі ёй скора аправіцца. Цяпер яна нават яшчэ больш пахарашэла.

Раз яна сказала Сымону:

— Ведаеш, Сымон, якая была ў мяне хвароба?

— Ангіна ў вострай форме.

Ніна ўсьміхнулася.

— Гэта табе нашы дзяўчаты сказалі так, а хвароба ў мяне была другая, і табе, як свайму прыяцелю, я скажу: я рабіла аборт!

І глянула на яго.

Сымон апусьціў вочы. Ён як-бы не знаходзіў, што сказаць ёй на гэта і адчуваў сябе нялоўка.

— Я думаў, Ніна, што гэта магло быць... Было-б лепш, каб гэтага ня здарылася.

Ніна ўздыхнула.

— Ты праўду сказаў, што было-б лепш. І ўсё гэта абышло мне цяжка і балюча.

Яна памаўчала.

— А за тое-ж я набыла пэўную жыцьцёвую навуку.

— Якую?

— Папершае, у вашым браце яшчэ моцна сядзіць старасьвецкі чалавек. Трэба сядзець яму там ці не, ня ведаю, але ён ёсьць. І падругое, „таварыш“ і „друг“, аб якіх вы, мужчыны, кажаце нам, бабам,— пустыя словы.

— Што табе ўсё гэта абышло балюча-цяжка, я з гэтым згодзен і гэтаму веру, але я ніяк не згаджаюся з тваёю „навукаю“.

Паміж імі адбылася гарачая спрэчка і, як відаць, у гэтай спрэчцы Ніна здалася, бо яна сказала:

— У цябе гэтага старасьвецкага чалавека няма, і ты папраўдзе бачыш у мне роўнага сабе друга.

XVIII

Прыслаў Сьцёпка адказ на Аленчын ліст.

Гэты ліст прышоў да Аленкі тады, калі яна ўжо скончыла сямігодку і жыла дома. Яна ўжо была нават страціла надзею на гэты ліст, і пад уплывам смутнага разважаньня напісала некалькі лірычных вершаў. Адзін такі верш пачынаўся так:

> Я вяночкам мар дзявочых
> Мілы вобраз спавіла,
> З ім я гутарыла ночы,
> З ім шчасьліва я была.

І сэрца забілася ў Аленкі, калі зірнула яна на канвэрт, на чоткі характар Сьцёпкавай рукі. І ліст быў ня просты, а заказны. І было ў гэтым лісьце тое, чаго Аленка ніяк не спадзявалася—Сьцёпкава фотографія! Як глянула на гэтую фотографію, радасьцю зацьвіла дзяўчына, і шчокі яе макам загарэліся. Ну, жывы Сьцёпка! Як-жа добра ён вышаў! Аленка некаторы час не магла адвесьці вачэй—хвацкі хлопец! Сур'ёзны, нешта думае, вочы пазіраюць кудысь далёка, лоб высокі, адкрыты, валасы назад закінуты. Твар падалікатнеў—што значыць у горадзе хлопец жыве, вучыцца! І вусікі чуць прабіваюцца. Глянула на другі бок фотографіі, а там напісана: „Дарагому другу дзяцінства, мілай Аленцы на ўспомін ад Сьцёпкі. Менск, 30/V 1924 г.“ Да сэрца прыгарнула Аленка Сьцёпкаву фотографію, тайком пацалавала яе, схавала і пачала чытаць ліст.

Сьцёпка паведамляў яе, што гэтым летам ён ня можа прыехаць у Заборцы, хоць яму і дужа хочацца пабачыцца з Аленкаю і наогул пабыць дома. Летам ён паедзе ў далёкую акругу аж пад самае Палесьсе і там прабудзе да канца канікул. Пытаўся, як скончыла Аленка сямігодку і што думае далей рабіць. З свайго боку ён радзіць ёй не закідаць кнігу і ня падаць духам: можна падгатавацца ў ВУЗ самой, як падгатаваўся Сьцёпка сам, каб паступіць на рабфак. Ён вышле ёй програмы, а яна няхай напіша яму, якія кнігі ёй патрэбны—і гэтыя кнігі ён вышле ёй. Ня трэба зварачаць увагі на тое, што маці ёй кажа: жанчына павінна прабіваць сабе дарогу ў новае жыцьцё. Ён напомніў тут словы Леніна аб тым, што і кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржаваю, і напісаў, якое значэньне мае сялянка (разумеецца, адукаваная) у організацыі новага быту ў вёсцы. Толькі тады культура ў вёсцы паднімецца на належную вышыню, калі культурнаю стане жанчына-сялянка.

Далей апісваў Сьцёпка свой погляд на поэзію і на яе значэньне як у рэволюцыі, так і наогул у жыцьці чалавека, і сам Сьцёпка ні ў якім разе не зьяўляецца праціўнікам яе. Аленка не павінна крыўдзіцца на яго за рэзкае слова яго аб поэтах, бо часта, трэба прызнацца, прыходзіцца чытаць такія вершы, што і сам Сьцёпка, хоць ён ні ў якай меры не поэта, але напісаў-бы лепш. На падставе некаторых прымет залічыў ён Аленку ў сапраўдныя поэты, а дзеля гэтага ніякім чынам ня трэба закідаць ёй „сваю размову з музамі“.

У канцы Сьцёпка пісаў, што ён намеціў сабе плян работы на летні час і гэты плян ён пастараецца ажыцьцявіць у Заборцах, куды ён прыедзе на другое лета. „Ты-ж, Аленка, жывучы дома, прыглядайся да балючых месц вёскі, да яе патрэб, пішы ў газэту „Савецкая Беларусь“, асьвятляй сучаснае жыцьцё, змагайся з яго адмоўнымі старонамі. Гэта будзе твая першая грамадзкая работа. Яно незаметна ўцягне цябе ў карысную працу. Організуй нашых дзяўчат, чытай ім газэты—часу знойдзецца. А я прыеду—работы вам усім хваціць. Заеду на месца, напішу табе і дам свой адрас. Бывай здарова. С. Барута“.

Гэты ліст надта ўзрадаваў Аленку, ажывіў, падняў яе настрой, выклікаў цэлы рад новых пытаньняў у сувязі з грамадзкаю работаю. А Сьцёпка яшчэ больш вырас у яе вачох. Ня было таго дня, каб Аленка не паглядзела на яго фотографію. Такую фотографію прыслаў Сьцёпка і матцы. Алесь, спаткаўшы Аленку, заклікаў яе ў хату і паказаў ёй Сьцёпкаву фотографію. Аленка паглядзела, сказала, што вельмі добра вышаў, а пра тое, што і ёй прыслаў Сьцёпка, нічога не сказала.

Раней Аленка мала зварачала ўвагі, чытаючы газэты, на допісы з месц. Цяпер-жа стала прыглядацца да іх, каб па ўзоры іх і самой напісаць, бо цяжка зрабіць першы крок. Напісала адну корэспондэнцыю, падпісала яе прозьвішчам, скомбінаваным з яе і з Сьцёпкавага прозьвішч—„Багар". Ніхто не дагадаецца, хіба толькі Сьцёпка, а ёй зразумела і прыемна. На жаль толькі, яе корэспондэнцыю чамусь не змясьцілі. Напэўна, не дайшла. За тое-ж у часе жніва Аленка падгаварыла чараду дзяўчат і з імі хадзілі жаць жыта ўдаве Тэклі, бо сама яна была хворая, а сын яе адбываў лагерны збор.

Незаметна для Аленкі прайшло гэтае лета.

Настала восень, забушавалі вятры. Кудлатыя нізкія хмары бясконцаю кудзеляю расьціляліся па небе, сеючы халодным дажджом і дробным градам. Заляскалі церніцы па дварох каля сялянскіх хат, застукалі цапы на таках... Аднатонныя песьні сьпявала восень, жалобна шумеў аголены лес. Вечарамі падсьлепаватыя вокны сялянскіх хат мільгалі сваімі цьмянымі бляскамі з-пад стрэх, як прыжмураныя і патускнелыя старэцкія вочы з-пад навіслых брывей.

У Заборцах было некалькі хат больш прасторных і сьветлых, дзе ў доўгія асеньнія вечары зьбіралася моладзь. Схадзіліся на вячоркі дзяўчаты з прасьніцамі і калаўроткамі, а да іх далучаліся хлопцы. Ня столькі было тут тае работы, сколькі сьмеху, жартаў, песень і ўсяго таго, што трэба моладасьці. Адпаведна свайму густу і свайму культурнаму стану знаходзіла яна сабе і забаўкі. Да Аленкі таксама прыходзілі яе таварышкі. Натуральным парадкам тут рабіўся пэўны падбор і падзел моладзі. Вакол Аленкі гуртавалася больш моладзь новага кірунку, моладзь граматная, любіўшая кнігу, моладзь, што шукала дарог у новае жыцьцё, Аленчына хата ў насьмешку была празвана „рабфакам". Так празвалі яе хлопцы, прадстаўнікі старога сяла. Праходзячы вечарам каля хаты Андрэевых, яны дзіка сьвісталі, гагокалі, адпускалі няпрыстойныя жарты. А потым хтосьці з іх і песьню злажыў пра Аленку:

> Вось і стала я вучоная,
> Няпрыступная, чырвоная.
> Не хачу за гаспадарыка,
> А падай мне камісарыка!

Аленцы было гэта вельмі прыкра, але яна старалася не зважаць на такія выхадкі.

Незадоўга да сёмай гадавіны рэволюцыі сабралася заборцаўская моладзь у школе. Тут была Аленка і яе таварышкі—Маня Гулько, Марынка Пракапчук, Люба Андручэня і хлопцы—Мікітка Дудзік, Макарка Лагун і другія. Гатаваліся да сьвята. Была рэпэтыцыя, зьбіраліся паставіць адну з п'ес Галубка. Рэпэтыцыя вялася пад кіраўніцтвам настаўніка Амяльляна Рэдзькі. Артыстыя захапіліся сваімі ролямі і выконвалі іх старанна.

— Адлічна!—пахвальваў настаўнік артыстых.

Як толькі скончылася рэпэтыцыя, у школу ўвайшоў малады незнаёмы хлопец, высокі, чарнявы, з бліскучымі вачамі, стройны і досыць прыгожы. Яго паяўленьне тут было нечаканым і зацікавіла маладых артыстых. Настаўнік падышоў да яго. Незнаёмы хлопец назваў сябе і сказаў, чаго ён сюды прыехаў, пасьля чаго настаўнік прамовіў да моладзі:

— Прыехаў таварыш з Менску па справах комсамольскай ячэйкі.

Настаўнік вышаў, а малады хлопец падышоў да моладзі, пазда-роўкаўся.

— Дазвольце быць знаёмым з вамі. Маё прозьвішча—Шулевіч. Я хачу пазнаёміцца з вашаю работаю і наогул, як вы жывеце, у чым вам трэба дапамагчы.

Шулевіч пабываў у некалькіх мясцох. Камандыроўка яго аказалася вельмі цікавая, але тую ролю, дзеля якой выехаў ён з гораду, выпаўніць было цяжка: усё гэта—інтымныя людзкія справы, як падыйсьці да іх? Праўда, сабраў ён многа цікавага матэрыялу, яго закідалі пытаньнямі, жалаваліся на тое, што мала літаратуры і што цэнтр не заўсёды чутак да культурных патрэб на мясцох. Гэтае знаёмства з комсамольскімі ячэйкамі на мясцох навяло Шулевіча на мысьлі напісаць другі даклад аб патрэбах і дапамозе комсамольскім організацыям на вёсках.

У дарозе закалыхаў Шулевіч і свае мысьлі аб Ніне. Калі разабрацца строга, то ня ён, а яна кінула яго, ды яшчэ так груба, скандальна. Ніхто ў жыцьці не нагаварыў яму столькі абразьлівых слоў, як яна. Ці-ж можа такая асоба зразумець цябе? А ён і дапамогу ёй гатоў быў даць, а калі яна плюнула на яго, то чым-жа ён вінават? Яму часамі станавілася шкода сябе самога, ён і цяпер так востра адчувае патрэбу ў жанчыне-другу, якая зразумела-б яго. І няўжо ня знойдзе ён ніколі такога друга? Перад Нінаю была ў яго Жэня, Ксеня, Оля. Але гэта ўсё ня тое. І цяпер, вядучы размову з Макаркам Лагуном, ён прыглядаўся, праўда, урыўкам, незаметна, да дзяўчат. „Слаўная дзяўчына“, думаў ён аб Аленцы. Нарэшце ён запытаўся ў яе:

— А вы, таварыш, комсамолка?

— Не, не комсамолка,—адказала, усьміхнуўшыся, Аленка.

— Няма іх покі што ў нас,—паінформаваў Дудзік.

— Такія слаўныя дзяўчаты і не комсамолкі,—заўважыў Шулевіч і зьвярнуўся да дзяўчат з кароткаю прамоваю.

Выслухаўшы прамову, Марынка Пракапчук зусім нечакана для прамоўцы запытала:

— Калі ў комсамолкі пойдуць вясковыя, то што будуць рабіць вашы гарадзкія?

— Як што будуць рабіць?—крыху замяшаўся Шулевіч.

— Паадбіваюць ад іх усіх комсамольцаў,—жартам адказала Марынка.

Усе засьмяяліся.

— Дурныя нашы дзяўчаты, плятуць нямаведама што, — адазваўся Лагун.

У Заборцах Шулевічу прышлося заначаваць. Вечарам сабралася моладзь у Аленчынай хаце. Сюды зайшоў і Шулевіч. Калі ён даведаўся, што Аленка зьбіраецца далей вучыцца, то адобрыў яе намер.

— Я вітаю ўсіх, хто ідзе ў навуку,—казаў ён, падсеўшы да Аленкі:—а вам проста грэх марнець у глушы. Вы павінны прабіць сабе дарогу і вырвацца на шырокія прасторы жыцьця.

— А дзе такія шырокія прасторы жыцьця?—запытала Аленка.

— У шырокіх размахах грамадзкай работы, работы па замацаваньні тых позыцый, што заваёваны Вялікім Кастрычнікам.

— А хіба-ж у глушы няма такіх прастораў?

— Глуш заглушыць вас. Трэба пажыць у горадзе, павучыцца, разьвіць і ўзброіць прыродны свой розум, тады і ў глушы ня страшна.

— Я і хачу вучыцца. А потым-бы я зноў вярнулася ў вёску і працавала-б у ёй. Ну, настаўніцаю ў школе.

Шулевіч паглядзеў ёй у вочы.

— Вы, Алена, такі чалавек, што адразу хіліць да сябе. Бываюць на сьвеце такія людзі. Ніколі іх ня знаў, а спаткаеш, скажаш слова, пачуеш ад яго, і ўжо здаецца, што ты яго даўно-даўно ведаеш. Проста ён як-бы родны табе, блізкі твой друг... Давайце будзем прыяцелямі.

Аленка паглядзела на яго бачлівым поглядам.

— А ў вас, мусі быць, многа такіх прыяцеляў?

Шулевіч уздыхнуў.

— Іх вельмі цяжка знайсьці.

— А вы іх усё шукаеце? І чаму вы думаеце, што я была-б вашым прыяцелем?

— Так адчуваецца. Мне так здаецца.

Аленка засьмяялася.

— У нас, у вёсцы, кажуць, калі каму што здаецца: „перахрысьціся—ня будзе здавацца“.

— З вамі трэба гаварыць асьцярожна.

— І трэба заўсёды думаць, што гаворыш. Гэта мая мама так кажа.

Шулевіч змоўк і пабарабаніў пальцамі.

— А дзе вы вучыцеся?—запытала зноў Аленка.

— На II-м курсе рабфаку.

— А ці ведаеце вы... Баруту Сьцяпана?

— Ведаю... А вы яго як ведаеце?—зьдзівіўся Шулевіч.

— Да гэта-ж наш хлопец, зямляк мой.

— А я і ня ведаў!

— А як-жа? Вучыліся разам. І я на яго трохі сярдзіта.

— За што?

— За тое, што да гэтага часу не знайшоў ён у мне прыяцеля.

Шулевічу штось цюкнула.

— А ён вам піша?—запытаўся Шулевіч.

— Вы яшчэ запытаецеся, аб чым ён піша!

„Ці не напісаў ён пра мяне чаго?“ падумаў Шулевіч і пастараўся перавесьці гутарку на другое.

На разьвітаньні Шулевіч доўга дзяржаў руку Аленкі ў сваёй руцэ і прасіў Аленку напісаць яму, ён ахвотна адкажа на яе ліст, гатоў дапамагчы ёй усімі спосабамі, як таварыш, як прыяцель. А калі Аленка надумаецца прыехаць у Менск, то сьмела можа зайсьці на яго кватэру: трэба раз і назаўсёды пакончыць з гэтым мяшчанствам—новае жыцьцё трэба будаваць на новых асновах.

## XIX

Недалёка ад „сьвятога калодзежа“, улева ад дарогі на Загор‘е, спрадвеку ляжыць гіблае месца, Гнілое Балота. Ніхто не памятае, з якіх часаў утварылася яно тут. Ні легенд, ні паданьняў не засталося аб ім. Яно займае вялізарную плошчу, валок на дзесяць. Сям-там на гэтым балоце пападаюцца невялічкія астраўкі жорсткай, буйной асакі, гайкі высокіх мятлістых чаротаў. Зялёнымі шлякамі цягнецца шыракалісны аер, і галасьцябляны цыбаты сітняк зьвешваецца над смаліста-чорнаю гладзьдзю „чортавых вокан“, аздобленых круглымі вадзянымі лопухамі. Ні чалавек, ні жывёла ня можа ступіць на гэтыя нетры Гнілога Балота. Так і ляжыць яно, засланае прэльлю гнілых туманоў, поўнае машкары, камарэчы, разносячы заразу. За балотам пачынаюцца Сухія Груды. Няма карысьці заборцаўцам і ад гэтых грудоў, бо іх выжарвае сонца, і не расьце на іх трава. Пробавалі засяваць іх сям-там, ды кінулі, бо на сінялёсе нічога не расло, а падвезьці гною было і трудна па разьбітай грэблі Гнілога Балота, і нявыгодна. Так і пуставалі, аблогам ляжалі і тое балота і тыя груды.

Аб гэтым Гнілым Балоце і аб гэтых Сухіх Грудох часта думае Сьцяпан Барута. Яны так жывы ў яго памяці, што ён памятае кожную драбніцу іх. Ён ведае, што Сухія Груды крута спускаюцца да глыбокай даліны рэчкі Міранкі. Па яго меркаваньні Гнілое Балота ляжыць вышэй жолаба рэчкі. Само сабою напрашваецца думка—прарэзаць глыбокім ка-

налам грудзі Сухіх Грудоў і спусьціць Гнілое Балота ў Міранку, каб на яго месцы зазелянеў пышны луг! Ідэя, над якою варта падумаць. Гэта была-б яго першая падваліна пад „зруб для новага калодзежа“.

Яшчэ тады, калі Сьцёпка спрачаўся з Сымонам Галызаю аб марнай траце слоў, у ім жыла гэтая ідэя. Але яна была першым і толькі адным маленькім зьвенцам у сыстэме Сьцёпкавага пляну работы на вёсцы. Гэты плян ён зьвязаў з ідэяю экономічнай культуры краіны. Чым больш думаў і разважаў Сьцёпка над сваім плянам, тым цьвярдзей умацоўваўся над канечнаю яго патрэбаю, тым большае рэальнае аформленьне прыймаў ён.

Па Сьцёпкавай думцы, рост экономічнай моцы краіны толькі тады пойдзе належным ходам, калі мерапрыемства дзяржавы ня толькі сустрэне поўнае падтрыманьне самога сялянства, але калі само сялянства пойдзе на дапамогу дзяржаве. А для гэтага трэба выхаваць у ім грамадзкую дысцыпліну, уласны пачын і прывычку вясьці работу колектывам. Сродкам для такога выхаваньня могуць быць саюзы, якія Сьцёпка назваў-бы „колектывамі працы“. Грамадзкай работы для такіх „колектываў працы“ знойдзецца ў кожнай сялібе. Сьцёпка і хоча на практыцы спрабаваць, ці можна выступаць з пропагандаю такіх саюзаў. З гэтымі думкамі і ехаў ён у свае Заборцы пасьля двух гадоў разлукі з імі.

Цяпер Сьцёпка быў ужо сталым юнаком. Шырокаплечы, моцны, як дуб, ён рабіў уражаньне спакойнага чалавека, упэўненага ў сваіх сілах. Шэрыя вочы яго пазіралі ўдумліва і сур'ёзна, а часамі насьмешліва.

Яго паяўленьне ў Заборцах было цэлаю праяваю вясковага жыцьця, бо ў сваім часе ён нарабіў столькі шуму ў сяле, што аб ім доўга гаварылі і прарочылі яму нялюдзкую долю. Аказалася-ж, што ён вярнуўся жывы, здаровы і ў вус сабе ня дзьме.

Завярнуўшы ў свой двор, Сьцёпка спаткаўся з бацькам. І сын бацька спыніліся, моўчкі паглядзелі адзін адному ў вочы. Сур'ёзнасьць раптам вышла з твару Міхайлы Баруты, а вочы засьвяціліся радасьцю.

— Глядзеце, што за дуб! І бура ня зваліць! — і нота задаваленьня пачулася ў голасе Баруты-бацькі.

— Дармо, бацька! Досыць пад бурамі гнуцца.

І бацька і сын павіталіся за рукі.

— А нічога сабе кормяць там вас, дальбог!.. Ну, маладзец, што на бацьку не зацяўся. Пойдзем-жа ў хату... Давай свой чумайдан.

Не зрабілі і двух крокаў, як з хаты выбегла маці.

— Ах, сыночак мой! Сьцёпачка!—і са сьлязьмі кінулася да сына.

— Папробуй узяць яго на рукі,—пажартаваў Міхайла.

Усе трое ўвайшлі ў хату. Зараз-жа прыбег і Юрка, Алеся-ж ня было дома,—у полі быў. Маці закідала сына пытаньнямі, плакала і сьмяялася. А Сьцёпка паважна расчыніў пакоўны чамадан і вынуў адтуль вялікую суконную хустку, гасьцінец для маткі, а потым вывалак боты на бацьку-

каву ногу, а для братоў дастаў кусок матэрыі на кашулі, карандашы і сшыткі. Юрка зараз-жа пабег з карандашом на вуліцу пахваліцца сваім гасьцінцам і нават расьпісаўся некалькі разоў на сьценах. Падышлі сваякі і суседзі. А па Заборцах скора пайшла гутарка, што Сьцёпка „навалок“ дадому дабра.

Пад вечар таго-ж самага дня пайшоў Сьцёпка за сяло.

— Куды-ж ты, сынок, пойдзеш?—запытала маці.

— Прайдуся пад „сьвяты калодзеж“,—сказаў Сьцёпка.

— Хаця-ж ты, сынок, не чапай яго,—затрывожылася маці.

— Не,—рукою махнуў Сьцёпка,—зусім ня тое ў мяне на ўме.

А потым, запыніўшыся, сказаў да бацькі:

— Ведаеш, тата, што я хачу тут рабіць?

— Ну?

— Думаю папрабаваць спусьціць Гнілое Балота ў Міранку.

Паглядзеў Міхайла на сына, і твар яго нейк зьмяніўся.

— Вось гэтая, брат, думка была і ў мяне, дальбог!

Памаўчаў.

— Уся справа ў тым, каб знайсьці рукі, — сказаў ён: — ну, і трэба галава, каб магла пакіраваць гэтаю справаю.

— Эгэ!—весела азваўся сын:—калі такая думка была ў цябе, то яна напэўна была і ў другіх галовах.

— Ты, што-ж? хочаш сказаць, што мая галава горшая за другія?

— Не, я толькі хачу сказаць, што Гнілое Балота ня будзе балотам.

— Ну, але-ж гэта трохі цяжэй, ніж раскідаць „сьвяты калодзеж“.

— Пабачым.

Сьцёпка вышаў, а Міхайла стаяў на двары, пазіраў усьлед сыну і штось разважаў, а потым кіўнуў сам сабе галовою. „Ёсьць у хлопца галава! Бач ты, што замысьліў!.. Ну, ну!.. Славу сабе набыў-бы. Цікава, кудою думае канал павясьці?“

Праходзячы каля „сьвятога калодзежа“, Сьцёпка запыніўся. Новы крыж і зруб пасьпелі ўжо пасівець за гэты час. Сьцёпку прыпомнілася тая ноч, калі ён з хлопцамі разбурвалі гэты калодзеж. „Разбурыць трэба самую ідэю, а зруб і крыж—гэта што?“ падумаў Сьцёпка і пайшоў далей. Мінут праз дзесяць ён стаяў над Гнілым Балотам і прагным поглядам азіраў яго топографію, яго зялёныя шаты аераў, чаротаў, сітняку і пышных купін. З аднаго боку над балотам цягнуўся вал досыць правільным поўкругам. На гэтым вале, пахіліўшыся над балотам, стаяў старэнькі-старэнькі дуб, тоўсты і нізкі з сухім верхам. „Ці ня было тут калі возера?“ думаў Сьцёпка. Другім сваім поўкругам Гнілое Балота ўпіралася ў Сухія Груды. Груды былі значна ніжэй процілежнага валу. Так, ён не памыліўся: на вока заметна, што балота ляжыць вышай даліны Міранкі. Спусьціўся у даліну, пастаяў, штось мяркуючы, а потым

павярнуў назад да Гнілога Балота, лічачы крокі. Тысяча восемсот крокаў, трохі болей вярсты.

Гэты агляд зусім задаволіў Сьцёпку—можна сьмела прыступаць да работы. Як добры знак, улічваў Сьцёпка і тое, што сказаў яму бацька.

„Ну, балота, пабарукаемся з табою, патрывожым твой спакой“.

Ужо зьмяркалася, калі Сьцёпка падыходзіў да Заборцаў. А на вуліцы бабка Агата казала суседцы Таклюсі:

— Каля „сьвятога калодзежа“ стаяў і пазіраў! А потым снаваў паміж рэчкаю і Гнілым Балотам!—Бабка Агата гаварыла гэта таямнічым голасам.

— На душы ў яго неспакойна!—аўторытэтна адказала Таклюся:—„сьвяты калодзеж“ у яго з памяці ня выходзіць.

І тут-жа перадала адно здарэньне са студэнтам, які зьнімаў срэбра з божай маткі. „Увесь час потым божая матка ў вачох яму стаяла. І што-ж? розуму тронуўся!.. Гэта-ж ім ня жарты!“

У той-жа вечар у хаце Кандрата Гугі адбыўся сход, скліканы з прычыны прыезду Сьцёпкі. Сьцёпка сам праз Юрку паслаў запрашэньне Аленцы. Сабралося многа хлопцаў і дзяўчат.

— Таварышы!—зьвярнуўся Гуга да сходу:—да нас прыехаў наш таварыш і зямляк, Сьцяпан Барута. З намі ён прабудзе ўсё лета. У яго ёсьць плян работы, аб якім ён і даложыць вам.

У кароткіх, простых словах расказаў Сьцёпка сходу аб задачах экономічнага адраджэньня краіны, аб ролі рабочых і сялянства і ў першую чаргу аб ролі актыўнай моладзі ў гэтым экономічным будаўніцтве. Затым ён перайшоў да свайго пляну. Па меры таго, як выкладаў Сьцёпка свой плян, слухачы ўсё больш і больш захапляліся ім. І ня так вабіла і прыцягала іх тая карысьць, што можа быць у выніку ажыцьцяўленьня Сьцёпкавага пляну, як самы размах і веліч тае задачы, што ўставала перад мі. А калі далей Сьцёпка загаварыў аб організацыі „колектываў працы“, аб іх задачах і дзейнасьці, то ўсе, як адзін, тут-жа пастанавілі скласьці такі колектыў.

— Да тут і старыя бабы запішуцца, калі прачуюць, што з Гнілога Балота можна сена сабраць,—заўважыла Марынка Пракапчук.

„Добры пачатак“, думаў Сьцёпка.

Аленка чакала Сьцёпку, як яны і ўгаварыліся, на сьценцы каля Дземяновай клуні.

— Я сёньня-ж хацеў пабачыцца з табою, Аленка, і запрашэньне табе паслаў. Ну, пакажыся-ж, што ты за чалавек?

— Які ўжо там з мяне чалавек?—засаромілася Аленка.

— І чалавек і дзяўчына ты адлічная,—паглядзеўшы на Аленку, сказаў Сьцёпка.

— Я вельмі рада, калі гаворыш праўду.

— Ну, як-жа твая падгатоўка?

— Слаба,—то тое, то другое замінае і часу малавата.

— А ведаеш, Аленка, што? можа-б ты ў пэдагогічны тэхнікум спрабавала? Так-бы ў канцы лета і паехала-б?

— У Менск?

— Але. Падумай. Справа там наладжана добра... Ёсьць сэнс.

— А хіба ў тэхнікум. І сама я трохі думала аб ім.

— Ну, як-жа ты жывеш, Аленка?

— А нічога... А як ты, Сьцёпка, пасталеў, проста хоць куды!

— А Шулевічу ты пісала?

— Не: буду я пісаць чорт ведае каму. Скажы, што ён за чалавек?

— Пустазвон і... дзяўчат зводзіць. І горш за ўсё—дзяўчаты яго любяць.

— А цябе хіба ня любяць?

Сьцёпка ўздыхнуў, а потым сказаў:

— Я хацеў-бы, каб мяне пакахала... ну, адна яна.

— Хто?—ціха спытала Аленка.

— Тая, каторую я пацалую.

Абняў Сьцёпка Аленку і пацалаваў.

— Дурны-ж ты: яна даўно-даўно цябе любіць!—і Аленка сама прыгарнулася да Сьцёпкі. Цалаваў яе Сьцёпка, а потым сказаў:

— Ты, Аленка, памятай: ніхто цябе так не палюбіць, як я. Адну я цябе пакахаў і больш нікога не хачу.

— Ты праўду кажаш?

— Каб не асушыць мне балота, калі я лгу,—пакляўся Сьцёпка.

— Цяпер я паверу табе,—засьмяялася Аленка:—які-ж ты мілы, дарагі, слаўны і сьмешны!

Слаўная была і гэтая ноч, шкода толькі, што борзда сьвітаюць такія харошыя ночы.

## XX

Яшчэ зранку на другі дзень па Заборцах панеслася гутарка аб Сьцёпку. Адны казалі, што хлопец крануўся розуму, і гэта ёсьць божая кара за „сьвяты калодзеж“. Такія гутаркі былі пушчаны бабкамі Агатаю і Таклюсяю. Другія, наадварот, казалі, што мазгі яго працуюць вельмі добра і што шмат якім бацьком не мяшала-б мець такога сына. А калі прайшла чутка, што Сьцёпка задумаў асушыць Гнілое Балота, то зразу ня ведалі, што на гэта сказаць і якое даць тлумачэньне такому сьмеламу замаху. Адным словам, Сьцёпка зрабіўся цікавейшым чалавекам, якога яшчэ ня было ў Заборцах.

Пра ўсе гэтыя толкі даведаўся Сьцёпка, бо ў яго-ж тут былі і сапраўдныя прыяцелі. Усё гэта Сьцёпка ўзяў пад увагу і вечарам склікаў сход у школе. Ніколі ня было ў Заборцах такога многалюднага сходу. Сьцёпка гаварыў так проста і разумна, што яго слухалі з вялікаю цікавасьцю. Канчаючы сваю прамову, ён сказаў:

— Я спадзяюся, шаноўныя дзядзькі-грамадзяне, што вы дапаможаце нам, маладым, сваім розумам і багатаю жыцьцёваю практыкаю, і грамадою мы ў два месяцы скончым гэту работу.

— Бач, з якою павагаю гаворыць аб старэйшых,—таўкануў локцем свайго суседа Мікалай Зубнік.

— Так, гэта ён маладзец,—азваўся сусед Лукаш Гудач.

А калі пасьля Сьцёпкі слова ўзяў і настаўнік, Амяльлян Пятровіч, усімі паважаная асоба, і падтрымаў Сьцёпку па ўсіх пунктах, сказаўшы пра яго, як пра аднаго з самых лепшых сваіх вучняў, якім ён сьмела можа ганарыцца, то Сьцёпка яшчэ больш вырас у вачох сялян.

— Што-ж? у добры час!

— Паможам, для сябе-ж,—не для кога!

Сьцёпка пакланіўся сходу.

— Я так і ведаў, шаноўныя дзядзькі, што вы дапаможаце нам.

Зашумелі, зазьвінелі маладымі галасамі і звонам рыдлёвак Сухія Груды. Дваццаць хлопцаў і сем дзяўчат прышлі на работу. І работа закіпела адразу. Паставілі дзьве высокія тычкі з саламянымі мётламі каля рэчкі Міранкі, вызначылі месца, дзе павінен прайсьці канал, і правялі дзьве роўныя барозначкі пад шнур на адлежнасьці ў сажань адна ад другое. Далёка тыя тычкі, чуць згледзіць зоркае маладое вока. Залацеюць на першых праменях сонца пяскі Сухіх Грудоў, сівым туманом атулілася Гнілое Балота, а старэнькі дубок, што за балотам, маўкліва стаіць і грэе на сонцы сваю лысую галаву ды пасьмейваецца. „А ну, паваюйце!“ як-бы падзадорвае моладзь. Трывожыцца Аленка. „Ці здолееш ты, Сьцёпачка, да канца работу давесьці?“ А Сьцёпка сур'ёзны і спакойны, парадак работы наладжвае, ад балота заставу пакідае, каб у канал вада не пайшла, рабоце ня шкодзіла. Разьмеркавалі хлопцы работу сабе.

— Даеш два сажні на брата?!—чуецца голас.

— Не гарачыся, таварышы!—спыняе Сьцёпка:—памалу, паволі возьмемся, каб не таміцца адразу—работы нам будзе. Канал тут, хлопцы, будзе глыбокі: тут самая высокая часьць груду, а далей пойдзе лягчэй.

— Пачынаем!—гукнуў Макар Лагун.

Зашорхалі рыдлёўкі ў зямлі, паляцелі кідкі направа і налева.

— Павольней, павольней, хлопчыкі!—стрымлівае Сьцёпка заўзятых таварышоў і сам марскае ў паветра зямлю. Расьце земляны вал, ніжай у дол уваходзяць землякопы.

— Адпачынь, хлопцы!—падае Сьцёпка каманду.

Вылазяць маладыя работнікі, твары іх ад работы разгарэліся, весела жартамі перакідаюцца ў часе адпачынку.

Хлопцы-падлеткі прыбеглі. Паглядзелі на сьвежы вал, весела стала ім. Хапаюць рыдлёўкі, у роў лезуць, капаюць, стараюцца.

— Вось нам і зьмена прышла!—кажуць старэйшыя хлопцы.

— Малайцы, хлопцы!—пахвальвае іх Сьцёпка:—вучэцеся гуртом працаваць. Акуратненька, браткі, капайце, вось як тут пачалі: зьверху шырока, а пад ніз вузей.

Старыя заборцаўцы—раскіданыя хмары посьле навальніцы. Яны яшчэ не сталкаваліся, ні да якога пэўнага погляду ня прышлі. Адны ходзяць ды ў вус пасьміхаюцца: заядла штосьці адразу моладзь узялася, глядзі, каб назаўтра-ж не астыла. Другія проста не даюць веры, каб можна было на работу столькі народу паставіць, а тыя патузаюць, патузаюць ды кінуць. Трэціх зайздрасьць трохі і страх забірае, каб з носам не астацца. Чацьвертыя на вока прыкідаюць, колькі-б з гэтага Гнілога Балота можна сена сабраць. На адным толькі ўсе схадзіліся: Гнілое Балота прыцягала цяпер увагу кожнага з іх. Проста цікава было, што з гэтага выйдзе. І ўжо пасьля поўдня то той, то другі заверне пад Гнілое Балота хоць здалёк паглядзець, што там робіцца.

Дзядзька Сымон тайком захапіў рыдлёўку і таксама папёр на Сухія Груды. Схаваў рыдлёўку ў кустох, а сам на месца работы падыходзіць, крок прыпыняе, разглядаецца. Бачыць—высокі вал расьце, дружна ў паветры зямля мільгае, толькі шапкі і хусткі землякопаў відаць. Сам сабою сьмех набягае на губы дзядзькі Сымона. Ідзе работа, а дзядзька Сымон і дараду любіць даць. Падходзіць.

— Памажы вам...—пачынае дзядзька Сымон і не канчае: богавай дапамогі ім ня трэба:—ну, Троцкі, ці што,—канчае ён.

— Піонэр!—загукалі хлопцы з рову:—ура! дзядзька Сымон прышоў!

— А чаму гэта, дзядзька, бяз рыдлёўкі?—запытаў яго хтось.

— Я толькі проста паглядзець хачу.

— Добра ўжо і тое, што дзядзька хоць і паглядзець прышоў.

— Эх, вы!—сказаў дзядзька Сымон і крута ў кусты павярнуў, а адтуль з рыдлёўкаю йдзе.

— Брава, брава, дзядзька Сымон!

— А вы што-ж думалі—уломак дзядзька Сымон?

І, захапіўшы дзялянку зямлі, пачаў кідаць яе ня горш маладых.

— Ня бойся, Аленка!—гаворыць да яе цішком Сьцёпка:—глядзі унь яшчэ два дзядзькі каля балота пахаджаюць.

Аленка радасна ўсьміхаецца яму, у вочы заглядае.

І праўда: што ні дзень, то новыя работнікі прыбываюць. Ня прыдзе адзін, на яго месца два стануць. Сама ўжо праца пакарае, захапляе чалавека, бо ў гэтай дружнай грамадзкай працы так многа і музыкі, і поэзіі і сілы, і хараства.

Яшчэ гучней загаманілі Сухія Груды, а балота маўчыць панура, закрыўшыся зялёнаю коўдраю. Дзед-дуб з-за балота глядзіць на Сухія Груды, як-бы грамадою любуецца. А грамада працуе. Яшчэ гусьцей ляцяць сінія, жоўтыя, белыя камякі зямлі, срэбрам і золатам кладучыся па адзін і па другі бок каналу. На ніжэйшае месца выбіліся, яшчэ спарней

выцягаецца канал. Паглядзець—любата! Усё сяло зьбіраецца часам тут Адны—працаваць, другія—проста так сабе палюбавацца. Нават чужыя людзі заходзілі сюды. Глядзяць ды галовамі трасуць.

— Сенакос, сенакос будзе!—кажуць і Гнілое Балота аглядаюць.

— Спусьціць-бы і нам сваё балота!

— Няма каму пакамандаваць намі!

— І няма ў нас блізка такой Міранкі.

А заборцаўцаў яшчэ больш ахвота падшыбае.

Каля Гнілога Балота пастануць часамі дзядзькі, глядзяць, мяркуюць, проекты строяць. Тут і тэхнікі-спэцы ёсьць: што ні скажа, як у сьцену ўлепіць.

— Гэта што? па суху капаць усякі патрапіць, а вось, як ты на балоце паскачаш?—часамі пачуецца і голас няверы.

— Дармо, дзядзька, і балоту пашэпчам, дамо рады,—заспакойвае Сьцёпка.

— Маладыя ногі і ў балоце ня гразнуць,—задорыста адгукнецца хто з моладзі.

Цяпер старых і не адгоніш адгэтуль, у смак увайшлі. Уся гэтая справа сталася блізкаю, душу мазоліла, думкі займала. А работа была нялёгкая, перашкоды былі: расьцелюць тут свае срэбраныя невады грымотныя хмары, дажджу нальлюць у канал, а там работа падышла, сенакос, жніво. Рабочыя рукі адкідаліся. Але Сьцёпка ўпарта вядзе сваё, ні разу ня спынілася работа. У дваццатых чыслах ліпня роўны, глыбокі, акуратны канал ляжаў між Гнілым Балотам і рэчкаю. Але наперадзе было яшчэ многа работы: трэба пратоку зрабіць на балоце ды прарэзаць заставу, злучыць канал.

Тут было многа гоману і спрэчак і розных проектаў, як наладзіць работу на балоце. Адны казалі, што трэба насьцілаць грэблю з двух бакоў, дзе-б маглі стаць рабочыя, каб прачысьціць пратоку.

— А мы гэта зробім прасьцей і скарэй,—сказаў Міхайла Барута.

Ён таксама блізка да сэрца прыняў гэтую справу і дапамагаў сыну. Зьбілі яны дзьве пары кладак з дошчак і прывезьлі іх. Палажылі кладкі на балота, на кладкі работнікі пасталі і пашлі варушыць Гнілое Балота. Мацюта-каваль зрабіў спэцыяльныя рыдлёўкі-каўшы і сам прывёз іх сюды. Перад заставаю для вады расчысьцілі шырокае месца. Работа к канцу падходзіла. Сяло валнавалася. З нецярплівасьцю чакалі таго дня калі будзе прарэзана застава.

Тры дні аставалася да „іспаса".

— Мы свой „фэст" устроім,—казаў Сьцёпка, бо моладзь згаварылася пусьціць канал якраз у гэты дзень, калі зьбярэцца народ каля „сьвятога калодзежа". Падгатаваліся як мае быць. Проціў заставы набралася многа вады з балота. На расчышчаным месцы цэлая сажалка стаяла, а вада ўсё прыбывала. Проціў уваходу ў канал зрабілі дашчаную

заставу, а зямлю выбралі. Праз дошкі ў канал вада патрошкі прасочвалася, і малюсенькая крынічка пакацілася па каналу ў Міранку.

На „іспаса“ дзень выдарыўся ясны, цёплы, такі, як і два гады таму назад. Народ пачаў зьяжджацца ў Заборцы з самага ранку. Усе двары пазаймалі прыежджыя людзі. А Заборцы гулі гутаркамі аб іх канале. На Сухіх Грудох каля каналу народу было, як маку, і свае і чужыя. У поўдзень, калі зьбіраўся крэсны ход пад „сьвяты калодзеж“, хлопцы-школьнікі загаласілі:

— Воду спускаць пайшлі! Воду спускаць!

Народ замітусіўся, паваліў агромністаю грамадаю. Азірнуўся а. Ціт і ня ведаў, што думаць: ці гэта пад „сьвяты калодзеж“ народ валіць, ці на канал глядзець. І сэрца яго затрывожылася. „А можа ізноў дапаможа мне гэты лайдак“, падумаў ён і з непакоем правіў сьвятыя літаньні.

Каля „сьвятога калодзежа“ спыніліся толькі старыя бабкі, калекі, а некаторыя жабракі з лерамі і гармонікамі таксама пайшлі за народам на „Сухія Груды“.

Каля дашчаной заставы насыпалі хлопцы курганок зямлі. На гэтым курганку стаяў Сьцёпка Барута і ўся моладзь, што дзень-у-дзень ваявала тут на фронце працы. Загарэлая, змораная цяжкаю працаю, яна была вясёлая, жывая. Яна была горда сьвядомасьцю, што зрабіла вялікую справу, бо падышла цяпер тая важная мінута, якою жылі яны ўвесь час свае ўпартае працы.

— Таварышы-грамадзяне!—зазьвінеў малады голас.

Узварухнуўся народ і заціх, а на самым версе курганка стаяў бяз шапкі Сьцяпан Барута і гаварыў:

— Мы вельмі рады, што прышлі вы на наш „фэст“, на наша маладое сьвята працы. Мы працавалі, каб спусьціць з быстраю рэчкаю гніль Гнілога Балота, каб на яго месцы зазелянеў муравою грамадзкі луг. Сотні гадоў пакланяліся вы „сьвятому калодзежу“, і сотні гадоў стаяла тут Гнілое Балота, заражала паветра і разносіла хваробы. І „сьвяты калодзеж“ не памагаў вам. Таварышы! задумайцеся над гэтым. Не „сьвятыя калодзежы“, не малітвы бацюшак дадуць вам шчасьце і дабрабыт, бо шчасьце і дабрабыт—у вас самых. Тут зроблена спроба, каб паказаць сілу дружнай грамадзкай працы, і вы бачыце вынікі яе, бачыце сваімі вачамі. Але мы зрабілі маленькую частку таго, што нам трэба зрабіць і што мы можам зрабіць. У нас няма добрага будынку для школы, а дзе і ніякай няма школы, у нас няма народнага дому, бібліотэкі, нашы дзеці астаюцца ўлетку бяз догляду, нашы саломеныя стрэхі спрыяюць пажарам, нашы дарогі топяцца ў гразі, на нашых грэблях грэзнуць коні, на нашых мастох калечацца людзі і жывёла. А ўсё гэта можна ўхіліць, сваімі рукамі пабудаваць новае, моцнае, прыгожае і канечна патрэбнае нам. І гэта вы зробіце, калі будзеце выступаць грамадою, дружна, згодна. Дык няхай жыве свабодная праца! Няхай закра-

суюць і разаўюцца грамадзкія „колектывы працы!“ Няхай наша нядбаласьць пройдзе разам з гэтым Гнілым Балотам!

Сьцёпка з моладзьдзю, з аднаго боку, і сталыя сяляне—з другога паднялі дашчаную заставу, праз якую чуць-чуць не пераліваласяа вада.

З шумам хлынула вада ў канал і пабегла далей і далей, нясучы з сабою пясок, кусочкі дрэва, траву. Удоўж каналу стаяў пасьвяточнаму ўбраны народ, моўчкі слухаючы музыку вады. А з-пад „сьвятога калодзежа“ далятаў, як-бы з разьбітага чыгуна, нудны, гнусавы звон, але з-за шуму вады ў канале яго бадай што і ня чуваць было.

---

Праз тыдзень пасьля таго, як быў пушчан канал, паехаў Сьцёпка вучыцца: кончыліся летнія вакацыі. Адчуваў ён сябе вельмі добра: папершае, яго проект—асушыць Гнілое Балота—удаўся яму, як лепей ня трэба; падругое, сяляне вельмі сардэчна праводзілі яго і прасілі прыехаць да іх на другое лета, і патрэцяе, з ім ехала і Аленка. Што яна пaступіць у пэдтэхнікум, у Сьцёпкі ня было ніякага сумненьня. Аленка-ж была ўпэўнена, што са Сьцёпкам яны нідзе не прападуць, але ім яшчэ трэба многа вучыцца, каб ужо потым рука-ў-руку пайсьці з ім у шырокія прасторы жыцьця.

## БАКЛАНЫ

### Ясакар

Як толькі зара акрапіла
Агнём кіпарысныя шпілі,
Мярэжы ваўняных туманаў,—
З цясьнін, з цёмна-бурых заховаў
Пусьціліся ў мора на ловы
Тры племені чорных бакланаў.

Ў аблокі завырылі ў вырай,
Пад сіньню закрылілі крыльлі,
Зьвінелі заглушаным звонам.
Тры племені чорных бакланаў
На ловы пусьціліся рана
З галодным абветраным стогнам.

На парусным фоне галеры
Вятрыцы лічылі ім пер'і
Пад блескам зарнічных байракаў.
Бакланы крыламі пісалі
У морскім празрыстым крышталі
Кітайскія літары-знакі.

Іх вострыя дзюбы клявалі
Барашкі захлёбаных хваляў
І грэбняў бяльмістыя белі.
Бакланы сачылі за рыбай
У змрочнай у зыбістай глыбі,
У мокрай мэдузнай пасьцелі.

Гагры, 30-III—26 г.

## Шамшавілі

Мора сініцца сінім алоўкам.
Беражочкам ідзе чорнакосая.
Як дзіця, мне ківае галоўкай,
А вачыма глядзіць, як дарослая.

Мігаціць чорнаморскаю чайкай,
Пахне ружай і кволай магноліяй,
Спрытна грае усьмешкаю-грайкай,
Нешта кажа забаўна-вясёлае.

І гавора, гавора, гавора:
Гуды пчол, шэпт травы, буры рокаты,
Лёгкі сьвіст, звон галін, шумы мора,
Часам чуеш арліныя клёкаты.

Не дарма-ж яе родная мова
Мае болей за семдзесят літараў!
Вырывае з скалістых заховаў
Усе водгукі, сонцам аблітыя.

Нібы хвалі, за хвілямі хвілі
Паплылі пад гамонку бяседніцы:
І завецца яна Шамшавілі,
І жыве недалёка у крэўніцы.

Не баіцца яна горных духаў
І паўночных шакалаў галошаньня,
А баіцца яна хлопцаў-зухаў,
Што прыходзяць у саклю няпрошана.

Вабяць мёдам салодкіх гаворак,
Цягнуць цягам на скалы за горкаю,
Каб пад зьзяньнем абветраных зорак
Надзяліць яе долечкай горкаю.

Яе вочы мяне варажылі,
Я глядзеў ёй у кветкі—у зоранкі,
Потым выразаў я „Шамшавілі“
Тут на кактусе вострым сьцізорыкам.

Усё лета пад сонцам агнёвым
Не парвецца зялёная граматка.
Няхай ветрык чытае паўднёвы
Гэта імя на добрую памятку.

Гагры, 14-III-26 г.

* *
*

Вецер, вецер, малады, гарачы,
Задзівіся з поўдня на гару!—
Хай твой грэбень галаву маю кудлачыць
На зару!

Мора, мора, казачнае ў раньне,
З сінім дзівам на пясчыстым дне!
Кінь адбітак бірузовага сьпяваньня
Ў вочы мне!

Горы, горы з клёкатам арлiным,
Хай зазвоніць хвояй ваш адкос!
Падаруйце майму сэрцу успаміны,
Адгалос!

Сонца, сонца, кветка над абшарам
Між вандроўных срыбраных вятроў!
Хай твой пломень сьветазарны запажарыць
Маю кроў!

Гагры, 20-III-26 г.

## КУПАЛЬСКІЯ АҐНІ

### А. Гурло

У ноч купальскую ня хочу мець спачынку—
Варожыць даль, чаруе і заве.
І роем кружацца далёкага ўспамінкі,
І мары блізкага сплялісся ў галаве.

Сягоньня сэрца нейкая трывожыць радасьць,
І кветкі новыя ўплятаюцца ў вянок.
І хочацца паслаць мне разьвітаньне здрадзе,
Што некалі мяне хмяліла, як віно.

Ва ўсім сягоньня я убачыў асаблівасьць:
Шумяць паіншаму і бор, і каласы.
І вось загэтым я сягоньня так шчасьлівы,
Што чую нейчыя аб шчасьці галасы.

Ужо далёкае збліжаецца патроху,
І сум прайшоўшага унесьлі ў далі дні.
І уцякаюць прэч вядзьмарства скамарохі,
Гараць пановаму купальскія агні.

Купальскія агні—ўжо ня былыя прымхі,
Яны не шаптуноў, ня ведзьмаў злых маяк.
У іх чутны песьні новыя і ўздыхі,
Да іх ляжыць мой шлях і з імі даль мая.

У ноч купальскую ня хочу мець спачынку—
Пайду шукаць сваю я папараць-красу;
Спаткаю можа дзе русалку ці дзяўчынку,
Якой я папараць ад сэрца паднясу.

Гарэце-ж вы, агні купальскай зорнай ночы,
І, папараць, цьвіці, як шчасьця агняцьвет.
Хіба магу цяпер заплюшчыць свае вочы,
Калі гараць яны, як зоры—ў харастве.

1926 г.

* * *

Прыгожы стан, вачэй аздоба,
То сьвецiць ласкай, то жалобай.
Ў завiткi русых яе кос
Уплецен бант, нiбы пракос.

Такой калiсь-то яе ведаў...
Цяпер iду другiм я сьледам,
Другой пуцiнаю—яна,
А ўсё-ткi струн тых ня суняць,

Што некалi адным званiлi,
Душу i сэрца паланiлi.
І кожны дзень яна ў вачах,
І кожны дзень i кожны час.

Хачу, каб бачыць, ды ня бачу,
Сябе, свой шлях я азадачыў:
Дзе-ж тое ўсё, чым жыў, хварэў?
Нязьвязны нейкi ў мысьлях рэй...

Патроху сэрца ўжо астыла...
Былое ўсё яна забыла:..
А мой наперадзе маяк
Сказаць ня хоча, што i як.

Злы нейкi лёс цi дух варожы
Мае ўсе мары натрывожыў,
Кiваючы ка мне ў акно,
О, пенься, радасьцi вiно—

Былое радасьцi ўспамiны.
Ўзыйду на шлях цi мо' загiну
Ў шуканьнi новага пуцiн,
Што мне пасулена ў жыцьцi.

О, шмат пасулена—ня дана!
Узяў ўсяго я толькi трэць.
Затым мо' тое так жадана,
Чаго ня ўзяць, чаго ня стрэць...

1926 г.

## ПРАСТОР КАЗАЦКАЙ КОНЬНІЦЫ...

**Андрэй Александровіч**

Сонца
ў дзіўных скалах
славу нам снавала.
Арол
на небасхіле
ў праменьнях грэе крыльле.
Горы,
шлях арліны,
цалуюць сінь вяршынай.
Даліны,
ветравольніцы,—
Прастор казацкай коньніцы.

* * *

Я схіліў чупрыну,
узышоўшы на скалу:
горам і далінам
сонцу і арлу.

15-VII-26 г.
Жалезнаводзк.

## НА ДАЛЁКІМ КАЎКАЗЕ

**Андрэй Александровіч**

За каўказкай далінай-прасторам,
за спакойным Азоўскім морам,
за Украінскай звонкай раўнінай—
там родная мне краіна.

Залаціцца вянок хараства,
песьні радаснай, песьні жніва.
І сумна мне, сумна да болі,
што я не на родным полі.

Ня чую, як ветрык вее,
павевам цалуючы жнеяк.
І крыўдна, як хто абразіў
на чужым, далёкім Каўказе...

Ліпень, 1926 г.
Жалезнаводзк.

## ВЯСНА

### Паўлюк Трус

Вясна!.. Вясна!..
У цьвеце нівы;
Цьвітуць асмуглыя сады...
Кіпучай радасьці прылівы
Хвалююць сэрца пералівам
Ў грудзёх вяснова-маладых...

І п'ю я ў моладасьці мілай,
Кілішкі, поўныя да дна,
Што мне ў маленстве падарыла
Чароўна-сьветлая вясна...

Яна сустрэла мяне рана
З дарамі ласкавай зары,—
Як сонца плавала ў тумане
Ды сосны плакалі ў бары.

Яна сустрэла мяне ў полі
З вянкамі чараў і надзей,—
Дзе песьні буйныя на волі
Свабодна веялі з грудзей...

. . . . . . . . . . . . . .

Вясна ў цьвяту!..
Цьвітуць парэчкі,
Цьвіце язьмін,
На дне душы...
Гаі альховыя над рэчкай
Сьмяюцца й журацца ў цішы.

А там, за ярам, пры даліне,
У вішнях тонуць хутары,—
Дзе сьпевы кволаю вятрыньню
Калышуць змрок—
вячэрні іней,—
Плывуць павольна з-за гары.

І ловіць сэрца ў заміраньні
Акорды жыцьця цераз край:
„Гара высокая ў тумане,
А пад гарой,—
Зялёны гай“...

. . . . . . . . . . . . . .

Узыдзе месяц над курганам
Ў вянкох прыгожасьці і чар,
Узорам тонкім, даматканым
Засьцеле ў просіні абшар.

Рассыпле пацеркі з прыполу,
Заўе карункі на расе,
Дзве вербы хіляцца да долу
Ў сваёй чаруючай красе.

А песьня коціцца далінай,
Ў акордах, поўных пачуцьця,
І ў сэрцы родзіць успаміны
Былых аповесьцяй жыцьця.

Бы ў казках сьветлага дзяцінства,
Жывыя вобразы ўстаюць...

. . . . . . . . . . . . . . . .

У вішнях вёска.
Пры гасьцінцы
Чуваць—начлежнікі пяюць,
А там далёка,
Пад гарою,
Званок у лузе празьвініць

І ціха зноў...
Па-над ракою
Сядзяць у сьвітках саматканых
малыя хлопцы... Ў тыя дні
цьвіла фантазія півоняй.
Было так весела ўсягды,—
таму вы мілы мне сягоньня,
Мае дзіцячыя гады...
Так мілы, сэрцу дарагія,
Дзіцячых сноў былыя дні,
Як сьведкі-вобразы жывыя,
Ў красе паўночнай цішыні,
Вы ўстаіцё перада мною

На сьцежках сьветлае вясны,
Шумяць дзе ў полі тры сасны,
Каб адпачыць я мог душою.

І там, дзе плакаў я ці мала
І выпіў боль душы да дна,—
Хачу, каб вечна красавала
Прыгожа-сьветлая вясна.

Вясна!.. Вясна!..
У цьвеце нівы;
Цьвітуць над возерам сады.
Шырокай радасьці прылівы
Хвалююць сэрца пералівам
Ў грудзёх вяснова-маладых!

26-V-26 г.
Дараўка.

# З ЦЫКЛЮ „ВЯСНОВЫЯ НАПЕВЫ“

Я. Івашын

## УСЬПЕНІЛАСЬ ПЕСЬНЯМІ СЭРЦА...

Усьпенілась песьнямі сэрца,
Як мора віхорным паўстаньнем,
І стаў я ізноў маладым
У гэта маёвае раньне,
Калі ў бель апранулісь сады.

Калі салавей срэбразвонны
Ў кустох бэзу сымфонію грае
Сонцавейнай красуні-вясьне,—
Ў гэты момант душа не засьне,
Бо ў сэрцы зьвініць водгук мая.

Калі прозалаць неба іскрыцца,
Граюць гімны вясны навальніцы,
А за вёскай сьпяваюць выгары,—
Ў маім сэрцы праменяць маланкі,
Мае думкі купаюцца ў чарах...

Усьпенілась песьнямі сэрца,
Песьні ўюцца ў вянок злотазвонны
І сплятаюцца з плыньню жыцьця...
Не цьвяроза ты, песьня, сягоньня,
Ты, маёвага раньня дзіця.

18-V-26 г.

## У ВЯСНОВУЮ НОЧ

Над полем, над вёскай, над садам
Распляскалася радасьць вясновая.
Сад асьнежаны ў цьвецень мядовую.
Засьмяяліся яблынь прысады
Салаўём закаханым, шчасьлівым.

Углядаецца пільна у вецьце,
Углядаецца месяц бялявы;
Ветрык лашчыцца водарна-млявы.
Шчасьцем ядраным месяц мне сьвеціць
І карункі узораў сплятае...

Не пазнаў сваю вёску я сёньня:
Вёска новымі песьнямі звоніць.
Сьпеў за рэчку струменем панёсься—
Абудзіліся зорнасьцю далі,
Што журбу на грудзёх калыхалі.

А за вёскай усходы рунеюць,
Аксамітам зялёным ласьняцца.
Месяц песьціць рунёвыя гоні,
Прасьціраючы рукі-праменьні...
Шчасьцем поўна прырода сягоньня.

20-V-26 г.

## УСЬМЕШКА ВЯСНЫ

Мне вясна ўсьміхнулась сёньня
Сонцавейным злотаблескам.
Ой, пайду я ў чыста поле,
Адамкну там дзівы-скроні,
Вочкі—сінія пралескі—
Расцалую на раздольлі.

Ў чыстым полі на прасторы
Веснавеі ладзяць гулі,
Ладзяць з сонцам баль шчасьлівы.
Тут зьвіняць-сьпяваюць хоры,
Лозы ніцыя ачнулісь
І вітаюць сонцам нівы.

Разьвярнулі лепясточкі,
П'юць расу—сьлязінкі раньня,
Ліпнуць к кветкам мушкі, пчолкі,
Граюць гімны ручаёчкі.
Ў сонца гулях—калыханьні
Карагодзяць з ветрам зёлкі.

Сонца мые свае косы
Ў хвалях рэчкі срэбралітай,
А над рэчкай птушкі звоняць.
Ў паплавох крышталяць росы.
Рэчку, пушчу, луг і жыта
Песьцяць сонечныя скроні.

10-V-26 г.

Чаму, о чаму, не адна я са скалаў,
А ты, о дзяўчынка, ня морская хваля?..

*Рабіндранат Тагор.*

* *
*

## Ізраіль Плаўнік

Спускаецца сонейка вэлюмам з ружаў...
Галубяцца хвалі—мярэжамі валу
Цалуюць і лашчаць пурпурныя скалы
І сыплюць ім пырскі-лілеі на грудзі...
І крые іх сонейка вэлюмам з ружаў.
Бялявыя чайкі лунаюць наўкола—
І з шопатам ветру зьліваецца шолах
Распраўленых крыльляў...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Спусьцілася сонейка вэлюмам з ружаў,
А думкі і мары мне кроў узьвіхрылі—
Крадзецца жаданьне, туга ліпне вужам:
„Чаму, о чаму, не адна я са скалаў,
А ты, о дзяўчынка, ня морская хваля?..“

26-V-26 г.

* * *

## Валеры Маракоў

Тут так хараша, сьвету так многа
Срэбны месяц ліе на кусты.
Я іду сваёй роднай дарогай,
Зноў вясёлы і зноў малады.

Даль маўчыць і цяпер не падскажа,
Што рабіць і куды мне ісьці.
Толькі знаю, што шлях мой праляжа
Там, за вёскай ў жытох і ў трысьці.

Сёньня ўсё, гэты хвойнік і Сьвіслач
Да сябе заклікаюць пажыць.
Колькі ўпартых бяроз панавісла
Над вадой і на грудзі мяжы.

Гэта межы спыталі у сэрца:
— Ці-ж ня ты хочаш піць гэту ціш?—
Ўсё маўчыць, ня дыхне, як пры сьмерці,
Ну, а ты?.. ты таксама маўчыш!

Ну і што-ж, калі сьвету так многа,
Срэбны месяц каханьнем гарыць.
К чорту песьні, разгул і трывогі,
Хоць хвіліну адну так пажыць!

Сакалянка. 1926.

* * *

**Валеры Маракоў**

Палюбіў я асеньняе раньне
І красу зарунелых далін
Мо' затым, што у срэбным тумане
Апавіты жальбою палі.
Палюбіў я асеньняе раньне.

Ў гэтым раньні, халодным і сінім,
Многа шчырасьці й многа крыві.
Чуеш, там, за шырокай далінай,
Нехта кажа:—Валеры—жыві!..
Ў гэтым раньні халодным і сінім.

Ціха сьцелецца жоўтае лісьце,
І пяе аб мінулым трава,
Што цяпер весялей, як калісьці
Песьні шчасьця й каханьня сьпяваць.
Ціха сьцелецца жоўтае лісьце.

Знаю я, што ў палёх непагодна,
Недзе плача мінорна струна,
Бо за гэтым акордам нягоды
Будзе пець і сьмяяцца вясна.
Знаю я, што ў палёх непагодна!

Палюбіў я асеньняе раньне,
Бо ў ім многа раздум'я і сьлёз.
Калі нехта упаў на кургане,
Гэта значыць,—ён цемры ня зьнёс.
Палюбіў я асеньняе раньне!..

* * *

**Валеры Маракоў**

Помніш ты, быў ціхі, ціхі вечар,
Месяц жыў і плакала лаза.
Ты так доўга думала аб нечым
Ї хацела нешта мне сказаць.

Наша лодка ціха і пакорна
Несла нас ў нязьведаны йшчэ край.
А ў бяздоньні воч тваіх азёрных
Вольным морам плакала зара.

Ты маўчала, любая дзяўчына,
Я таксама думаў і маўчаў,
Не таму, што сэрца неяк ныла,
Не таму, што марыць я пачаў...

Так плылі, ня зналі, не чакалі,
Ня было вакол ні ўздыхаў, ні людзей;
Ты мне нешта тайнае сказала
І прыпала з сьмехам да грудзей.

Я абняў, каб пакахаць і верыць!..
Вусны так палілі, як агонь.
Чуў я стук сваёй крыві і сэрца,
Ды спыніць ня ў сілах быў яго.

Твае вусны—вусны мне спалілі,
Твае грудзі кроў маю ўзьнялі.
Мы навокал ўсё тады любілі,
А цяпер напэўна-б ўсё клялі!..

Сакалянка
8-VIII-1926 г.

## ЯК ЛІСТЫ АПАДАЛІ...

### С. Ярмак

Як лісты ападалі з дрэў
Восеньню, ціхаю, раньняю,
Кожны ліст на сонцы гарэў
І сэрца юнае раніў.

...І слухаў лісьця шапаценьне,
Як слаліся на жоўць палёў.
Люблю гэты час лятуценьня
Бяз шуму, бяз крыку, бяз слоў...

І робіцца вусьцішна стоячы,
Як з дрэў ляціць хараство;
А ўспомніш было што надоечы,
Дык думкі ляцяць за ліствой.

...І чую над вухам я словы—
То голас, знаёмы даўно,
Мне шэпча заўтра дзень новы
І лес акрыложыцца йзноў.

21-XI 25 г.
в. Каменка

***

**П. Глебка**

Расьцьвітай, мая шыпшына,
Разьвівайся без мяне,
З тваіх кветак мо' дзяўчына
Для мяне вянок саўе.

Я прыеду тады ўвосень—
Не завяне цьвет-вянок
Так, як вяне чорных косаў
На плячох нязьвіты шоўк.

Папрашу дзяўчыну шчыра,
Хай узложыць мне вянок.
. . . . . . . . . . . . . .
Ўкленчу ў полі я на жвіры,
Капнуць сьлёзы на пясок.

Не для сівых кос дзяўчына
Залаты віла вянок.
Адцьвітай, мая шыпшына,
Зацьвітай сыры пясок!

## „НАША НІВА“ І ДВАЦЦАЦІГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКАЕ ПЭРЫОДЫЧНАЕ ПРЭСЫ

**Хв. Імшэньнік**

Наша беларуская прэса спраўляе свой двацьцацігадовы юбілей. Моцнае змаганьне рэволюцыйных сіл вырвала ў царскага ўраду ў 1905 г. права меншых нацыянальнасьцяй Расіі друкаваць на роднай мове свае кніжкі, часопісі, газэты і інш. Беларусь таксама сьмела змагалася за гэтае права, але па шмат якіх умовах толькі 14 верасьня 1906 г. здалела сіламі рэволюцыйных барацьбітоў выдаць першы нумар беларускае газэты „Наша Доля“. Але дзеля таго, што за рашучы рэволюцыйны кірунак царскім урадам яна конфіскоўвалася, ёй не ўдалося з'арганізаваць беларускую рэволюцыйную моладзь. Гэтая справа пераходзіць да другой беларускай газэты—„Нашай Нівы“, якая пачала выходзіць 23 лістапада 1906 г., якраз у тыя часы, калі ад сыстэматычных конфіскацый паступова згасала і памірала „Наша Доля“.

Дзеля таго, што на долю „Нашай Нівы“ выпала пачэсная роля будзіць грамадзянскія пачуцьці сярод цёмнага, забітага і прыгнечанага беларускага сялянства, з'арганізоўваць яго і ставіць на рэволюцыйны шлях барацьбы за нацыянальна-культурныя патрэбы—лічым неабходным зірнуць у тое цёмнае мінулае, калі над беларусам і Беларусьсю рабілі ўсялякія зьдзекі спачатку магнацкі ўрад Польшчы, а потым монархізм Расіі.

У сучасны момант нацыянальнае адраджэньне беларусаў, да якога беларускі народ імкнуўся стагодзьдзямі, праходзіць на нашых вачох. Мы, усе сьвядомыя беларусы адраджаем і будуем сваю нацыянальную думку, паляпшаем і ўзбагачаем сваю мову, пашыраем і ўзмацняем сваю нацыянальную культуру і ўтвараем, так кажучы, нацыянальную душу свайго народу.

Гістарычныя падзеі ў гэтым кірунку былі нашымі ворагамі і нашымі прыхільнікамі. Беларускі народ, як і другія нацыі меншасьцяй, праходзіць цераз горн цяжкіх выпрабаваньняў. Ён адзін з першых на самым сабе стаў адчуваць нацыянальны ўціск мацнейшай, пануючай над ім нацыі.

Палітычная і культурная барацьба паміж Польшчай і Расіяй, з імкненьнем кожнае з іх лічыць Беларусь, як частку свае дзяржавы, адбілася на нашай бацькаўшчыне тым, што як палякі, так і расійцы ў часы свайго панаваньня на Беларусі жадалі як мага хутчэй пашырыць і сваю мову і сваю культуру. XVII-XVIII ст. ст. далі ў гэтым кірунку перамогу Польшчы,

якая галоўным сродкам свае полёнізацыі Беларусі паставіла касьцёл разам з такімі выбітнымі барацьбітамі за польшчызну, як езуіты.

Пад моцным і дружным націскам польскае культуры і каталіцкага касьцёлу руйнуецца ўсё беларускае. Паступова адыходзяць ад беларускасьці сыны выбітных дзеячоў за нацыянальную сьвядомасьць беларуса, утвараецца на‘т асобая вуніяцкая рэлігія, дзеля чаго культурныя сілы Беларусі паступова зьнікаюць. Усё беларускае знайшло сабе прытулак у вясковай хаце хлебароба-селяніна, які ні на крок ня рушыў наперад, астаючыся цёмным, няпісьменным, але з шчырым імкненьнем, як самы вышэйшы дар, захаваць сваю родную мову, свае звычаі, сваю вопратку.

Так пад шэрым попелам захоўваецца на прыпечку агонь, які доўга трывае і з якога раздуваецца полымя... І ад польскага ўплыву беларус не скасаваўся, ён панёс і на наступныя часы ўсё сваё роднае, па чым ён усюды пазнаецца.

XIX ст. нясе беларусу новыя выпрабаваньні ў сэнсе скасаваньня набытага ад Польшчы, а таксама і таго, што яшчэ асталося чыста нацыянальнага, беларускага. Царызм у гэтым кірунку дзейнічаў рашуча і, працягваючы барацьбу з Польшчай, лічыў, што нацыянальныя асабістасьці беларуса ёсьць нішто іншае, як польскае, дзеля чаго падлягае скасаваньню. Пачынаецца цяжкая і ўпартая барацьба. Польскія пануючыя клясы, спазнаўшы, што барацьба зруйнуе ўсё, што зроблена імі, каб беларус лічыў сябе паляком, напружылі ўсе сілы, каб затрымаць свае позыцыі за сабою. Беларусь апынулася пад крыжовым агнём, але, ня гледзячы на гэта, усё-ж такі не памерла яе імкненьне да нацыянальнага адраджэньня, не загінула, а захавалася істота беларускасьці. З шэрагаў сумленнага грамадзянства выходзяць усё новыя і новыя барацьбіты за ідэю нацыянальнай сьвядомасьці беларуса, якія нават мараць аб самастойнасьці Беларусі. Але мерапрыёмствы царызму ў сэнсе абрусіцельнай політыкі на Беларусі былі настолькі моцнымі, што захапіць беларускасьцю галоўныя творчыя сілы і шырокія інтэлігенцкія колы было зусім немажлівым для тых, хто працаваў над адраджэньнем Беларусі. Забарона ў 1866 г. беларускага друку канчальна выбіла з рук працаўнікоў-адраджэнцаў галоўны сродак для іх дзейнасьці. Прыходзілася йсьці на хітрыкі, каб абыйсьці расійскую цэнзуру і выдаць і пусьціць у сьвет беларускую кніжку. Так, зборнік вершаў „Вязанка“ Я. Лучыны быў надрукаваны на беларускай мове дзеля таго, што ўдалося пераканаць цэнзара, што гэта вершы на баўгарскай мове. Наагул перад рэволюцыяй 1905 году беларускія кніжкі ў большасьці друкаваліся па-за межамі Расіі і з вялікай небясьпекай пападалі на Беларусь, як контрабандны тавар. Але і Беларусь дачакалася таго дня, калі і ў яе ваконца „заглянула сонца“. Рэволюцыя 1905 г. вырвала з рук царызму права беларуса на яго адраджэньне, яна спыніла жорсткую русыфікацыю краіны і дала магчымасьць Беларусі разьвіць свае творчыя сілы, паставіўшы на чале беларускасьці „Нашу Ніву“.

На Беларусі 1905 г. і пачатак 1906 г. праходзяць вельмі бурліва ў Вільні, якая стала асяродкам беларускага руху. У тыя часы ў Вільні апынулася найболей сьвядомага беларускага грамадзянства, якое стыхійна стала арганізоўвацца. Адным з першых крокаў арганізацыі беларусаў у Вільні ў 1906 г. было наогул імкненьне падлічыць, колькі беларускіх культурных сіл можна было аб'яднаць тамака. Невялікі гурток братоў Луцкевічаў (Яна і Антона), куды ўваходзілі вядомая поэтэса „Цётка“, А. Бурбіс, В. Іваноўскі, Пр. Умястоўскі і др., зьвярнуў сваю ўвагу на вучнёўскую моладзь, якая з усіх кутоў Беларусі вучылася ў г. Вільні. Сэмінарыстыя, гімназістыя, студэнты сярэдняе хімічнае школы, настаўніцкага інстытуту былі тымі, на каго зьвярнулі ўвагу дзеячы гэтага гуртка. На „Новым Сьвеце“ за чыгуначным мастом у двохпаверхавай невялікай камяніцы Ўмястоўскіх зьбіралася гэтая моладзь. Яна зьбіралася пасьля агітацыі, якую вялі ў большасьці А. Луцкевіч і А. Бурбіс, а ў камяніцы Ўмястоўскіх адбывалася ўжо дыфэрэнцыяцыя гэтае моладзі. Зрок „Цёткі“ з асобным натхненьнем акрэсьліваў і распазнаваў тых, хто па свайму сумленьню жадаў працаваць на глебе адраджэньня беларускага народу. Можна з пэўнасьцю сказаць, што цераз Умястоўскіх праходзілі соткі, але пакідаліся дзесяткі. Але гэта ўжо былі тыя, хто сур'ёзна і бяз боязьні йшоў на працу адраджэньня Беларусі, якая была разам і працай рэволюцыйнай. Адным з абавязкаў гэтае моладзі было пашырэньне проклямацый, друкованых пабеларуску, утварэньне па вёсках гурткоў з рэволюцыйна-настроенае сялянскае моладзі і тлумачэньне рэволюцыі, як новай эпохі ў жыцьці грамадзян Расіі, асабліва чаго павінна чакаць ад яе Беларусь. І мы бачым, што беларускія проклямацыі, цераз рукі вучнёўскай моладзі, даходзяць у самыя глухія куты Беларусі; гэтая моладзь развозіла і пашырала іх, калі разьяжджалася на зімовы, вясновы і летні перапынкі 1905-06. нав. году.

Па паветах Віленшчыны, Горадзеншчыны, Ковеншчыны пераважна, а часткаю на Меншчыне, Магілеўшчыне і Віцебшчыне былі распаўсюджаны наступныя проклямацыі: „Што такое свабода“, „Што такое констытуцыя“, „Царская гаспадарка“, „Як мужыку палепшыць сваё жыцьцё“ і т. п. Гэтыя проклямацыі мелі рэволюцыйны зьмест і былі соцыялістычнымі па форме. Цераз настаўніцтва, пераважна вясковае, праходзіць таксама рэволюцыйная літаратура і проклямацыі. Разам з гэтым паміж настаўніцтвам ідзе моцная агітацыя за організацыю „Беларускага Вучыцельскага Хаўрусу“. Тутака мы бачым такіх працаўнікоў, як Якуб Колас, Сянькевіч і інш.

Організацыя жывых беларускіх сіл у г. Вільні цягнула за сабой неабходнасьць выданьня свае нацыянальнае часопісі, якая-б адбівала кірунак дзейнасьці згуртованых рэволюцыйных сіл Беларусі. „Наша Доля“ і была той першай газэтай, якая павінна была будзіць Беларусь і заклікаць яе да рэволюцыйнай барацьбы. Але царызм ужо адчуваў у тыя ча-

сы сваю перамогу над рэволюцыяй і паступова пачаў адбіраць тое, што было ад яго вырвана натоўпам народнага гневу. „Наша Доля“ праявіла надзвычайную рэволюцыйную вытрыманасьць і на сваіх старонках зьмяшчала артыкулы, якія абурваліся на цара і ўрад, на контр-рэволюцыю, з боку абывательшчыны, і моцна заклікала да далейшай рэволюцыйнай барацьбы. Галоўным дэвізам „Нашае Долі“ было „—Рэволюцыя паміраe, але няхай жыве рэволюцыя!“ За такі кірунак нумары „Нашай Долі“ конфіскоўваліся. З 6 нумароў, якія былі выпушчаны, 5 было конфіскавана. № 3 „Нашае Долі“ быў конфіскаваны за наступны верш Якуба Коласа:

Ўстаньце, хлопцы,
Ўстаньце, братцы,
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцьця новага вясна.

Чы-ж мы, братцы, рук ня маем,
Ці нам сіл ніхто ня даў,
Ці над нашым родным краем
Луч свабоды ня блішчаў?

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сьцяна,
І прасьнецца ад дрэмоты
З намі наша старана!

Калі за гэты верш быў конфіскованы нумар „Нашае Долі“, дык што казаць аб другіх нумарох, дзе болей было рэволюцыйнага гневу. На шостым нумары „Наша Доля“ была зачынена, а рэдактар быў аддадзен пад суд.

Але са сьмерцью „Нашай Долі“ не памерла жывая рэволюцыйная думка беларусаў.

Ужо ў той час, калі відаць было, што ад сыстэматычных конфіскацый, ад забароны распаўсюджваньня нумароў „Наша Доля“ доўга ня вытрывае, само сабой паўстала пытаньне аб выпуску другое газэты, якая-б магла асьвятліць жыцьцё беларуса, дайсьці да яго ў самыя глухія куты і прабудзіць у ім думку, „што і ён чалавек“, што яму „гараваць надаела ўжо век“. Вось гэтыя прычыны і леглі ў аснову выхаду „Нашае Нівы“. Апошні нумар „Нашае Долі“ вышаў 1 сьнежня 1906 г., і некаторы час абедзьве газэты выходзілі разам. „Наша Ніва“ не ўзяла таго непрымірымага кірунку, бо лёс „Нашае Долі“ яе гэтаму навучыў. „Наша Ніва“ была болей устрыманай газэтай. Але неабходна заўважыць, што з усіх газэт Беларусі, выходзячых на розных мовах, „Наша Ніва“, была найболей радыкальнай і самай левай газэтай. Ужо самае памяшканьне рэдакцыі і канторы „Нашае Нівы“, абсталёванае надта бедна

і меўшае толькі два невялічкіх пакойчыкі, гаварыла аб тым, што тут прытулілася бяда і гора беларуса, якія выносіліся ў сьвет перад ўсенародныя вочы.

Даволі частая зьмена на першых часох памяшканьня рэдакцыі „Нашае Нівы“ не давалі магчымасьці прывабіць вока і прывучыць даведальніка сваім сталым месцам. Маленькая і малапрыкметная шыльда (па беднасьці) таксама рабіла памяшканьне рэдакцыі шмат каму невядомым. Даволі частыяператраскі паліцыі, якая пагражала ўласьнікам дамоў, што яны зьмяшчаюць вельмі падазронную організацыю, таксама перашкаджалі „Нашай Ніве“ болей доўгі тэрмін займаць памяшканьне для рэдакцыі. Надбаўка кватэрнай платы, якая была не па сілах „Нашай Ніве“, прымушалі яе вандраваць з памяшканьня ў памяшканьне. Найболей стала рэдакцыя абаснавалася на рагу Троцкай і Завальнай вуліцы, дзе пішачаму гэтыя радкі прышлося справіць у вельмі невялічкай кампаніі супрацоўнікаў занадта скромны юбілей „Нашае Нівы“, прыстасованы да выхаду 25-га нумару. Як скромны быў гэты юбілей, можна лічыць па выдатках у 50 кап., якія былі дадзены рэдактарам А. Уласавым сакратару, супрацоўніку Я. Коласу і двом „вальцоўшчыкам“ „Нашае Нівы“. Але, ня гледзячы на такую беднасьць рэдакцыі, калі неабходна было падтрымаць паважнасьць „Нашае Нівы“ ў А. Уласова былі візытныя карткі з францускім тэкстам: „Redacteur du jvurnal de la Russie Blanche „Nacha Niva“, якія быццам гаварылі, што беларуская газэта пастаўлена на шырокую нагу.

Матэрыяльнае становішча „Нашай Нівы“ было заўсёды няпэўным, а ў 1907 і 1908 г. даволі нават цяжкім. Выдаткі па выданьні „Нашай Нівы“ былі даволі вялікія, калі прымем пад увагу, што яна выходзіла ў ліку 4.500 экзэмпляраў; прычым 3.000 выходзіла кірыліцай, 1.500 лацінкай. Друкарня М. Кухты, дзе друкавалася „Наша Ніва“, падтрымоўвала яе, адчыняючы ёй доўгатэрміновы крэдыт. Нярэдка былі выпадкі, калі рэдакцыі за адсутнасьцю грошай немажліва было ў свой час плаціць, і 5-6 нумароў „Нашай Нівы“ друкаваліся ў крэдыт. Набор газэты каштаваў 45 р. за адзін нумар на абодвых шрыфтох. Калі ўжо доўг рэдакцыі падыходзіў да 300 руб., у такія часы ўласьнік друкарні М. Кухта вельмі часта наведваўся ў рэдакцыю і рашуча вымагаў выплаціць грошы з пагрозай, што далей у крэдыт ён нізавошта друкаваць болей „Нашай Нівы“ ня будзе. Неабходна было мець шмат вытрыманасьці і сур‘ёзнага супакойства, каб упэўніць, выпрасіць і, часам, вымаліць адцяжку выплаты грошай грамадзяніну Кухту, які, трэ‘ заўважыць, найчасьцей згаджаўся і чакаў, пакуль у „Нашай Ніве“ зьявяцца грошы. А ў гэты час Ян Луцкевіч вандраваў па Беларусі, Украіне і Польшчы, зьбіраючы адрасы тых, хто спрыяюча адносіўся да нацыянальнай справы беларусаў і меў можнасьць даць які-небудзь лік грошай на выданьне „Нашай Нівы“.

Ня зрэдка былі і такія выпадкі, калі сам рэдактар А. Уласаў абыходзіў у Вільні сваіх знаёмых, найчасьцей рэволюцыйна-настроеных на-

стаўнікаў і зьбіраў па 3—5 руб., каб выплаціць запазычанасьць М. Кухту і ў належны тэрмін выпусьціць чарговы нумар „Нашай Нівы“.

Матэрыяльнае становішча іншы раз было настолькі цяжкім, што ня было магчымасьці заплаціць 5—8 руб. у месяц прыбіральшчыцы рэдакцыі, дзеля чаго гэтая пасада скарачалася, а абавязкі па прыбіраньні пераносіліся на сакратара рэдакцыі альбо на таго, хто знаходзіў прытулак у „Нашай Ніве“, будучы яе супрацоўнікам.

З 1909 г. матэрыяльнае становішча „Нашай Нівы“ троха палепшылася, і яна заняла лепшае памяшканьне па Віленскай вул. д. № 20 (быўшая каўбасная лаўка), дзе знаходзілася даволі доўгі час. Хто з нашаніўцаў не памятае гэтага памяшканьня? Але і яно ня было адпавядаючым для рэдакцыі, і па прыраўнаваньні з памяшканьнямі іншых тагачасных віленскіх газэт, як, напр., „Северо-Западный Голос“, „Kurjer Wileński“,— было вельмі мізэрным. Гэта быў пакой, разьмерам прыблізна 12×10 арш., перабраны перагародкаю для габінэту рэдактара. Далей за фундаментальнай сьцяной быў яшчэ другі пакой, прыблізна такога-ж разьмеру, дзе жылі часам рэдактар альбо хто з адпаведных кіраўнікоў рэдакцыі. За адсутнасьцю належных сродкаў, памяшканьне рэдакцыі апальвалася невялічкай чыгуннай печачкай, дзеля чаго было вельмі цёпла, калі яна палілася, і нястрыманы быў зімою холад раньняй-раніцай. Той, хто начаваў у рэдакцыі, скручваўся ў невялічкі камок і нацягваў на сябе ўсё, што толькі было можна. А начаваць у рэдакцыі не забаранялася, бо вельмі ўжо шмат было ізгоеў жыцьця пасьля расправы з рэволюцыяй 1905 г. Тутака часта начавалі А. Бурбіс, Якуб Колас, нейкі „дзядзька барадаты“, Цішка Гартны, Максім Багдановіч, Ул. Галубок і іншыя сучасныя дзеячы і песьняры, якія ў той час толькі захопліваліся агнём барацьбы за нацыянальнае адраджэньне беларускага народу. Акрамя іх, знаходзілі часовы прытулак у рэдакцыі „Нашай Нівы“ прыяжджаўшыя ў Вільню студэнты-беларусы ўсіх расійскіх унівэрсытэтаў, прычым студэнты Юр‘еўскага унівэрсытэту былі тут найчасьцейшымі гасьцямі, па прычыне сваёй найбольшай беднасьці. Спыняліся ў „Нашай Ніве“ і настаўнікі, пазбаўленыя ад сваіх пасад дзеля свае палітычнае неспадзёванасьці і чакаўшыя суду над сабой; спыняліся і іншыя, каго паліцыя затраўлівала, як дзікага зьвера. Гэтым і тлумачацца тыя частыя візыты жандараў уначы ў рэдакцыю „Нашай Нівы“, дзе амаль што заўсёды знаходзілі яны каго-небудзь, хто быў ім вельмі патрэбны. Без забавы такога бралі з сабой і адпраўлялі на дармовую кватэру і абед.

„Наша Ніва“ да 1909 г. выходзіла ў формаце in quarto, прычым у рэдакцыю з друкарні дастаўляліся цалкам вялікія нязложаныя лісты. Неабходна было „вальцаваць“ газэту, інакш кажучы зложыць яе так, каб з вялікага аркушу вышла чатыры з 8 старонкамі. Дзеля гэтага цэльны аркуш заломываўся раз, пасьля другі і моцна прыціскаўся. Калі нумары „Нашай Нівы“ былі гатовыя, яны накіроўваліся сакратару, які на-

клейваў на кожны нумар напісаны ад рукі адрас, наклейваў яшчэ двохкапеечную марку і складаў іх у парадак для адпраўкі на пошту. Для вальцоўкі газэты зьбіраліся ў рэдакцыю найчасьцей па пятніцах чалавек 8—10, найбольш з вучнёўскай моладзі, і з 5 гадзін вечару пачыналася гэтая праца. Частка йшла ў друкарню забіраць нумары, частка падсабляла пісаць адрасы падпісчыкам, якіх у 1909 г. было, здаецца, каля 700. Шмат нумароў рассылалася па іншых гарадох і мястэчках Беларусі „на камісію“ для розьнічнае продажы. Даволі шмат было так званых чатырохсотых нумароў, гэта тыя, што йшлі супрацоўнікам „Нашай Нівы“, яе корэспондэнтам, у бібліотэкі і чытальні розных гарадоў Расіі і бяднейшаму сялянству безграшова. „Наша Ніва“ абменьвалася з другімі выданьнямі выключна прогрэсыўнага напрамку, і атрымоўвала газэты з усяго сьвету. Наколькі памятаецца з замежных газэт былі чэскія з Прагі—„Ćas“, „Ćislo“; былі газэты амэрыканскія на украінскай мове. З Сібіры атрымоўвалася „Дальневосточная окраина“, якая выходзіла ва Ўладывастоку, з Украіны—кіеўская „Рада“.

Паказаная вышэй праца па вальцоўцы газэты, надпісу адрасоў, наклейцы марак ляжала на добраахвотніках, якіх, трэ' заўважыць, ніколі не бракавала. Зацікаўленыя нацыянальнай і рэволюцыйнай працай зьбіраліся ў рэдакцыю, шлях да якое паказвалі організатары-вучні, якія вялі агітацыю па сваіх школах. Яны і прыводзілі ў рэдакцыю „Нашай Нівы“ сваіх таварышоў. Тутака быў і Алесь Бурбіс, які заўжды прыходзіў са студэнтамі сярэдняе тэхнічнае школы, дзе ён сам вучыўся і дзе меў шырокі ўплыў на сваіх сяброў. Уся праца выконвалася без усялякае ўзнагароды з боку рэдакцыі, калі ня лічыць гарбаты, хлеба і каўбасы, і лічылася ўдзельнікамі грамадзянскім абавязкам.

Пад борзды шолах вальцуемай паперы йшлі ціхія гутаркі на грамадзкія і рэволюцыйныя тэмы. Тутака абгаварваліся шляхі і прычыны гінучай рэволюцыі 1905 г., разьбіраліся програмы партый, прычым найболей спачувалі ідэям „Беларускай Соцыялістычнай Грамады“. Гутаркі аб краёвай аўтономіі Беларусі, аб організацыі ў г. Вільні свайго Сойму, адносіны да другіх нацыянальнасьцяй, аграрныя пытаньні, з якіх асабліва горача абгаварвалася, што неабходна рабіць з панскімі дварамі і рухомай і нярухомай маемасьцю іх, пытаньні антырэлігійнага зьместу—запаўнялі заўсёды час працы, які з 5 гадзін вечару зацягваўся далёка за поўнач. Нярэдка, хто жыў вельмі далёка, аставаліся і начавалі ў рэдакцыі.

Часы працы па вальцоўцы газэты найболей засталіся ў памяці тых, хто ўдзельнічаў у гэтай рабоце. Яны былі, кажучы пасучаснаму, політгадзінамі і мелі моцны ўплыў на напрамак разумовага разьвіцьця і казалі ў будучыне рэволюцыйны шлях кожнаму з удзельнікаў іх. Пры наліччы сяброў рэдакцыі А. Уласава, А. Луцкевіча, А. Бурбіса і інш, гэтыя пытаньні асьвятляліся з боку програмы „Беларускай Соцыялістычнай Грамады“. Які быў уплыў гэтых гадзін можна сабе ўявіць па аднаму та-

му, што ніхто з удзельнікаў іх ня мінуў царскае турмы і вобыску жандараў, абвінавачаны, як палітычны злачынец. Да чэсьці ўдзельнікаў можна яшчэ аднесьці тое, што з шэрагаў іх ня было ніводнага провокатара, які мог даць пэўныя весткі ў паліцыю палітычнага вышуку аб удзельніках іх і іх размовах. Калі дадамо да гэтага, што амаль што ня ў кожнага было захована даволі нелегальнай літаратуры, а часамі агнястрэльнае зброі, стане ясным, што рэволюцыйная стойкасьць працаўнікоў „Нашае Нівы“ была на належнай вышыні.

Конфіскацыі нумароў „Нашай Нівы“, асабліва ў 1907 г., былі даволі частымі. Жаданьне распаўсюдзіць сконфіскаваны нумар было настолькі магутным, што супрацоўнікі „Нашай Нівы“ пушчаліся на ўсялякія хітрыкі, каб распаўсюдзіць забаронены нумар газэты. Рознымі праўдамі і няпраўдамі, пры спачуваньні рабочых друкарні М. Кухты, удавалася чорнымі ходамі вынесьці часам даволі шмат сконфіскаваных нумароў. Узьнікала пытаньне, дзе іх вальцаваць? І вось адзін раз трое ўдзельнікаў, якім удалося пад сваімі шынэлямі абматаць аркушы „Нашай Нівы“ навакол сябе і вынесьці іх, забраліся на гару чатырохпаверхавае камяніцы, дзе зьмяшчаўся готэль „Дагмара“, што недалёка ад Вакзальнай вул. Ад друкарні, якая знаходзілася на Дварцовай вул. д. № 4, да готэлю „Дагмара“ адлегласьць будзе прыблізна 1$^1/_2$ кілёмэтра. Тамака, нікім няпрыкмечаныя, яны звальцавалі конфіскаваныя нумары, прывялі іх у належны стан і пасьля разаслалі тым, каму лічылі неабходным, галоўным чынам спрыяючым „Нашай Ніве“ грамадзкім працаўніком вёскі. Такія выпадкі „адратаваньня“ „Нашай Нівы“ былі не адзін раз.

Акрамя таго, за тыя ці іншыя артыкулы рэдактар А. Уласаў ня раз прыцягваўся да судовай адказнасьці і засуджаўся на тэрмін двохмесячнай адсідкі ў турме. Ня раз над „Нашай Нівай“ навісала пагроза аканчальнае забароны яе выданьня і прыцягненьня да адказнасьці рэдактара па 129 ст.—закліканьне да зруйнаваньня існаваўшага дзяржаўнага ладу. Ня раз „Наша Ніва“ штрафавалася, што было куды цяжэй, як адсідка рэдактара, бо грошай ўзяць было неадкуль. Наогул, рэпрэсыўных мерапрыемстваў з боку паліцыі і цэнзуры было для „Нашай Нівы“ даволі. Але, ня гледзячы на гэта, „Наша Ніва“ выходзіла даволі акуратна, і толькі заметка, што па незалежным ад рэдакцыі ўмовам такі-та № газэты ня быў разасланы падпісчыкам, казала аб тым, што з гэтым нумарам здарылася нешта нядобрае ад паліцыі.

Але гэта былі яшчэ ня ўсе рэпрэсіі.

Аднэй з найболей цяжкіх была забарона папячыцелем Віленскае вучэбнае акругі выпісваць і чытаць „Нашу Ніву“ вясковым настаўнікам. Гэта было цяжка і балюча „Нашай Ніве“ дзеля таго, што маладое рэволюцыйнае настаўніцтва стаяла за нацыянальнае адраджэньне бацькаўшчыны і ў большасьці сваёй было пад уплывам „Нашай Нівы“. Гэта выявілася на зьезьдзе „прадстаўнікоў“ вёскі „северо-западного“ краю,

які быў склікаңы чорнасоценнай організацыяй „Крестьянин" на чале з С. А. Кавалюком 27 сьнежня 1908 г. На гэты зьезд было загадзя выбрана 30 настаўнікаў вёскі, якія і прыехалі ў Вільню. Удзельнікі зьезду правыя дэпутаты Дзяржаўнай Думы так і бразнулі настаўнікам: „Хоць вы не палякі і ня жыды, але народ трохі падазрэнны". А поп Гапановіч кінуў настаўнікам, быццам, яны бяруць хабары. Абураныя дэлегаты настаўнікі, разам з удзельнікам ад „Нашай Нівы", паднялі такі гвалт, што чуць не сарвалі зьезду. Калі так трымалі сябе на зьезьдзе спадзяваныя для ўлады настаўнікі, дык што казаць аб тых, якія ўзапраўды былі „падазронымі".

Ня гледзячы на тое, што настаўнікам вёскі было забаронена выпісваць „Нашу Ніву", усё-ж такі мы бачым яе амаль што ня ў кожнага настаўніка, які павінен быў прымаць той ці іншы ўдзел у рэволюцыйным руху 1905 г.

Што настаўніцтва чытала „Нашу Ніву", распаўсюджвала яе, відно з таго, што шмат настаўнікаў супрацоўнічала ў „Нашай Ніве", пасылаючы ёй свае корэспондэнцыі.

Адным з вынікаў уплыву „Нашай Нівы" на настаўнікаў было тое, што ў траўні 1907 г. быў пакладзены пачатак організацыі „Беларускага Настаўніцкага Саюзу". Гэты „Беларускі Настаўніцкі Саюз" паставіў сваёй мэтай аб'яднаць беларускіх настаўнікаў, наўперад прапануючы ім навучаць дзяцей у школе на іх роднай матчынай беларускай мове. „Беларускі Настаўніцкі Саюз" адбіваўся па тым часам сваёй рэволюцыйнасьцю і цалкам ставіў сваёй мэтай зьдзейсьніць програму „Беларускай Соцыялістычнай Грамады". Але гэты Саюз быў хутка выкрыты поліцыяй, і ўдзельнікі яго былі аддадзены пад суд разам з Якубам Коласам. Суд засудзіў іх на розныя тэрміны аж да 3-х гадоў катаржных работ. Невялічкай частцы ўдалося ўцячы ад суду за межы Расіі і, такім чынам, пазбавіцца ад цяжкай кары. На судзе фігуравала і „Наша Ніва", дзе стараліся выясьніць ролю яе ў організацыі „Беларускага Настаўніцкага Саюзу", ад чаго популярнасьць „Нашай Нівы" сярод настаўніцтва, у большасьці спачуваючага засуджаным таварышом, яшчэ болей падвысілася, вынікам чаго было павялічэньне ліку падпісчыкаў і корэспондэнтаў.

Што „Наша Ніва" ў пэрыод 1906—1909 г. г. была пашырана сярод усяе Беларусі, нават у самых глухіх яе кутох, гаворыць аб гэтым статыстычная справаздача за тры гады яе існаваньня. У № 46 „Нашай Нівы" за 1909 г. мы можам прачытаць, што за гэты пэрыод у ёй было надрукавана 906 корэспондэнцый з 489 розных вёсак і мястэчак Беларусі.

Што яна прыцягнула да сябе песьняроў і пісьменьнікаў Беларусі, відно з таго, што за паказаны тэрмін у „Нашай Ніве" было надрукавана 246 вершаў 61 песьняра і 91 апавяданьне 36 розных пісьменьнікаў. Калі мы дадамо яшчэ, што ў „Нашай Ніве" пачалі сваю літаратурную дзейнасьць такія песьняры Беларусі, якія цяпер карыстаюцца славаю на

ўвесь СССР і вядомы далёка па-замежамі яго, як Янка Купала, Якуб Колас (ён сьпярша пачаў працу ў „Нашай Долі“), Цішка Гартны, Зьмітрок Бядуля, М. Багдановіч, роля „Нашай Нівы“ будзе болей высьветлена. Яна зьбірала, згуртоўвала, апрацоўвала і ставіла на рэвалюцыйны шлях беларускую моладзь, выбітных людзей Беларусі, з якіх шмат хто зьяўляецца цяпер ня толькі сябрамі ЎсеКП(б), але некаторыя знаходзяцца і на чале ўлады БССР.

Якія-ж мэты ставіла перад сабою „Наша Ніва“? Наўперад неабходна адзначыць, што яна ня ставіла перад сабою клясавага змаганьня, а ў сваёй перадавіцы ў № 1 „Наша Ніва“ заўважвала: „ня думайце, што мы хочам служыць толькі ці паном, ці адным мужыком. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму пакрыўджанаму народу“. Гэтыя радкі і адбіваюць яе кірунак і гавораць як „Наша Ніва“ далёка стаяла ад пагляду на клясавую соцыяльную рэволюцыю і ў гэтым яе самы слабы бок.

Культурнае разьвіцьцё беларусаў „Наша Ніва“ разумела, як падвышэньне нацыянальнай сьвядомасьці, грамадзянскага пачуцьця і чалавечай гордасьці. І хаця „Наша Ніва“ нібыта не падзяляла на клясы беларусаў, а несла свой сьцяг змаганьня „ўсяму пакрыўджанаму народу“, мы усё-ж такі павінны заўважыць, што пакрыўджанымі на Беларусі наогул былі рабочыя і сялянства, асабліва бядняцка-серадняцкая кляса. Яны знаходзіліся ў вельмі цяжкім матэрыяльным і прававым становішчы і жорстка эксплёатаваліся, асабліва ўлетку, панствам у якасьці падзённай рабочай сілы, а таксама ў якасьці батракоў, прычым працоўны дзень адзначаўся „працаваць ад усходу сонца да заходу з перапынкам на $1^1/_2$ гадзіны на абед“. Прымаючы гэта пад увагу, мы павінны спыніцца ня столькі на дзейнасьці „Нашай Нівы“, як на выніках гэтае дзейнасьці. Каго ў свае шэрагі ўвабрала „Наша Ніва“, на каго яна мела найбольшы ўплыў? Вось гэтыя батрацка-сялянскія масы цалкам знаходзіліся пад яе кіраўніцтвам. Іх згуртоўвалі інтэлігентныя сілы нашаніўцаў, сярод якіх самым найвышэйшым інтэлігентам на вёсцы быў народны настаўнік.

Беларускае сялянства, падзеленае гістарычнай спадчынай на праваслаўных і католікаў, знаходзілася пад моцным уплывам царквы і папоў, а з другога боку—касьцёлу і ксяндзоў. Дзеля таго, што папы і ксяндзы былі правадырамі сваіх нацыянальных ідэй, яны здалелі ўдаўбці ў галаву беларуса, што калі ён праваслаўны, дык павінен лічыць сябе рускім, з другога боку, ксяндзы здалелі пераканаць каталіка-беларуса, што ён ёсьць ніхто іншы, як паляк. Такім чынам, ідэя дзяржаўнасьці моцна зьлівалася з рэлігійнасьцю, што і да гэтых часоў адчуваецца яшчэ ў некаторых мясцох Беларусі. На такое ненормальнае становішча „Наша Ніва“ зьвярнула сваю пэўную ўвагу і праводзіла заўсёды тую ідэю, што беларускага народу нічым нельга падзяліць, што ён ёсьць адзіны і павінен імкнуцца да разьвіцьця і пашырэньня свае адзінай нацыянальнай душы.

Гэта можна ўгледзець з таго выразу, які стаіць эпіграфам перадавіцы „Нашай Нівы“ ў № 27 за 1910 г. „Разьвіцьцё беларускай нацыянальнай душы—гэта аграмадны дар і скарб для ўсясьветнай людзкой культуры“.

Неабходна заўважыць, што ў гэтым напрамку мы бачым добрыя вынікі дзейнасьці „Нашай Нівы“. Нацыянальная сьвядомасьць узмацняецца. Беларус, які ад доўгага падданскага жыцьця, асабліва ад адносін да яго паноў, прывык на сябе глядзець, як на нейкае ніжэйшае стварэньне, пад уплывам „Нашай Нівы“ пачынае ўсьведамляць сябе чалавекам, грамадзянінам свае бацькаўшчыны і наогул роўнапраўным сябрам свае грамады. Ужо пісар і земскі, пан і падпанак, поп і ксёндз у яго вачох ня вышэйшыя нейкія людзі, а тыя, з кім ён у выпадку несправядлівасьці з іх боку можа з імі паспрачацца, не паслухаць іх і нават адбіць у іх свае справядлівыя правы. Такім чынам, пашырэньне грамадзянскай сьвядомасьці сярод сялянства зьяўляецца, бязумоўна, адным з пэўных вынікаў працы „Нашае Нівы“.

Сабраўшы і згуртаваўшы каля сябе рэволюцыйную моладзь, „Наша Ніва“ пасылае яе ў розныя куты нашай бацькаўшчыны на фабрыкі, заводы і ў цёмныя вёскі.

Гэтыя, так званыя нашаніўцы, вялі рэволюцыйную пропаганду, заклікалі рабочых і сялян на барацьбу. Нашаніўцы распаўсюджвалі выданьні „Беларускай Соцыялістычнай Грамады“, нелегальныя кніжкі, брошуры, проклямацыі, з якіх неабходна адзначыць наступныя: „Хто праўдзівы прыяцель беднага народу“, „Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы йдуць“, „Як зрабіць, каб людзям было добра на сьвеце“ і г. д. За такую энэргічную працу нашаніўцаў поліцыя, высачыўшы іх, аддавала пад суд, які прыгаварваў некаторых да ссылкі ў Сібір, а найчасьцей да адсідкі ў турме.

Нашаніўцаў даволі часта прыраўноўваюць па тыктыцы пропаганды да народавольцаў, але гэта ёсьць ня так. Сярод народавольцаў мы бачым найчасьцей дзяцей інтэлігенцыі, і часам буйнай інтэлігенцыі, якая зусім ня ведала сялянства і падходу да іх. Народавольцы часта падрабляліся пад вобраз селяніна, апранаючы на шаўковую кашулю мужыцкую сьвітку. Нашаніўцы, мы бачым, ішлі працаваць у добра знаёмую ім вёску, найчасьцей зьяўляючыся дзецьмі гэтай самай вясковай беднаты.

„Наша Ніва“ мела таксама вялікі ўплыў на рознапынкае беларускае студэнцтва, якое ў большасьці было абʼяднана пад яе сьцягам. У сваім лісьце ў рэдакцыю „Нашай Нівы“ студэнты—юрʼеўцы пішуць так: „Закінутыя сюды з грудзей мацеры нашай Беларусі... ...падтрымаем вас у вашай культурнай працы“ *).

*) „Наша Ніва“ 1909 г. № 46.

Такім чынам, рэволюцыйны рух на Беларусі, які грунтаваўся на нацыянальна-культурным адраджэньні бацькаўшчыны, абхапіў сабою шырокія колы беларускага грамадзянства. „Наша Ніва“ была тым асяродкам, куды зьбіраліся са ўсіх бакоў Беларусі яе рэволюцыйныя сыны. Яна давала напрамак далейшай іх дзейнасьці, згуртоўвала іх і падрыхтоўвала новых рэволюцыйных барацьбітоў для наступнай за 1905 г. рэволюцыі.

Царская поліцыя зорка сачыла за ўсімі нелегальнымі рэволюцыйнымі організацыямі. Яна добра ведала значэньне „Нашай Нівы“ і яе ўплыў на сялянскія, пролетарскія і розначынныя масы, дзеля чаго прымала свае асаблівыя мерапрыемствы. Ня маючы магчымасьці зачыніць „Нашу Ніву“, зруйнаваць „Беларускую Соцыялістычную Грамаду“, улада шукае іншых сродкаў змаганьня і становіцца на шлях організацыі контрбеларускіх сіл, якія-б на тэй самай ідэі беларускасьці праводзілі русыфікатарскую справу ў монархічным напрамку.

Гледзячы на Беларусь поглядам XVIII ст. па прынцыпу „отторженная возвратих“, улада лічыць беларусаў рускімі і выстаўляе на чале антыбеларускай організацыі людзей, якія вышлі з сялянскай, альбо розначыннай беларускай сям‘і. На чале іх становіцца такі выдатны монархісты, як С. Кавалюк, які засноўвае разам з сабе падобнымі сваю організацыю пад назваю „Крестьянин“. Гэтаю назваю яны падкрэсьліваюць сфэру свае дзейнасьці сярод сялян, а таксама, што організатары яе і супрацоўнікі таксама сяляне. Напрамак „Крестьянина“ адразу акрэсьліваўся такімі думкамі, якія выказваліся ў адным з артыкулаў: „Кіньце, беларусы, вашу брыдкую і нягодную мову! Ужываць яе можна толькі ў хаце, ды хляве пры скаціне, а між людзей з ёю ня суньцеся! Вы ўсе павіны гаварыць і вучыцца толькі парасійску, павінны стаць рускімі, адрокшыся ад усяго роднага“... *). Такі напрамак „Крестьянина“ выклікаў нездавальненьне нават сярод яго сяброў, частка з якіх аддзялілася і організавала другі хаўрус пад назваю „Белорусское Общество“. Але апошняе ня вельмі далёка адышло ад „Крестьянина“, паставіўшы сабе дэвізам: „Беларусы павінны зрабіцца ўсе рускімі“. „Белорусское Общество“ па сутнасьці сваёй рабіло тое самае, што і „Крестьянин“. Але „Наша Ніва“ ня гледзячы на ўрадавыя субсыдыі як „Крестьянину“, так і „Белорусскому Обществу“ змагалася з імі, выціскаючы іх выданьні з ужытку сялян і зьніжаючы тыраж іх. Калі ўплыў „Нашай Нівы“ стаў яшчэ болей пашырацца на дапамогу „Крестьянину“ мобілізуюцца іншыя ўрадовыя газэты і часопісі, найболей пашыраныя сярод нізавой вясковай інтэлігенцыі. З іх неабходна адзначыць „Народное Образование“, якое безграшова высылалася па ўсіх вясковых школах Беларусі. Анты-беларускімі артыкуламі, якіх даволі было на старонках „Народного Образо-

*) „Наша Ніва“ 1909 г. № 3.

вания“ думалі адвярнуць ад нацыянальнай справы самую магутную частку вясковай інтэлігенцыі—настаўніцтва ад рэволюцыйнай пропаганды „нашаніўцаў“.

Калі пасьля маніфэсту 17 кастрычніка 1905 г. была склікана Дзяржаўная Дума, жыцьцё і тутака пажартавала над Беларусьсю, якая не магла пасланць туды ніводнага сапраўднага свайго прадстаўніка. „Наша Ніва“ і тут зьявілася абаронцам грамадзкіх і нацыянальна-культурных праў беларуса і разам з другімі часопісамі нацыянальных меншасьцяй Расіі (Украінская „Рада“) высьвятляла тыя неабходныя патрабаваньні, якія павінна ўхваліць Дзяржаўная Дума для пэўнага разьвязаньня пытаньняў для ўсіх прыгнечаных нац. меншасьцяй Расіі. Калі ў Дзяржаўнай Думе абмаўлялася пытаньне аб праве нац. меншасьцяй навучаць у школе сваіх дзяцей на матчынай мове, мы бачым у „Нашай Ніве“ цэлы шэраг артыкулаў, якія грунтоўна даводзяць неабходнасьць гэтага права для Беларусі. Калі Дзяржаўная Дума (1910 г.) прызнала права навучэньня на роднай мове толькі за 12 нацыямі Расіі, а іменна за палякамі, літвінамі, немцамі, татарамі, эстонцамі, латышамі, армянамі, чэхамі, грузінамі, буратамі, калмыкамі і яўрэямі, „Наша Ніва“ абурана даводзіць, што дзевяцімільённы беларускі народ глядзіць на пазбаўленьне яго і іншых нацый мець сваю школу на роднай мове, як на зьдзек над усімі нацыямі, не атрымаўшых гэтых праў. Наогул „Наша Ніва“ горача стаіць за сваю бацькаўшчыну, заўсёды паказваючы ўраду векавечныя крыўды Беларусі. Але шмат артыкулаў „Нашай Нівы“ адкрыта гаворыць, што скасаваньне крыўд Беларусі прыдзе ў іншыя часы ад другіх політычных падзей, разумеючы прыход новай рэволюцыі якая вырве Беларусь з-пад уціску расійскага монархізму. „Наша Ніва“ выходзіла адзін раз у тыдзень і была органам „Беларускай Соцыялістычнай Грамады“.

Цяжкая справа выпала на долю „Нашай Нівы“. Але, ня гледзячы на дрэннае матэрыяльнае становішча, бязупынныя конфіскацыі, штрафы, судовыя процэсы, адміністратыўныя кары, „Наша Ніва“ паступова пашырала сваю працу, ня спыняючы яе ні на хвіліну. Толькі калі ў 1915 г. былі мобілізаваны на вайну рэдактар і большая частка супрацоўнікаў, „Наша Ніва“ супынілася.

Дзевяць год працы „Нашай Нівы“ не прайшлі дарэмна. Яна дала пачатак таму магутнаму нацыянальнаму аб'яднаньню, якое захапіла ўсю Беларусь у нашыя часы. Зярняты яе кідаліся на добрую глебу і ўрэшце далі багаты ўраджай. Кастрычнікавая рэволюцыя вызваліла паднявольны беларускі народ, які ў Савецкай Беларусі мае сваю дзяржаўнасьць, аб чым толькі марыла „Наша Ніва“. Ня гледзячы на тое, што Беларусь парэзана ўсялякімі межамі, будуе Савецкая Беларусь сваю бацькаўшчыну, пашырае сваю нацыянальную культуру, і пролетары, і сяляне Беларусі маюць усе грамядзянскія правы, якіх пазбаўлены яны

ў другіх частках Беларусі. Але мы верым, што прыдзе час, калі ўся Беларусь убярэцца ў свае этнографічныя межы пад чырвоным штандарам Кастрычнікавай рэволюцыі.

Пазіраючы на пройдзены шлях „Нашай Нівы“ і на тое, што зроблена да дваццацігадовага яе юбілею, нам, старым супрацоўнікам, ня лішне ўспомніць наступныя словы:

...І горды мы ўсе, што калісь-та цярпелі,
Ў здабытай свабодзе і наша ёсьць часьць.

## ЛЁС ЧАЛАВЕЦКАЙ МОРАЛІ*)

### С. Вольфсон

Па меры таго, як пershабытны чалавек спакараў сілы прыроды і знаходзіў сабе новыя крыніцы харчаваньня (паляваньне на зьвяроў), людаедзтва эволюцыянізавала,—яно абмяжоўвалася пэўнымі рамкамі, яно дазвалялася пры пэўных умовах, у ім прымала ўдзел ня ўсё племя, а толькі некаторыя групы, так, напрыклад, у вадных пляменьняў ужываньне чалавечага мяса зусім забаранялася жанчынам, у другіх пляменьняў людаедзтва дазвалялася толькі кіруючым групам—вярхом і г. д.

Усё ідучы на зьмяншэньне, людаедзтва ў шмат якіх пляменьняў, урэшце ўсяго, зышло на сымболічную цэрэмонію—прынясеньне ахвяр. На глебе новага быту пачалі нараджацца і новыя ацэнкі, новыя этычныя нормы. Дзікун ужо не выхваляў чалавецкае мяса, такое смачнае і такое далікатнае. У яго былі ўжо другія спосабы задавальняць свае гастрономічныя патрэбы, а людаедзтва падцінала сілу колектыву, здольнасьць грамадзтва змагацца з стыхіямі прыроды і другімі жывёльнымі відамі. На людаедзтва пачалі накладаць табу, і яно пачало супярэчыць агульнапрынятай моралі, грамадзкай ацэнцы „дабра“. Новы моральны прынцып праяўляў сваё затрымальнае дзеяньне, стрымліваючы агрэсыўнасьць чалавека і вымушаючы яго крыха-па-крысе прасякацца гідкасьцю да чалавечага мяса. У яго пачала выпрацоўвацца на гэтай глебе моцная ўмоўная сувязь—гідкасьць да ўжываньня гэтага мяса ў ежу. Замацаваная тысячалетняй традыцыяй, гэтая сувязь прымушае нас бачыць ва ўжываньні чалавечага мяса вышэйшыя з мысьлімых праяўленьняў амаральнасьці. Але гэтая сувязь можа распасьціся пад уплывам ежавай рэакцыі, якая не знаходзіць сабе задавальненьня,—прыпомнім выпадкі людаедзтва хоць-бы ў час апошняга Волскага голаду. А пісьменьнік Эрэнбург малюе ў сваім „Трэсьце Д. Е.“, як у часы захаду эўропэйскае цывілізацыі „джэнтэльмэн есьць джэнтэльмэна“. Сучасны ангельскі лёрд, пэўна, быў-бы надзвычайна абураны, каб прачытаў гэтую старонку эрэнбурскага роману. Але хто можа паручыцца?

Ежавая рэакцыя зьяўляецца самым моцным стымулем, і немагчымасьць задаволіць яе разрывае нават, здавалася-б, самыя трывалыя з нашых умоўных сувязяй і можа скінуць чалавека з верхавін надморальнай цывілізацыі на дно амаралізму...

*) Гл. „Полымя“ № 6.

Зьвернемся цяпер да другой з моральных падпорак—адданасьць бацьком. Чуць розум дзіцяці разьвінуўся для пачуцьця абавязкаў, як ужо прырода шэпча яму: „Любі сваіх бацькоў“. Гэта ўраджонае пачуцьцё такое моцнае, што, здавалася-б, магло пражыць у нас да канца жыцьця бяз нашае дапамогі,—так гукаў у свой час вядомы італьянскі поэта—філёзоф Сільвіо Пелліко *). У тэй ці іншай формулёўцы спатыкаем мы такія словы ў мноства філёзофаў, соцыолёгаў, поэтаў, дасьледцаў моралі.

А што нам паказваюць нагляданьні над жыцьцём першабытных народаў, як тут ажыцьцяўляецца „ўраджонае пачуцьцё, аб якім гаворыць Пелліко? Тут мы спатыкаемся, як з бытавым зьявішчам, з забойствам старых бацькоў. Бадай кожнае першабытнае племя зьнішчае сваіх старых, якія дасяглі пэўнага веку і зусім пастарэлі. Яшчэ Гэльвэцы апавядаў аб тым, што шмат якія дзікія пляменьні, зьбіраючыся на паляваньне, прымушаюць сваіх старых лезьці на дубы, якія яны моцна трасуць, пры гэтым большасьць старых ня вытрымлівае спробы і звальваецца, тады іх забіваюць. Зноў зварачаючыся да Летурно, мы знаходзім у яго шмат малюнкаў, як нова-калядонцы, фіджыйцы, батасы, бушмэны, кафры, камчадалы, масагеты, дэрбісы і топамоны ды інш. дзікія пляменьні аддаюць „апошні абавязак“ сваім старым. Вось некаторыя тыповыя з гэтага боку факты.

„У Віці дзеці лічылі сваім сьвятым абавязкам не дазваляць сваім старым бацьком дажываць да вельмі вялікай старасьці; яны строга выконвалі свой абавязак, папераджаючы бацькоў у выпадку патрэбы, што пара ўжо ўміраць, і назначаючы, разам з імі, час для адпраўленьня іх на той сьвет. У назначаны для гэтага дзень склікаліся звычайна сваякі і сябры для ўдзелу ў хаўтурнай урачыстасьці“.

Урэшце, старога ўрачыста вялі да магілы, на краі якой сыны, пасьля чулага разьвітаньня, клапатліва задушвалі яго ўласнымі рукамі. Ангельскі місыянэр Гент прысутнічаў аднойчы пры падобным пахаваньні бабулькі, якая весела ішла да месца сьмерці: „Падышоўшы да магілы, кажа ён, бабулька села; тады ўсе, дзеці, ўнукі, сваякі і сябры чула разьвіталіся з ёю; сыны абкруцілі вяроўкай *тапа* ёй шыю і, нацягнуўшы абодва канцы, задушылі сваю матку; пасьля гэтага яе пахавалі, выконваючы звычайныя абрады“.

На суровыя пераконаньні місыянэра, які спрабаваў пераканаць іх адмовіцца ад свайго замеру, сыны адказалі, што яна была іх маткай, а яны—яе дзеці, і што яны былі *абавязаны* забіць яе.

Батэсы, якія жывуць на Суматры і больш цывілізаваныя, чым фіджыйцы, бо яны тады ўжо мелі правільна організаваны ўрад, законы, азбуку і літаратуру, заходзілі яшчэ куды далей у гэтых адносінах. Яны ня толькі забівалі сваіх зусім пастарэлых бацькоў, але і елі іх, выбіраючы, як

*) С. Пеллико об обязанности человека, пер. Серчевского. СПБ, 1903. стар. 34.

людзі прадбачлівыя, для сваіх баляў часы, калі ўраджай цытрыны быў асабліва вялікі, а соль можна было купіць танна.

Урачыстасьць вызначалася асаблівым рытуалам. У пэўны момант, стары, з якім разлучаліся альбо ад якога проста хацелі адчапіцца, узлазіў на дрэва, а навокал станавіліся ўсе, хто прысутнічаў. Потым рытмічна стукаючы па дрэву, яны сьпявалі нешта накшталт хаўтурнага гімну, агульны сэнс якога быў наступны: „Плод насьпеў, надышоў час жніва". Урэшце, ахвяра злазіла з дрэва, яе забівалі ды елі.

Ня менш, чым звычай забойства старых, пашырана сярод тых-жа пляменьняў і забойства дзяцей.

Забойства дзяцей зьяўляецца штодзенным зьявішчам у мноства першабытных і дзікіх пляменьняў. Мафот кажа, што „бушмэны забіваюць сваіх дзяцей бяз жаднага непакою сумленьня"; таксама робяць шмат якія іншыя пляменьні, якія зьнішчаюць хворых, слабых дзяцей, а таксама тых, якія зьяўляюцца ў іх вачох лішнімі, непатрэбнымі.

У Таіці, як сьведчыць Эліс, няма жанчыны, якая-б не забіла прынамсі аднаго з сваіх дзяцей, задушыўшы або жывым закапаўшы яго ў зямлю. Як моцна ўкаранілася забойства дзяцей у грамадзкае жыцьцё першабытнасьці, можа давесьці і тое, што яно ў шырокіх разьмерах практыкавалася яшчэ ў такой высокай грамадзкай організацыі, як Спарта.

Урэшце, да звычая забіваць старых і дзяцей далучаецца і забойства хворых. Тубыльцы Конга яшчэ нядаўна забівалі ўсіх тых хворых, якія прызнаваліся безнадзейнымі. Гэльвэцы расказваў, што на востраве Формозе цяжка хвораму закручваюць на шыю вяроўку і душаць яго. Аб падобных фактах сьведчаць усе, бадай, дасьлядоўцы першабытнасьці.

Дык вось, зьнішчэньне вельмі старых, забойствы дзяцей, забойствы захварэлых... Як тут не абвесьціць усе тыя пляменьні, якія ўжываюць гэтыя надзвычайныя жорсткасьці, пазбытымі ўсякае моралі, амаральнымі? А як-жа пагадзіць з гэтым вывадам, які лёгка напрошваецца і часта робіцца, тую акалічнасьць, што тыя самыя пляменьні, якія робяць усе гэтыя дзеяньні, што ўяўляюць у нашых вачох верх амаралі, адначасна ведаюць учынкі, якім не адмовіць у прызнаньні высокамаральнымі самы бязгрэшны з сучасных дазорцаў моралі?

Тыя-ж самыя дасьлядоўцы жыцьця дзікуноў, якія на адных старонках пішуць аб тым, як яны (дзікуны) забіваюць бацькоў, дзяцей, хворых, часам побач падаюць прыклады бясспрэчнай гуманнасьці, чалавекалюбства, здольнасьці спачуваньня, што праяўляецца тымі самымі дзікунамі. Спэнсэр падае, напрыклад, словы Мафота, якія сьведчаць аб тэй дзіўнай увазе, якую праявілі да яго бушмэны ў часе яго хваробы: „Я быў глыбока закрануты спачуцьцём ка мне гэтых бедных бушмэнаў, для якіх мы былі зусім чужыя". Спэнсэр далей піша: „Кольбэн, згодна з Бурчэлем, апісвае готэнтотаў, як людзей дружацкіх, шчодрых, сумленных; тымчасам мы даведваемся ад Кольбэна і Спармана, што яны часта закопва-

юць сваіх дзяцей жывымі і пакідаюць сваіх вельмі старых бацькоў дзенебудзь у глухім месцы. Тое самае пішуць і аб аўстралійцах. У той час, як яны пакідаюць уміраць бяз жаднае дапамогі сваіх старых і часта забіваюць дзяцей, яны прадстаўляюцца ў іншых выпадках пяшчотнымі і ласкавымі бацькамі і часта выказваюць добрыя пачуцьці да падарожнікаў.

Значыцца, мы ані ня маем права называць пляменьні, якія забіваюць старых і дзяцей, пазбаўленымі моральнага пачатку, а абавязаны прызнаць, што ў іх пануе свая, нам незразумелая з першага погляду, мораль, што ў іх ёсьць свае моральныя нормы, якія разыходзяцца з нормамі, пануючымі ў так званага цывілізаванага чалавецтва.

Хіба сапраўды не асаблівая, але зусім законная для тых умоў, у якіх яна радзілася, моральная норма кіравала эскімоскай дзяўчынкай, аб якой піша *Фрыціох Нансен* у сваёй кнізе „Жыцьцё эскімосаў“:

„Калі Эгеда расказаў адной эскімоскай дзяўчынцы аб каханьні да бога і блізкіх, то дзяўчынка сказала: „Я давяла, што люблю сваіх блізкіх: аднойчы хворая кабета, якая ўсё не магла памерці, прасіла мяне завясьці яе за грошы на крутую скалу, адкуль звычайна скідаюцца людзі, якія больш жыць не павінны. Але дзеля таго, што я кахаю людзей, то я яе завяла туды дарма і сама сапхнула яе са скалы“. Эгеда заўважыў, што яна зрабіла дрэнны ўчынак, забіўшы чалавека. Але дзяўчынка адказала, што ёй было вельмі шкода бабулькі і яна плакала, калі сапхнула яе“.

Бясспрэчна, што наша эскімоска так зрабіла не таму, што эскімосы ня ведаюць моралі, а таму, што іх мораль, як і кожная іншая, зразумела, абумоўлена адпаведным бытам. У гэтым быце—тлумачэньне эскімоскай моралі, якая лічыць добрай справай забіць старога. Патрэбнасьць, якая дыалектычна прымушае дзікуна ў імя моралі часта рабіць тое, што сучаснаму эўропэйцу або амэрыканцу здаецца ўвасабленьнем амаральнасьці, разумелі яшчэ францускія матэрыялістыя. Кажучы аб забойстве старога, якое практыкуюць дзікуны, Гэльвэцы заўважвае: „Дзікун хоча выратаваць іх ад доўгіх і балючых пакут, і шляхам хуткага і неабходнага забойства выратоўвае свайго бацьку ад павольнай і вельмі жорсткай сьмерці... Вось якім чынам бадзяжны народ, якога паляваньне і недахват жыцьцёвых прыпасаў прымушае поўгода праводзіць у неаглядных лясох, аказваецца, такім чынам, вымушаны на гэтае барбарства, і вось якім чынам бацьказабойства адбываецца ў гэтых краінах на падставе таго самага прынцыпу чалавечнасьці, які прымушае нас пазіраць на яго з жахам“*).

Расколваючы чэрап дубінаю старому дзеду, скідаючы з скалы безнадзейна хворага, першабытны чалавек вырашаў тую проблему, якая прымушала самага рафіраванага эўропэйца эпохі капіталістычнай цывілі-

*) К. Гельвеций. „Об уме“, пер. пад рэд. Э. Радлова. ПТБ., 1917, стар. 88.

зацыі Дюркгэйма абурацца тым, што „мы трымаем у нашых больніцах і багадзельнях цэлую нацыю крэтынаў, ідыётаў, вар'ятаў, розных нявылечных хворых на розныя хваробы, якія ня могуць прыносіць ніякае карысьці, і існаваньне якіх, такім чынам, падтрымліваецца дзякуючы тым абмежаваньням, якія накладаюць на сябе здаровыя і нормальныя працаўнікі".

І Гэрбэрт Спэнсэр навучаў, што ўсе тыя прадпрыемствы, якія маюць сваёй мэтай масавую дапамогу слабым наогул, робяць бясспрэчнае зло: яны затрымліваюць той процэс натуральнага ўхіленьня, якім грамадзтва бязупынна самаачышчаецца". Забіваючы старых і безнадзейна-хворых, готэнтот дапамагае „самаачышчэньню" свайго племя... А дзетазабойства? І на яго штырхала першабытнага чалавека бытавая патрэбнасьць, і на глебе гэтай патрэбнасьці разьвіваліся ў яго ўмоўныя сувязі, ствараліся моральныя нормы. Дзетазабойствам змагаўся першабытны чалавек з „перанасяленьнем", так ён ліквідаваў небясьпеку, якая пагражала яго племя—разрасьціся да такой мяжы, калі ня будзе чым харчавацца. Характэрна, што ў большасьці дзікіх пляменьняў, дзетазабойства абмежавана пэўнымі рамкамі: забіваюць калек і хворых дзяцей, забіваюць дзяцей, калі іх занадта многа зьяўляецца ў адной сям'і. Так, напрыклад, у Цікопіі і на Радаксінскіх астравох лічылася моральным забіваць трэцяе або чацьвертае дзіця (Летурно), на Сандвічавых астравох колькасьць дзяцей, якіх зьнішчалі, азначалася ў дзьве трэці ўсіх нараджэньняў (Эліс). Свайго роду стыхійнае мальтузіянства, і ці не таму абвяшчаюць яго амаральным, што ў яго абарону жыхары Сандвічавых астравоў ня ўмеюць пісаць філёзофскіх трактатаў на манер цывілізаваных эўропэйцаў.

Моральныя нормы вытвараюцца ўмовамі існаваньня людзей, яны вызначаюцца іх соцыяльнымі абставінамі і зьмяняюцца ў залежнасьці ад іх. І той разумны бушмэн, які, трапіўшы ў сталіцу Францыі, сказаў: „я ня ведаю больш дзікіх і амаральных людзей, чым гэтыя парыжане", хіба ня меў таксама рацыі, як і эўропэйскія выкрывальнікі бушмэнскага амаралізму.

Мораль, якая склалася ва ўмовах пэўнага быту, чужая для таго, хто ня ведае гэтага быту. І таму, калі для сучаснага эўропэйца чорны жыхар роўнікавай Афрыкі—дзікун, то апошні ў сваю чаргу пазірае на белага француза, які трапіў у яго край, таксама як на дзікуна.

У вядомым романе, які належыць нэгру Рэнэ Моран, правадыр племя Батуала кажа:

„Белыя, ах гэтыя белыя!

Яны лаюцца ад укусу москітаў. Укус „фуру" прыводзіць іх у ярасьць, гудзеньне мух робіць іх нэрвовымі, яны баяцца скарпіёнаў, гэтых чорных і ядавітых „праконго", якія жывуць у старых стрэхах, у крушнях і сьмецьці. Яны баяцца мух-каменшчыц. Усё іх непакоіць. Хіба мужчына,

варты гэтага племя, павінен клапаціцца аб тым, што хвалюецца і жыве навокал яго. Ах, белыя, белыя!

А іх ногі? Адна зараза. І навошта іх пакаваць у чорную, жоўтую ці белую скуру.

І калі-б сьмярдзелі толькі іх ногі. На жаль, ад усяго іх цела ідзе пах трупа.

Ну, добра; яшчэ можна дапусьціць у крайнім выпадку, каб ногі былі абернуты ў шытыя скуры.

Але абараняць свае вочы белымі, жоўтымі, сінімі, чорнымі шкламі. Накрываць сваю галаву маленькімі кошыкамі. Гэта вышэй усякага разуменьня.

Рэзкая пагарда ўзьняла яго плечы і, каб выказаць яе, ён плюнуў.

Ах, белыя! Іх хітрыкі, іх веды робяць іх жудаснымі.

Адны з іх, якія прыехалі з Францыі, прывозілі машыны, якія, калі пакруціць кавалачак дрэва, гаварылі, як сапраўдныя белыя, невядома чаму і як.

Надоечы, калі прыехаў новы комэндант, хіба Батуала ня бачыў сам, як той зьняў скуру з свае рукі. Скуру, якая, сапраўды-ж, была мала падобна на ўсе вядомыя яму скуры. Але ўсё-ткі скуру.

Але, бяз жаднага болю ён адрываў ад сябе кавалкі. Калі-б яму балела, дык ён крычаў-бы. А калі ён ня крычаў, значыць яму не балела.

А хіба ня кажуць, што некаторыя з іх могуць вынімаць свае зубы або вочы і класьці гэтыя зубы або вочы на стол перад вамі. Гм".

У эволюцыі моралі нельга роўна нічога зразумець, калі ня ставіць яе ў заўсёдную залежнасьць ад соцыяльнай атмосфэры, у якой яна разьвіваецца. Толькі ўстанаўляючы гэту залежнасьць, мы маем магчымасьць зразумець зьменнасьць і рознастайнасьць гэтых моральных нормаў. Разам з тым мы павінны ўлічаць, якую вялізную ролю ў нашых уяўленьнях аб моральным грае сіла традыцыі, магутнасьць прывычкі, што ўжо мы крыху закраналі вышэй.

Гэтую магутнасьць добра прасачыць на такім зьявішчы, як сорам. Што такое сорам? Профэсар А. К. Ленц, разглядаючы ў цікавай працы сорам, як рэфлекторную абарончую рэакцыю, зусім правільна падкрэсьлівае, што „сорам зьяўляецца ўраджоным пачуцьцём, якое потым ужо культывуецца і відазьмяняецца шляхам выхаваньня" *).

Узьнікаючы пераважна на шляху зьдейсьненьня палавога пачуцьця, сорам, у залежнасьці ад соцыяльных абставін існаваньня колектыву і пануючых у ім традыцый, праяўляецца самым рознастайным чынам. Сучасны эўропэец адчувае сорам перад нагасьцю, зусім невядомы і незразумелы дзікуну. Гэты від сораму—продукт ужываньня вопраткі і асоцыяцыі агаленьня цела з выкананьнем палавога акту, якая ўзьнікае на

*) А. К. Ленц. Стыд и его значение для полового чувства. ЛНГ, 1925, стар. 6.

гэтай глебе. Вядомы гісторык культуры Шурц сьведчыць, што шмат якім першабытным народам зусім незнаёма вопратка. У гэтых народаў, аднак, часта-густа існуе вельмі строгая мораль у галіне палавых зносін. Тут няма сораму перад нагасьцю, бо нагасьць штодзенная і прывычная ні ў якой меры ня злучаецца з палавым актам. „Чаму, кажуць брахміны, мы будзем сароміцца хадзіць нагімі, зрабіўшыся мужамі, тады, як мы не саромячыся нарадзіліся голымі“. У тым-жа нэгрыцянскім романе „Батуала“, выняткі з якога мы падавалі вышэй, вельмі добра паказана гэтая натуральная адсутнасьць сораму перад нагасьцю:

„Калі яе самец сеў за яду, яна ўзяла кінутую ім люльку.

Яна пачала курыць, няўважліва сочачы за тым, як смажыліся вусьні. Прытуліўшыся кожная да сваёй халупы, усе восем яе сябровак пачалі ўбірацца.

Яны ня ўносілі ў гэта ніякае эфэктацыі. Мужчына і жанчына створаны адно для аднаго. Затым, што мужчына ведаў, з чаго складаецца розьніца паміж імі, то чаго-ж сароміцца. Сароміцца цела ня трэба. Сорам толькі адно з прыкіданьняў, уведзеных белымі. Хаваюць толькі дрэннае або хібу. Мужчыны і жанчыны хаваюць толькі тое, што, як яны ведаюць, сьмешна ці нягожа“.

Толькі па меры таго, як чалавек, абараняючы пэўныя часткі свайго цела ад холаду, дажджу, розных параненьняў у час бадзяньня па лесе і т. п., пачаў прыкрываць сябе вопраткай спачатку простай, а потым усё больш складанай, толькі з таго часу пачынае ў яго ўзьнікаць пачуцьцё сораму перад нагасьцю. Агаленьне злучаецца з выкананьнем родавага акту і паколькі апошні тармозіцца маральнай нормай, пастолькі ўзьнікае і рэфлекторная абаронная рэакцыя—сорам. Але характэрна, што месца цела, якое часьцей закрываецца, болей „дражніць“ прадстаўніка другога полу, узбуджае ў яго болей пачуцьцёвасьці, і таму іменна яго агаленьне выклікае найбольш сораму. Кітаянка будзе сароміцца болей за ўсё, калі мужчына ўгледзіць яе нагу, і таму кітайскія мастакі рысуючы аголеных кабет, накідаюць ім на ногі шоўкавую намётку. У магомэтанак найбольш ганебным лічыцца агаленьне твару, і голая бэдуінка, сустракаючы эўропэйца, сьпяшаецца прыкрыць іменна апошні. Сіла традыцыі тут вельмі магутная. Гэтая сіла вельмі яскрава абмалявана ў аповесьці Віліяма Лёкка „Выпадковасьць“. У ёй намалявана маладая дзяўчынка, якая выхавалася ў Турцыі і потым прыехала ў Лёндон. Яна бяз жаднага сораму расказвала брыдкія казкі, бяз жаднага сораму, басанож і ў капоце выходзіла да мужчын і г. д. Гэтым яна прыводзіць у вялікае замяшаньне шляхетна выхаваных ангелек. Але калі апякуны прымусілі яе аднойчы апрануць на баль дэкольтаваную сукню, то яна была гэтым вельмі пакрыўджана, і абурана заяўляла: „Ня можа быць, каб эўропэянкі агаляліся так бяз жаднага сораму перад мужчынамі...“

Улічаючы вялізную ролю прывычкі ў нашых моральных уяўленьнях, мы не павінны, аднак, пераацэньваць гэтай ролі. Акалічнасьць гэту ў свой час вельмі пераканальна высьветліў Кароль Каутскі:

„Грамадзкія вымаганьні, якія вымагаюцца ад асобных індывідаў, паўтараюцца так часта і так роўнамерна, што яны, урэшце, зьмяняюцца ў прывычку, якая потым перадаецца па насьледзтву, усё роўна як у ганчакоў перадаецца здольнасьць да асаблівага роду паляваньня, так што бывае даволі некаторых штыршкоў, каб гэтая прывычка паявілася і ў патомкаў.

Некаторыя матэрыялістычныя этыкі, выходзячы з гэтага характару моралі, зрабілі вывад, што ўся існасьць моралі трымаецца на прывычцы. Сапраўды-ж яна гэтым ані ня вычэрпваецца. Спачатку, дзякуючы прывычцы, у моральныя наказы зьмяняюцца толькі тыя погляды, якія вымагаюць ад індывіда ўвагі да грамадзтва і рэгулююць яго адносіны да другіх людзей“ *).

Калі-б уся мораль была продуктам аднэй толькі прывычкі, то варта было чалавеку асіліць апошнюю, каб абвясьціць сябе ўзьняўшымся вышэй усякай моралі, якая, бач, умоўнасьць і забабоны. Такога роду „эмансыпацыя“ вядзе толькі да нясутрыманага эгоізму і ўрачыстасьці прынцыпу „чаго мая нага хоча“. Сапраўды-ж наша мораль зьяўляецца вынікам таго соцыяльнага інстынкту, які, як мы ўжо бачылі вышэй, зьяўляецца неадлучальным спадарожнікам кожнай грамадзкай жывёлы, і які адпаведна трансформуецца ва ўмовах чалавецкага грамадзтва. Прывычка-ж у разьвіцьці моральных нормаў грае вельмі важную, але ані не асноваўтваральную ролю. Апошняя—за соцыяльным інстынктам.

Кажучы аб соцыяльным інстынкце, трэба мець на ўвазе, што сфэра дзеяньня гэтага інстынкту абмежавана пэўнымі рамкамі. Жывёла адчувае соцыяльны інстынкт толькі ў адносінах да членаў свайго віду; хто па-за гэтым відам, той для яе—вораг, агрэсыўнасьць у водносінах да яго не тармозіцца ніякімі праяўленьнямі соцыяльнага інстынкту. У людзей кола дзеяньня соцыяльнага інстынкту вызначана прыналежнасьцю к данай грамадзкай адзінцы—горад, племя, нацыя, раса і г. д. Хто ня свой, хто „чужы“—к таму ня ўжываецца мораль, якая дзейнічае ў даным колектыве. Дыямэтр таго кола, у межах якога праяўляецца наш соцыяльны інстынкт, вельмі пераменчывы.

„Калі моральны закон і мае сілу толькі для членаў уласнага грамадзтва, то разьмер яго (грамадзтва) ніколі не акрэсьлены зараней. Яно расьце з разьвіцьцём падзелу працы, з ростам продукцыйнасьці чалавецкай працы і ўдасканаленьнем сродкаў чалавецкіх зносін. Павялічаецца колькасьць людзей, якіх можа прахарчаваць пэўны край і якія могуць на пэўнай плошчы краю працаваць адзін за аднаго і адзін з адным

*) К. Каутский. Этика и материалистическое понимание истории, пер. Постман. М. 1922, стар. 108.

і, такім чынам, быць зьвязанымі паміж сабою грамадзкай сувязьзю. Поруч з гэтым, павялічваецца таксама і колькасьць краёў, жыхары якіх уваходзяць паміж сабою ў зносіны для таго, каб працаваць адзін на аднаго і для таго, каб утвараць грамадзкія саюзы. Урэшце, растуць і разьмеры моцна зьвязаных паміж сабою краін, якія ўтвараюць працяглыя грамадзкія організацыі з агульнай мовай, агульнымі звычаямі і законамі.

Уплыў экономічнага разьвіцьця выражаецца, такім чынам, у тым, што ўсё больш і больш пашыраецца кола грамадзтва, у нетрах якога маюць сілу соцыяльныя інстынкты і добрачыннасьць, якія пашыраюцца да тае пары, пакуль яно не ахоплівае ўсяго чалавецтва; але разам з тым гэта самае разьвіцьцё нараджае ў межах грамадзкага кола ня толькі прыватныя інтарэсы, якія аслабляюць соцыяльныя інстынкты, але і цэлыя грамадзкія асобныя пласты, якія ў цесных рамках уласнага кола вельмі ўзмацняюць соцыяльныя інстынкты і добрачыннасьці, але затое могуць адначасна рабіць моцны ўшчэрбак уплыву гэтых інстынктаў у адносінах да рэшты членаў усяго грамадзтва, або прынамсі да членаў варожых пластоў ці кляс*).

Разьмежаваньне грамадзтва на клясы адыграла выключную ролю ў вызначэньні сфэры дзеяньня соцыяльнага інстынкту. Кляса робіцца тым колам, у межах якога праяўляецца соцыяльны інстынкт. Клясавы пачатак цяпер домінуе пры вызначэньні меж дзеяньня моральных нормаў. Мораль робіцца клясавай.

Аснова маралі—інтарэс колектыву; у клясавым грамадзтве гэтая мораль—утваральная аснова—інтарэс клясы.

Трэба загадзя агаварыцца, што калі мы гаворым аб клясавай маралі, гэта ані не азначае, што мы адмаўляем за нашым соцыяльным інстынктам усякае праяўленьне па-за межамі клясавае згоднасьці. Соцыяльны інстынкт бясспрэчна захоўвае і відавое праяўленьне. Калі ратуеш чалавека, які гіне, то не даведваешся перад гэтым аб яго клясавай прыналежнасьці. Гіне чалавек, гіне член твайго віду, і соцыяльны інстынкт штырхае ўхіліць пагібель. Больш таго, рабочы можа кінуцца ў ваду, каб выратаваць фабрыканта, які топіцца, добра ведаючы, што ён яго класавы вораг,—у гэтым праявіцца солідарнасьць віду, відавая ўзаемадапамога перад тварам прыроднай стыхіі. Але і толькі.

У так званых нормальных умовах клясавы інтарэс падпарадкуе сабе соцыяльны інстынкт, „голас клясы“ гучыць больш уладна, чым „голас віда“ і ў непасрэдным падлягаяньні першаму складаецца ўся мораль клясавага грамадзтва. Вось чаму грамадзтва, у нетрах якога віхурыць клясавая барацьба, ня ведаючы адзіных этычных прынцыпаў, ня мае агульнапрынятай маралі. Меў рацыю стары Мэрынг, калі ён кідаў у твар лібэральным пацыфістым, якія цешыліся стварэньнем так званага „таварыства этычнай культуры“, абураныя і суровыя словы: „Кожная кляса

*) К. Каутский. Этика и материалистическое понимание истории, стар. 98 и 100.

мае сваю асаблівую мараль. Кляса эксплёататараў і прыгнятальнікаў зьдзекуецца над вытрымаласьцю, цьвёрдасьцю характару, сумленнасьцю, мужнасьцю, ахвяравальнай гатоўнасьцю, вернасьцю, бескарыснасьцю і праўдзівасьцю,—за дапамогай якіх эксплёатаваныя і прыгнечаныя клясы змагаюцца за сваё вызваленьне. Эксплёатаваныя і ўціснутыя клясы ганьбуюць тое бізантыцкае падлызьніцтва перад кожным беззаконным гвалтам, лгарства ў навуцы і лгарства ў палітыцы, няўтомную прагнасьць да нажывы, няздольнасьць да якога-б то ні было самаадмаўленьня, нясьмеласьць і двухдушнасьць,—за дапамогай якіх кляса эксплёататараў і прыгнятальнікаў прабуе ўтрымаць няўхільнае падзеньне яе панаваньня. Пры такога роду супроцьлежнасьцях ня можа быць ніякае вышэйшае этыкі, няма пагаджальнай інстанцыі"*).

Клясавае грамадзтва ня ведае адзінай, надклясавай этыкі. Як гэта разумець?

Возьмем для прыкладу такі моральны прынцып, як праўдзівасьць. „Ня лжы", коратка і наможліва вымагае з нас моральны закон. А вось, у высокай ступені моральны чалавек, чалавек, у якога ўсё эгоістычнае падпарадкавана соцыяльнаму пачатку, сыстэматычна лжэ. Лжэ жонцы, лжэ блізкім, лжэ сябром, хаваючы ад іх, як праводзіць час, кажучы ім розную хлусьню і ідучы на працу ў нелегальную і падпольную друкарню. У імя інтарэсу свае клясы, у імя зьнішчэньня рэжыму варожай клясы, зусім моральны чалавек адважваецца на сыстэматычнае лгарства. Гэта амаральна? Не. Гэта клясавая мараль... Ніводзін пролетары не назаве амаральным такі ўчынак свайго сабрата па клясе.

Цяпер запытаем сябе, ці будзе лічыць які-небудзь гандляр з рынку амаральным таго свайго колегу, які лжэ пакупніком наконт сабекаштоўнасьці тавару, яго якасьці і г. д. Ані ў якай ступені. Бо ў таго і ў другога мэркантыльны прынцып маралі: „Не абманеш, не прадасі". Ва ўсім іншым ён сумленны, ва ўсім іншым ён моральны, але як-жа не салгаць, калі трэба прадаць... Такая сіла клясавай маралі. Калі Колупаев абманвае Разуваева, то апошні палічыць яго амаральнай істотай—тут парушана ўнутры-клясавая этыка, але абмануць пакупца з боку—калі ласка. Моральны прэстыж Колупаева гэтым ня будзе зьменшан...

У Некрасова намалёван „моральны чалавек", які самазадаволена кажа: „Живя согласно с строгою моралью, я никому не сделал в жизни зла".

Тут-жа „моральны чалавек" апавядае аб тым, як ён загнаў у магілу жонку, каханьне якой выкрыў да другога, пасадзіў у турму знаёмага, які не зьвярнуў пазыку, штырхнуў на самазабойства прыгоннага кухара, якога „пабацькаўску адлупіў", гвалтам выдаў дачку за сівага багатыра... Усе гэтыя ўчынкі—„моральным чалавекам" падаюцца як такія, якія знаходзяцца ў поўнай адпаведнасьці „са строгай мараллю" яго клясы.

*) Фр. Меринг. „Этика и классовая борьба", пер. сборн. „На философские и литературные темы" пад рэд. С. Я. Вольфсона, стар. 57-58.

Такая ўжо „строгая мораль“ палкоўніка з пасьмертнага апавяданьня Льва Толстога „После бала“. Хіба гэты высокамаральны асабіста—бездакорны дзед рабіў у вачох свае клясы і ў сваіх уласных вачох штосьці амаральнае, калі пасьля балю, на якім выхваляўся сваёю бацькаўскай пяшчотай і душэўнай прыгожасьцю, паехаў праганяць праз строй татарына, які спрабаваў уцячы з вайсковай службы, кіраваць нечалавецкай экзэкуцыяй... „Строгая мораль“ клясы, якой ён служыў, не асуджала яго.

Якраз таксама „строгая мораль“ клясы эксплёататараў не абураецца, калі джэнтэльмэн з моноклем лупцуе стэкам рыкшу, які яго вязе і які зрабіў няўдалы заварот на рагу якой-небудзь Шанхайскай вуліцы, або калі паліраваныя, цівілізаваныя эўропэйскія лётчыкі душаць атрутнымі газамі насяленьне паўстаўшых сырыйскіх вёсак. Гэта „ў парадку рэчаў“, гэтага вымагае клясавы інтарэс, гэтаму дае санкцыю мораль грамадзтва, дзе, як ведаў яшчэ Шэксьпір,—

Немного золота довольно для того,
Чтоб сделать все чернейшее белейшим,
Все гнусное—прекрасным, всякий грех —
Святою правдой, все низкое—высоким,
Трусливого—отважным храбрецом,
Все старое—и молодым и свежым.

Формулу, якую культурныя эўропэйцы з абурэньнем прыпісваюць дзікім готэнтотам: „зло гэта—калі бліжні ўкрадзе маю жонку, а дабро гэта—калі я ўкраду жонку бліжняга“,—у сутнасьці адпавядае моралі клясавага грамадзтва, соцыяльны інстынкт у такім грамадзтве абмяжаваны колам клясы, вымагаючы толькі падпарадкаваньня „мяне“ „маёй клясе“. Асабістае „я“ тут падпарадкавана клясаваму „мы“, і клясавы інтарэс уладна накіроўвае стрэлку маральнага компасу.

Калі мы парушаем маральны прынцып, то ў нас пачынае гаварыць голас сумленьня, мы адчуваем непакой і пакуту. Але, як розна гучыць гэты голас у атмосфэры грамадзтва, якое разьядаецца клясавымі супярэчнасьцямі. Тав. Е. А. Прэображенскі ў таленавітай брошуры „Аб моралі і клясавых нормах“, падае цэлы шэраг асоб, якіх грызе непакой сумленьня.

„У самаедаў часта здараецца, што член племя, які забагацее, у вадзін прыгожы дзень, пад уплывам голасу сумленьня, раздае ўсю назьбіраную маемасьць людзям сваяком. Потым зноў пачынае свае звычайныя заняткі, пакуль зноў, засароміўшыся сваёй матэрыяльнай перавагі над бліжнімі, ня зробіць падзелу. Расійскі купец старога гарту, хоць ня так схільны да падобнага падзелу, тым ня менш і ён адчуваў-бы сваё сумленьне неспакойным, калі-б не даваў у сябе прытулку *калекам*, калі-б не адпісваў у духоўніцах пэўную суму на багадзельню, не дарыў жабраком, не даваў ахвяр на манастыр і, каб зусім моцна было, не павесіў-бы стопудовы звон на цэркаўды г. д. Але ўжо сын нашага купца, які вучыўся

ва унівэрсытэце, і наогул чалавек перадавы, зусім не ахвочы карміць калек, рабіць ахвяры ў манастыры, спраўляць званы. І тое, што бацька яго лічыў справай сумленьня, найбольш моральнай справай, то сын лічыць хутчэй амаральным і, у кожным разе, глупствам. Ён лічыць амаральным і неразумным карміць дармаедаў, манахаў і калек, траціць грошы на падтрыманьне забабонаў і лічыць за лепшае на гэтыя сродкі „даць зарабіць“ працоўным, г. зн. пашыраць разьмеры эксплёатацыі. А непакой сумленьня? Няўжо сыну ён так і невядомы зусім? Не, наадварот. Толькі нядаўна ён адхіліўся ад узносу ў касу, якую ўтварыла гандлёва-прамысловая кляса, каб дамагчыся шляхам агітацыі павялічэньня ўвозных пошлін. А потым, наўпрэкі пастанове ўсіх фабрыкантаў не павялічваць расцэнкі па вымаганьню рабочых,—пастанове, за якую ён сам галасаваў, парушыў гэтую пастанову, каб ня страціць выгодных заказаў праз стачку ў гарачы час. З прычыны ўсяго гэтага непакой сумленьня дае сябе адчуваць сыну нашага пабожнага купца. Далей. У суседа нашага купецкага сына, на заводзе ў час стачкі частка рабочых раней часу вышла на працу, і посьпех атрымаўся ня поўны. Цяпер гэта частка рабочых адчувае непакой сумленьня і сароміцца спатыкацца з таварышамі. Драгунскі ротмістр карнага атраду засядзеўся за вінтам у маршалка дваранства і не пасьпеў зрабіць экзэкуцыі ў аднэй вёсцы, сяляне якой тымчасам спалілі сядзібу абшарніка. Ротмістр адчувае сябе вельмі нязручна. А вот яшчэ і тэрорысты, які запазьніўся ў час выйсьці к праезду вяльможы, на якога павінен быў кінуць бомбу,—ён адчувае сябе вінаватым перад таварышамі па партыі і перад клясай, інтарэсам якой партыя служыць у сваёй барацьбе.

Ва ўсіх выпадках перад намі непакой сумленьня, цэлая каробка непакою сумленьня. Агульнае ўсім гэтым прыкладам тое, што людзі зрабілі пэўныя ўчынкі, захапіўшыся асабістымі інтарэсамі, і цяпер адчуваюць сваю віну, але перад кім? Тэрорысты перад сваёй клясай, хай сабе сялянствам, ротмістр перад дваранствам, фабрыкант перад другімі фабрыкантамі, рабочыя перад рабочымі, самаед перад людзьмі свайго племя. Кожны адчувае сябе вінаватым перад сваёй клясай, якой зрабіў шкоду“.

Буржуазія лічыць аднэй з сваіх непарушных моральных падпорак любоў да айчыны, патрыотызм—сьвяты і высокамаральны. Так да тых пор, пакуль каханьне да айчыны ня ўступае ў конфлікт з клясавымі інтарэсамі. У гэтым конфлікце перамога заўсёды застаецца за апошнім. Хіба выслаўлены патрыотызм расійскай буржуазіі не паляцеў да гары, калі толькі яна пачула пагрозу свайму клясаваму добрабыту? Хіба яна не пачала ваяваць з сваёй уласнай „каханай айчынай“, як толькі ўлада ў апошняй перайшла да рабочых і сялян? І хіба яна ў гэтай „антыпатрыотычнай“ вайне ня клікала сабе на дапамогу чужацкія арміі?..

Мораль непарушна да тых пор, пакуль яна адпавядае клясаваму інтарэсу. Соцыяльны інстынкт віду часта-густа сьціраецца ў клясавым

грамадзтве перад тварам антаганізму і барацьбы кляс. „Брат ідзе на брата“, кожны пакараючыся загаду клясы, з якой ён зьвязаны, дзейнічаючы ў адпаведнасьці з сваёй клясавай мораllю. Дасьлядоўцы этыкі часта абвяшчаюць сям'ю прыкладам выяўленьня соцыяльных інстынктаў, зьмяшчальняй альтруізму, „першай калыскай“ моралі. Пры завастрэньні клясавай барацьбы, аднак, і гэтая калыска разьлятаецца на трэскі.

Расійскі бэлетрысты Бабель падае пісьмо, якое хлапчук-чырвонаармеец піша сваёй матцы. У гэтым пісьме ён, паміж іншым, піша:

„У другіх радкох свайго пісьма сьпяшаюся вам апісаць за бацьку, што яны засеклі брата Фёдара Цімафеевіча Курдюкова таму год часу. Наша чырвоная брыгада тавaрыша Апанасенкі наступала на г. Растоў, калі ў нашых шэрагах адбылася здрада. А тата былі ў той час у Дзянікіна за камандзіра роты. Якія людзі іх бачылі,—то казалі, што яны насілі на сабе мэдалі, як за старым рэжымам. І з выпадку тэй здрады, усіх нас пабралі ў палон і брат Фёдар Цімафеевіч трапіліся тату на вочы. І тата пачалі Федзю рэзаць, кажучы: шкура, чырвоная сабака, сукін сын і ўсяляк, і рэзалі да цемнаты, пакуль брат Фёдар Цімафеевіч ня кончыўся“.

Цераз некаторы час Цімафей Курдюков трапіў у рукі свайго сына Сымона:

„І Сымонка запытаў Цімафея Радзівоныча:

— Добра вам, тата, у маіх руках?

— Не—сказалі тата—дрэнна мне.

Тады Сымонка запытаў:

— А Федзі, калі вы яго рэзалі, добра было ў вашых руках?

— Не —сказалі тата—ня думаў я, што мне дрэнна будзе.

Тады Сымонка абярнуўся да народу і сказаў:

— Я так думаю, што калі траплю я да вашых, то мяне не пашкадуюць. А цяпер, тата, мы будзем вас канчаць“.

Гэтыя радкі могуць даць дазорцам моралі прычыну да красамоўных лемянтацый аб моральным нігілізьме зьвера, які сарваўся з ланцуга. Але яны правільна адбіваюць, як магутны часамі голас клясавага інтарэсу, як гэты голас заглушае соцыяльны інстынкт. І той колектыў, якому служыў бацька—Курдюков, і той, з якім сябе зьвязалі яго сыны—кожны з іх не асудзіць, а моральна апраўдае ўчынак свойго члена. А, можа быць, нават убярэ яго арэолем гэроічнага: „на роднага сына не пабаяўся падняць рукі ў імя праўды і справядлівасьці“...

*У клясавым грамадзтве соцыяльны інстынкт накіроўваецца па рэчышчы клясавага інтарэсу. Адбіты праз прызму гэтага інтарэсу, ён зьмяняецца ў моральную норму.*

На моральных нормах клясавага грамадзтва ляжыць адбітак клясавага эгоізму, і таму гэтае грамадзтва ня ведае адзінай агульна-чалавецкай нормы. Такая зробіцца магчымай толькі з пераходам да бясклясавага

грамадзтва, калі чалавецтва будзе прадстаўляць з сябе адзіны від, адзіную найтанчэйшую і найскладанейшую організацыю, „жывёльную пароду“, супроцьлеглую прыродным стыхіям. Соцыяльны інстынкт ня будзе больш брацца ў абручы клясавага інтарэсу. Ня сьціскаючыся соцыяльнымі антагонізмамі, вольны і агульначалавецкі, ён будзе зьмяняць чалавека, які быў чалавеку воўкам, у чалавека, які будзе чалавеку братам...

Аднак, і ў клясавым грамадзтве мораль розных кляс не аднолькава каштоўная. Мораль прогрэсыўнай і рэволюцыйнай клясы, з інтарэсамі якой супадаюць інтарэсы большасьці насяленьня, якая змагаецца супроць пастарэўшых форм грамадзкага жыцьця,—мораль такой клясы характарызуецца высока разьвітым пачуцьцём клясавай солідарнасьці, гатоўнасьцю да ахвяр у імя гэтай солідарнасьці. У ёй адчуваецца пафос рэволюцыйнай барацьбы, мужасьць і рашучасьць. Ня тое з клясай, якой гісторыя зачытала ўжо свой сьмяротны прыгавор.

Яе мораль заняпалая, яна адбівае ахвяраванасьць клясы. У такой клясы расхістаны скрэпы ўнутры-клясавай солідарнасьці, яе члены трацяць здольнасьць самаахвяраваньня, нават у вабарону інтарэсаў свае ўласнае клясы. Кола дзеяньня соцыяльнага інстынкту рэзка звужаецца. Усё гэта праходзіць з фальшам і ханжасьцю, пры якіх урачыстыя апэляцыі да высокіх і сьвятых ідэалаў моралі засланяюць нізкія і сваекарысныя моральна-нігілістычныя ўчынкі.

Ніколі, бадай, у гісторыі розьніца паміж мораллю двух кляс аднаго і таго самага грамадзтва ня была так відочна, як у нашу эпоху, калі сьмяротнымі ворагамі стаяць адно супроць другога буржуазія і пролетарыят. Мораль буржуазіі і мораль пролетарыяту ў эпоху „апошняга і рашучага бою“ могуць служыць клясачным прыкладам таго, што характэрна для клясы, якая выходзіць з гістарычнай арэны, і клясы, якая на яе становіцца.

І таму-та пролетарыят мае магчымасьць ажыцьцявіць тыя моральныя прынцыпы, аб якіх, як аб ідэале, марылі лепшыя з ідэолёгаў буржуазіі, у той час, калі яна была яшчэ рэволюцыйнай, і аб якіх хітра і пуста бэйсаюць яе паскрэбкі ў гады захаду капіталізму.

Мы ўжо ня раз прыпыняліся на значэньні таго выключнай важнасьці факту, што пролетарыят—*апошняя* з кляс, тая, якая разьнявольваючы сябе, ня мае каго эксплёатаваць і вызваленьне якой, значыцца, роўназначна вызваленьню ўсяго грамадзтва. Міма гэтай акалічнасьці мы ня можам прайсьці і тады, калі кажам аб моралі. І калі Кароль Маркс закончыў маніфэст Інтэрнацыяналу помнымі словамі аб барацьбе рабочай клясы, за „простыя законы моралі і праў“, то гэтым ён падкрэсьліў, што толькі пролетарыят мае магчымасьць ажыцьцявіць гэтыя простыя законы. „Буржуазія,—кажа Г. В. Плеханов,—якая абвясьціла моральны закон аўтономіяй чалавецкай асобы, вуснамі самых шляхетных сваіх мысьліцеляў не магла сьледаваць яму на практыцы. Гэтаму перашкаджаў яе клясавы

інтарэс. Наадварот, клясавы інтарэс міжнароднага пролетарыяту штырхае яго да прызнаньня і ажыцьцяўленьня гэтага закону... вучэньне аб аўтономіі асобы... вымагае..., каб мы бачылі ў кожнай асобе самамэту, а ня сродак для дасягненьня чужых мэт. Між тым, буржуазія пазірае на рабочую клясу, як на сродак вытворчасьці для яе дадатковай вартасьці. Значыцца, закон аўтономіі асобы цалком апраўдвае барацьбу пролетарыяту супроць капіталістычнай эксплёатацыі".

Ёсьць яшчэ адно пытаньне, якое вымагае адказу пры разглядзе проблем моралі і якое настойна *пастаўлена* на абмеркаваньне нашай сучаснасьцю. Гэта—пытаньне аб пролетарскай моралі пераходнага перыоду. Раней за ўсё, ці дапусьціма наогул гаварыць аб пролетарскай моралі, ці мы павінны адмовіцца ад ужываньня гэтага тэрміну. Так, напрыклад, думае ў ліку другіх тэорэтыкаў марксызму Н. І. Бухарін. Паводле думкі тав. Бухарына, „пад мораньлю заўсёды разумеецца такая норма, такое правіла паводзін, якое ўяўляе з сябе нешта фэтышыцкае". Лічачы, што сутнасьць этыкі зьмяшчаецца ў фэтышызьме, Н. І. Бухарін кажа, што „там, дзе зьнікае гэты фэтышызм, там зьнікае і этыка... пролетарыяту патрэбны *нормы паводзін* і пры тым вельмі выразныя, але яму зусім не патрэбна „этыка", г. зн. фэтышыцкая поліўка да карыснай ежы". Тав. Бухарін, зразумела, мае рацыю, паўстаючы супроць фэтышыцкага характару, які надавалі моралі эксплёататарскае клясы, але мы думаем, што і пазбытая жаднага фэтышызму этыка не перастае быць этыкай. Зразумела, можна ўмовіцца наконт замены слова „этыка" „сумеснасьцю норм паводзін", але ад такой тэрмінолёгічнай перастаноўкі нічога ў сутнасьці справы не зьмяняецца. Сутнасьць-жа справы выразна ахарактарызавана У. І. Леніным, які казаў на 3-м зьезьдзе РКСМ:

„Ці існуе комуністычная мораль?—Зразумела, але. Часта ўяўляюць справу такім чынам, што ў нас няма сваёй моралі, і вельмі часта буржуазія вінаваціць нас у тым, што мы, комуністыя, адмаўляем усякую мораль. Гэта—спосаб падмяніць паняцьці, кідаць пясок у вочы рабочым і сялянам.

У якім сэнсе адмаўляем мы мораль?

У тым сэнсе, у якім пашырала яе буржуазія, якая выводзіла гэту мораль з наказаў бога. Мы наконт гэтага, вядома, кажам, што ў бога ня верым і вельмі добра ведаем, што ад імя бога гаварыла духавенства, гаварылі абшарнікі, гаварыла буржуазія, каб праводзіць свае эксплёатацыйныя інтарэсы. Або замест таго, каб выводзіць гэту мораль з наказаў моральнасьці, яны выводзілі яе з ідэалістычных і поўідэалістычных выразаў, якія заўсёды зводзіліся таксама к таму, што вельмі падобна да наказаў бога.

Усякую такую мораль, узятую з па-за чалавечнага, па-за клясавага паняцьця мы адмаўляем.

Для нас мораль, узятая па-за чалавецкай грамадой, ня існуе; гэта мана. Для нас мораль падпарадкавана інтарэсам клясавай барацьбы про-

летарыяту... Мы ў вечную мараль ня верым і ману ўсякіх казак аб маралі выкрываем. Мараль служыць для таго, каб чалавецкаму грамадзтву падняцца вышэй, вызваліцца ад эксплёатацыі працы.

Пролетарыят няўхільна падпарадквае сваю мараль інтарэсам тэй вызваленчай барацьбы, якую ён вядзе. Такім чынам, яго моральныя нормы інакш складаюцца ў пэрыод, калі пролетарыят знаходзіцца ў стане эксплёатуемай клясы капіталістычнага грамадзтва, і ў пэрыод, калі ён, заваяваўшы ўладу, стаіць на чале дзяржавы пераходнага тыпу.

У гэты пэрыод перад рабочай клясай паўстае шэраг новых складаных задач, і паколькі член гэтае клясы дапамагае разьвязваньню даных задач, падпарадкваючы пры гэтым сваё „я" інтарэсам клясы, пастолькі ён зьдзяйсьняе нормы пролетарскай маралі.

Калі, напрыклад, рабочы сваімі паводзінамі перашкаджае росту вытворчых сіл краю, які скінуў з сябе ярмо капіталізму, то ён тым самым парушае нормы пролетарскай маралі. Славутае гультайства, бясклопатнасьць, прагулы, п'янства, неахайныя адносіны да народнай гаспадаркі— усё гэта ва ўмовах пераходнага часу зьяўляецца ўзорам пролетарскае маралі, г. зн. парушэньне тых правіл паводзін, агляданьні якіх зацікаўлена рабочая кляса.

Амаральна таксама, калі ў момант, у які таварышы па клясе церпяць недахопы, абумоўленыя пераходам да новага ўкладу жыцьця, які-небудзь рабочы думае толькі аб сваім асабістым добрабыце і добрабыце сваёй сям'і, ізолюючы сябе ад вялікай справы, што робіць у гэты час яго кляса. Пролетарская мараль наклейвае на яго ганебны цэтлік „скурніка". У такога рабочага страх за „скуру" скаваў соцыяльны інстынкт... Наадварот, працоўны энтузіазм, колектывіцкае імкненьне, уменьне забыць сябе ў барацьбе за рабочую справу—зьяўляецца ў гэтых умовах самым вялікім праяўленьнем моральнага".

Удалай ілюстрацыяй да гэтага зьяўляюцца шмат якія старонкі раману расійскага пісьменьніка Фёдара Гладкага „Цэмэнт". Вось адна з іх:

„Раскіданыя па сваіх хатніх норах, забыўшыя завод—грукат, чад пыл і пах машын, пакрытыя другім пылам,—пылам горных вятроў,—людзі заводу, цэхавай арцельнай працы, з клункамі на сьпінах групамі лезьлі на горы. Па горных і стэпавых дарогах і сьцежках ішлі ў хутары і станіцы, як у эпоху натуральнага абмену, гнаныя голадам і першабытнай прагай. Людзі заводзкай працы, якая будзіла іх раніцамі ня сьпевам пеўня, а мэталічнымі гудкамі, пазналі за гэтыя годы асалоду сьвіных і казіных закуткаў, разынкавую вострасьць жывёльнага калу і радасьць цёплых курыных гнёздаў. І людзі машын і цэхавых вантроб навучыліся крычаць разам з сьвіньнямі і курамі з-за свіней, з-за курэй, з-за коз, з-за „нарпіцкай" шрапнэлі, якую зьела чужое парася. Патухла электрычнасьць на заводзе і ў казармах, задушыліся ад пылу гудкі—цішыня і беспрацоўе,

заквахтала, зарокхала вясковай ідыліяй. І панура замкнуліся ў хатніх клетках старанны муж і зборлівая кабета“.

І вот у кніжцы „Комінтэрн“ прышоў да гэтых людзей Глеб Чумалов, рабочы, што вярнуўся з вайны:

„Таварышы, годзе барахоліць словамі. Мы і без таго досыць барахолілі з сьвіньнямі і „зажыгалкамі“. Хопіць. Пабарахолілі. Завод зрабіўся не завод. Завод зрабіўся не завод, а скацінны двор. Завод—дурань, і мы—дурні. Хіба гэта, таварышы, работа? Чалавек, таварышы, мае два канцы: адным можна лезьці чорту ў зубы, а другім біць чорта па зубох. Гэта ад таго, у якім ты градусе дурань. Нашы рукі—не для коз і сьвіней: нашы рукі інакш пабудаваны. Гэта мы чуем вельмі моцна. Якія рукі—такая душа, такая праца мазгоў. Канец прыкідаецца на высокі градус дурнем. Як таварыш Івагін сказаў: новая экономічная палітыка... Што такое новая экономічная палітыка? Гэта—бі чорта па зубох вялікім будаваньнем. Цэмант—моцная сувязь. Цэмантам мы дамо вялікую пабудову рэспублікі. Цэмант, гэта мы, таварышы, рабочая кляса. Гэта трэба сабе зазначыць на носе. Даволі прадстаўлялі дурня: трэба брацца за сапраўдную справу“.

І калі Глебу ўдалося ажыцьцёвіць тое, да чаго ён клікаў, калі ажыў завод, калі перамагла яго „стаўка“ на працу,—тады ён зрабіў самай вялікай моралі справу. Ён зрабіў тое, што пролетарская мораль прызнае моральным вялікім учынкам.

Разам з соцыяльнай рэволюцыяй прыходзіць і новы быт. Ён ператрасае ўсю моральную спадчыну мінулага, устанаўляе новыя моральныя прынцыпы ў галіне працоўнай дысцыпліны, сямейных адносін, проблем полу і г. д.

Можна спрачацца аб тым, якія-ж павінны быць гэтыя прынцыпы. У такой конкрэтнай пастаноўцы гэтае пытаньне не перастае ўжо некалькі гадоў разглядацца ў нашым друку, на дыспутах і ў спэцыяльнай літаратуры.

Але ў адным няма спрэчкі. Супроць старой, згніўшай наскрозь фальшывай моралі кляс, якія адходзяць, пролетарыят, які перамог, павінен паставіць ня свой „амаралізм“, а новую клясавую мораль, пазбытую ўсяго фэтышыцкага і абсолютнага, цалком падпарадкаваную тэй вялікай задачы, разьвязваньне якой гісторыя ўсклала на плечы рабочай клясы.

Гэта—вышэйшая ступень моралі, на якую можа падняцца клясавае грамадзтва ў асобе яго самай перадавой клясы. Наступнай ступеньню будзе ўжо мораль бясклясавага грамадзтва, дзе соцыяльны інстынкт знойдзе сваё поўнае і шматграннае, нічым некалечанае выяўленьне.

# НАСЕЛЬНІЦТВА БССР

Г. Гарэцкі

Тэма „Насельніцтва“—нязвычайна багатая і шырокая тэма. Але тэма гэтулькі шырокая, што не абхопліваецца са ўсёю глыбінёю аднэй якою-небудзь галінаю навукі, а таму і падзяляецца між рознымі галінамі. Кожная навуковая дысцыпліна разглядае гэту тэму з свайго боку.

Экономістага-географа насельніцтва цікавіць таму, што ў таварнай гаспадарцы яно і сваім складам, і сваімі зьменамі адбівае ў сабе становішча гаспадаркі. Статыстыка насельніцтва зьяўляецца багатай крыніцай, адкуль можна ўзяць многа паказчыкаў для меркаваньня і аб сыстэмах гаспадаркі, і аб соцыяльным падзеле працы між краінамі, і аб статыцы і дынаміцы гаспадаркі. Якраз з гэтага боку і разглядаецца насельніцтва БССР у паданым артыкуле.

Але поўнай зьвязанасьці між насельніцтвам і тэй ці іншай сыстэмай гаспадаркі блізка што ніколі ня бывае. Разьвіцьцё тут ідзе пераскокамі: на вядомы час, на вядомай тэхнічнай падставе, роўнавага між сыстэмай гаспадаркі і насельніцтвам замацоўваецца, а потым або зьмены ў сыстэме гаспадаркі ідуць больш шпаркім тэмпам, чым зьмены ў насельніцтве, або наадварот,—ствараецца або гаспадарчая неданаселенасьць, або гаспадарчая перанаселенасьць (прычынаю тут зьяўляецца не аднаковая здольнасьць да міграцыі, пераліваньняў, у людзей і ў капіталаў). Тым больш цікавасьці набывае тады разгляд насельніцтва, як паказчыка сыстэм гаспадаркі: па вывучэньню насельніцтва можна сказаць, якая павінна быць пры гэтым насельніцтве гаспадарка, а па непасрэднаму экономічнаму вывучэньню можна бачыць, якая гаспадарчая сыстэма ёсьць фактычна,—з раўнаваньня абедзьвюх сыстэм можна ўгледзіць меру іх суладжанасьці або нясуладжанасьці, можна мець, такім чынам, матэрыял для экономічнай політыкі.

Соцыяльны падзел працы, які выклікае гаспадарчую спэцыялізацыю асобных краін і абшараў, адбіваецца перш-на-перш у падзеле насельніцтва між горадам, местам і сялом, вёскаю. Гэты падзел быў такі ў БССР за 1897 і 1920 гады [1]) (па былых паветах):

[1]) Па б. Меншчыне за 1923 г.

%/0 гарадзкога насельніцтва.

| Паветы. | 1897 г. | 1920 г. | ±% |
|---|---|---|---|
| Менскі . . . . | 32,8 | 43,1 | +31,4 |
| Віцебскі . . . | 38,7 | 27,6 | —30,2 |
| Магілеўскі . . | 27,7 | 23,3 | —15,9 |
| Аршанскі . . . | 8,0 | 11,2 | +40,0 |
| Бабруйскі . . . | 13,4 | 10,3 | —23,1 |
| Полацкі . . . | 14,3 | 10,8 | —24,4 |
| Слуцкі . . . | 5,7 | 6,5 | +14,3 |
| Барысаўскі . . | 6,4 | 6,5 | +1,6 |
| Мсьціслаўскі . | 8,2 | 8,2 | ± 0 |
| Гарадоцкі . . . | 4,5 | 5,7 | +26,7 |
| Дрысенскі . . | 4,4 | 6,0 | +36,4 |
| Чавускі . . . | 4,6 | 6,2 | +10,8 |
| Быхаўскі . . . | 5,1 | 4,7 | —7,8 |
| Рагачэўскі . . | 4,0 | 4,9 | +22,5 |
| Мазырскі . . . | 4,5 | 4,1 | —8,9 |
| Чэрыкаўскі . . | 3,5 | 2,9 | —17,2 |
| Клімавіцкі . . | 3,3 | 3,9 | +18,2 |
| Лепельскі . . | 4,0 | 3,2 | —20,0 |
| Сеньненскі . . | 2,5 | 2,8 | +12,0 |
| Ігуменскі . . . | 1,9 | 2,0 | +5,2 |
| Горацкі . . . | 5,5 | 2,9 | —47,3 |

Паветы з найбольшаю доляю гарадзкога жыхарства ў 1920 г.—звыш 10%—згуртаваліся ў тры месцы: найбольшая—па Дняпру і Зах. Дзьвіне (Віцебскі—27,6%, Магілеўскі—23,3%, Полацкі—10,8% і Аршанскі 11,2%), другая—на Бярэзіне (Бабруйскі—10,3%) і трэцяя (Менскі п.—43,1%) з найвялікшаю роляю гораду—найбліжэй да заходняй мяжы БССР. Зьмены долі гарадзкога насельніцтва з 1897 да 1920 наогул былі нязначнымі (гэта характэрна для аграрных краін), але не аднаковымі па ўсёй БССР; павялічэньне заўважаеца з трох гарадзкіх груп толькі ў аднэй—Менскі павет+31,4%, у першай групе—павялічэньне на +40% усяго па аднаму Аршанскаму павету; у іншых-жа паветах гэтай групы—зьмяншэньне таксама, як па трэцяй групе (Бабруйскі п.); такім чынам, *паветы з найбольш разьвітым гарадзкім жыцьцём у год грамадзянскай вайны паказалі і найбольшае зьмяншэньне долі гар. насельніцтва* (выключэньне Горацкі п.) параўнальна з іншымі паветамі.

На 1/I—25 г. ў сучасных адміністрацыйных адзінках БССР (акругі) % гарадз. насельнікаў лічыўся такі:

| | |
|---|---|
| Менская . . . . . . . | 28,0 |
| Віцебская . . . . . . | 20,2 |
| Бабруйская . . . . . . | 15,5 |
| Магілеўская . . . . . . | 13,7 |

| | |
|---|---|
| Аршанская | 12,0 |
| Мазырская | 11,0 |
| Калінінская | 9,2 |
| Барысаўская | 9,1 |
| Слуцкая | 8,9 |
| Полацкая | 7,3 |

Па ўсёй БССР у параўнаньні з СССР маем такія лічбы:

| | 1897 г. | 1925 г. | ± % |
|---|---|---|---|
| БССР | 10,2% | 14,5% | +42,2 |
| СССР | 13,4% | 16,3% | +21,7 |

Сумысьле не раўную Беларусь з заходня-эўропэйскімі гарадзкімі краінамі, бо нават перад сельска-гаспадарчым СССР наша рэспубліка зьяўляецца пераважна вясковаю. Гэты факт прымушае з асаблівай увагай прасачыць рух гарадзкіх насельнікаў на Беларусі. Ужо з паданых радкоў відаць, што *тэмп узросту гарадзкой долі ў БССР двойчы напружаны адносна СССР.*

Асобныя акругі па тэмпу ўзросту насельнікаў у гарадох і паселішчах гарадзкога тыпу з 1923 да 1925 году парадкуюцца гэтак:

| | | 1925 г. | 1923 г. |
|---|---|---|---|
| Мазырская | +6,41 % | 35.990 | 33.823 |
| Барысаўская | +4,57 „ | 33.474 | 32.011 |
| Бабруйская | +4,13 „ | 76.950 | 73.900 |
| Аршанская | +4,05 „ | 47.898 | 46.032 |
| Полацкая | +3,65 „ | 22.951 | 22.144 |
| Слуцкая | +3,46 „ | 25.415 | 24.564 |
| Менская | +3,37 „ | 140.044 | 135.469 |
| Віцебская | +2,52 „ | 116.159 | 113.301 |
| Калінінская | +2,08 „ | 36.589 | 35.844 |

*Найбольш энэргічна пасуваецца ўперад Палеская Беларусь і Аршаншчына.*

На жаль няма лічбаў, каб выявіць узрост паасобных местаў за апошнія гады: ЦСК (Цэнтральная Статыстычная Ўправа) Беларусі іх ня выдрукавала.

А між тым агульная лічба „гарадоў і паселішчаў горадз. тыпу звыш 2.000 чал.“ аб'яднае ў сабе зусім розныя часткі: і лічбы па сапраўдных гарадох, і па быўшых мястэчках; а мястэчкі—гэта асобны тып паселішчаў, якія стаяць зараз у вялікім заняпадзе.

Для вывучэньня Беларусі вельмі шкодна недаацэнка ролі мястэчак: яны мелі і яшчэ захоўваюць паважнае месца ў нашым гаспадарчым жыцьці. *Малы процант гарадзкіх насельнікаў на Беларусі параўнаўча з СССР компэнсуецца вялікім процантам местачковага насельніцтва;* пэўна можна лічыць, што % *ня сельска-гаспадарчага насельніцтва БССР больш,*

*чым у СССР*, дзякуючы мястэчкам. Значэньне мястэчак па асобных акругах вынікае з такіх лічбаў (па перапісу 15/III—23 г.) [1]:

| Акругі. | Местачковае насельніцтва. | Гарадз. насельніцтва. | % местачк. да гарадз. | % гарадз. насельніцтва. |
|---|---|---|---|---|
| Бабруйская | 33.323 | 49.657 | 67,1 | 15,5 |
| Мазырская | 31.454 | 8.323 | 377,9 | 11,0 |
| Аршанская | 31.322 | 28.186 | 111,1 | 12,0 |
| Менская | 28.703 | 116.384 | 24,7 | 28,0 |
| Магілеўская | 24.676 | 56.882 | 43,4 | 13,7 |
| Калінінская | 23.514 | 21.099 | 111,5 | 9,2 |
| Віцебская | 18.556 | 101.626 | 18,3 | 20,2 |
| Слуцкая | 17.265 | 13.708 | 126,0 | 8,9 |
| Барысаўская | 17.206 | 22.395 | 76,8 | 9,1 |
| Полацкая | 8.109 | 22.144 | 36,6 | 7,3 |

*У чатырох акругах роля мястэчак большая, чым самых гарадоў:* проц. местачковага насельніцтва да гарадзкога ў іх больш 100: Мазырская—377,9 проц., Слуцкая—126,0 проц., Калінінская—111,5 проц., Аршанская—111,1 проц.; разам з гарадзкімі насельнікамі местачковыя, напр. па Мазыршчыне, складаюць каля 50 проц. усяго насельніцтва!

Мястэчкі былі створаны пры літоўска-беларускай дзяржаўнасьці і цягнулі свой далейшы век на падставе мясцовых экономічных умоў, але расійскі ўрад ня лічыў іх гарадамі, бо гэты ўрад знаў толькі горад, як адміністрацыйны цэнтр. Зараз *мястэчкі распаўзаюцца:* мясцовых магчымасьцяй для гаспадарчага разьвіцьця мястэчак мала; там-жа, дзе гэтыя магчымасьці ёсьць або ствараюцца (новыя чыгункі, магчымасьць экстэнсыўнага разьвіцьця гаспадаркі, напр. у Палесьсі, і на гэтым грунце шырокія гандлёвыя опэрацыі),—там мястэчкі растуць. У заняпадзе мястэчак меў значэньне і агульны часовы заняпад гаспадаркі; некаторую, але невялікую, вагу мела пашырэньне дзяржаўнага і коопэрацыйнага гандлю; *галоўная-ж прычына—рэальная магчымасьць выгодна рэалізаваць кваліфікаваную профэсыянальную сілу местачковых насельнікаў за межамі БССР, адсутнасьць капіталаў у БССР для стварэньня новых прамысловых асяродкаў.*

Вось лічбы, якія сьведчаць аб заняпадзе мястэчак:

| | 1897 г. | 1923 г. | ± % |
|---|---|---|---|
| Усіх насельнікаў у БССР . . | 3.804.573 | 4.171.886 | + 9,7 |
| Насельнікаў у гарадох [2] . . | 381.005 | 445.462 | +16,9 |
| „ у мястэчках [3] . . | 200.071 | 208.846 | + 4,4 |
| Вясковае насельніцтва . . . | 3.223.497 | 3.517.578 | + 9,1 |

[1]) Палічаны ўсе мястэчкі.

[2]) У лік гарадоў запісаны Копысь і Сураж.

[3]) Палічаны толькі мястэчкі, у якіх у 1897 г. было звыш 500 чалавек.

*За 26 год мястэчкі расьлі ў чатыры разы цішэй, чым гарады, і ў два разы слабей, чым вёскі.* Гэта, калі браць агульную лічбу па ўсёй БССР. Калі-ж падаць лічбы па асобных акругах, вывад аб заняпадзе будзе больш яскравым.

Насельніцтва мястэчак

| Акругі | 1897 г. | 1923 г. | ± % |
|---|---|---|---|
| Мазырская . . . . | 17.618 | 30.021 | +12.403 |
| Бабруйская . . . . | 21.725 | 29.389 | + 7.664 |
| Менская . . . . | 20.612 | 23.481 | + 2.869 |
| Слуцкая . . . . | 14.704 | 15.410 | + 706 |
| Віцебская . . . . | 20.139 | 14.847 | — 5.292 |
| Калінінская . . . . | 24.024 | 21.579 | — 2.445 |
| Барысаўская . . . . | 18.161 | 15.791 | — 2.370 |
| Полацкая . . . . | 10.424 | 8.109 | — 2.315 |
| Аршанская . . . . | 27.737 | 26.053 | — 1.684 |
| Магілеўская . . . . | 24.927 | 24.166 | — 761 |

*Толькі ў Палескай Беларусі павялічваецца лік насельнікаў у мястэчках;* растуць усё-ж ня ўсе мястэчкі аднакова, уперадзе стаяць тыя, дзе створаны чыгуначныя станцыі,—гэта відаць з табліцы:

Лік насельнікаў

| Мястэчкі | Акругі | 1897 г. | 1923 г. |
|---|---|---|---|
| Жлобін | Бабруйскае . . . | 3.356 | 10.351 |
| Асіповічы | „ . . . | 526 | 3.556 |
| Калінкавічы | Мазырскае . . . | 1.341 | 5.625 |
| Жыткавічы | „ . . . | 1.220 | 2.895 |
| Нараўля | „ . . . | 1.145 | 2.550 |
| Капаткевічы | „ . . . | 1.768 | 2.439 |
| Старобін | Слуцкае . . . . | 2.315 | 3.028 |
| Любань | „ . . . . | 604 | 1.468 |
| Чырвоная Слабада | „ . . . . | 1.593 | 2.000 |
| Койданава | Менскае . . . . | 4.744 | 5.125 |
| Пухавічы | „ . . . . | 1.910 | 1.525 |
| Сьмілавічы | „ . . . . | 3.133 | 3.661 |

*Найбольшы заняпад заўважваецца ў тых буйных мястэчках, якія засталіся далёка ад чыгунак:*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Бешанковічы | Віцебскае акругі | было | 4.423 чал., | цяпер | 2.163 |
| Чашнікі | „ | „ | 4.590 „ | „ | 2.430 |
| Чарэя | Барысаўскае „ | „ | 3.039 „ | „ | 2.725 |
| Бярэзіна | „ „ | „ | 4.871 „ | „ | 2.273 |
| Касьцюковічы | Калінінскае „ | „ | 3.354 „ | „ | 2.210 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ляды | Аршанскае акругі было | 4.483 | чал., цяпер | 3.667 |
| Смальляны | „ „ „ | 2.278 | „ „ | 1.216 |
| Асьвея | Полацкае „ „ | 2.830 | „ „ | 1.716 |
| Улла | „ „ „ | 2.485 | „ „ | 1.970 |

Пасьля ўсяго паданага адносна мястэчак робіцца зразумелым, чаму няможна здаволіцца для аналізу руху гарадоў агульнай лічбай насельнікаў—і гарадоў і мястэчак. Вельмі шкада, што адсутнасьць друкарскіх магчымасьцяй не дазволіла ЦСУ Беларусі пашырыць „Стат. штогоднік" і зьмясьціць там матэрыялы аб руху паасобных гарадоў у часы рэволюцыі і пасьля яе.

Прагледзім лік насельнікаў у гарадох за 1863 г., 1897 г. (перапіс) і 1923 г. (перапіс); дзякуючы вялікаму гаспадарчаму значэньню дынамікі гарадзкога насельніцтва, падамо лічбы па кожнаму гораду асобна:

| Гарады: | Лік жыхароў 1863 г. | 1897 г. | 1923 г. | Узрост ± %% 1863—1897 | 1897—1923 |
|---|---|---|---|---|---|
| Менск | 30.149 | 90.912 | 110.996 | +201,5 | +22,1 |
| Віцебск | 27.868 | 65.871 | 90.918 | +136,4 | +38,0 |
| Магілеў | 48.205 | 43.119 | 43.459 | — 10,6 | + 0,8 |
| Бабруйск | 18.938 | 34.336 | 36.656 | + 81,3 | + 6,8 |
| Ворша | 5.043 | 13.061 | 20.414 | +159,0 | +56,3 |
| Полацак | 11.740 | 20.294 | 19.330 | + 72,9 | — 4,7 |
| Барысаў | 5.876 | 15.063 | 18.225 | +156,4 | +21,0 |
| Слуцак | 8.577 | 14.349 | 13.708 | + 67,3 | — 4,5 |
| Рагачэў | 2.787 | 9.038 | 12.361 | +224,3 | +36,8 |
| Мсьціслаўль | 6.320 | 8.514 | 8.969 | + 34,7 | + 5,2 |
| Ст. Быхаў | 5.879 | 6.381 | 8.333 | + 8,5 | +30,6 |
| Мазыр | 6.574 | 8.076 | 8.323 | + 22,9 | + 3,1 |
| Горкі | 4.134 | 6.735 | 7.772 | + 63,0 | +15,4 |
| Клімавічы | 1.824 | 4.714 | 6.568 | +158,5 | +39,3 |
| Гарадок | 3.344 | 5.023 | 6.454 | + 50,2 | +28,5 |
| Чэрыкаў | 3.582 | 5.249 | 5.662 | + 46,5 | + 6,0 |
| Чэрвень | 2.563 | 4.573 | 5.388 | + 78,4 | +17,8 |
| Чавусы | 5.303 | 4.960 | 5.090 | — 6,4 | + 2,7 |
| Сянно | 1.814 | 4.100 | 4.254 | +126,0 | + 3,8 |
| Лепель | 2.028 | 6.284 | 4.170 | +209,9 | —33,6 |
| Копысь | 2.817 | 3.384 | 3.363 | + 20,1 | — 0,0 |
| Дрыса | 2.152 | 4.238 | 2.814 | + 96,9 | —33,6 |

За першыя 34 гады найбольш шпарка разьвіваліся гарады: Менск, Віцебск, Ворша, Барысаў, Рагачоў, Клімавічы, Сянно, Лепель, Бабруйск

За другі кругабег, за 26 год, пайшлі наперад: Ворша, Віцебск, Клімавічы, Гарадок, Ст. Быхаў, Барысаў, Менск. *Такім чынам, гарадамі з будучынай можна лічыць: Воршу, Віцебск, Барысаў, Менск, Рагачоў, Бабруйск, Клімавічы.*

Гарадоў з насельніцтвам звыш 100.000 чалавек ёсьць на Беларусі толькі адзін—Менск; параўнаем з гэтага боку БССР і заходня-эўропэйскія краіны.

Чым буйней гарады, тым большая доля сярод насельнікаў асоб, якія наймаюцца, жывуць на заработную плату (рабочыя, службоўцы, служанкі); гарадоў, у якіх гэты процант вышэй 50,- у БССР дзевяць; з іх асабліва вылучаюцца Віцебск (64,7 проц.), Менск (64,1 проц.), Магілеў (60,6 проц.), Барысаў (64,9 проц.), Полацак (57,3 проц.). Чым менш жанчын даводзіцца на 100 мужчын, тым горад больш разьвіваецца, бо эмігруе ў гарады больш мужчын; такіх гарадоў, з паказчыкамі іх шыбкага разьвіцьця, можна налічыць некалькі: Ворша (89,1), Бабруйск (94,4), Рагачоў (91,5), Жлобін (96,9), Полацак (98,8), Менск (104,1), Барысаў (104,3). Выразьней за ўсё тып гораду адбіваецца ў % асоб, якія жывуць у горадзе, але заняты сельскаю гаспадаркаю; публікацыя ЦСУ Беларусі—аб выніках перапісу гарадоў 15 сакавіка 1923 году [1])—ня мае, на жаль, падзелу групы „гаспадароў“ на профэсіі,—зноў страцілася магчымасьць вызначыць поўны профэсыянальны падзел гарадзкога насельніцтва; таму вылічаем гэты процант па перапісу 1897 г. *Чым менш у горадзе занятых сельскаю гаспадаркаю, тым больш такі горад зьяўляецца горадам у сучасным разуменьні; такіх гарадоў у БССР каля 10: Менск, Віцебск, Магілеў, Рагачоў, Бабруйск, Полацак, Ворша, Барысаў. Чым які беларускі горад бліжэй к заходу, тым меншы ў ім процант занятых сел. гаспадаркаю;* вось некалькі пар гарадоў, адзін усходні, другі заходні, прыблізна аднаковай велічыні (значыць, уплыў велічыні адхілен, умовы зраўнаваны, апрача аднэй блізкасьці да заходу),—*усякі заходні горад мае меншы процант сел.-гасп. жыхарства.*

| | | насел. 1923 г. | % сел.-гас. нас. 1897 г. |
|---|---|---|---|
| I пара | Ворша | 20.414 | 6,1 |
| | Полацак | 19.330 | 3,7 |
| II пара | Мсьціслаўль | 8.969 | 8,9 |
| | Мазыр | 8.323 | 5,4 |
| III пара | Клімавічы | 6.568 | 16,0 |
| | Гарадок | 6.454 | 7,4 |
| IV пара | Чавусы | 5.090 | 19,8 |
| | Сянно | 4.254 | 8,5 |

[1]) „Стат. штогоднік“.

| | | | |
|---|---|---|---|
| V пара | Барысаў . . | 18.225 | 6,5 |
| | Слуцак . . | 13.708 | 5,7 |

Значнейшымі пролетарскімі асяродкамі ў БССР зьяўляюцца такія гарады (па парадку):

| | сярод самадзейных | | |
|---|---|---|---|
| | наймаецца | з іх рабочых | % рабочых |
| *Полацак* . . . | 3.550 | 2.050 | 57,8 |
| *Бабруйск* . . . | 5.210 | 2.833 | 54,4 |
| *Барысаў* . . . | 3.720 | 2.014 | 54,1 |
| *Віцебск* . . . | 19.182 | 9.778 | 51,0 |
| *Магілеў* . . . | 6.318 | 3.112 | 49,3 |
| *Мазыр* . . . | 1.770 | 846 | 47,8 |
| *Ворша* . . . | 3.538 | 1.648 | 46,6 |
| *Менск* . . . | 21.831 | 9.771 | 44,8 |
| *Слуцак* . . . | 772 | 181 | 23,4 |
| *Клімавічы* . . | 1.927 | 759 | 39,4 |

*Абсолютны лік рабочых у беларускіх гарадох малы.* Малы і адносны лік у параўнаньні з РСФСР і УССР; сярод самадзейнага гарадз. насельніцтва было (у проц.):

| Групы | Мужчыны | | | Жанчыны | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | БССР | УССР | РСФСР | БССР | УССР | РСФСР |
| Рабочых . . | 20.5 | 26,3 | 28,7 | 15,6 | 16,0 | 19,8 |
| Прыслуга . . | 1,1 | 1,7 | 2,1 | 6,6 | 5,1 | 8,0 |
| Службоўцы . | 16,3 | 18,3 | 23,3 | 14,3 | 11,5 | 18,9 |
| Гаспадары . | 24,9 | 26,3 | 17,3 | 13,0 | 12,2 | 7,5 |
| Беспрацоўныя | 7,6 | 8,4 | 8,1 | 11,7 | 10,0 | 14,4 |

Каб больш пэўна падзяліць беларускія гарады на асобныя тыпы, трэба-б было мець лічбы аб гандлёвых зваротах гарадоў; у „Стат. штогодніку БССР“ ёсьць, аднак, лічбы толькі агульныя, па акругах,—а таму выкарыстаем хоць лічбы даваеннага далёкага часу (1900 г.). Лічбы гэтыя разам з лічбамі аб насельнасьці гарадоў і аб долі асоб, занятых у гарадох ня сельска-гаспадарчымі заняткамі, паклаў вядомы экономісты-географ Веніамін Сямёнаў Цянь-Шанскі падставай для клясыфікацыі гара-

доў у сваёй выдатнай працы „Город и деревня в Европейской России“. Падаю выняткі з табліц гэтага дасьледчыка аб беларускіх гарадох.

| Групы гарадоў | Назвы гарадоў | Лік насельнікаў (тыс. чал.) 1910 г.*) | Лік насельнікаў (тыс. чал.) 1897 г. | % насел., якія жывуць у прыгарад. | Узрост гарадоў за 40 год (колькі разоў). | Гандл.-прам. зварот у канцы XIX ст. руб. на 1 чал. | % прамысловасьці ў гандл.-прам. дзейнасьці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Буйныя гарады: звыш 100.000 чал. | Менск | 112,0 | 90,9 | 11.4 | 4,0 | 287 | 14 |
| Вялікія гарады: 40—100.000 чал. | Віцебск | 78,0 | 65,9 | 1.4 | 2,3 | 229 | 14 |
| | Магілеў | 46,0 | 43,1 | 19.1 | 1,2 | 123 | 14 |
| Сярэднія: 10—40.000 чал. | Бабруйск | 37.4 | 34,3 | 16.7 | 1.4 | 73 | 27 |
| | Полацак | 22,5 | 20.3 | 1.6 | 1.6 | 94 | 6 |
| | Барысаў | 17,6 | 15.0 | 7.7 | 3.0 | 111 | 45 |
| | Ворша | 15,6 | 13,0 | 2.6 | 2.5 | 115 | 8 |
| | Слуцак | 15,0 | 14.3 | 13.0 | — | 95 | 5 |
| Малыя: 5—10.000 чал. | Мазыр | 8,9 | 8,0 | 12.2 | 1.5 | 193 | 39 |
| | Шклоў | 7,5 | 6.9 | — | — | 107 | 22 |
| | Гарадок | 5,5 | 5,0 | — | 1.2 | 110 | 2 |
| | Бешанковічы | 5.0 | 4,4 | — | — | 131 | 6 |
| | Себеж | 5,0 | 4,3 | 2,1 | 1.7 | 211 | 1 |
| | Дрыса | 5.0 | 4.2 | — | 2.2 | 118 | 1 |
| Гарадкі: 1—5.000 чал. | Талочын | 4,0 | 3.4 | — | 1.9 | 125 | 3 |
| | Копысь | 3,6 | 3,4 | — | 1.1 | 120 | 58 |
| | Лёзна | 3,0 | 2.5 | — | 3.7 | 123 | 5 |
| | Бялынічы | 2,3 | 2.2 | — | 1.1 | 139 | 60 |
| | Янавічы | 2.5 | 2,1 | 1.6 | — | 153 | 2 |
| | Крупкі | 1.8 | 1,5 | — | 2,4 | 113 | 21 |
| | Жыткавічы | 1,5 | 1.2 | — | — | 156 | 9 |
| | Нараўля | 1,3 | 1,1 | — | 2.3 | 105 | 17 |
| | Грозаў | 1.1 | 0,9 | — | 4.0 | 132 | 1 |

*) Прыблізна.

Гарады звыш 100.000 насельн.

| Дзяржавы | Лік такіх гарадоў | У іх жыхар | Проц. да ўсяго насел. |
|---|---|---|---|
| Вялікабрытанія . . | 45 | 15.388 | 35.8 |
| Нямеччына . . . | 43 | 15.178 | 25.4 |
| Латвія. . . . . | 1 | 300 | 15,4 |
| Літва . . . . . | 1 | 215 | 10,7 |
| Польшча . . . . | 6 | 2.088 | 7.7 |
| СССР. . . . . | 22 | 6.278 | 4.7 |
| БССР. . . . . | 1 | 111 | 2.7 |

Слабое разьвіцьцё *буйных* гарадоў на БССР відаць яскрава. Ужо праз гэты факт можна спадзявацца, што *буйнай прамысловасьці на БССР няма, што самастойнага дзяржаўнага будаўніцтва з сталіцаю-ўладаром над суседнімі гарадамі яна ня мела.*

Згуртуем больш лічбаў для меркаваньня аб *тыпе* беларускіх гарадоў.

| Гарады | Жыве з заробчае платы ў 1923 г. ў %% | На 100 мужч. жан. у 1923 г. | З самастойных занята сел. гасп. у 1897 г. % |
|---|---|---|---|
| Менск . . . . . | 64.1 | 104.1 | 1.7 |
| Віцебск . . . . | 64.7 | 105.5 | 2.5 |
| Магілеў . . . . | 60,6 | 106.7 | 2.9 |
| Бабруйск . . . . | 51,5 | 94.4 | 3.5 |
| Ворша. . . . . | 52,9 | 89.1 | 6.1 |
| Полацак . . . . | 57,3 | 98.8 | 3.7 |
| Барысаў . . . . | 64,9 | 104,3 | 6,5 |
| Слуцак . . . . | 46.1 | 104,9 | 5.7 |
| Рагачоў . . . . | 46.6 | 91,5 | 2,4 |
| Мсьціслаўль . . . | 41,6 | 106,6 | 8,9 |
| Ст. Быхаў . . . | 31.8 | — | 26,3 |
| Горкі . . . . . | 34.5 | — | 27.9 |
| Клімавічы . . . | 38.6 | — | 16,0 |
| Гарадок . . . . | 46,6 | — | 7,4 |

| Гарады | Жыве з заробчае платы ў 1923 г. ў %% | На 100 мужч. жан. у 1923 г. | З самастойных занята сел. гасп. ў 1897 г. % |
|---|---|---|---|
| Чэрыкаў . . . . | 43.5 | — | 18,4 |
| Чавусы . . . . | 31.6 | — | 9.6 |
| Сянно. . . . . | 39.7 | — | 19,8 |
| Лепель. . . . . | 47.3 | — | 8,5 |
| Копысь . . . . | 43.3 | — | 10.1 |
| Дрыса . . . . | 59.5 | — | — |
| Мазыр . . . . | 63.3 | | 2,7<br>5,4 |

У *малымыя гарады* Цянь-Шанскі залічае: Чашнікі, Асьвею, Усьвят, Уллу, Сіроцін, Дуброўню, Крычаў, Петрыкаў, Ляхавічы, Койданава, Хіславічы, Лоеў, Прапойск, Клецак, Брагін, Ляды, Тураў, Шумячы, Ракаў, Стоўбцы, Касьцюковічы, Сьмілавічы, Хоцімск, Краснапольле, Смалявічы, Пухавічы, Чарэя, Любавічы, Цімкавічы, Капаткевічы, Бобр, Смальляны і Чачэрск. „Усе іншыя многалічныя так званыя мястэчкі маюць чыста вясковы характар“ (120).

Згодна паданай табліцы *прамысловымі* гарадамі лічыліся: Бабруйск, Барысаў, Мазыр, Шклоў, Копысь; *гандлёва-прамысловымі*—Менск, Віцебск; толькі *адміністрацыйнымі* пунктамі зьяўляюцца: Рагачоў, Горкі, Ст. Быхаў, Чэрыкаў, Клімавічы, Чэрвень, Сянно, Бабінавічы. На Беларусі, пісаў В. Цянь-Шанскі, „мы маем справу з нікчэмнай спадчынай юрыдычнага гораду“... гэта „гістарычны выблюдак, пакінуты ў спадчыну Польска-Літоўскаю дзяржаваю“ (97). І далей: на Беларусі асноваю гарадоў зьяўляюцца „чыста земляробчыя пасёлкі з нікчэмнымі перажыткамі юрыдычнага, штучна насаджанага польска-літоўскім урадам гораду“... „таму малюнак гарадзкога экономічнага жыцьця тут вельмі шэры і бясфарбны, і шмат офіцыяльна прызнаных „гарадоў“ і „мястэчак“ у сапраўднасьці усё яшчэ затрымоўваецца на ступені напоўгораду, г. зн. адміністрацыйнага пункту, або мажлівага гораду“ (99). „Большасьць т. зв. мястэчак ёсьць,— згодна аўтару,—проста вёскі па свайму экономічнаму характару“. Гэтыя мястэчкі зьявіліся быццам прычынаю „вядомае павярхоўнае, але па сутнасьці непраўдзівае агульнапашыранае думкі, нібы гарадзкое жыцьцё больш усяго зьмешчана ў заходняй палове Эўр. Расіі“ (181).

Канечне, мястэчкі—не гарады, але характар іх не вясковы, бо местачковыя жыхары займаюцца пераважна *несельска-гаспадарчымі* заняткамі (гандаль і рамяство); таму *экономічны ўплыў мястэчак на організацыю сельскае гаспадаркі часткова зьяўляецца дадаткам да ўплыву слаба разьвітых*

*на Беларусі значных мест; мястэчкі павялічваюць у БССР ёмістасьць гарадзкога рынку.*

Апрача перапісу 1897 г. мы ня маем іншых крыніц для меркаваньня аб *профэсыянальным падзеле* насельніцтва БССР. Вынікі адзінае гэтае крыніцы згуртаваны ў наступную табліцу (паветы ідуць па парадку павялічэньня сельска-гаспадарчых заняткаў).

Сярод самастойна занятых у гарадох і вёсках было занята па галінах:

| Паветы | Сел. гасп. | Апрац. прамыслов. | Будаўніц. | Шляхі зносін | Гандаль | Паветы | Сел. гасп. | Апрац. прамыслов. | Будаўніц. | Шляхі зносін | Гандаль |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Віцебскі . . . | 34,0 | 14,2 | 2,7 | 4,0 | 8,2 | Барысаўскі . . | 67,1 | 8,8 | 0,8 | 1,9 | 4,0 |
| Менскі . . . | 37,1 | 14,7 | 2,0 | 4,4 | 7,0 | Чэрвеньскі . . | 69,2 | 9,3 | 0,9 | 1,4 | 3,6 |
| Магілеўскі . . | 38,8 | 13,9 | 1,8 | 1,7 | 7,4 | Горацкі . . . | 70,4 | 12,2 | 0,9 | 1,1 | 6,2 |
| Бабруйскі . . | 43,7 | 12,3 | 1,8 | 3,6 | 6,7 | Клімавіцкі . . | 71,1 | 8,8 | 1,0 | 0,5 | 5,3 |
| Полацкі . . . | 59,6 | 7,9 | 1,3 | 2,5 | 5,6 | Быхаўскі . . | 73,7 | 6,5 | 0,8 | 1,1 | 4,5 |
| Слуцкі . . . | 62,5 | 10,3 | 1,0 | 1,2 | 4,6 | Сеньненскі . . | 75,4 | 6,3 | 0,7 | 0,6 | 4,0 |
| Мсьціслаўскі . | 62,6 | 10,3 | 1,3 | 0,6 | 6,6 | Рагачэўскі . . | 74,5 | 5,4 | 0,6 | 1,8 | 3,5 |
| Мазырскі . . | 62,8 | 11,2 | 1,8 | 3,9 | 5,6 | Гарадоцкі . . | 75,8 | 4,6 | 0,6 | 0,5 | 3,3 |
| Аршанскі . . | 64,3 | 8,3 | 1,1 | 3,4 | 6,1 | Чавусаўскі . . | 77,0 | 5,4 | 1,1 | 0,5 | 4,6 |
| Дрысенскі . . | 66,7 | 5,7 | 1,3 | 2,1 | 4,0 | Чэрыкаўскі . . | 81,0 | 4,7 | 0,5 | 0,6 | 2,9 |
| Лепельскі . . | 67,0 | 8,1 | 1,1 | 1,5 | 4,5 | | | | | | |

Найболей індустрыялізаванымі паветамі зьяўляюцца, зразумела, тыя, дзе быў найбольшы проц. насельніцтва ў гарадох; але на першыя месцы высунуліся і такія паветы, як Слуцкі, Мазырскі, дзе проц. гарадзкога жыхарства зусім невялікі,—выявіўся ў гэтым выпадку ўплыў мястэчак, якіх найбольш у Палесьсі; заўважаецца і яшчэ адна законаўпарадкаванасьць у лічбах: *паветы з максымальнаю доляю сельска-гаспадарчага насельніцтва зьяўляюцца пераважна ўсходнімі, паветы з мінімальнаю доляю—пераважна заходнімі; у гэтым адбіваецца асноўны момант беларускага гаспадарчага жыцьця—залежнасьць ад заходня-эўропэйскіх рынкаў, ад блізкасьці да іх.*

Зьмены ў профэсыянальным складзе былі-б вельмі паказаўчымі для разгляду пытаньня аб напрамку гаспадарчай эволюцыі раёнаў; але зьмены гэтыя будуць зарэгістраваны цалком толькі перапісам 1927 году. З новых крыніц можна выкарыстаць статыст. даныя аб профэсыянальным

складзе насельніцтва з адміністрацыйнага сьпісу паселішчаў і гаспадарак БССР на 1 студзеня 1925 году; там ёсьць лічба асоб, занятых промыслам і рамяством.

| Акругі | Усіх насел. | Насел. з промыс. і рамяс. | % іх |
|---|---|---|---|
| Мазырская . . | 310.029 | 6.477 | 2,09 |
| Менская . . . | 394.320 | 8.112 | 1,98 |
| Бабруйская . . | 450.693 | 7.968 | 1,77 |
| Калінінская . . | 379.862 | 6.157 | 1,62 |
| Аршанская . . | 388.308 | 6.253 | 1,61 |
| Слуцкая . . . | 275.433 | 3.990 | 1,45 |
| Магілеўская . . | 481.131 | 7.019 | 1,46 |
| Віцебская . . | 479.673 | 6.973 | 1,45 |
| Полацкая . . | 294.443 | 3.937 | 1,34 |
| Барысаўская . | 351.369 | 4.509 | 1,28 |
| БССР . . . . | 3.805.260 | 61.395 | 1,61 |

*Першымі па парадку разьвіцьця промыслаў і рамяства ідуць акругі з максымальным лікам мястэчак.* Загана новых статыст. даных у тым, што ў групе „промыслы і рамяство“ аб‘яднаны і саматужнікі і тыповыя рамесьнікі; такім чынам, лічбы гэтыя непараўнальны ні з якімі лічбамі ў мінулым.

Угледзець якія-небудзь законаўпарадкаванасьці ў географіі промыслаў цяжка; *прыкметна сувязь з палескімі і, наогул, лясными раёнамі.*

Апрача соцыяльнага і профэсыянальнага падзелу насельнікаў, адным з іншых важных паказчыкаў гаспадарчага стану краіны лічыцца гушчыня насельніцтва. Вось табліца гушчыні па былых паветах у 1897 г. і 1920 г.

| Паветы | Чалавек на кв. вярсту 1897 г. | 1920 г. |
|---|---|---|
| Менскі . . . | 60.5 | 77,0 |
| Слуцкі . . . | 38.0 | 43,0 |
| Віцебскі . . . | 62.0 | 58,0 |
| Лепельскі . . | 46.1 | 46,0 |
| Аршанскі . . | 38.9 | 55,0 |
| Сеньненскі . . | 37.9 | 42,0 |
| Магілеўскі . . | 51.7 | 56,4 |
| Горацкі . . . | 49.3 | 50,2 |
| Чавускі . . . | 40.9 | 42,8 |
| Мсьціслаўскі . | 46.5 | (77,1) |
| Чэрыкаўскі . . | 36.8 | 41,0 |
| Клімавіцкі . . | 38.6 | 41,5 |
| Рагачэўскі . . | 34.3 | 42,8 |

| Паветы. | Чалавек на кв. вярсту 1897 г. | 1920 г. |
|---|---|---|
| Дрысенскі . . | 37,8 | 30,0 |
| Полацкі . . . | 33,9 | 30,0 |
| Гарадоцкі . . | 36,1 | 38,0 |
| Барысаўскі . . | 26,8 | 31,9 |
| Ігуменскі . . . | 26,6 | 31,5 |
| Быхаўскі . . . | 30,4 | 35,5 |
| Мазырскі . . | 12,8 | 19,8 |

Найбольш людзей у 1920 г. даводзілася на квадратовую вярсту на захадзе БССР (Менскі і Слуцкі паветы) і на ўсходзе (зафарбована чырвоным); поўнач і поўдзень Беларусі—Віцебскі морэнны край і Прыпяцкае Палесьсе, а таксама ўвесь асяродак Савецкай Беларусі—паветы, што ляжаць па Бярэзіне, маюць найменшую гушчыню. Калі-б з паданай табліцай параўнаваць табліцу разьмяшчэньня па БССР ворнае зямлі і лесу, дык-бы відаць было, што: *там, дзе максымум залюдненьня, там максымум разворанае зямлі ад усяго пляцу; там, дзе мінімум залюдненьня, там максымум лясных зямель.* Было-б, аднак, памылкова лічыць, быццам насельніцтва, дзякуючы гушчыні, прымушана давадзіць разворанасьць зямлі, дакуль толькі можна: бо *насельніцтва таму і здаецца рэдкім, што жыве яно сярод лясоў, нішчыць якія яно ня сьмела, бо гаспадарамі былі паны.* Калі-б гушчыню вылічалі толькі на сел.-гасп. пляц (ворная зямля+выган+паша), уяўленьне аб гушчыні было-б іншым: напр., у Барысаўскім павеце гушчыня толькі 31,9, а ў Аршанскім аж 55,0, а як разьлічыць колькі сел.-гасп. ужыткоўнасьцяй даводзіцца аднаму чалавеку, дык будзе—у Барысаўшчыне ўсяго 1.54 дзесяціны, а ў Аршаншчыне 2,08 дзес.; такія-ж разьлічэньні для Быхаўскага і Рагачэўскага паветаў (гушчыня 35,5 і 42,8) пакажуць на 1 чалавека 1,42 і 1,59 дзес. зямлі. *„Сел.-гаспадарчая“ гушчыня павялічваецца ў БССР роўнаважна з захаду на ўсход.*

Новыя адміністрацыйныя адзінкі БССР—акругі—у 1925 г. так разьмяшчаюцца па гушчыні.

| На 1 кв. кілём. чалавек | Усяго насел. | Аднаго вясковага |
|---|---|---|
| Аршанская . . | 50,86 | 44,78 |
| Віцебская . . | 50,47 | 40,27 |
| Магілеўская . . | 47,02 | 40,59 |
| Калінінская . . | 46,10 | 41,84 |
| Менская . . . | 45,25 | 32,57 |
| Слуцкая . . . | 35,12 | 31,98 |
| Бабруйская . . | 34,89 | 24,49 |
| Полацкая . . | 33,00 | 30,58 |
| Барысаўская . | 30,60 | 27,81 |
| Мазырская . . | 20,90 | 18,60 |
| БССР . . . . | 43,59 | 32,69 |

Але акругі занадта буйныя адміністрацыйныя адзінкі; здаволіцца веданьнем гушчыні насельніцтва па акругах немагчыма; на жаль, па раёнах ЦСКБ ня толькі не дае гушчыні, але і не паказвае нават пляцу раёнаў. Калі нанесьці на мапу раёнаў „пунктавым спосабам“ (дзе адзін пункт азначае тысячу чалавек) лічбы насельніцтва па адміністрацыйнаму сьпісу на 1/І 1925 г., дык выяўляецца, што самі акругі заселены ня роўна. *Загушчэньні спаткаюцца* перш-на-перш *ля большасьці акруговых гарадоў:* Менск, Слуцак, Бабруйск, Магілеў, Ворша, Віцебск, Полацак, Мазыр. Потым, у Менскай, Барысаўскай, Слуцкай акругах гусьцей заселены іх заходнія часткі, у Мазырскай і Бабруйскай—усходнія; у Калінінскай акрузе загушчэньне ля Мсьціслаўля і Крычава; у Магілеўскай—у паўночнай частцы; у Полацкай—у паўднёвай, таксама і ў Віцебскай; *плямы густога залюдненьня—усьцяж Дняпра, Сожу, Зах. Дзьвіны.* Толькі з выданьнем дазымэтрычнай мапы БССР на падставе статыст. перапісу 1927 году будзем мы мець поўныя і дэталічныя веды аб разьмяшчэньні насельніцтва.

Параўнаем гушчыню насельніцтва ў БССР, УССР, СССР і некаторых дзяржавах Зах.-Эўропы.

| | Насел. на 1 кв. кілём. |
|---|---|
| Бэльгія | 256,0 |
| Нямеччына | 126,8 |
| Данія | 76,0 |
| Польшча | 71,5 |
| УССР | 55,2 |
| БССР | 37,7 |
| Літва | 34,3 |
| Латвія | 29,6 |
| Эўр. частка РСФСР | 22,9 |

Актыўным фактарам у зьмене гушчыні насельніцтва зьяўляецца натуральны рост насельнікаў і іх мэханічны рух.

Натуральны ўзрост (на 1.000 чал.).

| | | ± | Радзілася | Памёрла |
|---|---|---|---|---|
| БССР | 1923 г. | +22.9 | 35.5 | 12.6 |
| Паўд.-Афрыканскі саюз | 1920 г. | +17,8 | 28,9 | 11,1 |
| Аргэнтына | 1921 г. | +17,1 | 32,6 | 15,5 |
| Нямеччына | 1921 г. | +11,3 | 25,3 | 13,9 |
| Данія | 1922 г. | +10,4 | 22,3 | 11,9 |
| Латвія | 1922 г. | + 9,1 | 20,5 | 11,4 |
| Літва | 1922 г. | + 8,0 | 22,4 | 14,4 |
| Францыя | 1922 г. | + 1,8 | 19,3 | 17,5 |

*Ні ў аднэй дзяржаве, няма такога нязвычайнага натуральнага ўзросту, як у БССР;* на Беларусі максымум нараджэньняў і ня шмат, адносна

іншых дзяржаў, сьмерцяй,—таму і вялікі прырост. Дакладнага тлумачэньня факту вялікага натуральнага ўзросту даць немагчыма; бязумоўна *ён зьвязан з некалькімі фактарамі—малая роля гарадоў, вялікая колькасьць сялянства, сялянства беднага; малая таварнасьць гаспадаркі, нявысокая культурнасьць, няпісьменнасьць.*

Асобныя акругі па велічыні ўзросту ідуць у такім парадку [1]):

| Акругі | Сел.насел. на 1/І-25 г. | За 1923 г. радзілася | За 1923 г. памёрла | На 1000 чал. радзілася | На 1000 чал. памёрла | Узрост |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мазырская . . | 291.359 | 12 704 | 3.463 | 43,6 | 11,9 | 31,7 |
| Аршанская . . | 352.695 | 14.500 | 4.912 | 41,1 | 11,1 | 30,0 |
| Барысаўская . | 333.039 | 12.982 | 4.755 | 39,0 | 11,3 | 27,7 |
| Бабруйская . . | 420.382 | 17.435 | 6.039 | 41,5 | 14,4 | 27,1 |
| Калінінская . . | 359.378 | 13.317 | 4 069 | 37,1 | 11,3 | 25,8 |
| Менская . . . | 359.795 | 15.255 | 6.487 | 42,4 | 18,0 | 24,4 |
| Слуцкая . . . | 258.724 | 10.592 | 4.432 | 40,9 | 17,1 | 23,8 |
| Магілеўская . | 470.921 | 15.502 | 4.763 | 32,9 | 10,1 | 22,8 |
| Полацкая . . | 289.749 | 85.688 | 2.794 | 29,6 | 9,7 | 19,9 |
| Віцебская . . | 458.333 | 12.677 | 4.527 | 27,7 | 9,9 | 17,8 |
| БССР—вёскі . | 3.594.375 | 133.552 | 46.241 | 36,6 | 12,9 | 23,7 |
| БССР—гарады . | 610.084 | 15.676 | 6.754 | 25,7 | 11,0 | 14,7 |

Вялікі прырост насельніцтва на Беларусі—зьявішча вельмі сталае; яно было прыкмечана яшчэ ў XIX стагодзьдзі [2]): беларускія губэрні мелі такі ўзрост (на 1000 чал.):

| | за 1891—1895 г. | за 1896—1900 г. | за 1891—1900 г. |
|---|---|---|---|
| Магілеўшчына . | 22.3 | 22,1 | 22,2 |
| Меншчына . . | 20,0 | 20,8 | 20,4 |
| Віцебшчына . . | 17,6 | 17,8 | 17,7 |
| Смаленшчына . | 15,8 | 16,2 | 16,0 |
| Віленшчына . . | 15,9 | 15,6 | 15,8 |
| Горадзеншчына. | 13,6 | 15,9 | 14,8 |
| б. Эўроп. Расія. | 15,8 | 16,2 | 16,0 |

У Расіі ўзрост насельніцтва лічыўся найвялікшым у сьвеце, а на Беларусі, як бачым, ён быў яшчэ большым. Беларускія губэрні сярод расійскіх былі па ўзросту на першым месцы: спаміж 5 губэрняў з максымальным узростам (звыш 20 душ на тысячу) беларускіх было 2, спаміж 14 губэрань з вялікім узростам (звыш 15 душ) беларускіх было 4.

У наш час (1923 г.) насельніцтва БССР павялічваецца з кожным годам на 97—100 тысяч чалавек; зразумела, што самы буйны росквіт беларускае прамысловасьці ня зможа даць работу такой колькасьці людзей;

[1]) Адносныя вялічыні ўмоўны, бо няма даных аб абсолютным ліку насельніцтва ў 1923 годзе.

[2]) „Стат. ежегодник России" 1905 г. Артыкул В. Алёніцына.

толькі шпаркі тэмп інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі змог-бы праглынуць такую дадатковую армію рабочых. Знадворныя фактары ў дарэволюцыйнай Беларусі спрыялі процэсу інтэнсыфікацыі: заходня-эўропэйскі рынак быў блізка, цэны на сел.-гасп. продукты былі высокія, ішлі ў гару найбольш шыбка цэны на продукты жывёлагадоўлі і інтэнсыўных культур, пасяродкавы рынак быў даволі ёмісты; але гэтыя спрыяючыя фактары разьбіваліся аб фактары няспрыяючыя—найперш об „окраинную“ політыку царскага самаўладзтва (тарыфы, „чырта аселасьці“, чыгуначнае будаўніцтва, адсутнасьць земскай і агрономічнай організацыі і г. д.), а падругое, аб спадчыну гісторыі—панскае зямляўладаньне, панскую гаспадарку на Беларусі. А таму *перад рэволюцыяй процэс сельска-гаспадарчае інтэнсыфікацыі ішоў паволі, зацішна. Гэта і было прычынай аграрнай перанаселенасьці БССР.* У актыўнай форме яна выяўлялася ў эміграцыі і высяленьні, у пасыўнай—у нізкай заробчай плаце сел.-гасп. рабочых, у праца-інтэнсыўнасьці гаспадаркі. Высялілася з трох беларускіх губэрань параўнальна з нячорназемнай паласой Эўр. часткі СССР:

| | 1896-1910 г. г. | 1911-1915 г. г. | 1916 г. |
|---|---|---|---|
| Нячорназ. частка СССР . | 534.241 | 76.656 | 1.190 |
| З БССР [1]) . . . . . . . | 404.256 | 54.956 | 709 |

З *БССР высялялася вялізная маса насельніцтва, якая складала* $^2/_3$-$^4/_5$ *ад усіх высяленцаў з нячорназемнае паласы эўропэйскай часткі СССР.* Высяленьне з асобных губэрань, якія цяпер уваходзяць у БССР, ішло такім тэмпам:

| | 1896-1900 г. г. | 1900-1905 г. г. | 1906-1910 г. г. | 1911-1915 г. г. |
|---|---|---|---|---|
| Магілеўшчына . . | 31.342 | 26.757 | 136.799 | 28.560 |
| Віцебшчына . . . | 30.354 | 24.739 | 73.762 | 15.191 |
| Меншчына . . . . | 14.877 | 9.428 | 56.127 | 10.353 |

Магілеўшчына была самай актыўнай удзельніцай у высяленьні, потым ідзе Віцебшчына і Меншчына; можна лічыць, што па інтэнсыўнасьці гаспадаркі губэрні ідуць у адваротным парадку. Максымум высяленьняў даводзіцца на гады 1907 і 1908—сялянства не адабрала зямлі ад паноў у першую рэволюцыю і стыхійна павандравала ў Сібір. Але магутная хваля вельмі хутка пачала спадаць; пачынаючы з 1908 году ў высяленьне ідзе людзей усё менш і менш. Вось лічбы аб высяленцах за апошнія гады перад вайною:

| | 1908 г. | 1909 г. | 1910 г. | 1911 г. | 1912 г. | 1913 г. | 1914 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Магілеўшчына . | 49.780 | 27.544 | 12.187 | 8.992 | 7.555 | 6.731 | 5.282 |
| Віцебшчына . . | 24.971 | 13.129 | 5.876 | 5.685 | 4.131 | 2.748 | 2.627 |
| Меншчына . . | 21.577 | 9.060 | 3.651 | 2.917 | 2.544 | 2.318 | 2.574 |

Як бачым, *высяленьне год у год няўхільна зьніжалася. На гэты факт ня можна забывацца пры аналізе аграрнай перанаселенасьці.* Зусім магчыма

[1]) З трох губ.—Меншч., Магіл., Віцебшчыны.

што зьніжэньне высяленцаў было адбіткам няўхільнае інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі БССР перад вайною. Больш дакладна мець веды аб географіі высяленьня немагчыма, бо ўрад друкаваў лічбы высяленцаў толькі па губэрнях. Адзіныя павятовыя лічбы давялося мне адшукаць за гады: 1913; 1885-1895 г.; іх і згуртоўваю ў табліцу:

было высяленцаў у гады:

| Паветы | 1913 г. | 1885-1895 г. | Паветы | 1913 г. | 1885-1895 г. г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Чэрыкаўскі | 1171 | 385 | Лепельскі | 345 | 3 |
| Рагачэўскі | 971 | 16 | Чэрвеньскі | 309 | — |
| Клімавіцкі | 955 | 5 | Мсьціслаўскі | 297 | 412 |
| Гарадоцкі | 665 | 13 | Мазырскі | 260 | — |
| Барысаўскі | 654 | 14 | Аршанскі | 226 | — |
| Быхаўскі | 571 | 7 | Дрысенскі | 223 | 11 |
| Бабруйскі | 522 | — | Сеньненскі | 185 | 3 |
| Горацкі | 473 | 4 | Віцебскі | 73 | — |
| Чавусаўскі | 434 | — | Слуцкі | 41 | — |
| Магілеўскі | 378 | — | Менскі | 27 | 26 |
| Полацкі | 354 | 3 | | | |

Каб зрабіць абсолютныя лічбы паказаўчымі, пераробім іх у ваднасныя па 1913 г. (на 1000 чал):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Чэрыкаўскі | 5,73 | Дрысенскі | 1,93 |
| Клімавіцкі | 4,92 | Лепельскі | 1,81 |
| Чавускі | 3,59 | Бабруйскі | 1,62 |
| Рагачэўскі | 3,30 | Мазырскі | 1,02 |
| Быхаўскі | 3,27 | Аршанскі | 0,95 |
| Горацкі | 2,95 | Сеньненьскі | 0,86 |
| Магілеўскі | 2,33 | Віцебскі | 0.51 |
| Мсьціслаўскі | 2.27 | Ігуменскі | 0,89 |
| Горадоцкі | 4,86 | Слуцкі | 0,13 |
| Полацкі | 2,36 | Менскі | 0,11 |
| Лепельскі | 2,12 | | |

Географія высяленцаў па месцы іх радзімы дае такія вывады: *мінімум высяленцаў* (да 1 чалавека на тысячу) *прыпадае на захад БССР* (Менскі, Слуцкі, Чэрвеньскі паветы),—*раён гэты трэба лічыць найбольш інтэнсыўным у БССР; другі мінімум высяленцаў* (таксама да 1 чалав. на тысячу, але трохі болей, чымся ў першым раёне) *прыпадае на значныя гарадзкія паветы* (Віцебскі, Аршанскі)—*трэба і тут спадзявацца на вялікую інтэнсыўнасьць сельскае гаспадаркі;* раён з сярэдняй вагой высяленьня (да 1,75 чал. на тысячу) ахоплівае Палесьсе (Мазырскі і Бабруйскі паветы), але калі-б узяць інтэрвал да 2,5 чал. на тысячу, дык сюды трэба-б было далучыць паветы: Барысаўскі, Лепельскі, Полацкі, Дрысенскі,—*ствараецца такім чынам адна шырокая паласа пасярэдзіне БССР з сярэдняй на беларускую мерку інтэнсыўнасьцю; трэцяя паласа—увесь усход БССР, дзе*

*максімум высяленьняў, павінна зьяўляцца найбольш экстэнсыўнай на Беларусі зонай;* на самым далёкім усходзе БССР, у Клімавіцкім і Чэрыкаўскім паветах, адносная аграрная перанаселенасьць у актыўнай форме дасягала максымуму,—тут мы павінны спаткаць самыя экстэнсыўныя формы гаспадараньня. Ці такая ў сапраўднасьці географія формаў гаспадаркі, як яе адбівае географія высяленчага руху, гэта павінна давесьці непасрэднае вывучэньне гаспадаркі, але—як гэта ўжо трохі ведама—прыблізна такая.

Дакладна апісваць гаспадарчае жыцьцё беларускіх высяленцаў у Сібір, іх уплыў на сібірскую сел.-гасп. культуру—не зьяўляецца мэтай майго артыкулу. Трэба вызначыць толькі некалькі момантаў: *1) жывуць нашы высяленцы густою масою, разам; ідуць у Сібір у такія раёны, дзе прыродныя ўмовы блізкі да беларускіх,* значыць, у тайгу, урман, лесастэпы; з дасьледаваных у 1911-12 г. г. экспэдыцыяй В. Кузьняцова высяленчых сялянскіх гаспадарак на долю беларускіх выпадала ў паветах: Верхаленскім—98,9 проц., Канскім—72,3 проц., Турынскім—67,4 проц., Ачынскім—62,5 проц., Тарскім—61,9 проц., Ніжнявудзінскім—66,4 проц., Краснаярскім—46,2 проц. і Балаганскім—38,1 проц.; *2) беларускія высяленцы да сібірскіх умоў жыцьця прыстасоўваюцца даўжэй, чым іншыя, і ў гэты час бядней, але потым, праз 10-15 гадоў жыцьця ў новай бацькаўшчыне, робяцца больш заможнымі, чым іхныя суседзі; 3) беларусы нясуць з сабою ў далёкія куты Сібіры прогрэсыўныя формы сел.-гасп. тэхнікі*—угнаеньне, заводзяць лён, бульбу, сьвіней, вучаць лепш апрацоўваць зямлю; *4) беларусы захоўваюць у Сібіры сваю нацыянальнасьць, формы гаспадаркі і быту;* гэту агульную рысу ўва ўсіх перасяленцаў заўважыў яшчэ Маркс у самым пачатку шырокае колёнізацыі: „Таксама і нацыянальнасьць высяленцаў адбівалася на іх пасяленьні. Людзі з Норвэгіі і з нашых горных мясцовасьцяй абіралі для сябе суровыя паўночныя лясныя краіны Вісконсіна, янкі ў тэй-жа самай мясцовасьці туліліся да стэпу і г. д.“, пісаў Маркс у лісьце да Энгельса ў 1869 г. (26-XI).

Аб велічыні высяленьняў пасля Кастрычнікавае рэволюцыі мы ня маем пэўных вестак. Аб характары дынамікі высяленчага руху можна сказаць апрыоры так: *у зьвязку з падзелам панскіх зямель між сялянамі*[1]), *а значыць, з магчымасьцю зьвярнуць сялянскія грошы (якія раней ішлі на купляньне зямлі), на палепшаньне гаспадаркі,—адносная перанаселенасьць павінна зьменшыцца;* але зараз-жа пасьля аграрнае рэволюцыі і замацаваньня яе заваяваньняў—павінна быць першая стыхійная хваля высяленьняў (гал. чынам тых серадняцкіх гаспадарак, якія атрымалі мала зямлі ў параўнаньні з сям'ёю). Вялікі ўдзел Беларусі ў высяленчым руху 1923—1925 году магчыма тлумачыць якраз гэтаю першаю хваляю; праз некалькі год (4-5) павінна пачацца спаданьне. Вось лічбы за 1923 год, згодна рэгістрацыі НКЗ'ема РСФСР.

[1]) А факт гэты мае куды большае значэньне, чым гэта здаецца некаторым экономістым.

| Раёны: | Было высяленцаў у 1923 г. |
|---|---|
| Беларускі | 58.344 |
| Паўночны | 19.487 |
| Цэнтр. Чорназемны | 11.202 |
| Закаўказьзе | 10.652 |
| Паваложжа | 2.125 |
| Прамысловы | 1.103 |
| Сібір | 3.912 |
| Украіна | 767 |
| Усе раёны | 107.592 |

На беларускія губэрні даводзіцца звыш 60 проц. З паасобных нашых губэрань найбольш было: з Гомельшчыны—36.721, Смаленшчыны—13.555, Віцебшчыны—7.696, потым з Меншчыны—372; колькі з таго абшару, які зараз займае БССР, вылічыць няма як.

*Тое, што БССР належыць да раёнаў аграрна-перанаселеных, не павінна адхіляць у бок і іншы факт, што БССР—прамыслова-перанаселены раён* (у адносным, канечне, разуменьні, у адносінах да велічыні прамысловае дзейнасьці). Гэта перанаселенасьць—спадчына царскае палітыкі, якая зганяла рамесьнікаў у „чырту аселасьці", але не давала сюды капіталаў, бо баялася „яўрэйскай конкурэнцыі" цантрова-прамысловаму раёну. Адсутнасьць сучасных матэрыялаў прымушае выкарыстаць перапіс 1897 году (па шасьці беларускіх губэрнях). У той час з усіх рабочых і прыслугі, нараджоных на Беларусі, пакінула гэты край 182.895 чал., або 34,8 проц. да тых 525.250 чал., якія засталіся на месцы.

У васобных губэрнях адносная прамысловая перанаселенасьць у актыўнай форме выяўлялася так:

| | Рабочых і прыслугі ў 1897 г. | | |
|---|---|---|---|
| | Пакінулі Беларусь | Засталіся ў ёй | % пакінуўшых да тых, што засталіся |
| Віцебшчына | 32.843 | 77.806 | 41,7 |
| Магілеўшчына | 22.418 | 63.960 | 35,5 |
| Віленшчына | 20.180 | 109.107 | 18,5 |
| Горадзеншчына | 17.562 | 93.656 | 18,7 |
| Меншчына | 16.102 | 109.281 | 14,8 |

Факт распаўзаньня мястэчак, рамесьніцкіх асяродкаў у БССР, у наш час падкрэсьлівае адносную прамысловую перанаселенасьць. *Спосаб зьнішчэньня гэтага віду перанаселенасьці—максымальнае прыцягваньне ў БССР капіталаў, пабудова новых прамысловых асяродкаў;* гэтаму зараз спрыяе крытычны стан лодзінскае і беластоцкае прамысловасьці, якая пры доўгім існаваньні мяжы, бязумоўна, у значнай частцы перавандруе ў БССР. *Зьнішчэньне адноснай прамысловай перанаселенасьці патрабуе зараз ад Савецкай Беларусі больш увагі, чым зьнішчэньне перанаселенасьці аграрнай:* апош-

няя можа зьнішчацца саматугам і крызісам краіне не пагражае; слабы-ж разьвітак прамысловасьці пагражае ўзросту нашых гарадоў, узросту культуры, зацягвае аграрную перанаселенасьць, інтэнсыфікацыю сельскае гаспадаркі, закідае краіну ў ніжэйшыя станы соцыяльнага быцьця, а сёньня-ж пагражае растратаю рамесьніцкае рабочае сілы высокай кваліфікацыі.

Яшчэ адзін паказчык у насельніцтве зьяўляецца характэрным для стану гаспадаркі—гэта форма расьсяленьня (асабліва ў іх дынаміцы). Будзем чакаць *дынамічных* паказчыкаў формаў засяленьня; пакуль што абмяжуемся *статычным* паказчыкам—проц. хутароў і адбояў спаміж усіх двароў. Максымум хутароў (звыш 30 проц.) ляжыць цэлым лапікам на паўночным усходзе БССР, на Віцебшчыне і Аршаншчыне, і невялічкімі лапікамі вакол больш-менш значных гарадоў: Полацак, Магілеў, Менск, Бабруйск, Мазыр. Лінія па мяжы раёнаў, дзе звыш 15 проц. хутароў, дзеліць БССР на дзьве часткі: поўнач і ўсход з максымумам хутароў, рэшта з мінімумам; мясцовыя максымумы ляжаць лапінамі зноў-жа ля гарадоў: Бабруйская, Менская, Слуцкая і Мазырская лапіны. Хутарскі тып расьсяленьня вызначае высокаінтэнсыўную гаспадарку, дзе ўнутрыгаспадарчы транспарт зьяўляецца вялікім фактарам (узрост вагі грузаў у пуда-вярстох); таму зразумела, чаму *скрозь па БССР хутароў так шмат ля вялікіх гарадоў*. Залежнасьць тыпу расьсяленьня ад большай ці меншай адлегласьці ад гораду ілюструецца такімі табліцамі:

**Сельсаветы ля Віцебску.**

| З адлегласьцю: | Колькі іх | Усіх гаспадарак | На хутарох і адбоях | % хутароў і адбояў |
|---|---|---|---|---|
| I 11 вёрст . | 4 | 3.462 | 2.457 | 70,9 |
| II 12-20 „ . | 4 | 3.426 | 2.250 | 65,7 |
| III звыш 20 в. | 4 | 3.103 | 1.774 | 57,1 |

**Сельсаветы Высачанскага раёну.**

| Адлегл. ад Віцебску | Колькі іх | Усіх двароў | Хутароў | % хутароў |
|---|---|---|---|---|
| I да 24 вёрст. | 4 | 2.700 | 2.169 | 80,3 |
| II звыш 24 „ . | 4 | 2.376 | 1.845 | 77,7 |

**Сельсаветы Менскага раёну.**

| Да Менску вёрст | Колькі іх | Усіх двароў | Хутароў | % хутароў |
|---|---|---|---|---|
| I да 21 . . . | 3 | 2.400 | 972 | 40,5 |
| II звыш 21 . . | 3 | 2.055 | 615 | 29,9 |

**Сельсаветы Магілеўскага раёну.**

| Да Магілева вёрст | Колькі іх | Усіх двароў | Хутароў | % хутароў |
|---|---|---|---|---|
| I 0—13. . . | 6 | 3.101 | 1.547 | 49,9 |
| II 14—23 . . | 6 | 3.638 | 1.224 | 33,7 |
| III звыш 23 . | 6 | 2.988 | 564 | 18,2 |

Ілюстрацыі вельмі паказальныя. Ня гледзячы на тое, што сувязь хутарскай формы расьсяленьня з больш інтэнсыўным тыпам гаспадаркі бязумоўна ёсьць, лічыць паўночны ўсход БССР больш інтэнсыўным, чым захад, яшчэ немагчыма; бо на выбар формы расьсяленьня робяць уплыў і зямельная забясьпечанасьць, і прыродныя ўмовы (глебы, лясы, вада), і проста велічыня гаспадарак; напр., у 1925 г. мясцовасьці з найбольшым лікам жыхароў на 1 паселішча (б. Магілеўшчына, Мазыршчына, Случчына) блізкі да мясцовасьцяй з процантам хутароў звыш 15,—мажліва велічыня вёсак зьяўляецца штурхачом да хутароў.

Аб *нацыянальным складзе* мы да гэтага часу ня маем пэўных статыстычных лічбаў. Карыстацца данымі перапісу 1920 году немагчыма[1]). Перапіс 1917 году, які болей пэвен, чым перапіс 1920 г., не апрацаваны па усёй БССР. Аб насельніцтве ўсіх паселішч і гаспадарак, апрача акруговых гарадоў і Жлобіна з Рагачовым, ёсьць даволі, як быццам, надзейныя лічбы па нацыянальнаму складу згодна адміністр. сьпісу на 1-І-25 г. Даволі параўнаньня гэтых лічбаў з тымі, якія ЦСУБ дае ў „Стат. штогодніку" [2]), каб бачыць усю памылковасьць перапісу 1920 году.

**Нацыянальны склад.**

| АКРУГІ | Беларусы | | Расійцы і украінцы [3]) | | Яўрэі | | Палякі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сел. нас па „Ст. шт." | Адміністр. сьпіс | „Ст. шт." | Адм. сьпіс | „Ст. шт." | Адм. сьпіс | „Ст. шт." | Адм. сьпіс |
| Бабруйская . . . | 67,70 | 87,38 | 22,02 | 3,33 | 7,08 | 5,13 | 2,91 | 2,86 |
| Барысаўская . . . | 85,57 | 87,97 | 4,13 | 1,04 | 4,67 | 4,62 | 3,29 | 5,50 |
| Віцебская . . . | 71,14 | 86,92 | 22,09 | 5,68 | 3,44 | 3,89 | 0,70 | 0,14 |
| Калінінская . . . | 71,84 | 89,98 | 21,31 | 3,82 | 6,26 | 5,04 | 0,25 | 0,26 |
| Менская . . . | 89,41 | 91,01 | 0,12 | 0,61 | 4,29 | 5,08 | 5,71 | 2,45 |
| Магілеўская . . . | 63,32 | 92,07 | 30,33 | 0,51 | 4,83 | 4,33 | 1,03 | 2,48 |
| Мазырская . . . | 86,65 | 85,32 | 2,32 | 2,75 | 8,28 | 6,80 | 1,97 | 3,00 |
| Аршанская . . . | 68,54 | 89,49 | 24,93 | 1,42 | 5,05 | 5,29 | 0,96 | 1,33 |
| Полацкая . . . | 74,44 | 90,62 | 19,65 | 1,92 | 3,85 | 3,37 | 1,23 | 3,00 |
| Слуцкая . . . | 91,69 | 93,70 | 0,02 | 0,24 | 5,10 | 4,04 | 3,12 | 1,27 |
| БССР . . . | 75,90 | 89,35 | 16,20 | 2,26 | 5,24 | 4,74 | 2,05 | 2,33 |

[1]) Гл. аб гэтым маю працу „Насельніцтва Гомельшчыны" ў зборніку: „Материалы по районированию Зап. Обл.".

[2]) Згодна перапісу 1917 году па Меншчыне і 1920 году па Магілеўшчыне і Віцебшчыне.

[3]) Аўтары „Ст. шт." усё яшчэ ўжываюць царскую тэрмінолёгію: украінцы і беларусы ўсе яшчэ „русские".

Такія пераскокі, якія заўважаюцца ў табліцы, зусім не праўдзівы. Ї як толькі адна і тая-ж установа ў адзін і той-жа год дае гэткія розныя лічбы [1]). Аб складзе вясковага насельніцтва з пэўнасьцю можна казаць, што на 90—95% ён беларускі.

Нац. склад гарадоў і мястэчак з насельніцтвам звыш 2.000 чал. па перапісу 1923 г. быў гэткі:

| Акругі | Беларусы | Расійцы і украінцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| Калінінская . . . | 53,64 | 1,78 | 43,84 | 0,32 | 0,42 |
| Магілеўская . . . | 52,79 | 5,04 | 37,98 | 2,57 | 1,62 |
| Барысаўская . . . | 43,72 | 9,05 | 42,41 | 3,79 | 1,03 |
| Мазырская . . . . | 42,00 | 9,34 | 47,10 | 0,87 | 0,69 |
| Слуцкая . . . . | 41,88 | 6,13 | 50,22 | 0,64 | 1,13 |
| Аршанская. . . . | 40,78 | 17,59 | 38,82 | 1,39 | 1,42 |
| Полацкая . . . . | 39,39 | 13,62 | 40,71 | 2,59 | 3,69 |
| Бабруйская . . . | 36,68 | 9,53 | 50,49 | 1,52 | 1,78 |
| Віцебская . . . . | 29,73 | 18,99 | 45,52 | 3,25 | 2,51 |
| Менская . . . . . | 41,34 | 8,28 | 43,80 | 3,59 | 2,99 |

Параўнаньне процанту беларусаў у акруговых гарадох у 1897 г. і 1923 г. даецца далейшай табліцай:

| | 1897 г. | 1923 г. | | 1897 г. | 1923 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Бабруйск . . | 4,89 | 3,09 | Магілеў . . . | 29,79 | 51,4 |
| Барысаў . . | 21,91 | 4,11 | Мозыр . . . | 16,87 | 19,3 |
| Віцебск . . . | 13,77 | 2,91 | Орша . . . | 29,09 | 48,8 |
| Клімавічы . . | 48,92 | 5,74 | Полацак . . | 15,38 | 39,4 |
| Менск . . . | 8,98 | 4,08 | Слуцак . . . | 17,51 | 34,1 |

*Ва ўсіх гарадох заўважаецца няўхільны ўзрост % беларусаў* у 1, 2, 3, 5, 7 разоў.

*У гэтым адбіваецца нацыянальная політыка Савецкае ўлады,—у поўную процілежнасьць тэй імпэрыялістычна - колёніяльнай політыцы, якую вяло царскае самаўладзтва;* прывяду факты з статыстыкі насельніцтва, у якіх адбіліся праявы расійскага імпэрыялізму на Беларусі. Трыядзіную формулу „православие, самодержавие и народность“ царызм ажыцьцяўляў найперш праз сваіх найбліжэйшых агентаў: папоў, паліцэйскіх, войска, адміністрацыю і троху далейшых—чорнасоценнае настаўніцтва. Зразумела, што ўсе агенты імкнуліся быць на 100% рускімі, гэта зьвязвалася ў іх з ідэяй царызму, а што галоўнае—найчасьцей проста і прывозіліся на Беларусь з цэнтральнай Расіі, як сапраўдныя, надзейныя колёнізатары. Вось і падзівімся, колькі было „русских“ сярод адміністрацыі, паліцыі, судзейскіх, папоў, вайсковых, настаўніцтва і, нарэшце, чыгуначнікаў і тэлеграфістых (яны таксама п. б. моцнаю апораю цара). Паветы БССР выпісаны ў табліцы ў напрамку *з усходу на захад, адкуль і йшла хваля русыфікацыі.*

---

[1]) Адмін. перапіс захапіў больш насельніцтва, чым т. зв. адно „сельскае“, значыць, проц. рускіх павінен быў-бы павялічыцца (за гарады).

Сярод самастойна занятых было „рускіх“ сярод: (% %)

| ПАВЕТЫ | Папоў | Войска | Адмін. суд, паліцыя | Пошта і тэлеграф у горадзе | Чыгунка | Настаўніцтва | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | У гарадох | У вёсках |
| Клімавіцкі | 42,2 | 17,2 | 22,3 | — | 11,1 | 13,9 | 12,8 |
| Мсьціслаўскі | 21,9 | 64,3 | 17,7 | 16,7 | — | 13,7 | 10,9 |
| Чэрыкаўскі | 26,3 | 17,8 | 31,4 | 11.1 | 20,0 | 6,9 | 7,5 |
| Рагачоўскі | 30.6 | 48,6 | 16,1 | 50.0 | 29,2 | 11,3 | 8,7 |
| Быхаўскі | 26,7 | 10,3 | 19,5 | 40,0 | — | 10,6 | 13,7 |
| Чавусаўскі | 38,7 | 12,5 | 30,1 | 28,6 | — | 17,5 | 10,4 |
| Горацкі | 20,6 | 30,6 | 12,5 | 75,0 | — | 20,6 | 8,5 |
| Аршанскі | 51,3 | 15,1 | 36,1 | 75,0 | 56,2 | 81,5 | 9,3 |
| Сеньненскі | 43,0 | 7,5 | 37,5 | -- | 39,5 | 9,7 | 10,8 |
| Магілеўскі | 30,1 | 54,4 | 19,5 | 59,3 | 76,7 | 29,8 | 10,1 |
| Гарадоцкі | 40.8 | 20,5 | 36,4 | 13,1 | 100 | 5,1 | 27.7 |
| Віцебскі | 62,8 | 59,2 | 65,1 | 70,7 | 54,0 | 23,7 | 23.2 |
| Полацкі | 75,0 | 33,6 | 26,7 | 77,0 | 24,6 | 27,2 | 29,5 |
| Лепельскі | 47,4 | 11,3 | 22,7 | 62,5 | 43,8 | 65,4 | 11,0 |
| Барысаўскі | 47,8 | 57,7 | 22,0 | 54,2 | 22,9 | 7,3 | 10,7 |
| Дрысенскі | 63,6 | 14,3 | 13,8 | 57,1 | 13,6 | 12,0 | 11,5 |
| Ігуменскі | 60,2 | 9,6 | 35,9 | 50,0 | 34,8 | 19,5 | 9,4 |
| Бабруйскі | 48.6 | 60,9 | 26,1 | 73,3 | 38,3 | 13,4 | 6,1 |
| Мазырскі | 50,4 | 6,0 | 27,0 | 92,3 | 41,1 | 21,5 | 10,4 |
| Слуцкі | 52.6 | 60,3 | 33,9 | 47.6 | 2,8 | 16,4 | 7,3 |
| Менскі | 61,2 | 66,2 | 34,0 | 75,2 | 59,0 | 27,2 | 12,5 |

Табліца паказвае, які *вялікі проц. „рускіх“ быў сярод агентаў царскага ўраду: такі проц., які ў шмат разоў перавышаў проц. рускіх уво ўсім насельніцтве.* Процант расійца пры тым-жа паступова павялічваецца ў напрамку на захад, у напрамку на паветы, дзе рускі ўплыў быў найслабейшым і дзе яго трэба было насадзіць паліцэйскім парадкам. Так *царызм імкнуўся русыфікаваць Беларусь.*

Іншых паказчыкаў з насельніцтва БССР не падаю, бо ў іх эконамічна-соцыяльны стан краю адбіваецца слабей. І паданых фактаў, здаецца мне, даволі, каб атрымаць агульнае ўяўленьне аб гаспадарцы Рэспублікі. Дэтальны аналіз непасрэдна вытворчых даных павінен пацьвердзіць або адхіліць тое, што апрацоўка статыстыкі насельніцтва выстаўляе, як магчымасьці.

# УВОДЗІНЫ Ў ФІЛЁЗОФІЮ ДЫАЛЕКТЫЧНАГА МАТЭРЫЯЛІЗМУ

**Б. Быхаўскі**

## 1. Прадмет і задачы філёзофіі

Мэтод ёсьць нішто іншае, як рэфлексыўнае пазнаньне, інакш ідэя ідэі.

**Б. Сьпіноза**

Кожная навука ёсьць навука аб чым-небудзь, вывучае тую ці іншую групу зьявішч прыроды або гісторыі. Біолёгія—органічны сьвет, соцыолёгія—чалавецкае грамадзтва, зоолёгія—жывёл, офтальмолёгія—зрок і г. д. Галіна зьявішч, што вывучаюцца ў данай навуцы, называецца яе об'ектам. Які-ж об'ект, прадмет вывучэньня філёзофіі? Адны думаюць, што філёзофія—навука аб усім па крысе, нешта накшталт энцыклёпэдыі, зводкі вывадаў асобных навук, другія лічаць, што задача філёзофіі—пазнаць „дзе пачатак таго канца, якім канчаецца пачатак", яе об'ект—усеагульныя асноўныя прынцыпы быцьця і т. п. „высокія матэрыі". Сапраўды-ж філёзофія не зьяўляецца ні разносьнікам тавараў, што вытвараюцца другімі навукамі, ні беспрадметнай заразумовай схолястыкай, гульнёю адцягненымі паняцьцямі. Філёзофія—*адна з навук* і мае, як і ўсе іншыя навукі, свой пэўны об'ект вывучэньня, об'ект ня ўяўны, што зьяўляецца продуктам мысьліцельнай спэкуляцыі, а вельмі рэальнае зьявішча. Об'ектам філёзофіі зьяўляюцца навукі.

У грамадзтве, побач з мноствам іншых продуктаў культуры—з рэлігіяй, мастацтвам, тэхнікай, дзяржаўнай пабудовай,—узьнікаюць і разьвіваюцца навукі, веды. Хоць разьвіцьцё навук і знаходзіцца ў самай сьціслай залежнасьці ад другіх бакоў грамадзкага жыцьця: і ад тэхнікі, і ад псыхолёгіі грамадзтва ды т. п., аднак, навука адначасна прадстаўляе сабою грамадзкае зьявішча асаблівага роду. Яна—нешта, што розьніцца і ад мастацтва, і ад рэлігіі, таксама, як рэлігія ці мастацтва—нешта, што розьніцца ад іншых грамадзкіх зьявішч. Усе гэтыя зьявішчы, будучы праяўленьнямі жыцьця чалавецкага грамадзтва, зьяўляюцца *рознымі формамі* гэтых праяўленьняў. Навукі жывуць і бесьперапынку зьмяняюцца, яны перажываюць эпохі росквіту і заняпаду, але, пры ўсіх сваіх зьменах, яны застаюцца самі сабою — навукамі — нечым па сутнасьці сваёй, што адрозьніваецца ад іншых зьявішч культуры, жывуць не аўтономна, але

ўсё такі сваім асаблівым жыцьцём. Філёзофія і ёсьць навука аб навуках, таксама, як ёсьць навука аб мастацтве, аб рэлігіі ды т. п.

Але кожная навука мае ў сабе, апроч об'екту свайго вывучэньня, цэлую сыстэму падыходаў да зьявішча, якое вывучаецца, спосабаў пазнаваньня, вывучэньня, карацей—мэтодаў. За дапамогай сваіх мэтодаў, гэтых *прыладаў пазнаньня,* навука разьбіраецца ў зьявішчах, адшуквае ўласьцівыя ім асаблівасьці, выкрывае законы іх існаваньня. Чым больш дасканалыя мэтоды, тым з большым посьпехам здолее выканаць свае задачы навука, тым больш поўна і дакладна яна ўладае зьявішчамі, якія вывучае. Мэтод для пазнаньня—тое самае, што прылады ў вытворчасьці.

Філёзофія прадстаўляе сабою *навуку аб мэтодах навук* (незалежна ад таго, якія іх об'екты), свайго роду тэхнолёгію пазнаньня. Патрэбна выразна ўсвоіць гэтае азначэньне філёзофіі, як мэтодолёгіі навук, бо магчымы і другія галіны ведаў, што таксама маюць сваім об'ектам навуку. Так соцыолёгія, тэорыя грамадзкага жыцьця, у ліку другіх прадметаў свайго вывучэньня мае і навукі. Соцыолёгія дасьлядуе навуку, а таксама тэхніку, мастацтва ды г. д., як элемэнты грамадзкага цэлага, высьвятляе ўмовы ўзьнікненьня навук і законы іх разьвіцьця ў межах соцыяльнай эволюцыі цалком, характар іх залежнасьці ад іншых грамадзкіх зьявішч і ўплыў на розныя бакі грамадзтва. Інакш кажучы соцыолёгія вывучае навуку, як функцыю і складаную частку грамадзкага цэлага, але не займаецца крытыкай, ацэнкай і ўдасканаленьнем мэтодаў навукі. Наадварот, і соцыолёгія, як адна з навук, пры вывучэньні зьявішч культуры *карыстаецца* тымі ці іншымі, больш або менш дасканалымі мэтодамі для пазнаньня гэтых зьявішч (культуры), і пазнае іх правільна ці няправільна ў *залежнасьці* ад мэтодаў дасьледзін, што ўжываюцца ёю. Гэткія, для непрызвычаенага розуму парадоксальныя, узаемаадносіны паміж філёзофіяй і соцыолёгіяй: філёзофія мае ў ліку сваіх об'ектаў соцыолёгію, якая разглядаецца з пункту погляду яе мэтоду, а соцыолёгія мае ў ліку сваіх об'ектаў філёзофію, якая разглядаецца, як адно з праяўленьняў грамадзкага жыцьця, як адна з навук. Такім чынам, навукі, будучы суб'ектам (тым, *хто* вывучае) з боку адносін да розных сфэр прыроды і грамадзтва, адначасна самі зьяўляюцца об'ектам (тым, *што* вывучаюць) з боку адносін да філёзофіі і соцыолёгіі. Пры гэтым, як мы бачылі, філёзофія разглядае навуку з пункту погляду распрацоўкі мэтоду, а соцыолёгія—ўзаемасувязі з грамадзтвам цалком. Якраз таксама, кожнае зьявішча, напрыклад, кніга, можа вывучацца адначасна зусім рознымі навукамі, а іменна: лінгвістыкай, тэорыяй літаратуры, гісторыяй кнігадруку і г. д., з розных пунктаў погляду.

Якія ўзаемаадносіны філёзофіі з іншымі навукамі? Яны павінны быць такія самыя, як і ў кожнае іншае навукі з сваімі об'ектамі. Навуковыя тэорыі не выцягаюць законаў з самых сябе, як павук свае ніткі, не загадваюць сваім об'ектам, як паводзіць сябе: соцыолёгія не дэкрэ-

туе грамадзтву яго законаў, а Дарвін не паказваў нашым падобным да малпаў продкам, калі і як ім зьмяніцца ў людзей. Навукі вынаходзяць тое, што ёсьць. Яны прыглядаюцца да рэчаіснасьці і навучаюцца ад яе. Не выдумляць, але выяўляць законы зьявішч, што дасьледуюцца — вось да чаго імкнецца кожная навука, павінна імкнуцца і філёзофія. Вось чаму мы ня прымаем зьверхнавуковай філёзофіі, як нейкай царыцы навук, якая з сваіх узвышшаў паказвае рэшце навук, што топчуцца каля яе ног, іх асноўныя прынцыпы, якая карае і мілуе іх дасягненьні. Філёзофія павінна вучыцца ад усіх іншых навук, дасьледаваць іх мэтоды, іх асаблівасьці, рэзультаты іх ужываньня, сьцепень прыдатнасьці і карыснасьці па даных гісторыі навук ды г. д. У гэтым сэнсе філёзофія—вучань іншых навук. Але пазнаючы мэтоды навукі, яна прадбачыць няўдачы ад карыстаньня няпрыдатнымі мэтодамі, асьцерагае ад іх, пераносіць мэтодолёгічныя дасягненьні з аднэй навукі ў другую, дапамагае іх далейшаму ўдасканаленьню і змагаецца з усім тым, што перашкаджае прогрэсу ведаў. У гэтым сэнсе філёзофія робіцца настаўнікам навук. Яна, як і ўсе іншыя навукі, па меры пазнаваньня зьявішч, што ёю вывучаюцца, імкнецца імі аўладаць, накіраваць у жаданым кірунку. Гэткі наш погляд на прадмет філёзофіі—аднэй з навук.

Але ці патрэбна такая навука? Ці ня лепей саўладаюць з сваімі мэтодамі паасобныя навукі? Якія-ж правы на існаваньне агульнай мэтодолёгіі навук (філёзофіі)?

Аднэй з падставаў зьяўляецца высокая сьцепень раздробленасьці навук. У зародкавым стане ўся навука цалкам была прыступна асобным мысьліцелям, але з яе ростам, з пашырэньнем яе кругавіду, ніхто ня можа вывучаць усё. У працэсе свайго разьвіцьця навука расчаплялася на мноства паасобных галін, кожная з якіх вывучае толькі абмежаваную групу зьявішч. Цяпер гэтае драбненьне (дыфэрэнцыяцыя) дасягла крайняй сьцепені. Кожны вучаны можа ахапіць нязначнае кола зьявішч і пасуваць яго вывучэньне, пакідаючы з боку ўсю бесканцовую рознастайнасьць сьвету. Адны вывучаюць рыб, другія—казюлек, ды і то спэцыялізуюцца на асобных групах іх, адны вывучаюць ангельскую літаратуру XVII в., другія—архітэктуру часоў фараонаў. Анатоль Франс вельмі трапна пісаў на гэты конт: „Калі крыху пазнаёмішся з вучанымі, заўважаеш, што гэта найменш цікавыя з людзей. Будучы некалькі гадоў таму назад у вадным вялікім эўропэйскім горадзе, у якім, я не скажу, я зайшоў у музэй прыродазнаўства ў таварыстве аднаго з даглядчыкаў, які вельмі ласкава апісваў мне акамянеласьці. Ён вельмі шмат расказаў мне аж з пліоцэнавага пэрыоду. Але, калі мы падышлі да першых сьлядоў чалавека, ён адхіліўся і адказаў на маё пытаньне, што гэта зусім не яго вітрына. Я зразумеў усю сваю няскромнасьць. Ня трэба пытаць вучаных аб сусьветных таямніцах, якія не знаходзяцца ў іх вітрынах. Гэта іх зусім ня цікавіць“. Але і тую абмежаваную групу зьявішч, якія знаходзяцца

ў „вітрыне“ данага вучанага, ніхто ня мае магчымасьці вывучыць з усіх бакоў. Адно і тое самае зьявішча патрэбна разглядаць з самых рознастайных бакоў, з розных пунктаў погляду, каб цалкам ахапіць прадмет. Уладзімер Ільліч Ленін, які ўмеў самыя складаныя думкі падаваць простай і зразумелай мовай (таму шмат якія „філёзофы“ лічаць яго слабым філёзофам), неяк тлумачыў гэта на прыкладзе простай шклянкі. Здаецца, простая рэч шклянка, а як шмат тых пунктаў погляду, з якіх яна можа разглядацца: яна і геомэтрычная фігура, і хэмічнае цела, і твор мастацтва, і начэньне для піцва, і тавар, і магчымае памяшканьне для злоўленага матылька (калі яе перакуліць) і г. д. і г. д., і з кожнага пункту погляду нас будуць цікавіць зусім іншыя ўласьцівасьці і асаблівасьці шклянкі. Калі так стаіць справа з такім простым прадметам, як шклянка, то якая-ж рознастайнасьць поглядаў магчыма на складаныя об'екты навукі, як грамадзтва, псыхіка і г. д. Вось гэтая няўхільная абмежаванасьць навук зьяўляецца аднэй з прычын, якая наможліва вымагае існаваньня агульнае мэтодолёгіі навук, для ўхіленьня таго, што вучаныя, зачыніўшыся ў сваёй спэцыяльнасьці, недаўлічаць дасягненьняў іншых галін ведаў, ухіляцца на няправільны аднабаковы шлях, адстануць ад мэтодолёгічных дасягненьняў свайго часу.

Але яшчэ важней тая акалічнасьць, што ідэёвая навуковая бесстароннасьць, непрадузятасьць—немагчымы. Як-бы вучаны ні стараўся не падыходзіць да зьявішч з прадузятымі тэорыямі, а вывучаць іх строга з практыкі, гэтае жаданьне ніколі не зьдзяйсьняльна. Ужо ад таго, як будзе пастаўлена задача, якія абраны мэтоды для вывучэньня, якія прыняты прынцыпы клясыфікацыі,—ад гэтага, у значнай сьцепені, залежыць вынік дасьледзін, іх рэзультаты. А задача-ж формулюецца, рабочыя гіпотэзы ўстанаўляюцца, мэтоды дасьледзін вызначаюцца, об'екты, што падлягаюць вывучэньню, выбіраюцца і клясыфікуюцца на падставе тых ці іншых азнак, *да таго*, як зьявішчы бесстароння вывучаны, кожны-ж вучаны не пачынае нанова ўсю навуку, а запазычае адыходныя палажэньні ў папярэднікаў ды ў іншых навук. Таму, правільна ня толькі тое, што як сьлед паставіць задачу значыць напалавіну разьвязаць яе, але і тое, што *так ці інакш* паставіць задачу, значыць так ці інакш разьвязаць яе. Вось чаму бесстароннасьць, незалежнасьць ад прадузятасьці тут толькі ўяўная, а сапраўды вучаны заўсёды хоцькі ці няхоцькі, стыхійна або сьвядома, у значнай меры прызначае вынік сваёй працы, карыстаючыся тымі ці іншымі набытымі налогамі думкі, агульнапрынятымі поглядамі, або выпадкова вывучанымі тэорыямі. Філёзофія імкнецца замест стыхійнай празначальнасьці пазнаньня, узброіць вучанага сьвядомым, асэнсоўным, найбольш дасканалым спосабам падысьці да зьявішч, якія падлягаюць вывучэньню. „Дасьлядоўцы прыроды выабражаюць, што яны вызваляюцца ад філёзофіі, калі ігноруюць або лаюць яе. Але з тае прычыны, што яны бяз мысьленьня ня могуць пасунуцца ні на крок, для мысьленьня-ж па-

трэбны лёгічныя азначэньні, а гэтыя азначэньні яны наможліва запазычаюць з хадзячага тэорытычнага здабытку так званых адукаваных людзей, над якімі пануюць астачы даўно мінулых філёзофскіх сыстэм, або з крошак канечных унівэрсытэцкіх курсаў па філёзофіі, або з някрытычнага і несыстэматычнага чытаньня ўсякага роду філёзофскіх твораў,— то ў выніку яны ўсё-ткі трапляюць у палон да філёзофіі, але, на жаль, у большасьці выпадкаў самай дрэннай; і вось людзі, якія асабліва шчыра лаюць філёзофію, робяцца нявольнікамі самых дрэнных філёзофскіх сыстэм" (Ф. Энгельс).

А якая гібель памылак хаваецца ў „паўзучым эмпірызьме", у сьляпым давер'і да непасрэдна-даных у нашай практыцы зьявішч. Сапраўды, крыніцай усяго, што мы ведаем, зьяўляюцца нашы пачуцьці, якія атрымліваюцца за дапамогай нашых органаў пачуцьця (аналізатараў). Гэта— адзіная крыніца вестак аб рэальным сьвеце. Але як мажлівы паказаньні гэтых сьведак, як абмежаваны іх паказаньні. У нас толькі пяць розных аналізатараў, кожны з якіх успрымае зьявішча пасвойму. Вуха—у форме гукаў, вока—у форме зрокавых успрыманьняў. Нам ня цяжка ўявіць сабе, як зьмяніліся-б нашы ўяўленьні, каб у нас ня было аднаго з гэтых органаў пачуцьця. Каб мы былі сьляпыя, як абяднелі-б нашыя веды аб сьвеце, з іх выпала-б вялізная галіна, цэлыя гамы адчуваньняў, фарбаў, формаў, прасторавых успрыманьняў. Але таксама можна выабразіць, што ў нас ёсьць шосты орган пачуцьця. Як пашыралася-б і ўдакладнілася-б тады нашае пазнаньне сьвету! Або, каб у нас былі іншыя органы пачуцьця, якія-б ўспрымалі-б зьявішча ў іншых, нязвычайных для нас формах, а не гукавых і зрокавых і г. д. Як зьмяніўся-б малюнак сьвету, які ўспрымаецца намі! Або зробім другое, куды менш фантастычнае дапушчэньне, што нашыя органы пачуцьця зрабіліся больш дасканалымі, што вуха чуе тоны ніжэй 12,35 хістаньняў у сэкунду і вышэй 45.056 хістаньняў, што вока зрабілася больш дасканалым у некалькі сот ці тысяч разоў. Увесь сьвет зьмяніўся-б: цяперашняя цішыня была-б запоўнена самымі рознастайнымі гукамі, у цяперашняй пустоце юшыліся-б мільёны жывёл і расьлін (у вадным-жа куб. мілім. вады знаходзіцца да 633 мільёнаў бактэрый)... Той сьвет, які *непасрэдна дан* у нашых адчуваньнях, вельмі вузкі і цесны, ён сьціснуты рамкамі абмежаванасьці нашых аналізатараў. А бач і да таго, як чалавецтва зразумела існаваньне бактэрыі, яны таксама існавалі, хоць і не маглі ўспрымацца і, існуючы, былі адным з агентаў, якія абумоўлівалі ход здарэньняў, і, зразумела, пакуль чалавек ня выходзіў за межы сваіх абмежаваных фізыолёгічных аналізатараў, ён ня мог правільна зразумець цэлы шэраг зьявішч, напрыклад, хваробаў, якія выклікаюцца пранікненьнем у організм бацыл, бо *для яго не існавалі* сапраўдныя ўзбуджальнікі хваробаў, з прычыны чаго тлумачэньне апошніх магло быць толькі памылковым, фантастычным. Або возьмем прыклад з псыхічнага жыцьця чалавека. Цяпер вядома, што псыхіч-

нае жыцьцё чалавека ня вычэрпваецца яго сьвядомым жыцьцём; апрача сьвядомага, ёсьць і несьвядомыя. Несьвядомыя пацягі і пабуджэньні робяць сваё ўзьдзеяньне на павядзеньне чалавека, зьмяняюць яго без таго, што чалавек усьвядомлівае гэтыя стымулы (рухавікі). Такім чынам, у сапраўднасьці павядзеньне чалавека складаецца зусім ня так, як гэта яму ўяўляецца з непасрэдна данай сьвядомасьці, і, пакладаючыся на свае суб'ектыўныя ўспрыйманьні, людзі маюць няправільныя веды аб сваіх уласных учынках. З гэтых прыкладаў мы бачым, як *абмежаванасьць ведаў* зьмяняецца ў *няведаньне*, у памылку.

Але і ў цесных рамках сваёй абмежаванасьці нашыя аналізатары не даюць дасканалых вестак аб сьвеце, яны даюць суб'ектыўныя, перакручаныя, а часта зусім памылковыя весткі. Адна і тая самая тэмпэратура сягоньня здаецца халоднай (рука цёплая), заўтра гарачай (рука халодная), роўналежныя лініі здаюцца няроўналежнымі (ілюзія Цэльнера), роўныя па даўжыні простыя здаюцца рознымі (ілюзія Мюлер-Ліера), зоркі выглядаюць меншымі, чым электрычныя лямпачкі, а сонца поўзаючым узад і наперад па небасхілу (які таксама толькі зрокавая ілюзія). Нам часта „здаецца“ тое, чаго няма, людзі бачуць міражы, здані, фантазыі прасякаюць у рэальнасьць і зьмешваюцца з ёю, часамі азначаюць усё павядзеньне і пагляды чалавека. У сапраўдным-жа сьвеце няма ні гукаў, ні фарбаў. Усім цяпер вядома, што ўсё гэта толькі пераломленыя ў псыхіцы адбіткі розных падобных да хваляў хістаньняў паветра і эфіру. Тое-ж, што намі ўспрымаецца, як фарба—ёсьць сапраўды даўжыня сьветавой хвалі, як яркасьць—энэргія яе хістаньня, як насычанасьць—складаная форма гэтай хвалі. Сучасныя даныя навук даюць нам аснову выказаць няпэўнасьць у правільнасьці расійскай пагаворкі: „не верь чужим речам, а верь своим очам“, бо і вачом цалком і някрытычна давярацца ня трэба. Такія даверчывыя адносіны да непасрэдна-данага ў адчуваньнях, пагляд на ўспрыманьні, як на дакладныя адбіткі сапраўднага сьвету, падобна добраму адбітку ў люстэрку—мае назву наіўнага рэалізму. Гэты пагляд уласьцівы ня толькі абывательскаму мысьленьню, але і некаторым вучоным, зьяўляецца поглядам няправільным, адсталым, выжытым дасягненьнямі сучаснай навукі і чалавецкай практыкі.

Але адчуваньні, якія мы ўспрыймаем, падпадаюць пад шматлікія далейшыя зьмены і перакручваньні ў нашай псыхіцы. У залежнасьці ад нашай практыкі, інтарэсаў, пачуцьцяў, увагі, мы розна ўспрыймаем зьявішчы і замацоўваем іх у памяці, новыя адчуваньні зьліваюцца з ранейшымі, асобныя рысы іх запамінаюцца, другія, наадварот, перавялічваюцца. Аднолькавыя раздражальнікі выклікаюць розныя ўспрыманьні ў залежнасьці ад стану нашага організму і псыхікі. Успрыманьні ператвараюцца ў памяці адпаведна сваёй каштоўнасьці, значэньню і інтарэсу для нас, часта на шкоду сапраўдным суадносінам рэчаў. Мы, наогул кажучы, схілены заўважваць і памятаць асабліва тое, што нам *трэба* заўважваць, абыякое

ці тое, што ў той або іншай меры парушае нашу ўнутраную гармонію, мы звычайна схілены запамінаць або зьменшваць. Часта вучоны схілен (мімаволі) яскрава ўспрымаць і моцна ўсвойваць факты, якія сьцьвярджаюць яго гіпотэзы і бывае непрабачна няўважлівы і лёгкамысны да фактаў, якія супярэчаць ім. Ёсьць рацыя ў кітайскай прыказцы, якая кажа, што „часта стук уласнага сэрца мы прымаем за хаду каня, на якім да нас едзе сябра“.

Сказанае аб суб‘ектывуючым уплыве псыхікі на яго ўспрыйманьні, можна было-б з адпаведнымі зьменамі паўтарыць і ў адносінах да наступнай ступені фармаваньня пазнаньня—да лёгічнага процэсу, суджэньняў і заключэньняў. Хоць, як зазначылі, людзі ў сапраўднасьці ніколі ня кіруюцца ў сваіх суджэньнях аднэй лёгікай, апошняя-ж заўсёды падлягае капрыснай біолёгічнай і соцыяльнай „лёгіцы“, лёгіцы жывой істоты з яе інтарэсамі ды імкненьнямі, але і элемэнтарная школьная (фармальная) лёгіка асьцерагае нас ад шматлікіх памылак, якія часта маюць месца пры апрацоўцы розумам практычных даных і фармаваньні так званых вывадаў. Гэткія, напрыклад, што часта сустракаюцца, памылкі, мысьленьні, якія называюцца petitio principii u ignoratio elenchi. Першае складаецца з таго, што самі таго не заўважваючы карыстаюцца недаведзенай пасылкай, якая ўжо мае ў сабе палажэньне, што вымагае довадаў. Ignoratio elenchi прадстаўляе сабою нібы сапраўдны довад, калі, звычайна складаная, аргумэнтацыя зусім не даводзіць таго, што трэба, але адцягвае ад тэмы падобнымі і зьвязанымі палажэньнямі. Разумеецца, вышэйшая (дыялектычная) лёгіка вымагае яшчэ большага ўдасканаленьня мысьленьня і асьцерагае ад тых абмежаванасьцяй і памылак мысьленьня, якія ня грэшаць супроць вымаганьняў элемэнтарнай лёгікі. Да больш грунтоўнага разгляду гэтага пытаньня мы, аднак, яшчэ вернемся ў далейшым выкладаньні.

Але, апрача ўсіх гэтых прычын, што дапамагаюць перакручваньню нашых вестак аб сьвеце, ёсьць і шмат соцыяльных прычын, якія відазьмяняюць і празначаюць нашыя думкі. Аб гэтых соцыяльных абэрацыях (перакручваньнях), якія іграюць выключна выдатную ролю ў процэсе фармаваньня навук, мы цяпер і будзем казаць. Усім вядома, што погляды, імкненьні капіталістых адрозьніваюцца, а часта і зусім супроцьлеглы, поглядам рабочых. Прыгоннаму і абшарніку ўвесь сьвет прадстаўляецца ў розным сьвеце, яны розна адносяцца да адных і тых самых зьявішч. Эўропэйскімі генэраламі — усьміральнікамі колёніяльных паўстаньняў—і дзеячамі тубыльнай компартыі здарэньні, якія адбываюцца, успрымаюцца і ацэньваюцца зусім не аднолькава. „Двое пазіраюць у вакно: адзін бачыць зоры, другі—брудную лужыну“. Але, калі погляды розных кляс грамадзтва розныя, то відочна, сярод іх павінны быць сапраўдныя, што адпавядаюць рэчаіснасьці, і памылковыя, абумоўленыя асаблівасьці клясавага становішча. Сапраўды, розьніца паміж поглядамі людзей ня вычэрпваецца розьніцай іх фізыолёгічных асаблівасьцяй і разумовых здольнасьцяй.

Прыналежнасьць да тэй ці іншай гістарычнай эпохі таго ці іншага краю, пэўнай грамадзкай клясы і нават асаблівасьці профэсыі,—усё гэта шляхам інтарэсаў данай грамадзкай групы, традыцыі, выхаваньня, умоў існаваньня абумоўлівае рознае ўспрыйманьне акружаючага і неаднолькавыя адносіны да яго. Гэта зусім ня значыць, што кожны вучоны знарок дастасоўвае свае погляды да інтарэсаў сваёй клясы. Зусім не. Ен можа са шчырай бесстароннасьцю шукаць ісьціну,—кола яго ўяўленьняў, адыходныя прадпасылкі яго шуканьняў, стымулы да дасьледзін—заўчасна вызначаны яго грамадзкім быцьцём і, у сваю чаргу, у значнай ступені вызначаюць вынікі яго дасьледзін. Але, апрача соцыяльна-псыхолёгічных прычын, што накіроўваюць пазнаньне, гісторыя навукі ведае і шматлікія выпадкі простай залежнасьці лёсу вынайдзеньняў і іх уплыву на наступную навуку ад інтарэсаў пануючай клясы. Ціск і аўто-да-фэ па адносінах да адных вучоных, протэктарства другім,—не маглі быць абыякімі для гісторыі навук. Вядомыя прыклады, калі выдатны мысьліцель 17 сталецьця Рэнэ Дэкарт адмовіўся агаласіць свае погляды на вярчэньне зямлі, баючыся ціску цэрквы. А з юнацкіх заметак філёзофа Бэрклі відаць, што ён стварыў сваю навуку сьвядома, кіруючыся жаданьнем падсеч бязбожніцтва, якое падымала галаву. І хіба цьвярозае, непрадузятае вывучэньне здарэньняў давала натхненьне мноству аўтараў да апублікаваньня „вучоных“ твораў, якія брэшуць на Савецкую Расію нават пры дапамозе матэматычных вылічэньняў і якія прарокуюць яе гібель, а незаўзятая клясавая ненавісьць да перамогшага пролетарыяту? А чым, як ня боязьню рэволюцыі прадыктаваны бесканцовыя працы рэформістых?

Але зьвернемся да соцыяльных фактараў, якія абумоўліваюць несьвядомыя абэрацыі пазнаньня. Кароль Маркс выкрыў у сваіх несьмяротных экономічных дасьледзінах характэрную для капіталістычнага грамадзтва абэрацыю, названую ім фэтышызмам. Паводле гэтай навукі капіталістычная пабудова грамадзтва хавае ад людзей свае ісьцінныя ўласьцівасьці і перакручвае ў сьвядомасьці людзей адносіны, якія сапраўды існуюць, нараджае памылковае перакручанае ўспрыйманьне. Так, каштоўнасьць тавараў, якая зьяўляецца ў рачаіснасьці пэўнымі адносінамі паміж людзьмі, што ствараюцца ў процэсе працы, набывае фантастычную форму ўласьцівасьці самых рэчаў, што прадаюцца на рынку. Або грошы, што прыносяць проценты, здаюцца здольнымі выседжваць грошы, як квактуха куранят, у той час, калі сапраўднай схаванай прычынай іх росту зьяўляецца дзяльба прыбыткам, створаным рабочай працай. Такім чынам, нашы прадстаўленьні пераламляюцца цераз прызму грамадзкай структуры, да якой мы належым, і нашай псыхікі, абумоўленай клясавым становішчам. Прычым, пераломліваючыся, зьявішчы прадстаўляюцца нам часта зусім іншым, чым яны ёсьць у сапраўднасьці, ў перакручаным, нават у перакуленым выглядзе.

Мы даволі доўга прыпыніліся на адвяржэньні грубога эмпірызму (практыкаванасьці), сьляпога давер'я да непасрэдна-данага ў нашых

усприйманьнях зусім не для таго, каб прысьці да сумных вынікаў аб бясьсільлі навукі. Мы высьвятлялі памылковасьць наіўнага рэалізму, памылковасьць нашых уяўленьняў, недазвольнасьць някрытычных да іх адносін для таго, каб чытачу зрабілася яснай патрэбнасьць для кожнага вучонага быць добра ўзброеным мэтодолёгіяй, каб бясьпечна праходзіць скрозь небясьпекі, якія вартуюць яго на кожным кроку дасьледзін. Ня бачыць гэтыя небясьпекі—значыць няўхільна зрабіцца іх ахвярай. Філёзофія імкнецца да выпрацоўкі мэтодаў, спосабаў пазнаньня, якія ўхіляюць або асільваюць небясьпеку прыняць цьмяныя і пакрыўленыя цені зьявішчаў за дакладныя адбіткі рачаіснага сьвету; толькі па меры ўдакладненьня мэтодаў пазнаньня мы здольны ўсё глыбей прасякаць у таямніцы быцьця. Небясьпека памылковых паказаньняў сьведак прымушае не адмаўляцца ад іх, а толькі крытычна да іх адносіцца, параўноўваць іх з іншымі данымі, адшукваць у іх зярняты ісьціны сярод плевел маны. Веды ўзьнікаюць з рацыянальнай апрацоўкі (апрацоўкі розумам) даных у чалавецкай практыцы ўспрыйманьняў. Калі органы, якія ўспрыймаюць, фальшуюць—задача навукі або ўдасканаліць іх (да гэтага вядзе прогрэс навуковай тэхнікі), або асьвядоміць межы іх пэўнасьці і сутнасьць перакручваньняў, што імі ўносяцца. Калі розум схілен да памылак, патрэбна іх устанавіць, выкрыць і знайсьці шляхі да іх выкрываньня і асіленьня. Тое самае адносіцца і да соцыяльнай абумоўленасьці нашай псыхікі. Ня скэпсыс, не няплоднасьць адшуканьня адзінай ісьціны вынікае з гэтай навукі, а патрэбнасьць крытыкі пазнаньня і, з гэтага пункту погляду, выяўленьня характару абумоўленасьці і перакручваньня сьвядомасьці пэўным грамадзкім быцьцём. Бач сказаным яшчэ не вырашаецца пытаньне аб тым, *ці ўсякае* соцыяльнае быцьцё формуе *перакручаную* сьвядомасьць. Ці няма такой грамадзкай позыцыі, з якой рачаіснасьць прадстаўляецца ў яе сапраўдным сьвеце? Вырашэньне гэтых пытаньняў, мэтодолёгічная крытыка навуковых даных, імкненьне да максымальнай дасканаласьці пазнаньня і вызваленьня яго ад ілюзій ды абэрацый—гэткая асноўная задача філёзофіі.

Роданачальнік навуковай філёзофіі новага часу, выдатны мысьліцель 17 сталецьця, Фрэнсіс Бэкон меў рацыю, калі наступным чынам характарызаваў адносіны паміж данымі практыкі і рацыянальнай апрацоўкай іх: „Філёзофы, што прысьвецілі сябе дасьледзінам навук, дзеляцца на дзьве клясы. Эмпірык, падобна мурашу, задавальняецца зьбіраньнем і потым спажываньнем сваіх запасаў. Догматык, падобна павуку, раскідае сеткі, выцягваючы матэрыял для іх з самога сябе. Пчала трымаецца сярэдзіны: яна атрымлівае першы матэрыял з палявых і садовых кветак, потым уласьцівым ёй мастацтвам яна перарабляе яго. Нешта падобнае робіць і ісьцінная філёзофія: яна не пакладаецца ні цалком, ні нават, галоўным чынам, на натуральныя сілы чалавецкага розуму, і матэрыялы, якія бяруцца ёю з натуральнай гісторыі, яна ня кідае ў памяці

ў тым выглядзе, у якім яна ўзяла іх з гэтых двох крыніц, але складае іх у правільныя запасы, таксама папярэдня перапрацаваўшы і пераварыўшы іх. Таму галоўная падмога, на якую мы павінны пакладаць усе нашы надзеі, гэта цесны саюз паміж гэтымі двума здольнасьцямі: эмпірычнаю і разумовай, саюз, які да гэтых часоў яшчэ ня быў зложан".

Не бясплодны рэакцыйны скэптыцызм, а творчы мэтодолёгічны крытыцызм—вось да чаго кліча філёзофія.

Важна ўсвоіць, што мэтоды навукі могуць выпрацоўвацца, правярацца, удасканаляцца толькі ў навуковай практыцы, у сваім ужываньні да фактаў, якія дасьлядуюцца. Труднасьці дасьледзін штурхаюць да выпрацоўкі адпаведных мэтодаў для іх асіленьня, папярэдняя практыка дае мэтодолёгічныя лекцыі для наступнага. Мэтодам патрэбна дастасоўвацца к даным практыкі, к яе вымаганьням, падбіраючы к кожнай яе ня выкрытай таямніцы адпаведныя ключы. Сапраўды, мэтоды не зьяўляюцца самамэтай, яны распрацоўваюцца не дзеля самых сябе, а як сродак, як прылада для больш поўнага і дасканалага ауладаньня зьявішчамі прыроды і грамадзкага жыцьця. Натуральна таму, што мэтоды павінны выпрацоўвацца не ў адрыве, *незалежна* ад усёй навуковай практыкі, а *на аснове* гэтай практыкі. Сродкі павінны дастасоўвацца адпаведна тым мэтам, якім яны служаць; прылады, што выраблюцца без падліку асаблівасьцяй матэрыялу, да якога яны павінны быць ужыты,—нягодныя, нікчэмныя прылады. Якраз таксама нікчэмная і мэтодолёгія, якая цалком ня грунтуецца на ўласьцівасьцях і асаблівасьцях, уласьлівых тым об'ектам пазнаньня, да якіх ёй трэба будзе дастасоўвацца. Як пры распрацоўцы каменнавугальных капальняў патрэбна ў расплянаваньні падземных шляхаў і ходаў адыходзіць ад пазнаньня глебы і разьмеркаваньня пластоў, а не ад абстрактных геомэтрычных конструкцый, так і карысная распрацоўка схаваных ад нас таямніц прыроды магчыма не тады, калі мы будзем уносіць у іх вывучэньне выдуманыя, адвольныя мэтоды, будзем спрабаваць улажыць прыроду ў чужыя для яе схэмы, а толькі тады, калі мы гэтыя мэтоды будзем ствараць у процэсе жывых зносін з зьявішчам, што вывучаем, правяраць, у якой меры яны адпавядаюць спосабам праяўленьня самой рачаіснасьці. Нельга мераць нязьмернае, важыць тое, што ня мае вагі. Трэба мерыць прыроду ўласьцівымі ёй самой мерамі, а не адвольным сваім аршынам. Трэба пазіраць на сьвет такімі вачыма, перад якімі сьвет прадстаўляўся-б такім, якім ён ёсьць у рачаіснасьці, сам па сабе. Гэта значыць, што ўдасканаленьне нашага падыходу да вывучэньня сьвету павінна складацца з *прывядзеньня ў найбольшую адпаведнасьць лёгікі пазнаваньня з лёгікай пазнаваемых рэчаў*. А гэта магчыма, калі мэтодолёгія будзе непарыўна з навуковай практыкай, і накіроўваць апошнюю толькі ў тэй меры, у якой сама будзе стварацца ёю (навуковай практыкай). Калі няма прогрэсу эмпірычных навук без

прогрэсу іх мэтодолёгій, то і, наадварот,—прогрэс мэтодолёгіі немагчым па-за прасякненьня ў прыроду рэчаў. Такім чынам, мэтоды знаходзяцца, ў самай цеснай залежнасьці ад об'ектаў, да якіх яны ўжываюцца. Формамі у якіх *праяўляюць сябе об'екты*, азначаюцца і формы пазнаньня, *з якімі да іх трэба падыходзіць*. Вобразна кажучы, для разуменьня зьявішчаў прыроды патрэбна навучыцца ўладаць іх мовай. Формы пазнаньня, мэтоды, ня ёсьць *знадворныя* па адносінах да формаў існаваньня, а *самыя* формы існаваньня, *усьвядомленыя* чалавецкім розумам; іншымі словамі, мэтоды ёсьць утвораныя розумам, як *часткай існуючага*, сапраўдныя формы або прынцыпы існаваньня цэлага.

Да чаго імкнецца кожная навука? Пазнаць уласьцівасьці рэчаў, сілы, што рухаюць іх, законы, паводле якіх яны адбываюцца. Сьвет такі рознастайны. У ім няма двух зусім тожсамых зьявішчаў: няма двух абсолютна аднолькавых людзей, дзяржаў, хвароб. Пры такой рознастайнасьці ці мысьліма пазнаньне ўсяго сьвету? Ці ня прыходзіцца кожнае асобнае зьявішча вывучаць нанова? Не, зразумела, справа стаіць зусім ня так. У рознастайнасьці зьявішчаў, якія наглядаюцца, мы знаходзім агульныя ўласьцівасьці, аднастайнасьці. Мы выяўляем падабенства самых розных зьявішчаў, выкрываем агульныя для іх законы, формы іх існаваньня. Што здавалася-б агульнага паміж крапівою, дыназаўрам і шчупаком? А тым часам біолёгія нас навучае, што ўсе гэтыя тры віды падпарадкаваны эволюцыі па тым самым прынцыпе натуральнага адбору; біолёгічная хэмія навучае, што ўсе яны зьяўляюцца формамі існаваньня бялковых цел, генэтыка (навука аб насьледственасьці) выкрыла агульныя для іх законы насьледственнасьці і г. д. і г. д. Кожны навуковы закон ахоплівае вялізнае кола зьявішчаў, выкрываючы аднастайнасьць у бесканцовай рознастайнасьці сусьвету.

Філёзофія не адрозьніваецца ў гэтых адносінах ад іншых навук. Ей таксама ўласьціва гэтая здольнасьць да сынтэзу (абагуленьня). Ня гледзячы на нібыта рознастайнасьці навук ды іх мэтодаў, яна выкрывае агульныя для кожнага навуковага пазнаньня (да чаго яна ні адносілася-б) прынцыпы, яна выкрывае адзінства ў стракатасьці, што здаецца, навуковых мэтодаў. Філёзофія выяўляе, што шматлікія мэтоды, якія ўжываюцца асобнымі галінамі ведаў, ёсьць толькі варыяцыі агульных адзіных формаў навуковага пазнаньня. Філёзофія ня ёсьць толькі сума паасобных мэтодолёгій асобных навук, але агульная мэтодолёгія навукі, сынтэтычная навука аб прынцыпах кожнага навуковага мысьленьня. Аднак, і асобныя навукі ў сваім разьвіцьці прымушаюць перакідаць масты ад аднае да другой, расчыняцца адна ў адной ды г. д., бо складанае адзінства прыроды не ўкладаецца ў рамкі ўмоўнага разьмежаваньня асобных навук. Узьнікае фізычная хэмія, фізыолёгічная псыхолёгія, соцыяльная псыхолёгія, біохэмія, статыстычная мэханіка і г. д. Цьвёрдыя межы асобных акасьцянелых дысцыплін хістаюцца, перакройваюцца, мэтодолё-

гічна зьбліжаюцца і зрастаюцца. Выражальнікам адзінства навукі, адпаведна рэальнаму адзінству прыроды, ня гледзячы на вялікую align рознастайнасьць об'ектаў вывучэньня і спэцыфічных асаблівасьцяй асобных галін ведаў, зьяўляецца мэтод—жывая душа навукі.

Наконт сказанага патрэбна зрабіць, між іншым, дзьве заўвагі: першая—наконт таго, што, адзначаючы сынтэтычную ролю навукі, ня трэба запамінаць, што гэта толькі адзін бок пытаньня. Сынтэз ня вычэрпвае задач навукі. Апроч яго пазнаньне аналізуе, разьдзяляе, разлучае зьявішча. Сынтэз і аналіз не выключаюць адзін аднаго. Для абагульненьня зьявішчаў патрэбна іх разьдзяленьне, вылучэньне з іх розных бакоў і ўласьцівасьцяй, аддзяленьне істотнага ад другараднага і выпадковага і т. п. Далей, абагульненьнем справа не абмяжоўваецца, бо пасьля выкананьня гэтай задачы ўзьнікае патрэбнасьць падліку магчымых варыяцый і рознастайнасьці ў межах данага адзінства, устанаўленьне законаў самога вар'яваньня. Апроч таго, навука, вывучыўшы адзінства рэчаў, імкнецца ўжыць свае веды да паасобных конкрэтных рэчаў у іх індывідуальнай розьніцы. Ва ўсіх гэтых выпадках аналіз і сынтэз складаюць два непарыўныя бакі мэтодолёгіі. Дастасоўна да філёзофіі гэта значыць, што, побач з зацьвярджэньнем адзінства мэтодолёгіі, філёзофія дасьледуе і спэцыфічныя асаблівасьці паасобных навук у межах гэтага адзінства ды імкнецца да конкрэтызацыі дасканалых навуковых мэтодаў дастасоўна к індывідуальным умовам паасобных навук.

Другая заўвага тычыцца разуменьня абагульненьня. Пры жаданьні можна абагульніць усё—што хаця, з усім—чым хаця. Трэба адрозьніваць *аб'яднаньне* па формальнай выпадковай азнацы і выяўленьне *рэальнага адзінства*, уласьцівага рэчам самым па сабе. Ад таго, паводле выразу Энгельса, што мы аб'яднаем каня і шчотку для падлогі агульным паняцьцем „сысуны", у вапошняй ня вырастуць малачарныя залозы. Абагульненьне ня ў тым, каб уціснуць групу рознастайных па сутнасьці зьявішчаў у штучную адвольную лёгічную схэму, а ў тым, каб утварыць агульныя разуменьні і азначэньні, якія выражаюць сапраўднае адзінства *існуючага*. Я абмяжоўваюся пакуль што гэтымі заўвагамі, бо да закранутых імі проблем нам прыдзецца яшчэ зьвярнуцца ў другой сувязі.

Высьвятляючы ролю мэтодаў у навуцы, мы бачылі, што вынік пазнаньня папераджаецца тэй мэтодолёгіяй, якой карыстаецца мысьліцель. У залежнасьці ад таго, які эмпірычны матэрыял бярэцца вучоным, якія выходныя пункты погляду на даны матэрыял, якія мэтоды яго рацыянальнай апрацоўкі і крытэрыі (меркі) яго ісьцінасьці,—азначаецца зьмест атрыманай тэорыі. Сумеснасьць тэорый, ідэй, паняцьцяў, ацэнак, пераконаньняў і імкненьняў данае асобы, партыі ці школы называецца сьветаразуменьнем, або сьветапоглядам. Такім чынам, з сказанага выходзіць, што сьветаразуменьне, як вынік, *рэзультат* пазнаньня, азначаецца мэтодолёгіяй, што ляжыць у яго аснове, г. зн. *мэтодамі* пазнаньня, усё роўна сьвядома

ці несьвядома яны ўжываюцца. Мы пакідаем тут збоку пытаньне аб прычынах таго, *чаму* людзі карыстаюцца рознымі мэтодамі пазнаваньня,— гэтае пытаньне разьвязвае соцыолёгія і соцыяльная псыхолёгія,—а зварачаем увагу на ролю філёзофіі ў формаваньні сьветапогляду, абмаўляючыся, што гэты падзел умоўны, абмежаваны, бо ў сапраўднасьці нельга адгарадзіць кітайскаю сьцяною мэтоды пазнаньня ад яе вынікаў, адыходныя пункты дасьледзін ад традыцыйных сьветапоглядаў. Навука—жывы процэс узаемапранікненьня абодвух гэтых зьвеньняў: пазнаваньня і пазнаньня. Неўпарадкаваная сумеснасьць, мноства вестак аб сьвеце, сума даных розных навук—яшчэ ня ёсьць сьветаразуменьне, як куча касьцей ня ёсьць шкілет. Шкілетам яе робіць пэўны парадак разьмяшчэньня касьцей, які зьмяняе яе з сумы касьцей у іх сыстэму, якая называецца шкілетам. Той ці іншы мэтод, які пранізвае featuresрознастайныя фактычная даныя, зьяўляецца нібы восьсю адзінства сьветапогляду, *суму* ведаў зьмяняе ў адзіную *сыстэму* ведаў, у цэльнае навуковае сьветаразуменьне.

## 2. Дыялектычны матэрыялізм

Таксама як ёсьць эўклідава і неэўклідавы геомэтрыі, розныя тэорыі сьвету, дарвініцкая і віталістычная біолёгіі, ёсьць і розныя філёзофскія навукі, розныя сыстэмы мэтодолёгіі. Гэткі эмпірыокрытыцызм, прагматызм, кантыянства ды г. д. Дыялектычны матэрыялізм ёсьць адна з філёзофскіх навук, адна з сыстэм навуковых мэтодолёгій.

З пададнага ў папярэднім разьдзеле павінна быць зразумела, што розьніца і супярэчнасьць цячэньняў унутры асобных навук ёсьць у значнай меры вынікі ўжываньня да фактаў розных мэтодолёгій. Такім чынам, розьніца біолёгічных, соцыолёгічных і г. д. тэорый у значнай меры знаходзіцца ў розьніцы мэтодолёгій, што ляжыць у іх аснове, і іх філёзофскіх прадпасылак. Той сьветапогляд, які прадвырашаецца паступовым карыстаньнем дыялектычна-матэрыялістычнай мэтодолёгіі ёсьць навуковы комунізм, або рэволюцыйны марксызм. Усе далейшыя разьдзелы будуць прысьвечаны выкладаньню асноўных палажэньняў гэтай мэтодолёгіі, якую мы, дыялектычныя матэрыялістыя, лічым адзіна правільнай, і крытыцы супроцьлеглых поглядаў. Знаёмячыся з марксыцкай філёзофіяй, чытач пераканаецца ў тым, якой высокай мэтодолёгічнай дасканаласьці дасягла сучасная навука ў барацьбе за пазнаньне і аўладаньне сьветам.

Зразумела, дыялектычны матэрыялізм, сучасная навуковая філёзофія, узьнік не як гром сярод яснага неба, а стаў магчымым дзякуючы ўсяму папярэдняму шматвяковаму разьвіцьцю навук. Ён увабраў і зьліў у вышэйшым адзінстве ўсе іх дасягненьні, адкінуў іх памылкі і ўнёс у скарбніцу навукі шэраг новых дасягненьняў. Філёзофія, як яе абаснавалі Маркс і Энгельс, зьяўляецца, з аднаго боку (з боку дыялектыкі), наступніцай разьвіцьця клясычнай філёзофіі: Канта, Фіхтэ і Гегеля, дасягшай у васобе апошняга свайго вышэйшага росквіту. З другога боку (з боку

матэрыялізму)—марксызм увабраў цераз Фэйербаха рацыянальнае ядро навукі Сьпінозы і францускіх матэрыялістых XVIII сталецьця: Гельбаха, Гэльвэцыя, Дзідро і Лямэтры, ніці навукі якіх цягнуцца, паперш, цераз Лёкка да вялікіх ангельцаў Гобса і Бэкона, і, падругое, да Дэкарта. Але самай вялікай заслугай творцаў марксызму было вынайдзеньне імі грамадзкага жыцьця для навукі. Толькі пасьля іх грамадзтва зьявілася об'ектам зусім навуковага пазнаньня, якое кіруецца тымі самымі мэтодолёгічнымі прынцыпамі, як і вывучэньне прыроды. У гэтай частцы марксызм геніяльна выгадаваў зерняты, пасеяныя ў навуках францускіх гісторыкаў—Гізо, Тьеры і Міньe, вялікіх соцыялістых-утопістых Оуэна, Сэн-Сымона, Фур'е ды інш. і клясычных ангельскіх экономістых, Сміта, Рикардо і г. д. Нам прыходзіцца абмежавацца пералічэньнем імён, якое мала гаворыць непадрыхтаванаму чытачу. Каб ведаць, што іменна і як запазычылі перетварылі Маркс і Энгельс у сваіх папярэднікаў, патрэбна вывучэньне *гісторыі і філёзофіі*, да якой мы раім перайсьці *пасьля* вывучэньня *ўводзінаў у філёзофію*, што імкнецца даць некаторы крытэрый, компас для падарожніцтва па лябірынту філёзофскіх сыстэм.

Зразумела, на Марксе разьвіцьцё навук не прыпынілася. З цягам часу паглыбляецца і ўдасканаляецца наша навуковая філёзофія, і шмат чаго, што для яе творцаў Маркса і Энгельса было толькі сьмелай гіпотэзай, адважным празнаньнем, цьмянай здагадкай, цяпер зрабілася неадымным заваяваньнем навукі, трамплінам для новых перамог.

Але ў асобе марксызму струмень навукі ня толькі ўвабраў у сябе ручаі і прытокі папярэдніх і сучасных ведаў, але, увабраўшы іх, струмень навукі робіць круты паварот і імчыцца па новым рэчышчы. Дыялектычны матэрыялізм, у розьніцу ад усяе рэшты філёзофскіх навук, ёсьць філёзофія пролетарыяту, якая ня мысьліцца па-за ім і якая дапамагае яго барацьбе. Ня ў тым сэнсе марксызм называюць філёзофіяй пролетарыяту, што стварыцелямі яго былі пролетары, а ў тым, што прыйсьці да такіх поглядаў можна было-б толькі глянуўшы на сьвет з *пункту погляду* сучаснага пролетарыяту. Тое, што было незразумела і супярэчна з звычайнага для філёзофіі буржуазнага пункту погляду, праясьнілася, будучы разгледжана пад новым аспэктам, не засланым туманом соцыяльных абэрацый. Зразумела, такі пункт погляду дапушчае высокае соцыяльна-экономічнае разьвіцьцё, рост індустрыяльнага пролетарыяту, агаленьне клясавых супярэчнасьцяй і формаваньне клясавай рабочай самасьвядомасьці. Марксызм зьяўляецца соцыяльным продуктам сучаснага Марксу росквіту ангельскага капіталізму масавых рабочых рухаў (чартызм) і хвалі рэволюцыі 1830, 1848 і 1871 г.г. Маркс і Энгельс выканалі задачу аформленьня поглядаў новай насьпелай клясы. Марксыцкая мэтодолёгія і комуністычны сьветапогляд, успрыняты сучасным пролетарыятам, як геніяльнае выражэньне яго ўласных поглядаў. Такі генэзіс дыялектычнага матэрыялізму. Як пролетарыят закончвае клясавую гісторыю чалавецтва

і пачынае новую фазу гісторыі, так і марксызм завяршае навуковыя дасягненьні папярэдняй цывілізацыі і кладзецца ў аснову наступаючай соцыялістычнай культуры.

Пераварот у навуцы, зроблены Марксам, зусім справядліва параўноўваюць з эпохамі Копэрніка і Дарвіна. Якраз таксама, як Копэрніку ўсе заблытаньныя і незразумелыя плянэтныя орбіты зрабіліся зразумелымі, калі ён паглядзеў на іх ня з пункту погляду зямлі (геоцэнтрычная сыстэма), як рабілі да яго, а з пункту погляду сонца (геліоцэнтрычная сыстэма), таксама і вынайдзеньне Маркса зрабілася магчымым толькі тады, калі ён глянуў на сьвет ня з пункту погляду пануючай клясы, а з пункту погляду сучаснага пролетарыяту.

# ЧОРНЫЯ*)

## Л. Каган

### II

Цяпер аб нэграх у Амэрыцы. Першы раз у Амэрыцы нэгры зьявіліся каля 300 гадоў таму назад. Гэта былі закантрактаваныя чорныя працаўнікі, першая партыя якіх прыбыла ў Новы Сьвет у 1619 г. Адначасна прывезены былі тады і белыя закантрактаваныя рабочыя з Шотляндыі, Нямеччыны, Ангельшчыны, з прычыны чаго першы час становішча чорных рабочых было такое-ж, як і белых. Але закон 1640 г. робіць тэрмін працы нэграў на ўсё жыцьцё, а закон 1662 г.—няволю маткі-нэгрыцянкі спадчыннай для дзяцей. Гэты-ж закон абвяшчае і шэраг іншых абмежаваньняў у правох для нэграў. Пачынаецца змрочная эпопэя нявольніцтва чорных у Амэрыцы, якая цягнулася звыш двух вякоў. Прычына нявольніцтва, вядома, экономічная: вынаходка залатых пяскоў на Кубе, патрэбнасьць эксплёатацыі іншых вялізарных багацьцяў, якія белыя паступова вынаходзілі ў Амэрыцы,— усё гэта выклікала запыт на рабочага-нэгра, і гандляры нявольнікамі сотнямі тысяч перакідалі гэты тавар за акіян. Што больш за ўсё абурае, дык гэта, апрача ўсяго іншага, самая тэхніка дастаўкі чорных нявольнікаў: імі, як мёртвым грузам, біткам набівалі трумы караблёў і везьлі так, амаль зусім ня кормячы ў дарозе. Маткі вар'яцелі, гледзячы на дзяцей, якія паміралі з голаду, здаралася, што галодныя нэгры нападалі адзін на другога, было тое, што елі трупы. Сьмертнасьць сярод нэграў у дарозе была вялізарная, яшчэ больш вымірала іх з прычыны вельмі цяжкіх умоў працы ў Новым Сьвеце. Так—у 1690 г. на Ямайцы было 40 т. нэграў-нявольнікаў. З 1690 г. да 1820 г. сюды прывезьлі яшчэ 800 т. нявольнікаў. А жыла на гэтай высьпе ў 1820 г. ўсяго 340 тысяч нявольнікаў.

Выбухнула рэволюцыя 1776 г., якая абвясьціла, што „ўсе людзі ад нараджэньня роўныя і вольныя, з аднальковымі правамі на жыцьцё, волю ды імкненьне да шчасьця“. Але становішча нэграў пасьля рэволюцыі нікольк не палепшылася. Узьніклі, праўда, размовы аб тым, каб забараніць гандаль нявольнікамі, аб волі і для чорнаскурых. Тады штаты Гэоргія, Паўн. і Паўдн. Караліны адмовіліся ўвайсьці ў саюз, пакуль

*) Гл. „Полымя“ № 6.

констытуцыя не санкцыянуе Status quo для нэграў, і дамагліся свайго. Больш таго—з моманту ўтварэньня Саюзу гандаль нявольнікамі ўзрос яшчэ больш; з 40 т. нявольнікаў у 1820 г. ён дайшоў да 200 т. у 1857 г.

Становішча нэграў у той час, як ня трэба лепш, характарызуецца ўхваленым у Мэрылэндзе ў 1729 годзе законам, які прадуглядаў, што „злоўленаму нэгру-ўцекачу будзе спачатку адсечана рука, потым ён будзе павешаны звычайным спосабам, а пасьля гэтага галава будзе адсечана, цела чацьвертавана, і ўсё гэта публічна выстаўлена ў тым раёне, дзе адбылося злачынства“.

З 1832 г. нэгры страцілі права, каб іх судзілі звычайным судом, выключаючы тыя выпадкі, калі злачынства павінна быць пакарана сьмерцю. У тым-жа годзе быў выданы закон, які забараняў нэграм вучыцца і за парушэньне гэтага закону вінаватага каралі 39 ударамі бізуноў. Характэрна адкрыта-цынічная формулёўка гэтага выдатнага закону: „Навучаньне нявольнікаў чытаць і пісаць вядзе да ўзбуджэньня ў іх нездавальненьня і дапамагае бунтам і паўстаньням. Таму трэба яго катэгорычна забараніць“. Сьцеражлівасьць не дарэмная: хоць белыя амэрыканцы і стварылі тэорыю, паводле якой у нэграў у выніку двухвяковага нявольніцкага становішча і характар выпрацаваўся нявольніцкі, аднак, факты кажуць супраціўнае. Першае паўстаньне нэграў адбылося яшчэ ў 1626 г. ў Паўднёвай Караліне (сучаснай, вядома). Потым вельмі сур'ёзны бунт, у часе якога нэгры чуць не спалілі ўвесь горад, адбыўся ў Нью-Йорку ў 1712 годзе. І пасьля гэтых двух бунтаў быў яшчэ не адзін дзесятак, усё, праўда, няўдачных, бо белыя заўсёды былі напагатове і ўзбраеньне, вядома, мелі лепшае, чым іх чорныя нявольнікі.

Грамадзянская вайна ў Амэрыцы (вайна паміж Поўначчу і Поўднем) прывяла да скасаваньня нявольніцтва. Урад у гэтым гуманным акце вінават у такім-жа стопні, як Аляксандар „благаславенны“ ў вызваленьні расійскіх сялян. Проста, для Поўначы, якая карысталася вольнай наёмнай сілай, у пэрыод індустрыялізацыі, Поўдзень, які меў неабмежаваны рэзэрвуар дарэмнай нявольніцкай працы, быў надзвычайна небясьпечным конкурэнтам. І вось Поўнач апранае тогу абаронцы за чалавецкія правы нэграў, а дзякуючы таму, што на яе баку была большая сіла (у вызваленчай вайне адных толькі нэграў удзельнічала 200.000 чалавек), перамога застаецца за ёй. Нельга не адзначыць двух вялікіх фактаў, якія належаць да гэтага пэрыоду: 1) няўдачнае паўстаньне нэграў на Поўдні, організаванае ў 1852 г. вядомым Джонам Броўнам. Апошні скончыў жыцьцё на эшафоце; 2) у 1852 г. вышла з друку вядомая „Хижина дяди Тома“ Гэнрыэты Бічэр-Стоў. Ці палепшылася становішча нэграў на Амэрыканскім Поўдні пасьля скасаваньня нявольніцтва?

Тут зноў на думку прыходзіць 1861 г. ў Расіі. „Вольныя“ расійскія сяляне атрымліваюць менш зямлі, чым было яе ў іх карыстаньні ў часы

прыгону, яны так „здаволены“ царом-„вызваленцам“, што ўжо ў 1861 г. мы маем хвалю сялянскіх паўстаньняў і бездненскі расстрэл. І нэгру „воля“ прынесла абяцаньне (якое далёка ня выканана фактычна) „пяцідзесяці акраў зямлі і мула“; прынесла надуманую разбойніцкай організацыяй Ку-Клукс-Клан [1]) „небясьпечнасьць, якая пагражала з боку нэграў дабрачыннасьці жанчын Поўдня“ і лінчаваньне „вольных“ чорных амэрыканцаў, прынесла закон аб бадзяжніцтве, у выніку якога ўсе нэгры ад 16 да 80 гадоў, якія не заплацілі пагалоўнага падатку ў разьмеры аднаго даляра, арыштоўваліся за бадзяжніцтва; прынесла, урэшцэ, закон 1875 г., паводле якога зямляўласьнік мае права першы накладаць руку на ўраджай арандатара, каб атрымаць арэнду; дзякуючы таму, што блізка палавіна нэграў Поўдня—дробныя арандатары, закон гэты меў на ўвазе выключна чорных.

Так нэгр з нявольніка зрабіўся арандатарам самай ніжэйшай пробы, на Поўдні да таго-ж зусім бяспраўнага. Якое з гэтых двух становішчаў лепшае—пытаньне спрэчнае.

Чаму й цяпер існуе ў Амэрыцы спэцыяльна-нэгрскае пытаньне, спэцыяльна-расавы ўціск чорных?

Пастараемся адказаць на гэта пытаньне шэрагам вельмі цікавых лічбаў [2]).

Перш за ўсё, нэграў у Паўн. А.З.Ш., асабліва паўднёвых штатах, надзвычайна многа. У паўднёва-атлянтыцкіх штатах іх—30,9 проц. усяго насяленьня, ва ўсходніх паўднёва-цэнтральных—23,4 проц., у заходніх паўднёва-цэнтральных—20,1 проц., у паўднёвай Караліне—51,4 проц., у Георгіі—41,7 проц., ва Флёрыдзе—34 проц., у Алабаме—33,4 проц., Місісіпі—52,2 проц., Люізіяне—38,9 проц., у большасьці іншых паўднёвых штатаў—ад 25 да 30 проц. Нэграў шмат, нэгры жорсткія супрацоўнікі некваліфікаваных і малакваліфікаваных белых рабочых, у вышэйшым стопні неорганізаваныя, нэгры часта робяцца штрэйкбрэхерамі—вось чаму расавы антагонізм пранікае нават у рабочыя колы Паўдн. А.З.Ш.

Складаючы $^1/_{10}$ частку насяленьня краю, нэгры ўтвараюць $^1/_8$ яе працоўнага контынэнту. Вось табліца, якая паказвае наколькі большы процант працоўных сярод нэграў, асабліва жанчын-нэгрыцянак у параўнаньні з белым насяленьнем Амэрыкі.

[1]) Ку-Клукс-Клан—організацыя буйных паўднёвых буржуа, якая ўзьнікла спэцыяльна, каб тэрорызаваць нэграў, утрымліваць іх фактычна, як і раней, у нявольніцкім стане. Толькі ў апошнія гады „функцыі“ яе пашырыліся: яна актыўна змагаецца і з комуністычным рухам, ужываючы ў гэтай барацьбе самыя подлыя мэтоды.

[2]) Лічбы ўзяты з кніжкі І. Амтэра „Сусьветны вызваленчы рух нэграў“. Дз. выд. 1925.

У табліцы падаецца агульная колькасьць жыхароў да 10 год.

| | Белае карэннае насяленьне | Белыя чужаземцы | Нэгры |
|---|---|---|---|
| Мужчыны—агульная колькасьць . . . | 22.361.495 | 6.627.997 | 4.009.462 |
| Занятых у вытворчасьці . | 16.788.668 | 6.419.691 | 3.252.862 |
| Процант занят. у вытв. . | 75,1 проц. | 89.3 проц. | 81.1 проц. |
| Жанчыны—агульная колькасьць . . . | 21.716.069 | 6.078.195 | 4.043.763 |
| Занятых у вытворчасьці . | 3.733.328 | 1.118.463 | 1.571.289 |
| Процант занятых у вытворчасьці . . . | 17,2 проц. | 18,4 проц. | 38,9 проц. |

Па перапісу 1920 году—з агульнай колькасьці нэграў, якія жывуць у З. Ш.—8.053.225 (ва ўзросьце вышэй 10 год). было занята ў вытворчасьці—4.821.151, г. зн. 59,9 проц. Жанчын-нэгрыцянак сваёй працай жыве ў Амэрыцы ўдвойчы больш, чым белых жанчын. Падаем табліцу, якая дае прадстаўленьне аб занятых у вытворчасьці замужных жанчынах Амэрыкі.

| | Белае карэннае насяленьне | Белыя чужаземкі | Нэгрыцянкі |
|---|---|---|---|
| Агульная колькасьць . | 11 195.865 | 4.123.503 | 2.039.181 |
| Занятыя ў вытворчасьці . | 707.503 | 296.126 | 662.684 |
| Процант занятых у вытворчасьці . . | 6,3 проц. | 7,2 проц. | 32,2 проц. |

Асноўныя занаткі нэгоаў—земляробства, лесагадоўля і гадоўля жывёлы (45,2 проц. агульнай колькасьці—4.824 151 нэграў, занятых у вытворчасьці); здабываньне мінэраляў—1,2 проц.; вытворчасьць і мэханічная прамысловасьць 18,4 проц.; транспорт—6,5 проц.; гандаль—2,9 проц.; грамадзкія працы—1 проц.; профэсыянальная праца—1,7 проц.; хатняя праца і прыслужніцтва—22,1 проц.; клерыкальныя профэсіі—0,8 проц.

Такім чынам, галоўнае няшчасьце нэграў—у іх вялікай колькасьці і агульнай адсталасьці. Іх таму рознымі спосабамі эксплёатуе капітал, да іх воража, як занадта ўступчывай і вынослівай рабочай сілы, адносіцца і белая праца.

Пазнаёмімся цяпер бліжэй з асобнымі, найбольш тыповымі прапласткамі нэгрскага насяленьня Амэрыкі.

Як мы ўжо адзначалі вышэй, большасьць нэграў займаецца земляробствам—38.912.231, якія жывуць у паўднёвых штатах (усяго ў Амэрыцы звыш 10 мільёнаў нэграў), на фэрмах жыве каля 79 проц.

Яны падзяляюцца на мільён прыблізна нэграў-фэрмэраў (дакладная лічба—925.708) і 1.253.180 нэграў звыш 10 год, якія працуюць на фэрмах.

Ня ўсе 925.708 фэрмэраў—уласьнікі. Такіх толькі 218.612. Рэшта-ж—кіраўнікі фэрмаў, арандатары[1]). Уладаюць гэтыя фэрмэры тэрыторыяй у 44.432 т акраў, маюць, значыцца, па 47,3 акра на чалавека.

На белага-ж фэрмэра ў сярэднім у Амэрыцы прыходзіцца 162,6 акра, а на чужаземца-белага—нават 191,3 акра. Усюды на Поўдні белых фэрмэраў больш, чым чорных, выключаючы толькі штаты—Паўднёвую Караліну і Місісіпі, дзе большасьць за нэграмі. Зямлі для апрацоўкі ў фэрмэраў-нэграў у 4 разы менш, чым у белых фэрмэраў, што далёка не адпавядае колькасным суадносінам паміж тымі і другімі.

Але бяда ня ў колькасьці зямлі. Зямлі ў нэгра-фэрмэра ўсё-ж ня так ужо мала. Яго становішча дрэннае па іншых прычынах.

Перш за ўсё ён фэрмэр аднаго ўраджаю. Гэта значыць, што сее нэгр (як, між іншым, і яго белы сабрат—дробны фэрмэр паўднёвых штатаў) толькі адну культуру—звычайна бавоўну і часта робіцца таму ахвярай пагоды, рынку, даўганосіка. Але больш за ўсё пакутуе нэгр-фэрмэр праз зямляўласьніка і гандляра.

З 700 (з лішнім) тысяч нэграў-арандатараў Поўдня—510 т. chare-tenantsu croppers 178 т.—cash tenants і standing-renters, 8000—share cash renters і рэшта не належыць ні да якога разраду[2]).

Тэрорызаваны белымі нэгр-арандатар ня ведае зусім квіткоў, гандлёвых кніг. Зямляўласьнік сам узважвае частку ўраджаю, якая належыць яму, прадае за нэгра ўвесь ураджай—і нэгр звычайна цалком пакладаецца на „сумленнасьць" зямляўласьніка. Пакладаецца не па дурасьці, а таму, што недавер'е да белага пагражае нэгру бізунамі і нават лінчаваньнем, не таму, праўда, што гэта закон, а таму, што гэта ёсьць жудаснае паўднёва-амэрыканскае звычайнае права—ці-ж ня ўсё роўна для нэгра, загіне ён на законнай ці на незаконнай (але ні ў якім разе не абмежаванай законам) падставе. Пры такім становішчы спраў працэс пролетарызаваньня нэграў-фэрмэраў Поўдня, бяручы пад увагу іх няздольнасьць змагацца з конкурэнцыяй белых фэрмэраў, зьяўляецца ня-

---

[1]) Фэрмэраў-арандатараў налічваецца на Поўдні 705.070. Гэта з агульнага ліку фэрмэраў - 925.708.

[2]) Sharne-tenant—арандатар, які аддае за карыстаньне зямлёй частку ўраджаю ($^1/_2$, $^1/_3$), але які мае ўласны інвэнтар і скаціну; croppers ня мае ўласнай працоўнай скаціны; cash tenant за кожны акр або за карыстаньне ўсёй фэрмай плоцяць грашыма; standing enters за карыстаньне фэрмай плоцяць азначанай колькасьцю продуктаў; share cash renter плоцяць і грашыма, і продуктамі.

ўхільным,—і гэты процэс шпаркім крокам усё больш і больш набліжаецца да гэтага. Характэрна, сярэдняя нэгрская фэрма каштуе $2^1/_2$ т. даляраў, у той час, як такая самая фэрма белага каштуе—11.601 даляр (уласьніка—10.662 д., арандатара—12.607 д.).

Такое бязрадаснае становішча найбольш моцнай экономічна групы—нэграў-фэрмэраў. Нават яны - амаль нявольнікі, якія ніколі ня вылазяць з даўгоў зямляўласьніку, працуюць на зямлі ўсёй сям'ёй ад раньня да ночы, на 50, а местам і больш, процантаў няпісьменныя, ня маюць бадай што ніякіх організацый, калі ня лічыць „Саюзу фэрмэрскай працы", які ўзьнік у Тэхасе ўжо ў самы апошні час і ў які разам з белымі фэрмэрамі дапушчаюцца і фэрмэры-нэгры. У гэтай організацыі ўжо 350 т. членаў, з іх 30 т. нэграў-арандатараў, і пры ўмелым кіраўніцтве яна можа многа даць нэгрскаму руху. Але яе праца й дасягненьні—усе ў будучыне.

Няма чаго, вядома, і казаць аб тым, што ня больш уцешнае і становішча нэгра—с.-г. рабочага. Апошні складае найбольш шматлікавую катэгорыю сярод нэграў Поўдня—1.253.180 нэграў старэй 10 год працуюць на фэрмах Поўдня, пераважна на баваўняных плянтацыях. Рэжым на гэтых плянтацыях горш прыгоньніцкага—машын бадай зусім няма—праца нэграў і „белай дрэні" каштуе таней. Зарплата—даляр-паўтара ў дзень, падганяюць рабочага бізуном, а калі рабочы-нэгр уцячэ, яго арыштоўваюць, судзяць за бадзяжніцтва, а потым выдаюць яго, як злачынца—*пэона* таму, хто даў яму працу, і ён прымушаны адпрацаваць свой штраф, і нават выходзіць выгадна - грошы ў плянтатара бярэ, і ў плянтатара бадай што дарэмная рабочая сіла складаецца. Так у Амэрыцы і нявольніцтва скасавана, і нявольніцкая залежнасьць нэгра ад плянтатара захавана. Уладжана вельмі мудра. Каб даць поўны малюнак, трэба дадаць, што на палёх Поўдня працуюць сотні тысяч нэгрыцянскіх дзяцей маладзей 10 год, і закон аб забароне дзіцячай працы чорных у Паўдн. А. З. Ш. прапаноўваўся, але ня быў ухвалены.

Цяпер аб нэгру-рабочым. У 1920 годзе ў горнай, мэханічнай, мануфактурнай прамысловасьці і транспорце налічвалася 1.272.460 рабочых нэграў, з іх 104.983 жанчыны. Апрача гэтага, 1.064.590 чалавек нэграў працавала ў якасьці хатніх слуг, з іх 790.631 жанчына. Усё гэта рабочыя малакваліфікаваныя, але процант іх у вадносінах да белых рабочых нязьменна расьце. Так, у Чыкаго ў 1914 г. нэграў было 3,5 проц. усяго ліку рабочых, у 1920 г —ужо 20,7 проц.; у аўтомобільных прадпрыемствах Дэтройта у 1910-м годзе было $^1/_2$ проц. нэграў, у 1910 г.—13,5 проц. Што тычыцца паўднёвых штатаў, там нэграў-рабочых нават большасьць—у Паўднёвай Караліне 56,4 проц. усіх рабочых—нэгры.

Становішча гэтых рабочых?

Іх трымаюць у прамысловасьці таму, што яны даюць танную малакваліфікаваную працу: хоць амэрыканцы і стараюцца давесьці, што ў іх,

як за белую, так і за чорную працу, плацяць аднакова, але на Поўдні нэгр у сярэднім атрымлівае $^{1}/_{2}$, на Поўначы $^{3}/_{4}$ нормальнай зарплаты.

Далей—якая розьніца ў адносінах да белых і чорных рабочых.

Організаваных чорных рабочых вельмі мала—у Паўн. А. З.Ш. наогул членамі саюзаў зьяўляецца толькі 15 проц. усіх рабочых, нэграў-жа ў профсаюзах толькі 4 проц. агульнае масы рабочых-чорных. Шляхам ціску на рэфарміцкую Амэрыканскую Фэдэрацыю Працы ўрад рознымі спосабамі стараецца прыпыняць організацыю рабочых-нэграў, захоўваючы іх такім чынам у якасьці рэзэрвнай пакорлівай рабочай сілы на выпадак конфліктаў і стачак у прамысловасьці.

Агляд умоў працы нэграў-рабочых даў такія вынікі: рабочы дзень—10-11 гадзін, праца нэграў пераважна ў такіх штатах, дзе няма абмежаваньня для рабочага дня і выпадкі бязупыннай працы нэгрыцянак у гутах на працягу 16 гадзін запар, перарыў на яду—толькі дзесяць мінут, антысанітарныя ўмовы працы ў вытворчасьці з пераважна нэгрскай рабочай сілай.

Чаму так мала нэграў-рабочых у профсаюзах Амэрыкі?

У статуце АФП (Амэр. Фэд. Працы) ёсьць пункт: „Я даю абавязак праводзіць у члены саюзу толькі цьвярозых *белых* людзей, якія працуюць у прамысловасьці“. Профсаюз „Чыгуначн. Братэрства“ нэграў ня прымае. Быў выпадак, калі адзін профсаюз вышаў з АФП за тое, што ў яе ў якасьці дэлегата быў прыняты нэгр. У Віргіліі 43 т. нэграў утварылі ўласны саюз, таму што ні ў водзін саюз АПФ іх не прынялі. Толькі дзьверы IWW („Індустр. працаўнікі сьвету“) шырока адчынены для нэграў.

Такім чынам, расавая ідэолёгія буржуазіі, якая экономічна для яе карысна, падтрымліваецца згодніцкімі профсаюзамі Амэрыкі. Выключэньнем зьяўляецца толькі IWW.

Тое самае можна сказаць і адносна рэформістых-соцыялістых Амэрыкі. Вось што аб гэтым кажа добра вядомы комуністы нэгр Клёд-Мак-Кэй *): „Нэгрскае пытаньне! Дзе-б яно ні было высунута, у Афрыцы ці ў Амэрыцы, гэта ёсьць пытаньне рабочае клясы.

А між тым яно зрабілася прадметам надзвычайнай уважлівасьці з боку рэформіцкай буржуазіі, якая адцягнула яго ад сапраўднага шляху і надзела на яго пролетарскі характар маску хрысьціянскай дабрачыннасьці. Калі пролетарскія пісьменьнікі тычацца соцыолёгічнага боку гэтага пытаньня, яны робяць гэта асьцярожна і з прабачэньнямі і ніколі не ўкладаюць у сваю працу грамадзкага палу рэформатараў. Гэта асабліва лёгка дастасаваць да Амэрыкі і чаму? *Таму, што правадыры клясавай барацьбы перадалі вельмі* важную частку сваёй працы філянтропам.

Але хоць амэрыканскія рабочыя не дасяглі роўня клясавай самасьвядомасьці II-га Інтэрнацыяналу, бо наяўнасьць чорных рабочых засла-

---

*) Клёд-Мак-Кэй—„Нэгры ў Амэрыцы“. перакл. з анг. Ахрыменка, Дз. выд. 1923.

няла погляд белых рабочых на міжнародную згоднасьць, для амэрыканскай працы пытаньне аб белым і чорным ёсьць галоўнае пытаньне самазахаваньня. Сэкрымэнт братэрства можна адкінуць зусім. Нэгрыцянскае пытаньне павінна быць вызвалена ад усяго таго многаслоўя, якім яно абкружана, павінна быць разгледжана, як мага ўважна і падрабязна. У век найвялікшага прамысловага разьвіцьця амэрыканскі рабочы рух знаходзіцца на раздарожжы. Ён павінен абраць адзін з двух наступных шляхоў: організацыя чорных асобна ці разам з белымі—ці паражэньне тых і іншых сіламі буржуазіі".

Для лепшага разуменьня ўсяго сказанага—некалькі слоў аб „Джым-Кроу" і лінчаваньні.

„Джым-Кроуізм"—гэта адмежаваньне адной ад другой чорнай і белай расы. Месьціцца ён у наступным: нэгру забараняецца езьдзіць у адным вагоне з белымі, есьці з імі ў адным рэсторане і г. д. Красуе гэты мілы звычай пераважна на Чорным Поўдні, але мае месца і ў цэнтры „цывілізаванай" Поўначы.

Пералічэньне ўсіх забарон, якія накладае на „ніжэйшую расу" Джым-Кроу, было-б занадта доўгім. Падамо толькі некалькі найбольш характэрных: нэгр павінен здымаць капэлюш перад „белай лэдзі", якую ён сустракае; нэгр заўсёды павінен уступаць дарогу беламу; нэгр першы ня мае права пачаць гутарку з белымі; нэгру, як „ніжэйшай" істоце, не дазваляецца жыць у тых кварталах, дзе жывуць белыя, і для чорных існуе ў амэрыканскіх гарадох сваё Гэтто.

Лінчаваньне. Яно існуе пераважна на Поўдні. Сутнасьць яго ў тым, што на нэгра можна ўзваліць якое-хаця абвінавачваньне і гэтага досыць, каб склікаць людзей, міліцыю Ку-Клукс-Клан і, доўга не задумваючыся над довадамі, „прывесьці закон у дзейнасьць".

Найбольш распаўсюджаная прычына для лінчаваньня нэграў—гэта абвінавачваньне ў згвалтаваньні белай жанчыны або нападзеньні на яе. Вельмі часта арыштаваных нэграў натоўп выцягвае з турмы і лінчуе. З 1889 да 1918 г. адбылося 3224 лінчаваньні, у сярэднім значыць 3 у год. Сярод лінчаваных 100 жанчын. Лінчаваньне нэгра—гэта, для белых Поўдня, прыемнае прадстаўленьне, якое з посьпехам замяняе для іх спэктакль. Яны зьяўляюцца на лінчаваньне сем'ямі, з дзецьмі. Усе, мусіць, памятаюць, як ня вельмі даўно адна радыо-станцыя Поўдня Паўн. А. З. Ш. абвяшчала, што яна будзе перадаваць лінчаваньню нэгра, прычым паважаная станцыя абяцала даць лінчаваньне, як мае быць: прадсмертнае выцьцё, хрыпеньне і г. д.*).

Ёсьць у гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху большасьці прыгнечаных народнасьцяй момант узьлёту надзеі, калі ім здавалася зусім

*) У „Правде" гэтаму „орыгінальнаму" абвяшчэньню быў прысьвечан фэльетон Кольцова. здаецца.

рэальным, што воля—справа блізкага будучага. Гэтым момантам зьяўляецца 1914 год. Ангельцы—у Індыі, Эгіпце, Аўстраліі, французы—у Сірыі і Алжыры, амэрыканцы—у штатах з чорным насяленьнем шчодра раздавалі вэксалі, па якіх давалі абавязак заплаціць на заўтра пасьля вайны пры ўмове, што колёніяльныя нявольнікі вайну падтрымаюць. Мы ўжо бачылі ў папярэдніх нарысах*), як ажыцьцяўляліся гэтыя абяцаньні ў адносінах Эгіпту, Індыі. Прыкладна тое самае мы назіраем і ў нэгрскай проблеме. Нэгру абяцалі: „Калі скончыцца гэты конфлікт, вы можаце разьлічваць на поўныя грамадзянскія правы, якія маюць усе грамадзяне“,—і яны паверылі „справядліваму“ прэзыдэнту Вільсону. Чорныя пайшлі ў армію ў большым ліку, чым белыя: з 100 нэграў на вайсковую службу пашло 36 чалавек, з 100 белых—25. Прадстаўнікоў у вайсковых установах (droft boards) нэгры ня мелі, і дзякуючы гэтаму забіралі нэграў, якія мелі сям‘ю, і вызвалялі белых—нежанатых. Нэграм не давалі падвышэньняў у рангах. Нэграў прасьледвалі нават у вайсковых абставінах, і на фронце мелі месца сутычкі паміж чорным і белым амэрыканскім войскам.

Скончылася вайна—а нэгры пазналі жорсткае расчараваньне. Зусім ніякай зьмены да лепшага ў іх становішчы, зноў „Джым-Кроу“, зноў крывавая праца адноўленнага Ку-Клукс-Клана. У 1919 годзе—першы пасьля вайны—89 выпадкаў лінчаваньня! Гэта быў першы ўзнос амэрыканскай буржуазіі па нэгрыцянскаму вэксалю.

Ёсьць у нэграў і свая буржуазія, якая жыве пераважна тым, што эксплёатуе сваіх братоў-нэграў. Нэгры-дзяльцы, нэгрскія страхавыя таварыствы, гандляры і ўласьнікі-нэгры—усё гэта згрупавана пераважна на Поўдні, хоць сустракаюцца нэгры—дробныя і буйныя буржуа і ў іншых кутках Паўн. А.З.Ш. Нэгрская буржуазія ўладае 600 тысяч. двароў, 500.000 дзелавых прадпрыемстваў, сотняй страхавых таварыстваў і банкаў з капіталам каля 2 міл. дал. і штогадовым зваротам у 20 міл. дал. Нэгры буржуа—самая горшая адменнасьць эксплёататараў чорных.

Чаго дамагаюцца амэрыканскія нэгры?

Яны высоўваюць траякага роду вымаганьні: экономічнай, політычнай і соцыяльнай роўнасьці. Ясная справа—поўнае ажыцьцяўленьне гэтых вымог можа даць толькі пролетарская дыктатура. А пакуль што нэгры дамагаюцца, як гэта мела месца на конфэрэнцыі ў Філядэльфіі ў 1924 г., каб АФП скасавала ў сябе каляровыя пераборкі; каб іх зраўнялі ў правох з усімі грамадзянамі; каб нэгра, які абвінавачваецца ў забойстве, бяз суду не пасылалі на электрычнае крэсла і каб далі нэграм выбарчае права. Словам, чаго дамагаюцца нэгры, дык гэта пакуль што—зраўнаньня іх у правох з белымі.

---

*) Гл. „Полымя“ № 6.

Калі рэволюцыйная бура наведаецца ў Паўн. А.З.Ш., нэгры зразумеюць, што і беламу пролетару ёсьць яшчэ за што змагацца ў „вольнай“ Амэрыцы, і падтрыманьне 10 мільёнаў нэграў у пролетарскай рэволюцыі ў Амэрыцы будзе, трэба думаць, фактарам вырашальнага характару.

III

Апрача двух самых вялікіх катэгорый нэграў—Афрыкі і Паўн. А.З.Ш., аб якіх мы ўжо ўспаміналі, ёсьць яшчэ вялікія масы чорных, раскіданых па іншых кутках сьвету. Гэта—чорныя насельнікі амэрыканскіх поўколёній, „дзяржаў“ Гаіці і Порто-Рыко і краін—Панама, Коста-Рыко, Гватэмана, Колюмбія, Нікарагуа; ангельскіх—Ямайкі, Бермуда, Грынідоры, Гобаго, Гандураса, Гвіяны і Гранады; францускіх—Мартынакі і Гвадэлюны; два мільёны нэграў у Бразыліі; урэшце, нэгры рэспублікі Лібэрыі ў Афрыцы, заснаванай у 1822 г. „зусім“ нэгрскай рэспублікі, дзе, аднак, падаткі і поліцыя ў руках Паўн. А.З.Ш. і фактычна звычайны колёніяльны рэжым Амэрыкі. Іх становішча, як дзьве кроплі вады, падобна да становішча ўжо вышэйапісаных намі нэграў.

Усюды яны бяспраўныя, усюды зьяўляюцца об'ектамі самай драпежніцкай, самай разьюшанай эксплёатацыі.

Вядома, у выніку гэтага ўціску мы маем вызваленчы рух нэграў, на чале якога стаяць нэгры Амэрыкі—усё-ткі тут нэгры больш культурныя, тут ім давялося ад сваёй буржуазіі ўрваць больш, чым дзе-б то ні было ў сьвеце.

Рух даў нэграм вялікіх правадыроў, але, на жаль, правадыры гэтыя звычайна разумеюць нэгрскую проблему занадта вузка. Падамо, да прыкладу, некалькі найбольш выдатных фігур нэграў-правадыроў вызваленчай барацьбы.

Букэр Г. Вашынгтон. Дзеяч другой чвэрці XIX веку. Яго ідэя—зрабіць нэгра больш карысным у белым грамадзтве. Лёзунгі заснаванага ім інстытуту Гускеджы—„праца і добрае становішча“. Букэр усё жыцьцё аддаў на падрыхтоўку кваліфікаваных рамесьнікаў з нэграў і ў гэтай, больш, чым мірнай, справе ня толькі не сустракаў адпору з боку белай буржуазіі, а нават сустракаў ухвалу.

Больш радыкальным быў В. Дю-Буа, барацьбіт за інтарэсы расы, які дамагаўся поўнага зраўнаньня ў правох нэграў з белымі. Дю-Буа організаваў т. зв. „нацыянальную асоцыяцыю каляровых народнасьцяй“, якая мае посьпехі, і стаў на чале ім-жа заснаванай часопісі „Крызіс“.

Дю-Буа не дабіўся, вядома, нічога, таму што ўсё сваё жыцьцё апэляваў да „добрага сэрца янкі“, а пра барацьбу за вызваленьне нават ні разу не заікаўся.

Яшчэ больш рэзка крытыкуюць нэгры-соцыялістыя сучаснае становішча справы ў нэгрскім пытаньні, асабліва А. П. Рандальер і Чандлер Оуэн, але і яны ў сваёй часопісі „Вестник“ далей крытыкі ня ідуць.

Што тычыцца Ам. Соц. Пар., то яна сябе канчаткова скомпромэтавала ў 1924 г., адмовіўшыся вынесьці рэзолюцыю аб патрэбнасьці ліквідацыі самага злоснаґа ворага нэграў—Ку-Клукс-Клана.

Далей, сіяніцкі рух сярод нэграў: калі дрэнна ў Амэрыцы, трэба ехаць „дадому"—у Афрыку. Лідэр гэтага руху—Марк Гарвэй, генэральны прэзыдэнт унівэрсальнай асоцыяцыі палепшаньня становішча нэграў. Гэты рух карыстаецца значным посьпехам сярод амэрыканскіх нэграў і захапіў ужо $^1/_2$ міл. рээмігрантаў у Афрыку.

На правільным рэволюцыйным шляху ў нэгрскім пытаньні стаяць дзьве організацыі—амэрыканская компартыя і так зв. „афрыканскае крэўнае брацтва". Іх праца конкрэтна выявілася ўдзельніцтвам на „Санкендрынскай" конфэрэнцыі ўсіх рас, якая адбылася ў Чыкаго ў 1924 г. Конфэрэнцыя гэта мела на ўвазе сабраць прадстаўнікоў ад усіх нэгрскіх організацый і абмеркаваць тыя сродкі, якія вывелі-б з тупіку чорную расу. На Санкендрынскай конфэрэнцыі былі прадстаўнікі ўсіх грамадзкіх праплсткаў нэграў, апрача фэрмэраў—найбольш інэртнае клясы сярод чорных Амэрыкі, і—пасколькі конфэрэнцыя была стракатай па свайму клясаваму складу—ніякіх пэўных разьвязкаў на ёй ухвалена ня было, увесь час ішла ўнутраная грызьня. Гэта конфэрэнцыя лішні раз давяла, што нэгрская проблема—проблема барацьбы кляс, а не барацьбы рас.

Што прапаноўвалі комуністыя і „крэўнае брацтва" на конфэрэнцыі?

Актыўную барацьбу супроць лінчаваньня шляхам організацыі самаабароны і аб'яднаных саветаў з рабочых абедзьвюх рас; барацьбу супроць бяспраўя нэграў шляхам бойкатаваньня судоў, дзе судзьдзі выключна белыя; жорсткую барацьбу з Ку-Клукс-Клан; зьнішчэньне „чорнай мяжы" аселасьці; вымаганьня ад АФП адчыненьня доступу ў яе чорным рабочым; утварэньне саюзу арандатараў, які змагаўся-б з вялікай арэнднай платай; рэзолюцыю, у якой трэба пакарыць Лігу Нацый, якая зьяўляецца „злачыннай змовай супроць усіх народаў, бо яна дзеліць і распарадкуецца тэрыторыямі і насяленьнем каляровых і іншых прыгнечаных нацый без нарады з імі і бяз усякага прадстаўніцтва з іх боку". Была, між іншым, і рэзолюцыя прызнаньня СССР „сябрам нэгрскага народу, які больш, чым якая-небудзь іншая раса, пакутуе ў няволі і патрабуе самавызначэньня".

Такім чынам, у той час, як у партыі II Інтэрнацыяналу наогул ня існуе нэгрскага пытаньня, III-ці Комінтэрн надае гэтаму пытаньню вельмі сур'ёзнае значэньне і разьвязвае яго з пункту погляду сучаснай барацьбы чорнага і белага пролетарыяту супроць сусьветнага імпэрыялізму, за поўнае сваё вызваленьне.

Вядома, Комінтэрн бярэ пад увагу асаблівасьці ўмоў жыцьця і барацьбы для амэрыканскіх і афрыканскіх нэграў і адпаведна зьмяняе конкрэтную програму дзеяньняў, лічачыся з гэтымі ўмовамі. Паступова траціцца вера ў вышэйшую і ніжэйшую расы, паглыбленьне клясавай

дыфэрэнцыяцыі і клясавай барацьбы сярод нэграў, лёзунг яднаньня чорнага і белага пролетарыяту супроць буржуазіі ўсіх колераў скуры—вось адзіна правільны шлях вызваленьня чорных, шлях Комінтэрну.

І чорныя пачынаюць гэта разумець.

Гэта паказвае рост Компартыі за лік нэграў, рэзолюцыі Санкендрынскай конфэрэнцыі, шэраг іншых фактаў у нэгрскай вызваленчай барацьбе.

У сусьветнай сям'і прыгнечаных народнасьцяй, якія змагаюцца з імпэрыялізмам за сваё нацыянальнае самавызначэньне, нэгры займаюць не апошняе месца. І—падобна Эгіпту, Індыі, Пэрсыі—кіраўніцтва гэтай барацьбой павольна, але правільна пачынае пераходзіць з рук прыгожых душой дробных буржуа ў рукі комуністычнай партыі.

# ГІСТОРЫКА-ПОЛІТЫЧНЫЯ МОТЫВЫ ТВОРЧАСЬЦІ РЫХАРДА ВАГНЭРА (1813—1883)

*Да 50-ай гадавіны першай пастаноўкі „Пярсьцень Нібэлюнга", жнівень 1876 г.*

**І. Герчыкаў**

Рыхард Вагнэр бясспрэчна вельмі значнае зьявішча XIX веку. Ня гледзячы на існаваньне вельмі значнай і вельмі рэзкай адмоўнай крытыкі творчасьці і асобы Вагнэра, супроцьлеглай надзвычайнаму захапленьню ім, проф. Вільгэльм Альтман мог з поўным правам у 1912 г., пасьля поўвекавое заядлае вагнэрыянскай полемікі, пісаць, выказваючы пераважную думку, якая ўсталявалася ў літаратуры і навуцы: „Richard Wagner der grösste dramatische Kompsonist den die Welt bisher Kent, ein Mann von seltenster Energie, eine der markatesten Persönlichkeiten und geistigen Grössen des neunzehnten jarhunderts" („Рыхард Вагнэр, найвялікшы драматург, якога да гэтага часу знаў сьвет, чалавек выключнай энэргіі, выдатнейшых асабістых якасьцяй і духоўнае велічы ў XIX веку"). Вагнэрыянская літаратура можа сьмела ставіць імя Вагнэра поруч з іменьнямі Лютэра, Альбрэхта Дюрэра, Бісмарка, хоць такія разважаньні, як „Er ist mehr als Luter, mehr als Dürer, mehr als Bismark" („Яго значэньне большае, як Лютэра, Дюрэра, Бісмарка"), аддаюць бясспрэчным перабольшаньнем.

Прадметам гэтае працы зьяўляюцца гісторыка-палітычныя мотывы творчасьці Р. Вагнэра. Такое азначэньне прадмету само па сабе даводзіць, што поруч з гэтым існуе і шмат іншых мотываў, стымулюючых яго творчасьць. Але калі да мастацтва падыходзіць не як да па-за гістарычнага і па-за грамадзкага зьявішча і ня з мэтаю адцягненага вывучэньня яго матэрыялу і мэтодаў, а з пункту погляду грамадзка-організуючай ролі мастацтва, з пункту погляду на мастацтва, як на сродак тлумачэньня і ўсваеньня лепшых форм грамадзкай організацыі, гісторыка-палітычныя мотывы пачынаюць іграць пануючую ролю, тым больш, калі ня толькі об'ектыўна, але і суб'ектыўна грамадзкія проблемы і, у больш вузкім сэнсе, палітычныя проблемы непасрэдна цікавяць мастака ў моманты творчасьці. Калі яўна суб'ектыўныя палітычныя моманты прабіваюцца ў творчасьці Бэтховэна, хоць-бы ў прыкладзе з „simfonja eroica", то як павінны быць сільны і значны гэтыя моманты ў творчасьці сумуючага ў палітычным выгнаньні Дантэ, Давіда і Курбэ, аднаго—дзейнага

ўдзельніка Францускай Рэвалюцыі 1789 г., другога—1871 г., ці ў творчасьці Ф. Лассаля, як аўтара драмы „Франц фон-Зікінген“.

Захапляючыся ўлетку 1913 г., у год сталецьця нараджэньня Вагнэра, Wagnerfestung'амі ў германскіх тэатрах, сочачы з заміраньнем сэрца за разьвіцьцём дзеі і музыкі тэтралёгіі, падымаючыся ўсё вышэй і вышэй у галіне захапляючай сымболікі, разам з ростам драматычнага сюжэту, сцэнічных вобразаў і перамагаючай сілы Вагнэраўскай музыкі, я адчуваў сябе на галавакружнай вышыні ў момант найвышэйшага дасягненьня драмы і сымболяў, у момант найвышэйшага патосу ў музычных дасягненьнях Вагнэра.

Уся абстаноўка вагнэраўскіх урачыстасьцяй, нацыянальны і дзяржаўны іх характар, усюды рэзаўшыя вочы, нямецкія ня толькі паводле мовы, але і паводле характару надпісы—„unser Wagner“,—усё гаварыла не аб чыстых захапленьнях мастацтвам, не аб новым сцэнічным пераўвасабленьні старажытных сымболяў хрысьціянства і старога паганскага Volkslor'а, а аб чымсьці другім, блізкім да надзеннасьці. І сапраўды, варта толькі адыйсьці ад непасрэдных эмоцый, выкліканых мастацтвам, да аналізу гэтых эмоцый у далейшым іх уплыве на псыхіку немца ў даны гістарычны момант, у даным грамадзкім і палітычным асяродзьдзі і параўнаць гэты ўплыў з генэзісам драматычных ідэй у працэсе творчасьці Вагнэра, каб убачыць, што гэты надзенны entourage не супярэчыць ні сутнасьці яго мастацкай творчасьці, ні яго, ясна ўсьвядомленым поэтаю, мэтам.

---

Па-за сваёй творчасьцю Р. Вагнэр, як палітычная асоба, не арыгінальны, ня можа выклікаць ні асаблівага інтарэсу, ні асаблівых сымпатый, а цэлы шэраг яго ўчынкаў глыбока антыпатычны.

Паходжаньне Вагнэра з асяродзьдзя народных настаўнікаў і дробных саксонскіх чыноўнікаў, дні яго дзяцінства і юнацтва, што прайшлі сярод актораў і акторак прыдворных тэатральных падмосткаў, а асабліва ўдзел у рэвалюцыі 1848 г., які пацяг за сабою шматгадовае выгнаньне, гарантавалі яго ад спачуваньня ці непасрэднага ўдзелу ў фэўдальных і буржуазных плынях пэрыоду яго жыцьця, паколькі яны выявілі сябе ў конкрэтных палітычных учынках.

„Бедны і безабаронны, тварам к твару з сучасным жыцьцём, бяз усякае маемасьці і спадчыны наперадзе, я магу жыць толькі працаю маіх рук“,—піша Вагнэр Лісту 14/x-49 г. Па матэрыяльным становішчы пролетары, які ня ўмее пабуржуазнаму ўтрымліваць і павялічваць матэрыяльныя сродкі, ён варожы буржуазнаму грамадзтву, ня можа цярпець яго, не аддаючы сабе за ўсё жыцьцё адказу на тое, што павінна яго конкрэтна замяніць. Па становішчы сваім артысты, у сапраўдным сэнсе слова, сярод мяшчан і філістэраў, ён ня мог ня нудзіцца тупасьцю і вузасьцю

грамадзкага ўкладу і ўсяго наогул грамадзкага жыцьця, ласага да забаў, але вельмі мала зварачаючага ўвагу на сапраўднае мастацтва.

З юнацкіх гадоў рвецца ён к другім формам грамадзкага быту, што зьдзяйсьняюць столькі-ж шырокі і шматгранны, колькі расплыўчаты і няясны ідэал свабоды, які ўключае ўсе няясныя чаканьні незадаволенай і ад матэрыяльных недахваткаў азлобленай душы, паколькі ён ня ўключае нічога. „Я не палітык“,—шмат разоў гаварыў і пісаў Вагнэр у сваіх лістох, мэмуарах, публіцыстычных артыкулах і артыкулах па тэорыі мастацтва. „Мужчына-палітык—агідны, жанчына-палітык—жудаснае чудзішча“,—піша ён у лісьце к Лісту. І сапраўды, непасрэдныя палітычныя выступленьні Вагнэра, вельмі дробныя і яшчэ больш нявытрыманыя. На практыцы, у паводзінах Вагнэр толькі момантамі захапляецца палітыкай, паасобнымі экстатычнымі рэвалюцыйнымі выбухамі, за якімі зараз і бадай што поруч ідзе пагоджаньне на практыцы з існуючым палітычным укладам, у самых консэрватыўных яго формах, бяз усякіх унутраных надрываў, трагізмаў, колізій, якія яму ў другіх выпадках былі прысутны ў найвышэйшай ступені, як чалавеку моральна вельмі чуламу, з абвостраным сумленьнем і хваравітым самалюбствам.

Вагнэру было 17 год, калі выбухнула рэвалюцыя 30-га году, узварушыўшая палітычны запал ў роднай яму Саксоніі, і ён рэвалюцыйна загарэўся. „Я адразу парашыў“,—пісаў ён напасьля ў сваёй аўтобіографіі,—„што ўсякі чалавек, як-бы ён мала ні быў ганарысты, павінен выключна займацца палітыкай“. З пачатку рэвалюцыі аж да 1848 г., націску новай рэвалюцыйнай хвалі, ён знаходзіцца ў шэрагах „Маладое Германіі“, а аўтар „Маладое Эўропы“, Г. Лаубэ—яго блізкі сябра. Ён рашае стаць палітычным пісьменьнікам і піша ў часопісі „Сьвет Мастацтва“. Ен з захапленьнем сочыць за барацьбою Польшчы за свабоду і хваравіта ўспрымае „сум яе ўпадку“, прысьвячаючы змагаючайся Польшчы уверцюру „Polonia“. Сярод літаратурных твораў „Маладое Германіі“ яго драма Рыэнці, па сіле рэвалюцыйнай напружнасьці і па духу рэвалюцыйнасьці, займае не апошняе месца, і А. Ліхтэнбэржэ метка характарызуе яе „як драму Ліпеньскай Рэволюції, як разумеў яе Вагнэр“. Рэволюцыйная напружнасьць Вагнэра з асаблівай сілай выбухае ў рэволюцыі 48 году. Ён носіцца ў хвалях рэволюцыі—тайныя таварыствы, проекты, патрабаваньні, што падтрымліваюцца амаль што ня стрэльбай на барыкадах у Дрэздэне ў маі 49 году, але ўжо ў кастрычніку таго-ж году, пасьля краху рэволюцыйных мар, ён піша ў лісьце к Лісту: „Барані мяне, божа, ад усякага дачыненьня з сучаснаю грамадзкасьцю на грунце палітыкі“,—і шукае заступніцтва і літасьці ў тых, проці каго ён бунтаваў. У сакавіку 50 г. ён піша сваім сябром па Дрэздэнскім паўстаньні ліст у крэпасьць Königstein, дзе, выслаўляючы сваіх сяброў за рэволюцыйную справу, кажа: „Хачу калі-небудзь аддаць сваё жыцьцё на аўтар нашага сяброўства“, а ў 62 г., у гутарцы з саксонскім міністрам Бэйстам, называе гэты ліст проста „неасьцярогаю“ (Мэмуары III/263).

Можна было-б дапусьціць, што пасьля 48, 49 г.г. Вагнэр зусім пераканаўся ў тым, што рэволюцыйна-політычны выбух ня можа даць якога-небудзь значнага выніку ў грамадзкім жыцьці, а разам з тым у 51 г. Вагнэр, як і большасьць рэволюцыянэраў 48 г., чакаў няўхільнай рэволюцыі, і нават соцыяльнай—у 52 г. Пераварот Наполеона III 2-га сьнежня 1851 г. выклікаў у Вагнэра „стан крайняга смутку“ (Мэмуары III/33), і ўсё-ж усе гэтыя перажываньні не перашкаджалі Вагнэру цераз некалькі гадоў поўзаць перад Наполеонам, яго дваром і міністрамі пры хадайніčаньнях аб пастаноўцы ў Парыжы „Тангейзэра“ ў 60 г. і выпрошваць дапамогі ў генэрала Мальяна, іменна ведаючы, што к гэтаму генэралу ў „імпэратара былі асаблівыя абавязкі яшчэ з 2-га сьнежня“ (Мэмуары III/168).

Сярод сваіх знаёмых Вагнэру прыходзілася іншы раз гаварыць аб В. Гюго. Горды протэст вялікага францускага патрыота супроць сьнежаньскага злачынства не датыркнуўся Вагнэра, і ён успамінаў гэта імя не чырванеючы ад сораму.

Можна было-б налічыць шмат падобных фактаў, якія паказваюць політычную нясталасьць Вагнэра і поруч з гэтым выпадковасьць, няўгрунтованасьць і нявытрыманасьць актыўных політычных выступленьняў. Сам Вагнэр потым не прыдаваў ніякага значэньня сваім політычным выступленьням. Калі ён значную частку свайго жыцьця павінен быў правесьці па-за Германіяй, у якасьці політычнага эмігранта, калі на працягу цэлага шэрагу гадоў імя яго няможна было выставіць ні на аднэй афішы, ні ў аднэй з германскіх дзяржаў, то не праз яго асабістыя эпізодычныя політычныя выступленьні, а таму, што імя яго заўсёды стаяла ў шэрагу з іменьнямі сапраўдных рэволюцыянэраў, небясьпечнейшых для рэакцыйнай Эўропы: Аўгуста Рэкеля і Міхайлы Бакуніна. Прымусовая патрэбнасьць эміграцыі для яго самога была трагедыяй, якая ня мела політычнага апраўданьня, а таму поўнай несправядлівасьці, з якою ён ня мог паміріцца.

Паказаныя ў шмат чым несымпатычныя рысы політычнай асобы Вагнэра пасуюць з адмоўнымі рысамі, якія наогул былі ў яго характары. Але нас цікавіць у даным выпадку, не дапаўненьне к досыць ясна ўжо дасьледаваным адмоўным рысам характару вялікага композытара, а высьненьне тае супярэчнасьці, якая існавала паміж глыбокімі політычнымі імкненьнямі, што запаўнялі Вагнэра, і павярхоўнасьцю яго практычнай політычнай дзейнасьці.

Знадворная абстаноўка жыцьця Вагнэра склалася надзвычайна неспагадна і з прыгнятаючай жортскасьцю абвалілася проці яго творчага гэнія. Разьюшанасьць, няшчырасьць, прытворства, цярплівасьць к прыніжэньням, а часамі непамерная гордасьць, якая пераходзіць у пыху,—усё гэта рысы, якія пры сьвеце сударжна напружнай волі да творчасьці ў асобе

Вагнэра знаходзяць зьмякчаючае тлумачэньне ў юнкерска-буржуазным грамадзтве, у якім яму прыходзілася дзейнічаць.

Будучы ў эміграцыі і жадаючы вярнуцца на радзіму, Вагнэр іншы раз, згодна свайму ўласнаму настрою, а іншы раз яўна няшчыра, стараецца пераканаць усіх у сваёй апалітычнасьці. так проста і піша пра сябе: „Я—асоба апалітычная". Гэта робіцца ў пераважнасьці, каб палегчыць сваё знадворнае становішча і на падставе асобных поглядаў на тое, што называецца палітыкай, якія зьяўляюцца ў выніку звужваньня гэтага разуменьня. Ён ніколі не адмаўляўся ад рэвалюцыйнасьці, але, застаючыся рэвалюцыянэрам, які чакае падзеньня сучаснага грамадзкага ладу і аднаўленьня чалавецтва, ганіць і адмаўляецца ад сваіх дробных, выпадковых палітычных выступленьняў у мінулым. Ён ня церпіць дробных палітычных выступленьняў, палітычных разьлікаў і інтрыг, палітыканствуючай інтэлігенцыі, палітыкі з „гадзіньнікам у руках"; ня церпіць умоўнай і штучнай палітыкі рэволюцыі, якая прыдзе Willkürlich (адвольна), з абдуманай воляй. Ён верыць рэволюцыі, якая прыдзе Unwillkürlich (неадвольна), у выніку натуральнай канечнай патрэбнасьці, стыхійнай нямінучай патрэбнасьці, якая нічога агульнага ня мае з разьлікамі „палітыкаў і правазнаўцаў", якіх ён кляйміць зьнявагаю. Рэволюцыя прыдзе як „натуральны цуд", аб якім марыць Вагнэр ва ўсёй яго творчасьці, яна будзе народжана народнымі масамі, так-жа натуральна і проста, як натуральна і проста, па-за тэорыяй усякіх правіл, параджаюцца дасканалыя творы мастацтва—простыя народныя песенькі (Lieder).

Як можна яго, Вагнэра, блытаць з сучаснымі „палітыкамі і правазнаўцамі" ўсё роўна якога лягеру, калі рэволюцыя, якую ён не задумвае, але ясна прадбачыць, раней усяго проці іх якраз і будзе накіравана. Гэта яны, тэорэтыкі, служыцелі адцягненага розуму, дзеці скажанага духу, пазбаўленага непасрэднай інтуіцыі, хочуць недасканаласьці аднаго віду „палітычнае дзяржавы", дзяржавы, заснаванай на „дагаворы і законе", разьвязаць пераходам у другую дзяржаву, якая ня можа быць дасканалай, пакольві яна застанецца параджэньнем таго-ж духу. Уся задача рэволюцыі складаецца з аднаўленьня чалавечага духу і ўсьлед за гэтым „натуральнае дзяржавы" комуністычнага брацкага сужыцьця, што натуральна нараджаецца з здаровага чалавечага духу, у якім інтуіцыя, інстынкт, сьветагляд не заменены раздумваньнем, абстрактным розумам, які стараецца стаць вышэй „натуральнай патрэбнасьці" і непасрэдных пачуцьцяў.

Як можна назваць палітыкам чалавека, які ня высоўвае ніякай азначанай палітычнай програмы, які ня выдумвае ніякіх палітычных тэзісаў, які адмаўляе ўсе палітычныя програмы і здагадкі, як тэорытычныя выдумкі, навязаныя натуральнаму чалавеку напрасныя утопіі, як можна назваць палітыкам чалавека, які прапаведуе толькі свабоду, натуральную інтуіцыю і натуральную дзяржаву.

„Калі-б мне далі зямлю,—кажа Вагнэр,—дзеля таго, каб організаваць на ёй чалавечае грамадзтва, маючы на ўвазе яго дабрабыт, я могбы зрабіць толькі адно: даць яму поўную і неабмежаваную свабоду організоўвацца самому; гэта свабода выявіла-б сябе сама, калі-б было зьнішчана ўсё, што працівіцца ёй“. Ад гэтых слоў вее глыбокаю верaю ў станоўчую прыроду грамадзкага чалавека. Пачуцьцё агульнасьці ёсьць у чалавека і народу, комуністычнасьць—натуральная асаблівасьць народу. Ідэалісты-народнік Вагнэр так азначае комуністычную сутнасьць народа: „Das Yolk ist der Inbegrift aller derjenigen, welche eine gemeinsame Noth empfinden. Zu ihm gehören alle diejenigen welhe ihre eigene Noth als eine gemeinschaftliche erkennen, oder sie in einer gemeinschaftliche begründet finden; somit alle diejenigen, welche die Stillung ihrer Noth nur in der Stillung einer gemeinsamen Noth verhoffen dürfen und demnach ihre gesammte Lebenskraft auf die Stillung ihrer, als gemensam erkannten Noth verwerden“—„Народ ёсьць ідэал усіх тых, хто ўспрымае грамадзкую патрэбу. Да яго належыць усе тыя, хто свае індывідуальныя патрэбы зьлівае з агульнымі, адчувае, як яго індывідуальныя патрэбы караняцца ў грамадзкіх, і зьвязвае задаваленьне сваіх асабістых патрэб з задаваленьнем грамадзкіх патрэб, а дзеля таго прымушаецца накіроўваць усю сваю жыцьцёвую энэргію на задаваленьне грамадзкіх патрэб, як сваіх асабістых“.

Пры ўсёй сваёй веры ў народны комунізм Вагнэр не праходзіць міма факта прысутнасьці ў сучасным грамадзтве клясавай барацьбы. Ён ясна бачыць клясавую організацыю дзяржавы і рэлігіі. Ад яго характарыстыкі ў даным выпадку вее пэўнасьцю і рэзкасьцю, характэрнаю крайнім соцыялістычным плыням яго часу. Ён характарызуе офіцыяльнае гістарычнае хрысьціянства і царкву, як „дзяржаўна-царкоўную клясаваэгоістычную эксплёатацыю найшляхетнейшых чалавечых мар“, і бачыць вярнейшае ўвасабленьне духу хрысьціянства ў сучаснай баваўнянай мануфактуры. „К выгадзе багатыроў, бог зрабіўся прамысловасьцю, і гэта боства беражэ жыцьцё беднага працаўніка-хрысьціяніна да таго дню, калі сузор'і комэрцыйнага неба літасна пакажуць патрэбнасьць дазволіць яму адыйсьці ў лепшы сьвет“. Як і многія народнікі, не адмаўляючы факту клясавай эксплёатацыі і барацьбы ў сучасным, ён праходзіць міма яе, як аснаўнога фактара гістарычнага процэсу, высоўваючы іманэнтна прысутны комунізм.

Як-бы ўпарта ні пераконваў Вагнэр сваёй аполітычнасьці, мы стаім перед фактам азначаных палітычных прынцыпаў, ім высунутых, і ў сувязі з імі ён становіцца ў шэраг з усёй плеядай комуністых-народнікаў, складаўшых значную політычную групу ў сучаснай яму Германіі.

Усе несправядлівасьці грамадзкага ладу Вагнэр адчуў у сваім уласным жыцьці, у становішчы інтэлігента-пролетара, які пракляў свой пролетарскі лёс. „Я не хачу і не магу зарабляць грошай“,—жаліцца ён сваім сябром, і з смуткам мяняе на монэту, выносячы на рынак, свае вялічавыя

музычныя замыслы. Але ня гэта было тымі відавочнымі для яго прычынамі, якія паставілі яго наперакор з грамадзтвам. Відавочныя для яго прычыны, якія стварылі колізію паміж ім і грамадзтвам, знаходзіліся ў рэзкіх сутычках паміж грамадзтвам і творамі яго мастацтва. Варожы панаваўшым грамадзкім клясам, ён ішоў у народ, там знаходзіў крыніцы мастацтва і ўсё існуючае і афіцыяльна прынятае ў грамадзтве разглядаў, як скажэньне таго, што натуральна радзілася ў народзе ў звычайных умовах яго існаваньня. На гэтай глебе радзілася яго няпрыхільнасьць да афіцыяльнай опэры і супроцьстаўленьне ёй музычнай драмы. Вось самыя простыя адносіны паміж опэрай і музычнай драмай, што вобразна перадаюцца самім Вагнэрам.—Сялянкі жнуць на полі і ў процэсе іх працы, у тахт з усімі іх рухамі, з рытма працы нараджаецца рытм песьні; з настрою, пароджанага працай,—яе мэлёдыя; навакольная прырода дае яе калёрыт, з умоў быту выплываюць словы песьні. Музыка песьні і сапраўднае жыцьцё складаюць адно суцэльнае. Жыцьцё—зьмест музыкі, музыка—душа жыцьця, і адно бяз другога ня мае сэнсу і мёртва. Плястыка працы, хварбы прыроды, гукавае выказваньне душэўнага настрою—скульптура, малярства, музыка непадзельна зьліты і даюць той сапраўдны эфэкт, які павінна даць сапраўднае мастацтва. Вагнэр ня выдумваў, а знайшоў той стасунак адзінства ўсіх відаў мастацтва, які імкнуўся зьдзейсьніць у музычнай драме. Пан з вокан свайго палацу чуе песьню жанцоў, якія варочаюцца з працы, ён чуе і ловіць толькі мэлёдыю, а яна-то і зьяўляецца для яго адзіным выказваньнем музыкі, а ўсё, што зьмяшчала ў сабе музыка, апрача яе, для яго ня існуе. Ён ня можа мець задаваленьня сапраўдным мастацтвам. Няжыцьцёвыя словы і бяздушная мэлёдыя абарачаюцца для яго ў клясычную музыку, пазбаўленуюісьцінных драматычных момантаў, выяўленьнем якіх зьявілася музыка. Ён можа прыдумаць драматычны сужэт, але гэта будзе штучнае злучэньне. Сапраўднага мастацтва—мастацтва жыцьця—тут ня будзе. Гэта і ёсьць опэра прывілеяванага грамадзтва, якое адышло ад агульнанароднага жыцьця і парвала сувязь і з працай і з прыродай. Сапраўднае мастацтва і скажэньне яго—музычная драма і опэра—павінны былі нарэшце стыкнуцца. Злучнасьць і разьяднаньне, як паміж людзьмі, так і паміж рознымі відамі мастацтва, павінны былі стыкнуцца, комунізм павінен быў супроцьстаць індывідуалізму, дзеля таго, каб разбурыць яго. Вагнэр падымае сьцяг комуністычнага мастацтва.

Комуністычная творчасьць Вагнэра, пабудаваная на веры ў станоўчую прыроду чалавека,—якой у яе няскажаным выглядзе прысутны „комунізм“, агульнасьць інтуіцыі і непасрэднасьці пачуцьцяў, што нараджаюць каханьне і брацтва,—стыкнулася без замірэньня з скажэньнем індывідуалізму, скажэньнем, якое адбылося дзякуючы сьмерці ўсяго натуральнага ў чалавеку і грамадзтве і перамогі ўсяго штучнага і выдуманага. Трэба выявіць усе грамадзкія скажэньні, трэба адхіліць гэтыя

скажэньні, і тады створыцца асяродзьдзе для комуністычнае творчасьці, здольнае ўспрыняць комуністычнае мастацтва. Вагнэр пачынае бязьлітасна крытыкаваць існуючае грамадзтва, а творы яго творчасьці ёсьць той беспамылкова ўплывовы рэактыў, які, датыркаючыся з духам грамадзтва, выяўляе ўсе яго адмоўныя рысы. Тое, што практычна выяўляе гэты рэактыў, Вагнэр, падобна натуралістаму-экспэрымэнтатару, заносіць у свае сшыткі. Гэтыя запісаныя вынікі экспэрымэнту выліваюцца ў тэорытычную крытыку грамадзтва, у работах чыста палітычных і тэорытычна эстэтычных.

Інтуіцыя, непасрэднае пачуцьцё, непасрэдны інстынкт,—вось сапраўдныя рухавікі прогрэсу, якія выказваюць сусьветны закон канечнай патрэбнасьці, адзіна ісьцінны. Не паводле ўсяго складу свайго розуму Вагнэр сам ня можа быць выключна ў сфэры непасрэднага, падсьвядомага, ня хоча заставацца „сомнабулам“ і тэорытызуе як для сябе, затым што ён хоча быць, як сам кажа, сьвядомым у несьвядомым (der Wissende des Unbewusten), так і для пераканаcivьня ў ісьцінасьці *сваёй ісьціны* другіх.

Разам з тым Вагнэр не валодае тэорытычным розумам вучанага і, чытаючы досыць многа, не валодае значнаю эрудыцыяй. У сваіх тэорытычных работах ён датыркаецца заўсёды з орыгінальным падходам, але амаль заўсёды без выстарчаючай навуковай падрыхтаванасьці, масы спэцыяльных пытаньняў гісторыі, псыхолёгіі, соцыолёгіі, антрополёгіі фізыолёгіі і г. д., але палітычныя проблемы—гэта той фон, на якім разьмешчаны рэшта проблем, да якіх ён варочаецца ў выніку ўсіх разважаньняў, імкнецца разьвязаць іх з найбольшай упартасьцю.

Ад самага стылю тэорытычных прац Вагнэра аддае характарам палітыка. Там, дзе ён выкладае ў духу звычайнага разьвіцьця мысьляй, мысьлі скачуць, абрываюцца, стыкаюцца паміж сабою, сказы цяжкія, выкладаньне заблытанае. Мысьлі пачынаюць разьвівацца з большым бляскам і стылістычнай лёгкасьцю тады, калі ён полемізуе амаль заўсёды энэргічна з вялікім тэмпэрамэнтам. „Вагнэр вельмі часта гаворыць, як перад ворагамі—усе яго творы напісаны ў стылі гутаркі, ня ў кніжным“, кажа Ф. Ніцшэ. Вагнэр бліскуча спрачаецца з эгоізмам і індывідуалізмам за народнасьць і комунізм ўсеагульнай любві, ён магутны, калі пападае на Lieblosigkeit—адсутнасьць любві ў сучаснай інтэлігенцыі і пералічае ўсе грамадзкія нялады, якія дзякуючы гэтаму вынікаюць, ён ня мае літасьці ў адмаўленьні ўсяго ладу сучаснага грамадзтва.

Эстэтычная творчасьць Вагнэра адпавядае яго тэорытычным работам. Ён ніколі ня быў слугою „чыстага“ мастацтва і мастацтву для мастацтва заўсёды быў чужы. „Абсолютны твор мастацтва, г. ё. мастацкі твор, ня зьвязаны ні з месцам, ні з часам, не прызначаны прайсьці ў жыцьцё цераз вызначаных асоб, для азначанага кола людзей, пры азначаных акалічнасьцях,—такі твор зьяўляецца бязглузьдзіцай, зданьню эстэтычнай фантазіі“,—піша ён у сваёй адозьве да сяброў.

Вагнэр быў надзвычайна здольнадзейны і ніколі не адрываўся ад сапраўднасьці. „Ён,—кажа А. Ліхтэнбэржэ,—адчуваў у сабе вялікую патрэбу жыць у цяперашнім, уплываць на сучасьнікаў". Багацейшы сьвет яго поэтычных вобразаў—не недасяжны сьвет, у якім ён хаваецца, адрываючыся ад сьвету сапраўднага, ухіляючыся гнюснае сапраўднасьці; гэроі яго драм, пры ўсёй іх казачнасьці, не насільнікі нябёс, якія зьняважліва глядзяць на зямлю, ці зусім ня знаюць аб яе існаваньні; не—гэта прамэтэі, якія нясуць сьвет чалавецтву і пакутуюць пакутамі зямлі. Мастацтва для Вагнэра—сродак, мэта—дасканаласьць чалавека і чалавечага сужыцьця. Ён творыць нязьменна, маючы на ўвазе гэту мэту, і творчасьць яго ва ўсім процэсе разьвіцьця ёсьць водгук сучаснасьці, ня толькі па існасьці, як гэта ня можа быць іначай для ўсякага творца мастацтва, але і сьвядома для самога Вагнэра. Аб адным з самых улюбёных сымболічных вобразаў яго драм, аднэй з цэнтральных тэм мастацкай варыяцыі на працягу ўсёй яго творчасьці, аб вялічавым сьветлым рыцару белага лебедзя ў „Лёэнгрыне", які прыходзіць на гэты сьвет непасрэдна з сьвету патустароньняга, ён піша ў лісьце к А. Рэкелю, як аб вобразе, адбіваючым „надзвычайна трагічнае становішча *нашага часу*".

Такім чынам, Вагнэр зьяўляецца агітатарам, пропагандыстым грамадзкіх ідэй, з мэтай непасрэднага ўплыву на грамадзтва. І калі прыглядзімся да конкрэтнага іх зьместу, то пераканаемся, што гэта часьць тых ідэй, якія зьяўляліся зьместам рэволюцыі 48 году, і што ў сваёй літаратурнай і музычнай дзейнасьці Вагнэр прадоўжваў тую політычную справу, якую ён пачаў у 30-х гадох і імкнуўся рэалізаваць у рэволюцыі 48-га году.

---

Рэволюцыя 1848 г. ўцягнула ў Германіі ў свой вір цэлую пляяду маладых людзей, уся вялікая будучына якіх ляжала наперадзе, але якія аказаліся на ўсё жыцьцё запалоненымі рэволюцыяй, усім яе вялікім ідэёвым зьместам, які ня толькі не знайшоў гістарычнага ажыцьцяўленьня, але нават не разьвярнуўся ў колькі-небудзь выстарчаючай меры ў самай рэволюцыі, якая прыняла спэцыфічна-германскі дробна-буржуазны вучана філістэрскі характар.

Горыч глыбока трагічнай супярэчнасьці паміж шырынёю ідэй і надзей, якія пакладаліся на рэволюцыю, і вузкасьцю і беднасьцю фактычных рэволюцыйных падзей, перажываліся з надзвычайнай вастратою. Да гэтае пляяды маладых людзей належалі таксама К. Маркс, Ф. Энгельс, Ф. Ляссаль. Да яе-ж павінен быць залічан, хоць з зусім іншага рэволюцыйна-гістарычнага пункту погляду,—Бісмарк. З іх Вагнэр у 48 г. быў самым старэйшым. У той час, як Ляссалю было 23 г., Марксу—30 г., Бісмарку—33 г., Вагнэру было 35 год.

Калі для іх усіх рэволюцыя аказалася цяжкім паражэньнем, то ніхто з іх не аказаўся так прыбітым і цераз гэта на ўсё жыцьцё азлобленым

самым ходам і вынікамі рэволюцыі, як Вагнэр, ня гледзячы на яго большы ўзрост.

Калі кожны з гэтых рэволюцыянэраў, у залежнасьці ад яго філёзофскіх і політычных максымальна грамадзка-гістарычных надзей, меў яшчэ некаторую програму-мінімум, то Вагнэр, паводле свае папярэдняе адукацыі і паводле свайго прыраджонага артыстычнага тэмпэрамэнту, ня меў нічога, апрача вельмі няяснай програмы-максымум. З станоўчымі вынікамі рэволюцыі ён чакаў поўнага зьнішчэньня ўсякай наогул грамадзкай агіднасьці, а дзеля гэтага ўдар для яго павінен быў быць асабліва адчувальным. Ня толькі вынікі рэволюцыі, але яшчэ раней, чым гэтыя вынікі канчаткова азначыліся, самая рэволюцыя, разам з ёй наогул уся політычная дзейнасьць і політыка, у простым і цесным сэнсе гэтага слова, стала для яго агіднай.

Удзел у рэволюцыі ўсё жыцьцё прасьледваў Вагнэра ня толькі з знадворнае стараны,—у яго становішчы эмігранта і заўсёднай патрэбы апраўдвацца перад сваімі абаронцамі, многімі сябрамі і мэцэнатамі ў сваім удзеле ў рэволюцыі,—у гэтым неасьцярожным, неабдуманым парыве, які выліўся ў шкараднае, злачыннае дзеяньне, але і ва ўсіх унутраных яго перажываньнях. Ён стаіць заўсёды перад яго ўнутраным зрокам, як страшная здань, і бесьперастанку непакоіць яго сумленьне.

Трагедыя Вагнэра вырасла з невыстарчальнасьці рэволюцыі 48 году. Ён са сваімі сябрамі па рэволюцыі непасрэдна прымаў у ёй удзел, прадпрыймаў цэлы шэраг рашучых, разьлічаных дзеяньняў, якія паводле яго глыбокага пераконаньня павінны былі прывесьці да скорых вынікаў, і гэтыя дзеяньні абманулі яго. Гэтыя-то разьлічаныя дзеяньні ён з цягам часу і называе політыкай і, адракаючыся ад політыкі, адракаецца ад гэтых дзеяньняў. Рэволюцыйная-ж стыхія, як такая, была для яго роднаю; ад яе ён ня мог уцячы і ад яе ніколі не адракаўся. Адракаючыся ад політыкі, ён адракаўся ад сваёй політыкі 48 г., але політыка, у вагульным сэнсе гэтага слова, займала яго праз усё жыцьцё.

Вагнэр як у музыцы, так і ў літаратуры, быў драматургам. З усіх відаў творчасьці драма ў найбольшай ступені і з найбольшаю жвавасьцю выказвае концэнтраванасьць эмоцыі і мысьлі. Драма тым дасканалей, калі пачуцьці ў ёй абмаляваныя, больш аголены, вызвалены ад другарадных, наносных, пабочных адзнак і ахварбовак, зьведзены к першапачатковым, найбольш агульным асновам, калі менш у ёй другараднага ў дзеяньнях і больш абагульненага. Вялічава тая драма, якая разьвіваецца з чыста стыхійнаю прастатою і энэргіяй, таксама стыхійна, як прыродна-стыхійны беспасрэдныя, глыбокія эмоцыі. Натуральна Вагнэра заўсёды „вабіла да чыстае дзявоцка-незачэпнае стыхіі“.

Калі прыняць звычайны падзел творчасьці Вагнэра на тры пэрыоды, то два першых—да стварэньня Трыстана і Ізольды (1859 г.)—зьяўляцца малазначнымі, у параўнаньні з трэцім, запоўненым тэтралёгіяй „Пер-

сьцень Нібэлюнга“ і драмай „Парсіфаль“. Першыя два толькі падрыхтоўка да трэцяга, пробы ў драматычным мастацтве, трэці—сапраўднае ажыцьцяўленьне драмы. Паміж другім і трэцім маецца надзвычайна вялікі ва ўсіх сэнсах скок уверх. Усё гэта было-б так, калі-б гэтага падзелу, строга кажучы, можна было прытрымлівацца. У сапраўднасьці, ідэя „Персьценя“ зарадзілася ў процэсе рэволюцыі 48 г. і ў пору яе. Калі Вагнэр быў заняты Лёэнгрынам (48 г.), ідэя тэтралёгіі ўжо запаўняла яго творчыя імкненьні. Яна вырасла з імкненьняў рэволюцыі і з важнейшай і складанейшай політычнай проблемы, якую рэволюцыя вырашыла ў самай нязначнай, больш тэорытычнай, чым практычнай, ступені, з проблемы аб‘яднаньня Германіі.

З проблемай перамогі фэўдалізму і аб‘яднаньня Германія ўступіла ў XIX век. Уся тэорыя і практыка політычнага жыцьця Германіі згуртавалася на гэтай проблеме. Вагнэр прасякся гэтай проблемай, ён удумваўся ў яе на працягу поўвеку, зрабіў яе сьцягам свае творчасьці, сам зрабіўся вяшчуном вырашэньня гэтае проблемы на падставе пэўнага політычнага прынцыпу—прынцыпу монархічнага. Не дарма ў 1913 г. (год сталецьця нараджэньня Вагнэра) кожная нямецкая газэта, кожная кніжка, лісток, брошура прысьвечаны Вагнэру, на ўсе лады крычалі „unser Wagner“, бо Вагнэр сапраўды поэта аб‘яднанай Германіі і ў асаблівасьці—монархічна аб‘яднанай. Недарма зорка Вагнэра ўзышла вельмі высока ў Германіі ў 70-х гадох, калі скончылася аб‘яднаньне Германіі. Яго ўслаўлялі паводле яго заслуг, ён сапраўды зьявіўся адным з буйнейшых політычных дзеячоў на грунце аб‘яднаньня Германіі.

Вагнэр ня любіў „політычнай матэматыкі“, не хацеў і ня мог быць „усё вылічаючым політычным матэматыкам“, яго дух насіўся над вышынямі політыкі, ён концэнтраваў нямецкі нацыянальны рух у сьціслых політычных лёзунгах, абагульняючых да вышэйшай ступені існасьць політычных заданьняў. Ён быў драматургам ад політыкі і драматызаваў політыку. Сілаю драматычнай інтуіцыі ён зразумеў, „што сапраўдная рэволюцыя ніколі ня прыдзе зьверху, з лягеру разьлічаючай асьвечанай інтэлігенцыі, а толькі зьнізу, з бражэньня чыстай чалавечнасьці“, як піша ён у звароце да сваіх сяброў. Ён зразумеў, што сапраўдная політыка—політыка, якая абапіраецца на масы. Ён пачаў вывучаць політыку ў яе адбіцьці ў народнай творчасьці, вывучаць гістарычны процэс у вышэйшым концэнтраваным абразе народнай фантазіі. Ён усасаў у сябе народна політычную стыхію і народныя мэтоды політычнага ўплыву ў агітацыі і пропагандзе і, з вартаю зьдзіўленьня, непамернаю ўпартасьцю дабіваўся зьдзяйсьненьня гэтых мэтодаў у сапраўднасьці, заклікаў да гэтай дзейнасьці нямецкую інтэлігенцыю, якая сказіла фальшываю складанасьцю свае пачуцьці і тым марудней усвайвала гэтыя мэтоды, чым больш яны былі народнымі і простымі. На гэтай глебе вырас Вагнэраўскі ідэал усеагульнага, усенароднага мастацтва (algemeinsame

Kunst), комуністычнага мастацтва, мастацтва для мас, мастацтва стыхійнага, стыхійна і на народныя стыхіі ўплываючага. Гэтыя імкненьні былі новыя, але не аднаму Вагнэру прысутныя.

Для ўсіх тых, хто разам з Вагнэрам мог гаварыць „аб поўнай няпрыгоднасьці існуючых палітычных і соцыяльных умоў“, як пісаў ён у звароце да сяброў, „хто мог бяз страху гаварыць аб сапраўднай рэволюцыі“, для каго яна была не вар'яцтвам, а спакусаю, для усіх тых, хто дапускаў, што 48 г.—толькі прэлюдыя, што самая рэволюцыя наперадзе, хто верыў у няўхільнасьць рэволюцыі ў пэрыод прускага констытуцыйнага конфлікту 60-х гадоў,—для ўсіх іх рэволюцыя ўяўлялася ў стыхійным руху народных мас, усе яны з нязвычайнаю нецярплівасьцю чакалі гэтага руху, усім ім ён здаваўся няўхільным.

Усё-ж, каму не па нутры была палітычная матэматыка лібэральнай буржуазіі, хто ня мог прымаць іх салодзенькіх палітычных, філістэрскіх мікстур, марыўся „прыведзены ў рух Ахерон“ (г. е. народ). Аб гэтым гаварылі контр-рэволюцыянэры справа і рэволюцыянэры зьлева ад лібэральнай буржуазіі. Пагрозамі „прыведзенага ў рух Ахерона“ над галовамі буржуазіі перакліkаліся Бісмарк і Ляссаль. Як Вагнэр аб комуністычным мастацтве, так марыў Ляссаль аб комуністычнай навуцы, навуцы для ўсіх, і стварыў непераўвышаныя ў гэтай галіне спробы. Як Вагнэр драмаю, так Ляссаль навукаю імкнуўся прывесьці ў рух немы Ахерон.

Яшчэ ў трыццатых гадох, а потым у рэволюцыйных выступленьнях 48 г. Вагнэр выявіў сябе, як палкі прыхільнік монархіі. Ды гэта і натуральна, калі мы прымем пад увагу, што асяродзьдзе настаўнікаў і чыноўнікаў, з якіх вышаў Вагнэр, культавала на працягу шмат гадоў монархічную ідэю Германіі. Другое асяродзьдзе, якое мела ўплыў на Вагнэра, асяродзьдзе тэатральна-акторскае, было нічым іншым, як ніжэйшым прыдворным элемэнтам двароў германскіх імпэратараў. Тэатры былі прыдворнымі і існавалі галоўным чынам для асобы цара, густам якога і азначаўся характар тэатру, акторы глядзелі на яго, як на свайго галаву і заступніка. Іменна, як тэатральны працаўнік, Вагнэр непасрэдна ад пачатку сваёй кар'еры стыкнуўся з царамі, і пытаньне аб адносінах Вагнэра к розным нямецкім цаном, аб яго асабістых сутычках мог-бы скласьці прадмет спэцыяльнае працы. Найвялікшую павагу да цара, як такога, ён усвоіў у тэатры і там-жа прывык бачыць у васобе цара вяршыцеля лёсу мастацтва. Тады, калі яму здрадзіла вера ў рэволюцыю, у сэнсе палепшаньня яго асабістага становішча, ён зварачаецца да веры ў цара і сярод гэтых вяршыцеляў лёсу мастацтва шукае такога, які схіліўся-б к мастацтву. Каранаваныя галовы граюць нязвычайна буйную ролю ў яго надзеях і жыцьці. Характар прыдворнага музыканта не пакідаў Вагнэра да канца яго жыцьця. Якім прыдворным фарысействам гучыць назва гымну, прысьвечанага Вагнэрам саксонскаму каралю

Фрыдрыху - Аўгусту „Gruss seinen Freuen an Friedrich Auqust den qelibten“.

Вагнэр наракаў на тэатральную бюрократыю, якая стаіць паміж монархам і *яго* акторамі. Мець магчымасьць бліжэй падыйсьці да караля дзеля таго, каб, адхіліўшы ад яго тэатральную бюрократыю, падуладзіць караля свайму асабістаму ўплыву, ня раз складала задачу Вагнэра. Вось чаму спатканьне яго ў 1864 годзе з Людовікам II, каралём баварскім, прадстаўляла для яго найзначнейшую важнасьць. А ў той сутычцы, якая адбылася паміж Людовікам II і некаторымі коламі баварскага грамадзтва з прычыны мяшканьня Вагнэра пры баварскім дварэ, ён убачыў апраўданьне тэорыі засільля бюрократызму над асобаю караля.

Практычныя ўмовы жыцьця Вагнэра даводзілі яму аб ідэолёгічнай прыхільнасьці к першым выяўленьням барацьбы буржуазнага унітарызму з фэўдальным германскім партыкулярызмам, аб прыхільнасьці да унітарыцка-монархічнага прынцыпу, які ўзьвялічваў монархію, пад флёрам старога сантымэнтальна-народнага дэмократызму, пад флёрам соцыяльнай монархіі. Палкі патрыот, насьледнік патрыотычных настрояў, якія знайшлі сваё яркае выяўленьне ў нямецкіх прамовах Фіхтэ з іх яўна выяўленым пангерманскім характарам, ён каханьне радзімы, таксама як і многія пасьлядоўцы Фіхтэ да яго, абярнуў у мары нямецкай імпэрыяй і нямецкім імпэратарам. Дзякуючы таму, што ні гэтай імпэрыі, ні гэтага імпэратара ня было ў сучасным, то прыходзілася зварачацца да сярэднявяковай Германіі, і, як у свой час у Маркса, фон-Шэкендорфа і другіх пісьменьнікаў 20-х і 30-х гадоў у Германіі, і ў Вагнэра пачалі „высокія і шляхетныя фігуры спускацца і падымацца з плыньню Рэйна“. Усё гэта ці фігуры ўсегерманскіх монархаў, ці асоб, што дзейнічалі проці іх, шматлікіх ворагаў. Уся гісторыя Германіі і ўся філёзофія гісторыі наогул абярнулася ў барацьбу паміж монархічным унітарызмам і рэспубліканскім ці фэўдальна-монархічным партыкулярызмам, цераз гэты прынцып дзяржаўнасьці набывае асаблівае значэньне і адыгрывае надзвычайна буйную ролю ва ўсіх гісторыка-філёзофскіх пабудовах Вагнэра. Уся гісторыя Германіі абарачаецца ў процэс яе імкненьня, каб зьдзейсьніць германскую імпэрыю, з якою зьвязаны самыя высокія ўяўленьні.

Чым менш прывабна была для Вагнэра політычная Германія сучаснага, тым больш ідэалістычна малявалася яму Германія мінулага і ў будучыне, Германія, якая аджыла і якая яшчэ толькі будзе жыць. Ён патануў у сівую старажытнасьць германскага мінулага, парадніўся з апоэтызаванымі вобразамі мінулага, каб у гэтых перажываньнях чэрпаць веру ў веліч будучай Германії, энэргію для яе пабудаваньня. „Політычная магутнасьць маёй радзімы насілася ў ідэале перад маімі вачамі“,—піша ён у звароце да сяброў. І вобразы мінулага налеглі на вобразы надыходзячага. Германія аб'яднаная, адраджоная вялічавым монархічным

прынцыпам, ажыўленым і аднОўленым глыбокай народнай рэволюцыяй,— вось арэна чыннасьці для артыстага, вось дзе „музыка надыходзячага" знойдзе сваю сфэру. Германія, зьдзейсьніўшая цераз глыбока і шырока народную рэволюцыю, адвечныя палітычныя мары народных мас—дэмократычную монархію—вось палітычныя мары Вагнэра; у яе ён верыць, ей ён служыць.

Уся яго чыннасьць ёсьць толькі ўдасканальваньне і зьдзяйсьненьне сродкаў для ўтварэньня новай Германіі; новая Германія—арэна, на якой комуністычнае мастацтва разаўецца да сваіх найвышэйшых дасягненьняў, каб перабудаваць і перайначыць сьвет.

Організуючая роля, якую для Вагнэра мае мастацтва, тут увасабляецца ў конкрэтнае грамадзка-гістарычнае заданьне, яно павінна дзейнічаць у кірунку ўтварэньня Германскай імпэрыі. Суб'ектыўна Вагнэр імкнуўся да высокіх гістарычных мэт, об'ектыўна ён зьдзяйсьняў абмежаваную палітычную задачу яго часоў.

Той росквіт, які выявіўся ў Германіі з Франка-Прускай вайны 1870 г., засяніў для большасьці сучасьнікаў тую надзвычайна трагічную шасьцівяковую гісторыю Германіі, калі яна ў праху, раздушаная фэўдалізмам, разарваная на безьліч частак, эксплёатуемая другімі эўропэйскімі дзяржавамі, якія ў параўнаньні з ёю шпарка пасоўваліся наперад па шляху зьнішчэньня фэўдалізму. Выхад з гэтага трагічнага становішча складаўся ў магчымасьці саюзу паміж германскай буржуазіяй і сялянствам супроць фэўдалаў, а разам з тым Вялікая Германская Рэволюцыя XVI веку—Сялянскія войны і соцыялістычна-комуністычны рух сярод нізоў гарадзкога насяленьня ў 1524-25 г. г.—прымусіла германскую буржуазію гандлёвага капіталу заключыць саюз з фэўдаламі проці сялянскіх мас і плебэйскіх люмпэн-пролетарскіх элемэнтаў гораду і вёскі. Якраз к гэтаму часу экономічны пераварот, зьвязаны з адшуканьнем Амэрыкі, які перанёс цэнтры гандлёвых шляхоў і экономічнага разьвіцьця Эўропы з стратаю для Германіі на ўзьбярэжжа Атлянтычнага акіяну, надоўга прыпыніў прамысловае разьвіцьцё Германіі і рост у ёй буржуазіі. Калі вызваленая француская буржуазія, што дзейнічала ў саюзе з францускім сялянствам, у Наполеонаўскіх войнах, нямецкая буржуазія ў 1848 г. памкнулася парушыць стары саюз з фэўдаламі, ужо ў многа разоў больш выгаднай для сябе абстаноўцы, яна аказалася перад тварам, вырасшага разам з ёю ня столькі ў Германіі, колькі ўрэшце Заходняй Эўропы, пролетарыяту і, спужаўшыся ня столькі рэволюцыйных дэмократаў і соцыялістых, колькі чэрвеньскіх барыкад у Парыжы, зноў пасьпяшылася кінуцца ў абыманьне фэўдалаў-юнкераў, умацаваўшы тым самым партыкулярыцкае status quo Германіі ў тым выглядзе, у якім яно існавала да 48 г. Толькі саюз з сялянствам мог разбурыць гэты status quo, перамагчы партыкулярызм і стварыць адзіную Германію. З мэтаю ўтварэньня гэтага саюзу трэба было выявіць унітарыцкія імкненьні сялянства ў гісторыі

Германіі, пераацаніць і паказаць адмоўнасьць усіх палітычных, соцыяльных і гістарычных разуменьняў, якія перашкаджалі гэтаму саюзу. Адсюль— народніцкія ідэалы Вагнэра, супроцьстаўляемыя рэшце палітычных ідэй Германіі яго часу; адсюль—выбражаемы народніцкі комунізм, супроцьстаўляемы буржуазнаму індывідуалізму; адсюль—сялянска-дэмократычны германа-унітарны комунізм, супроцьстаўляемы констытуцыяналізму і рэспубліканізму; адсюль, нарэшце,—барацьба з пролетарскім і ўсякім іншым соцыялізмам, які ўкліньваецца паміж буржуазіяй і сялянствам. Гэтай абмежаванай палітычнай задачы свайго часу—саюзу Германскай буржуазіі і германскага сялянства і служыў Вагнэр.

У эпоху рэстаўрацыі Бурбонаў ў Францыі ў 1817 г., на пляцу Новага Мосту ў Парыжы, на п'едэстале, які чакаў статую Генрыха IV, вырэзвалі слова redivivus (паўстаўшы з мертвых). Гэты надпіс павінен быў абвясьціць сьвету аб тым, што былая монархія добрага караля Генрыха IV, якая была акружана орэолем народных паданьняў і стала сымболем ідэі дэмократычнай, мужычай монархіі, уваскросла ў монархіі Людовіка XVIII. Гэтае цудоўнае ўваскрашэньне монархіі ў Францыі адбылося ў выніку паражэньня Вялікай рэволюцыі, падзеньня першае Рэспублікі і першае імпэрыі. У Германіі, наадварот, монархія павінна была ўзьнікнуць у выніку перамогі рэволюцыі. Імпэратарская карона валялася на стале франкфурцкага парляманту ў 1848 г. Фрыдрых-Вільгельм ні то не захацеў яе, ні то пабаяўся яе, але прыдзе час, калі гэта карона ўбярэ галаву ўсенямецкага монарха.

Калі французскім монархістым ня трэба было рабіць далёкіх экскурсаў у гістарычнае мінулае, для таго каб уваскрасіць вобраз ідэальнага караля, і досыць было зьвярнуцца к пачатку XVII веку, то немцам для адшуканьня такога-ж вобразу прышлося зрабіць вельмі аддаленыя экскурсы.

У гістарычнай пэрспэктыве монархічная ідэя ў Германіі мае надзвычайна трагічны вобраз, зьвязаны з паказанай трагедыяй перамогі фэўдалізму ў Германіі.

Карона рымскага імпэратара аказалася занадта цяжкою для галавы імпэратара новае Сьвяшчэннае Рымска-Германскае імпэрыі. Упаўшы з галавы Караля Вялікага разам з яго сьмерцю (814 г.), яна больш усяго валялася ў праху, яе тапталі боты фэўдалаў, абівалі папскія посахі. Яе унівэрсальнае мінулае ня мірылася з фактычнаю нікчэмнасьцю сучаснага; яна траціла ўвесь свой бляск на галаве монарха з абмежаванымі патрабаваньнямі і рабіла яго сьмешным і мізэрным; пад цяжарам яго патрабаваньняў гінулі монархі, поўныя энэргіі і адвагі. Рымская карона ў сярэднія вякі, да таго часу зьзяла вабячай велічу, пакуль захоўвалася ў аўтары каталіцкай царквы; яна абарачалася па большай часьці ў забаўку нікчэмнага фарсу, ці радзей, у прычыну бязвыхаднай трагедыі,

як толькі яе даставалі з аўтару. Рымская карона ня месьцілася з каталіцкай Эўропай і яшчэ менш з Эўропай фэўдальнай.

У той час, як ва Францыіі пры Генрыху IV (забіты ў 1610 г.) умацоўваўся гандлёвы капітал, а разам з ім галіканізм і асьвечаны абсолютызм, у Германіі з перамогаю рэформацыі і адначасным узмацненьнем фэўдалізму, імпэратарская карона, таксама як і вялічавы папскі тытул Pontifex maximus разьбіліся на безьліч асколкаў і, як верна сказаў, Ф. Мэрынг („Легенда о Лессинге"), Германія была аддана на струмень і грабежніцтва дзесяткаў прагавітых і драпежных пап-цароў лютэранска-фэўдальнай рэакцыі. У гістарычнай далі, дый то ня пры сьвеце навуковага дасьледваньня, а ў орэоле легенды, трагічным бляскам зьзяла рымская карона на галовах першых Гогенштаўфэнаў і ў другой палове XII веку—на галаве Фрыдрыха Барбароссы.

„Чакаемае так многімі, у нядаўнім багатым надзеямі прошлым, прабуджэньне Фрыдрыха Барбароссы захапіла і мяне. Яно прымусіла з павялічанай стараннасьцю прыняцца за зьдзяйсьненьне даўно ўжо жыўшага ва мне жаданьня ажывіць на нашай сцэне маім слабым мастацкім дыханьнем гэтага царственага гэроя,"—піша Вагнэр у сваім арыгінальным гісторыка-фантастычным артыкуле „Нібэлюнгі", напісаным зараз пасьля рэволюцыі 1848 г. Гэтае жаданьне ўваскрасіць Фрыдрыха Барбароссу зьявілася выходным момантам для сужэту „Пярсьцёнак Нібэлюнга" і яго працягу „Парсыфаля", і, як бачым, гэты сужэт узяты непасрэдна з надзей на рэволюцыю 48 году.

Артыкул „Нібэлюнгі" Вагнэр пачынае з гістарычных досьледаў для таго, каб скласьці матэрыял драмы, але гісторыя занадта непадатліва концэнтруецца ў вялічавыя ўсеахапляючыя сымболі, патрэбныя для яго творчасьці, і ён, сьмела адкідаючы яе, зварачаецца да легенды, да міту і піша свой артыкул, як „сусьветную гісторыю на грунце паданьня". Цяпер увесь артыкул абарачаецца ў зусім свавольнае, догматычнае зьвязваньне сымболяў, легендаў і раскрыцьцё іх як быццам гістарычнага зьместу.

Ды інакш яно і быць не магло. Навуковая гісторыографія не адбіла народна-гістарычных поглядаў, якія адшукваў Вагнэр, і яны адбіваліся ў народных легендах, перарабіўшых гісторыю ў мастацкія сымболі. Народна-легендарная сымболіка парадзіла драматычную сымболіку самога Вагнэра. Раскрыцьцё гістарычнага зьместу сымболяў народных легендаў стала для яго, каб выясьніць „ідэальную сутнасьць каралеўскай улады ў Германіі" ў народным уяўленьні і разуменьні. Концэпцыя, якая ім далей разьвіваецца, па існасьці вельмі простая.

Крыніцы народна-легендарнага ўяўленьня аб найлепшай існасьці каралеўскай улады захоўваюцца ў прымітыўных народна-рэлігійных уяўленьнях аб стыхійнай барацьбе дня і ночы, баго ў сьвету і цемры.

Прарадзіцель Франскай дынастыі германскіх імпэратараў—гэрой Зігфрыд антропоморфічны вобраз бога сонца, прапраўнук сьветлых багоў.

Зігфрыд перамог Нібэлюнгаў—духаў ночы і сьмерці, завалодаў сымбалем іх улады—скарбам Нібэлюнгаў і перадаў яго сваім патомкам—франскай дынастыі германскіх каралёў. З таго часу гэты скарб зьяўляецца сьцягам, вакол якога ідзе заўсёдная барацьба дабра са злом, г. зн. вялікае па сваёй ідэёвай сутнасьці, адзіна, на асновах ісьціннай замілаванасьці і справядлівасьці, арганізуючай чалавечае сужыцьце, сілы каралеўскай улады і ўсімі іншымі раскладаючымі яго палітычнымі тэндэнцыямі. Барацьба злучаецца з простадушным, сьветлым гэроізмам, з аднаго боку, увасобленым у сьветлым гэрої Зігфрыдзе, і цемравай зрадлівасьці, з другога боку, увасобленай у карліку Альбэрыху. Трагізм у няўхільных перамогах, у процэсе барацбы, цемры над сьветам; вось чаму ў самым пачатку стварэньня „Пярсьцёнка Нібэлюнга“ Вагнэр скарыстаў самы востры, самы трагічны момант—сьмерць Зігфрыда. Гэтае трагічнае здарэньне павінна было зьявіцца сужэтам першае драмы, якую задумаў напісаць Вагнэр. Гэты сужэт у далейшай распрацоўцы застаўся цэнтрам тэтралёгіі, у якую вылілася, разросшыся і разьвіўшыся, задуманая драма. Паступова наўкола гэтага цэнтральнага трагічнага моманту разьвярнуўся цэлы шэраг другіх трагічных момантаў, якія зьвязаны з ім, яго тлумачаць і асьвечваюць, і ўся сымфонія трагічных калізій вылілася ў тэтралёгію „Пярсьцёнак Нібэлюнга“. У вечным руху дня і ночы, у вечнай зьмене сьмерці і нараджэньня канчатковая перамога належыць сьвету, жыцьцю, Зігфрыду; сымфонія трагедый завяршаецца містэрыяй Грааля ў драме „Парсіфаль“, і містычнае сонца Грааля, высока паднятае рукамі перароджанага Зігфрыда-Парсіфаля, пад малітвы крыжаносцаў, „у цемры сьвеціць і цемра не абыйме яго“.

„Бясспрэчна“,—кажа Вагнэр у артыкуле Нібэлюнгі,—„што паданьне аб Нібэлюнгах зьяўляецца спадчынаю франскага племя; яго важнае значэньне складаецца з старажытняе сьвядомасьці франскім племем душы свайго каралеўскага роду“. Такім чынам, 5 драм Вагнэра ёсьць аднаўленьне „осознания“ для сучаснай Германіі.

Цераз забойства дракона і заўладаньне скарбамі Нібэлюнгаў Зігфрыд сам атрымлівае назву Нібэлюнга. Гэтая назва маецца ня толькі ў легендах, але гэтым імем адзначан таксама даўнейшы каралеўскі род на нізінах Рэйна, як імем Кароля адзначаны род Каролінгаў; адсюль—паданьне аб старым вялікім родзе Нібэлюнгаў. У далейшым каралеўскі род Нібэлюнгаў, дзякуючы некатораму фонэтычнаму ўплыву, атрымаў назву Нібэлюнгаў, вядомых па барацьбе з Вэльфамі—прадстаўнікамі княжацка-фэўдальных і гарадзкіх рэспубліканскіх і партыкулярыцкіх палітычных імкненьняў, прадстаўнікамі каторых зьяўляюцца Нібэлюнгі-Вібэлюнгі. Дзякуючы гэтаму з цягам часу гэта ўласнае імя старэйшай германскай дынастыі набыло характар агульнага і

стала азначэньнем ўсякай палітычнай плыні і арганізацыі ў Германіі і па-за ёй, зьвязанных з унівэрсальна-монархічнай унітарыцкай ідэяй, якую адказала Сьвяшчэнная Рымская імпэрыя сваёй спадчыньніцы Сьвяшчэннай Рымска-Германскай імпэрыі.

На пачатку сярэднявякоўя Нібэлюнгі былі адціснуты ад улады Меровінгамі, але потым зьвернуты пад імем Каролінгаў. У Х в. Нібэлюнгі-Каролінгі на час адціскаюцца ад улады саксонскім каралеўскім домам і варочаюцца да яе ў ХІ в. з франскім каралеўскім домам, які ў радні па жаночай лініі з Каролінгамі. Пасьля эпізодычнага царстваваньня яшчэ аднаго прадстаўніка Саксонскага дому, Лотара Саксонскага (1125—1137), Нібэлюнгі зноў у ўлады з дынастыяй Гогенштаўфэнаў—„патомкаў франскай дынастыі па жаночай лініі“. У 1268 г. пасьля пакараньня сьмерцю ў Нэаполі апошняга з роду Гогенштаўфэнаў, Конрадзіна, юнага сына Конрада IV, выміраюць Нібэлюнгі. Гэты гістарычны факт кары сьмерцю апошняга Нібэлюнга-Гогенштаўфэна, астатняга яскравага прадстаўніка германска-імпэрыялістычных імкненьняў, успрымаецца Вагнэрам, як нязвычайная сусьветная трагедыя. „Крык сьмяротнае жудасьці пранёсься па ўсіх народах, калі галава Конрада ўпала ў Нэаполі пад ударам Караля Анжуйскага,“—піша ён. Як Гамлет, калі даведаўся гісторыю сьмерці свайго бацькі і злачынства сваёй мацеры, мог-бы ён ускрыкнуць аб тым, што моральныя асновы сьветабудовы разбураны, што распалася сувязь часу, што патрэбны вялікія ўзрушэньні, вялікія рэволюцыі, каб гэту сувязь аднавіць.

З таго часу вялікая унівэрсальна-унітарыцкая монархічная ідэя ляжыць у праху. Дробны эгоістычны партыкулярызм фэўдалаў разьдзірае Германію на часткі. Неабмежаванае сваволства без ідэёвай хлусьлівай арыстократыі зямельнай уласнасьці вядзе барацьбу з гандлёвай арыстократыяй гарадоў, падзяляючы з апошняй матэрыяльную і духоўную эксплёатацыю беднага германскага народу. Поруч з імі каталіцкая царква—грубы і дзікі абман, які эксплёатуе найвялікшыя моральныя і ідэйныя імкненьні чалавецтва. Кулачнае права, гандлярства, рэлігійны абман на працягу вякоў пануюць у распадзе ўсіх грамадзкіх сувязяй бяз усякае прыкметы на моральнасьць і правасудзьдзе. Народ стогне пад цяжарам гэтае вакханаліі, з смуткам і надзеяй успамінае лепшых Нібэлюнгаў у вялічавых сымболях сваіх паданьняў аб Нібэлюнгах, бачыць свае надзеі і ня верыць у канчатковую сьмерць вызваліцельніцы ад фэўдалізму, імпэратарскай улады, як ня верыць у сьмерць найвыдатнейшага з Нібэлюнгаў-Гогенштаўфэнаў, Фрыдрыха Барбароссы. Там, у цудоўным замку Кіфгаўзене сьпіць Фрыдрых Барбаросса і прасьнецца ў свой час, каб спасьці Германію. Гэты патаемна-цудоўны Кіфгаўзен—сам народ, а вялікі Нібэлюнг—ніколі не пакідаючая народ вялікая ідэя аб сваім народным каралі, вялікая ідэя глыбока моральнай монархіі, якая грунтуецца на каханьні наогул і на каханьні народу, у прыватнасьці.

Паміж вялічавымі ідэолёгічна-палітычнымі марамі Вагнэра і бісмарцка-гогенцолераўскім аб'яднаньнем Германіі, жалезам і крывёю, было таксама мала агульнага, як і паміж вялічавым аб'вяшчэньнем брацтва і скупкаю буржуазіяй нацыяналізаваных зямель у Вялікую Францускую Рэволюцыю. Як выдатнейшыя ідэолёгі буржуазнай францускай рэволюцыі ўзгаднялі бяз нутраных колізій і супярэчнасьцяй свае высокія палітыка-філёзофскія лёзунгі з сапраўднаю чыннасьцю буржуазіі, так і Вагнэр таксама без колізій і з вялікім нутраным задаваленьнем пагадзіў свае мары з рэальнай палітыкай Бісмарка. Рэволюцыя аб'яднаньня Германіі, на чале якой стаяў Бісмарк, зрабілася для Вагнэра сапраўдным увасабленьнем тае народнае рэволюцыі да аб'яднаньня Германіі, аб якой ён марыў усё жыцьцё.

Так Р. Вагнэр падпаў пад уплыў непарушнай лёгікі гісторыі. Выступіўшы на арэну палітычнай дзейнасьці ў 1848 г. з ідэяй дэмократычнай монархіі, якая ўжо для таго часу была рэакцыйнай,—рэволюцыйнай была ідэя рэспубліканскага аб'яднаньня Германіі, высунутая рэйнскімі дэмократамі, на чале якіх стаяў К. Маркс,—ён у сапраўднасьці стаў барацьбітом за бісмарцка-гогенцоллераўскую монархію, якая паводле яго мар, павінна была разьвівацца ў бок дэмократыі, а фактычна ўвасабляла сабою аўтократычныя прынцыпы палітычнага кіраўніцтва.

Калі Вільгельм I, першы імпэратар Германіі, і ня быў для яго поўным увасабленьнем Зігфрыда, то прынамсі першай гістарычнай ступеньню да надыходзячага яго ўвасабленьня. Хіба сам Бісмарк там дзесьці ў глыбіні душы не захоўваў ідэі аб дэмократычнай монархіі, хіба не адносіўся ён вельмі часта з насьмешліваю зьнявагаю да асобы Вільгельма I і яго царскага вялічча, прадбачачы зьдзяйсьненьне дэмократычнай монархіі, уяўляючы сабе вялічавага монарха сапраўды поўнага замілаваньня, самаахвярнасьці, вялічавай прастаты Германіі будучага?

Ня толькі сваімі поэтычнымі творамі і публіцыстычна-тэорытычнымі працамі, але і непасрэднаю чыннасьцю Вагнэр памагаў справе Бісмарка і сваім уплывам на грамадзкую думку Германіі і Эўропы ў пэрыод Франка-Прускай вайны 1870 г., і сваім непасрэдным узьдзеяньнем на Людовіка II Баварскага на карысьць Бісмарка і Вільгельма I, пры перадачы апошняму імпэратарскай кароны. Недарма Вільгельм I зьявіўся аднэй з першых каранаваных асоб на Вагнэраўскія ўрачыстасьці ў Байрэйт у 1876 годзе і карыстаўся выпадкам выказаць „адданасьць" Вагнэраўскаму мастацтву да канца свайго жыцьця.

Вялікія трагедыі Вагнэра выкліканы найбольшай гістарычнай трагедыяй Германіі, якая ў цяжкіх пакутах, як ніякая іншая краіна, апрача Польшчы, перамагла фэўдалізм. Трагічны гэрой гэтае трагедыі — дэмократычны монарх, вялічавае стварэньне народнае фантазіі, якое набыло тым больш вялічавыя найдасканальшыя вобразы, чым менш было сапраўдных магчымасьцяй для яе гістарычнага зьдзяйсьненьня.

Няма ніякіх рэлігійных і палітычных мар і лятуценьняў у нямецкім сялянстве сярэдніх вякоў, якія не ахапляліся-б ідэяй дэмократычнай монархіі. Нездарма сяляне ў сваім славутым палітычным Эвангельлі Сялянскіх войнаў (1524-25) пісалі аб „адзіным богу і адзіным каралі“, аб зьнішчэньні ўсіх саюзаў князёў, дваран і гарадоў, і каралі,—адзіным абаронцу, заступніку“.

Працяжная, упартая барацьба культавала найвышэйшую напружнасьць экстазу, даўшую магчымасьць трымацца ў вышынях найдасканалых надзей і лятуценьняў сярод трагедый сапраўднай барацьбы і паражэньняў. Народны экстаз, які нарадзіўся і гадаваўся ў гістарычнай барацьбе, стаў духам творчасьці Вагнэра, „вялікім розумам“ трагічнага поэты. Трагічныя моманты гэтае барацьбы цалкам і з адчуваемай яснасьцю тлумачаць тытанічнасьць, геніяльнасьць творчых дасягненьняў Вагнэра.

Паводле сваіх знадворных формаў творчасьць Вагнэра зьявілася нячуваным да яго ў музыцы адбіцьцём руху мас у гістарычным процэсе. Паколькі XIX век быў эпохай масавых палітычных рухаў, а з перамогаю прынцыпаў дэмократызму ў палітычным жыцьці маса стала ўзаконеным фактарам дзяржаўнага жыцьця, гэтыя знадворныя формы набылі нязвычайную актуальнасьць. Паколькі буржуазны дэмократызм ёсьць толькі пачатак зьдзяйсьненьня масавага грамадзкага будаўніцтва, пастолькі і знадворныя формы вагнэраўскай музыкі ёсьць толькі пачатак музыкі будучага, якая адаб'е гэта масавае будаўніцтва ў яго сапраўды шырокім ахопе, у якім яно разьвіваецца з начаткаў XIX веку ва ўсясьветным руху пролетарыяту. Мастацтва будучага родзіцца з экстазу барацьбы рабочае клясы і выявіцца ў творчасьці поэты, для якога гэты экстаз стане духам творчасьці, які дасьць яму магчымасьць да найвышэйшай завостранасьці пачуцьцяў успрыняць экстаз гэтай барацьбы іператварыць яго ў містэрыю, такую-ж вялічавую і захапляючую, як вялічава і захапляюча апошняя клясавая барацьба, якую перажывае чалавецтва.

# ВЫБАРЫ і НАКАЗЫ 1789 г. Ў ФРАНЦЫІ

**Б. Сэрбэнта**

Перад французскай рэволюцыяй 1789 г. адбыліся выбары ў Генэральныя Штаты, якія ў процэсе рэволюцыі вельмі хутка зрабіліся ўстаноўчым і законадаўчым нацыянальным сходам, які абмежаваў існаваўшую да таго часу абсолютную ўладу караля. Праўдзівей кажучы, улада караля была захавана настолькі, наколькі гэта было карысна для інтарэсаў буржуазіі, якая рабіла сваю рэволюцыю, прадстаўнікі якое на нацыянальным сходзе панавалі і па колькасьці, і па духу.

Каралеўскі ўрад, прыціснуты бязвыхадным фінансавым становішчам, сам назначыў дэкрэтам ад 24 студзеня 1789 г. выбары ў Генэральныя Штаты, зусім не прадбачыўшы тае мэтаморфозы, якая потым адбылася з імі і з самой каралеўскай уладай.

Генэральныя Штаты былі для Францыі ўстановай глыбока традыцыйнай. Апошні раз яны склікаліся ў 1614 годзе і пасьля гэтага да самай рэволюцыі ня скліканіся. Увесь гэты час каралеўская ўлада кіравала самаўладна, не зварачаючыся да думкі і дапамогі краю, цераз прадстаўнічыя ўстановы станаў, якімі былі Генэральныя Штаты. З паловы XVI веку пры выбарах у Ген. Шт. робіцца звычаем, што станы, пасылаючы сваіх прадстаўнікоў, даюць ім наказы ў пісоўнай форме у каторых зьмяшчаліся ўсе скаргі і просьбы, з якімі зварачаліся станы да караля. Місія прадстаўнікоў Ген. Шт. звычайна канчалася на тым, што яны павінны былі зачытаць і аддаць гэтыя скаргі каралю. Паказаньні Ген. Шт. зусім ня былі канечныя для каралеўскай улады, г. зн. гэтая прадстаўнічая ўстанова мела толькі характар законадарадчага органу, дый то слабага і эпізодычнага. Значыць, каралеўскай уладзе быццам ня прыходзілася баяцца, што такая бяскрыўдная ўстанова магла-б зрабіцца тым, чым яна ў сапраўднасьці пасьля зрабілася.

Урад ня ўлічаў тых соцыяльна экономічных зьмен, якія адбыліся ў яго дзяржаве на працягу апошніх двух сталецьцяў. Скілкаючы Ген. Шт., ён меў на ўвазе толькі свае фіскальныя інтарэсы, спадзяючыся за дапамогай прадстаўнікоў ад станаў лягчэй атрымаць ад краю патрэбныя яму грошы. Назначаючы выбары ў Ген. Шт., ён зазначыў і аб традыцыйным складаньні наказаў, бо „кароль хоча ведаць, чаго хоча Францыя і яго народ ад свайго караля“.

І на гэты заклік караля ўся Францыя адгукнулася з найвялікшым энтузіязмам, выяўляючы ў ім надзеі на будучую бязумоўную зьмену соцыяльна-політычных парадкаў, якія склаліся. У наказах, што абіральнікі давалі сваім прадстаўніком у Ген. Шт., выказвалася Францыя таго надзвычайна цікавага часу пярэдадню рэволюцыі, таму ўсе гэтыя наказы павінны былі-б зьявіцца дакумантамі бязумоўнай гістарычнай вартасьці.

I

Токвіль называе іх духоўніцай старой Францыі. „Гэтая духоўніца, напісаная ў дзесятках тысяч варыянтаў пісьменнымі альбо малапісьменнымі людзьмі ад свайго імя і ад імя няпісьменнай масы, павінна быць адбіткам таго, што думала ці адчувала Францыя напярэдадні перавароту“,—гаворыць Ону аб наказах.

Ці так гэта? Ці сапраўды ў наказах адбіваліся настроі і жаданьні самых абіральнікаў, ці можа за іх гаварыў хто іншы: рэдактары і, наогул, адукаваныя людзі? Ці правільна адбіваюць гэтыя наказы сапраўднае жыцьцё Францыі таго часу?

Пытаньне, ці могуць быць наказы гістарычнымі дакумантамі, якія правільна адбівалі ў сабе жыцьцё Францыі напярэдадні рэволюцыі і якія зьмяшчаюць у сабе сапраўдныя, а не падстаўленыя, жаданьні ўкладчыкаў, высьветліцца ў час азнаямленьня з абставінамі выбараў і складаньня наказаў.

Тут прыходзіцца гаварыць аб кожным стане паасобку. Для дваранства выбары былі аднаступянёвымі. Кожны дваранін меў права асабіста (а хто ўладаў маёнткамі—мог пасылаць замест сябе сваіх намесьнікаў) зьявіцца на выбарны сход бальяжу або сэпэшальства (г. зн. акругі) і непасрэдна абіраць дэпутатаў. Ад дваран не вымагалася, каб яны былі ўласьнікамі. Такім чынам, большасьць на дваранскіх сходах будзе складацца не з багатых дваран, ня з вышэйшага прыдворнага дваранства: небагатыя і ганаровыя, узлаваныя вясковыя дваранчыкі, быўшыя афіцэры ў шмат якіх выпадках зьявяцца законадаўцамі і нададуць дваранскаму наказу выгляд свайго роду протэсту і бурклівага свабодалюб‘я.

Што тычыцца духавенства, то яго капітулы, грамады і брацтвы павінны былі выбіраць з сваіх членаў пэўны лік дэлегатаў, якія зьяўляліся іх прадстаўнікамі на агульным сходзе. Духавенства, якое жыло ў гарадох данага бальяжу, павінна было зьбірацца ў сьвяшчэньніка таго прыходу, да якога яно было прымацавана, і там ужо абіраць дэлегатаў. Усе тыя, хто карыстаўся бэнэфіцыямі і належаў да ордэнаў, і сьвяшчэньнікі, якія ня жылі ў гарадох, скліkaліся на агульныя сходы бальяжу непасрэдна і асабіста.

Зусім інакш рабіліся выбары трэцяга стану. Тут яны былі па большай частцы двухступянёвымі, але былі таксама, у некаторых

выпадках, трох і нават чатырохступянёвымі. У гарадох прамысловыя і гандлёвыя корпорацыі рабілі сходы сваёй корпорацыі і абіралі прадстаўнікоў на гарадзкі сход, а часамі складалі наказ. Жыхары, якія не належалі да корпорацыі, зьбіраліся ў ратушы і тут абіралі сваіх прадстаўнікоў і ўкладалі наказ. Норма прадстаўніцтва—на 200 абіральнікаў адзін дэпутат. Выбарчым-жа правам карыстаўся кожны францускі падданы, якому мінула 25 год і які плаціў ня менш шасьці франкаў падатку. Абраныя, такім чынам, прадстаўнікі складалі гарадзкі сход трэцяга стану, укладалі наказ ад гораду і абіралі прадстаўнікоў на сход трэцяга стану бальяжу, дзе ўжо знаходзілі прадстаўнікоў ад другіх гарадоў тэй-жа самай акругі, а таксама і прадстаўнікоў ад сялянства. Вясковыя-ж выбаршчыкі свае першыя сходы рабілі па вёсках, якія мелі самастойны сьпіс аб плацяжы дзяржаўных падаткаў. На вясковых сходах складаліся першастковыя наказы і абіраліся прадстаўнікі ў бальяж. Норма прадстаўніцтва: на 200 і да 200 абіральнікаў—2 прадстаўнікі, г. зн., кожная вёска, якая мела свой падатковы сьпіс, абірала двух дэлегатаў у бальяж, хоцьбы яна мела абіральнікаў і значна менш, чым 200. І такіх выпадкаў было вельмі і вельмі многа. Такім чынам, на акруговым сходзе сялянства мела большасьць. На акруговым сходзе абіраліся ўжо прадстаўнікі ў Генэральныя Штаты, і на аснове першастковых наказаў складаўся зводны альбо акруговы наказ ад трэцяга стану.

Такая была тэхніка выбараў паводле каралеўскага ўказу 24 студзеня аб скліканьні Генэральных Штатаў.

Ці могуць быць складзеныя такім чынам наказы дакумантамі, якія правільна адбіваюць жыцьцё тагачаснай Францыі і пажаданьні іх укладальнікаў, інакш кажучы, ці маюць гэтыя наказы об'ектыўную і суб'ектыўную верагоднасьць? Сумненьне могуць выклікаць, зразумела, толькі наказы трэцяга стану і асабліва сялянскія.

Перш за ўсе высьветлім, ці быў з боку ўраду націск і ці было імкненьне накіраваць рэдакцыю наказаў у жаданым для сябе кірунку. Адно тое, што вельмі шырокія масы трэцяга стану мелі права абіраць дэлегатаў, а таксама і падвойная колькасьць прадстаўнікоў гэтага стану ў Генэральныя Штаты кажа аб тым, што ўрад ня бачыў ніякай небясьпекі для сябе з боку трэцяга стану. Наадварот, ёсьць падстава думаць, што ён цьмяна глядзеў на трэці стан, як на сваю апору супроць фрондуючай часткі дваранства.

Адносіны ўраду да выбараў відаць з тых інструкцый, што рассылаліся міністэрствамі на месцы прадстаўнікам улады—лейтэнантам (акруговым прадстаўнікам судовага ведамства), якія павінны былі кіраваць выбарамі трэцяга стану ў акругах і быць старшынямі на акруговых сходах. Паводле думкі ўраду, абавязкі мясцовае ўлады абмяжоўваліся выключна аховай парадку і вытлумачэньнем абіральніка мэханізму выбараў. Гэтыя інструкцыі, таксама, як і адказы міністраў Нэкера і Барэнтэна

(мін. юстыцыі), на запытаньне мясцовых дзеячоў прасякнуты адным духам: „захоўвайце парадак, не абмяжоўваючы свабоды". Так пісаў Нэкер галоўнаму начальніку войска ў Бэзансоне, маркізу дэ-Лянжэрон і гэтае паказаньне выражала кіравальны прынцып ураду ў тагачаснай палітыцы выбараў. Так разумеў справу і шмат хто з мясцовае ўлады, калі ў сваіх адказах абяцаў узгадняць свае паводзіны з замерамі ўраду (інтэнданты Аланжонскі, Аміенскі, Орлеанскі, Каінскі ды інш.).

Значыць, у працэсе барацьбы з-за выбараў цэнтральны ўрад заняў зусім нэўтральную позыцыю.

Узьнікае пытаньне, ці меў магчымасьць урад правесьці сваю палітыку на мясцох. Ня гледзячы на цэнтралістычны апарат дзяржавы Людовіка XIV, вельмі часта мерапрыемствы цэнтральнага ўраду даволі цяжка было правесьці на практыцы, дзякуючы вельмі пашыраным непадляганьню, непакорлівасьці, невыкананьню, а часамі і зусім ігнараваньню мясцовай уладай загадаў цэнтру. Хаос і заблытанасьць у кіраўніцтве, замяшаньне, якое ўрад выявіў у часе выбараў, толькі ўзмацнялі такое становішча.

Адміністрацыя бадай была цалкам адхілена ад умяшаньня і ўціску ў выбарах, хоць ня столькі загадамі ўраду, колькі самым насяленьнем, якое, не выключаючы нават першых двух станаў, ненавідзела і ігнаравала гэтую адміністрацыю. Але затое судовы пласт, якому, паводле каралёўскай установы ад 24 студзеня, было даручана кіраўніцтва выбарамі трэцяга стану, намераў ураду аб нэўтральных адносінах да выбараў далёка ня выканаў. Яны (або профэкты) сьціскалі ня толькі першапачатковыя сходы, але таксама і акруговыя, дзе кожнаму ўмяшаньню перашкодзіць было значна лягчэй. Аб уціску з боку судовых працаўнікоў на свабоду выбараў у вадным анонімным лісьце да міністра напісана так: „Як толькі ў прыходах атрымалі загад аб выбарах, судовыя—гэтыя, па большасьці, п'яўкі народу—пасьпяшаліся зьявіцца на сход з знадворнай шчырасьцю, якая зьдзівіла беднага земляроба, каторы пры гэтых асобах адчуваў сябе нявольна. Ня гледзячы на агульнае да іх недавер'е... „судзьдзі, фіскальныя прокуроры, бальлі заўладалі галасамі". Пры забітасьці і цемры сялянства таго часу і сваволі ўлады ўціск з боку судовага стану, асабліва на вёсках, быў вельмі значны, і гэта перашкаджала шчырасьці і непасрэднасьці наказаў, асабліва першастковых, галоўным чынам, сялянскіх.

Аднак, само жыцьцё ўнесла сюды свой корэктыў: судовых было ня так многа, каб яны маглі ўсюды пасьпець і ўсюды кіраваць сходамі. Гэта, між іншым, таксама паказвае на тую бязглузьдзіцу ўраду, якую ён праяўляў у час выбараў. Выдаюцца пастановы, якія ня могуць быць выкананы, хоць, праўда, і сам урад ня вельмі дамагаўся, каб іх выконвалі. Судзьдзі не маглі абхапіць усіх першастковых сходаў. Так, напрыклад, у Булёнскай выбарчай акрузе на першастковых сходах былі старшынямі:

71 прадстаўнік ад мясцовага самаўраду (сындыкі, мэры і г. д.) і 60 прадстаўнікоў судовага і фэўдальнага ўраду.

Якава-ж была програма судовага стану, які так моцна ўплываў на зьмест наказаў трэцяга стану? Лейтэнанты (старшыні акруговага суда і сходу трэцяга стану) падтрымліваюць праграму вышэйшае буржуазіі, якая шукала паразуменьня з дваранствам на падставе супольнай барацьбы з сваволяй, з міністэрскімі поглядамі і абсолютызмам, пры ўмове, калі дваране добравольна адмовяцца ад падатковых выняткаў. Ніжэйшыя-ж судовыя працаўнікі (гэтая група складалася з трэцяга стану), якія былі старшынямі на першастковых сходах, былі прычынаю таго, што ў наказы ня ўключаліся скаргі соцыяльнага характару на сэньёрыяльны суд і сэньёрыяльныя правы, цяжар якіх сялянства адчувала больш за ўсё, як гэта відаць з уласна сялянскіх наказаў.

Але было-б памылкай думаць, што ў тых мясцох, дзе ня прысутнічалі судовыя працаўнікі, на абіральнікаў ніхто не рабіў уплыву. Часта само сялянства зварачалася за дапамогай да людзей, якія дапамагалі-б яму выкласьці яго пажаданьні ў пісоўнай форме. Гэтаму дапамагала і тое, што сяляне таго часу гаварылі на розных мовах, былі няпісьменныя і прыгнечаныя. У 1794 годзе ў Францыі налічвалася яшчэ каля 30 гаворак, і абат Грэгуар у сваім дакладзе Конвэнту 16 траўня 1795 году зазначыў, што, прынамсі, 6 мільёнаў францускага насяленьня зусім не разумеюць францускай мовы, 6 мільёнаў ня можа добра гаварыць на ёй і ледзь 3 мільёны гавораць чыста пафранцуску. Ня лепш стаяла справа і з народнай асьветай. Ня кажучы ўжо аб няпісьменнасьці большасьці абіральнікаў, на першастковых сходах шмат было выпадкаў, калі прадстаўнікі на акруговыя сходы ня ўмелі ні чытаць, ні пісаць. „Калі сьвет—цемната, то якая-ж тады цемната“,—кажа на гэта конт Ону. Так, на поўдні, у Тулузе, большая частка дэпутатаў з вёсак, усяго 200 чалавек, былі няпісьменныя, тое самае было ў Анонэі ды іншых мясцох. Усюды скардзяцца на цемру вясковых прадстаўнікоў, якія, згодна слоў асоб (незадаволеных выбарамі), былі паслухмянай прыладай у руках інтрыганаў.

У ваднэй брошуры таго часу, без паказаньня месца, зазначаўся такі выпадак: „У значным горадзе Францыі 200 абіральнікаў абіралі 2-х дэпутатаў 3-га стану: 120 (з гэтых абіральнікаў) былі „дзеравеншчынай“, $^{2}/_{3}$ ня ўмелі чытаць і ня ведалі, навошта іх склікалі“. У Верхнім Лангдоку былы капуцін (а пасьля рэволюцыянэр) Шабот баіцца палітычных вынікаў ад невуцтва, „калі $^{3}/_{4}$ усяго насяленьня ня ўмеюць ні чытаць, ні пісаць; нават у галоўным горадзе дэпартаманту $^{3}/_{4}$ актыўных грамадзян ня ўмеюць пісаць, бо вучыцца грамаце можна толькі за грошы, а сяляне наогул надта бедныя, каб пасылаць сваіх дзяцей у школу, хоць, праўда, і вучаць там толькі адзін катэхізіс“. Протоколы шмат якіх прыходаў пішуць аб гэтым у форме, якая прымушае думаць, што большасьць абіральнікаў былі няпісьменныя. У іх часта зазначаецца, што жыхары данае

вёскі, за выключэньнем ніжэйпадпісаных, ня ўмелі падпісаць сваё імя. Выходзіла, што пісьменныя былі нібы выключэньнем у вагульнай масе няпісьменных абіральнікаў. І сапраўды, мы ведаем, што ў вёсцы Олень з 18 чалавек, а мо' і больш, падпісацца маглі толькі сем, у Шапель-дэ-Буа з 92—толькі 31, у Дэ-От з 45—толькі 19 чалавек, у Вуассэ-ле-Сек з 95 абіральнікаў падпісалася толькі 16 чалавек.

Гэтак было ў Мэнскай акрузе. Возьмем Парыскую акругу.

У Ехарсон'е наказ падпісалі 23 чалавекі, няпісьменных было 12, у Еніэры 10 подпісаў, няпісьменных 9. У Есон'е з 260 каміноў падпісалася толькі 30 абіральнікаў. Тут яшчэ трэба прыняць пад увагу і тое, што з тых, хто падпісваўся, шмат хто пісаў вельмі дрэнна і хутчэй рысаваў літары свайго прозьвішча, а ня пісаў.

Апрача гэтага, трэба ўзяць пад увагу і тое, што ў выбарах прымала ўдзел толькі найбольш актыўная частка насяленьня. Калі-б да выбараў прыцягнулі ўсіх жыхароў, то процант няпісьменных у протоколах быў-бы шмат большы.

Пры такіх умовах грунт для ўплыву з боку, асабліва на абіральнікаў у вёсцы, быў вельмі добры.

Перш за ўсё зазначым уплыў тэй брошурнай літаратуры, якая ў 1788-89 г. літаральна запоўніла ўсю Францыю. Выданьне брошур, адозваў, узораў наказаў адбывалася ў такой вялікай колькасьці, што, калі ў 1789 годзе лейтэнантам патрэбна было друкаваць указ аб выбарах, то шмат хто з іх ня мог знайсьці вольных друкарань: так яны ўсе былі завалены працай. Урад спробаваў весьці барацьбу з гэтым агітацыйным струменем літаратуры, але прыпыніць яго ня мог. Замяшаньне ўраду, хаотычнасьць кіраўніцтва, тое, што агенты ўраду самі, жадаючы правесьці ў наказе свае погляды, карысталіся гэтым літаратурным сродкам, не далі магчымасьці ўраду патушыць гэту агітацыю. Існавалі нават політычныя таварыствы, клюбы, гурткі, якія агульнымі сіламі праз літаратуру ды іншымі спосабамі імкнуліся правесьці ў наказах сваю плятформу і свае вымаганьні. Адбывалася напружаная агітацыйная праца і полемічная барацьба сярод станаў і плыняў. Падрыхтоўваліся ўзоры (модэлі) наказаў, якія і даваліся абіральнікам, як лепшыя.

Як-жа аднеслася да абвешчаных выбараў насяленьне і асабліва сялянства, якое складала найбольшую частку трэцяга стану? Якая-ж была актыўнасьць абіральнікаў?

Як вядома, улада караля вырашыла склікаць Генэральныя Штаты толькі з фіскальных меркаваньняў, думаючы, пры дапамозе народных прадстаўнікоў, паправіць палажэньне сваіх фінансаў, якія ў гэты час знаходзіліся на краі пагібелі. Некаторыя наказы, праўда—такіх наказаў ня шмат,—так і зазначаюць, што кароль хоча выслухаць народ і зварочваецца да яго толькі таму, што гэта неабходна для таго, каб атрымаць сродкі. Сялянства ў некаторых мясцовасьцях думала, што даведацца

хочуць аб яго жыцьці толькі з тэй мэтай, каб павялічыць падатковы ўціск. Але ўсё-ж такі большая частка трэцяга стану, у тым ліку і сялянства, аднеслася да гэтых выбараў даверчыва і прыступіла да іх з энтузыязмам, даючы веры, што цяпер удасца паквітацца з быўшай сваволяй, дабіцца жаданых для сябе зьмен. Асабліва шчыра верыла сялянства ў „добрую волю свайго добрага караля“, якога, паводле думкі сялянства, да гэтага часу абманвалі чыноўнікі і які цяпер захацеў даведацца праўды непасрэдна ад самога селяніна: „О, вялікі кароль,—піша адзін сялянскі наказ,—падтрымайце слабага супроць дужага, зьніштожце рэшткі фэўдальнага нявольніцтва... Вашы народы падаюць да Вашага трону і шукаюць у Вашай асобе бога-абаронцу“. Сяляне ад грамады Сэн-Канна пішуць у сваім наказе: „З гэтага часу мы зусім не хацелі-б меўць іншага пана, апрача яго вялікасьці, дзякуючы таму, што мы пісалі скаргі на нашых паноў... Ах, цар, айцец наш, каб Вы чулі крык Вашага народу, які Вас шчыра кахае... то мы ўпэўнены, што Вы хутка вызвалілі-б нас; мы малілі-б Вас аб гэтым“. І сапраўды, сяляне думалі, што кароль хоча памагчы і паможа ён свайму народу, як толькі даведаецца аб іх становішчы. Яны наіўна думалі, што наказы, імі складзеныя, трапяць да самога караля. І сам урад зрабіў усе захады, каб у выбарах прыняло ўдзел па магчымасьці ўсё насяленьне, якое мела гэтае права. У рэзультаце параўнаўчая актыўнасьць сярод сялян была досыць значная, адносна. Зборныя адзінкі, вёскі і прыходы, бадай усе прынялі ўдзел у выбарах. „Тых, хто „ўхіляўся“ ад выбараў „толькі капля ў моры“,—кажа Ону. Аб гарадох і двух першых станах гаварыць ня прыходзіцца.

Які-ж процант абіральнікаў зьявіўся на выбары з тых вёсак і прыходаў, якія прымалі ўдзел у выбарах? Паглядзімо на лічбы. У Этамісkім бальяжы ў Авэрно на 37 двароў зьявілася 19 чал., у Буа-Жэрмэн на 25 двароў—13 чал., у Ванцэла на 20—6, у Рышайві на 88—29 чал. У Лімузэнскай акрузе: у вёсцы Афіэў на 140 двароў зьявілася 18 чал., у Алесак на 726—56, у Арнак-Помпадур на 200—57 і г. д. Бадай такі самы малюнак па ўсёй Францыі. Асабіста „ўхіліўшыхся“ абіральнікаў было ўжо куды больш, чым колектыўных. Адвечная забітасьць сялянства адбілася тут вельмі яскрава. Аднак, калі прыняць пад увагу, што выбары адбываліся ўвесну, у часе веснавых прац, калі згаладаваны пасьля недароду ў мінулым годзе селянін як мага сьпяшаўся засеяць сваё поле, то малюнак значна зьменіцца.

Наогул, ня толькі гарадзкая частка трэцяга стану, але і сялянства да выбараў аднесьліся даволі актыўна.

Але як было напісаць свае жаданьні і скаргі, ды напісаць яшчэ так, каб пасьля не сьмяяліся з іх, бач, іх-жа наказ дойдзе да самога караля, як напісаць наказ, калі ў вёсках панавала цемра, калі ў вёсцы ды і ў горадзе ў нізох ледзь знаходзілася толькі некалькі чалавек з свайго брата, якія маглі толькі сяк-так расьпісацца? Што рабіць, калі ня ўмелі

пісаць на тэй мове, на якой павінны былі ўкладацца наказы? Вельмі моцна такое палажэньне адбілася на сялянскіх наказах. Тут самі абіральнікі ішлі насустрач тым рэдактарам, тэй літаратурнай агітацыі, якая ім давалася. Патрэбны быў рэдактар, патрэбен быў хоць-бы ўзор, які, перапісаўшы і дадаўшы, можна было паслаць у якасьці свайго наказу. Былі выпадкі, калі проста бралі ўзор з боку, перапісвалі, падпісвалі і наказ быў гатовы. Але былі і такія выпадкі, калі да такога літаратурнаскладзенага ўзору наказа дадаваліся яшчэ свае сялянскія жаданьні. Часьцей усяго такія дадаткі мелі выгляд адрывачных пажаданьняў. Часта хтонебудзь з сялян грамады накіроўваўся шукаць такі ўзор, або чалавека, які-б мог у пісоўнай форме падаць іх жаданьні.

Усё гэта паказвае, што ўплыў агітацыйнай літаратуры, адозваў і ўзораў, а таксама адукаваных людзей, быў вельмі вялікі. Усё гэта моцна адбілася на зьмесьце наказаў, асабліва сялянскіх.

Што-ж прадстаўлялі з соцыяльнага боку тыя элемэнты, якія іншы раз навязваліся, а часамі пісалі па просьбе саміх абіральнікаў або рабілі ўплыў на складаньне наказаў?

Клясавы склад гэтае публікі быў рознастайны: ад дваран і шчырых абаронцаў фэўдальнага парадку да людзей, якія, прыслухоўваючыся да скаргаў абіральнікаў, шчыра імкнуліся вылажыць жаданьне ўдзельнікаў сходу. Цікава, што ў большасьці выпадкаў барацьбітамі за сэньёрыяльны парадак былі не дваране. Наадварот, дваране лічылі, або выдавалі сябе, за сапраўдных саюзьнікаў сялян супроць буржуазіі. У шмат якіх брошурах арыстократычнага кірунку паказваецца на антагонізм гораду і вёскі, земляробства і прамысловасьці, сялянства і буржуазіі; дваране гавораць аб чацьвертым стане, прапаноўваючы яму свае паслугі для барацьбы з трэцім, інакш кажучы, з гарадзкой буржуазіяй. У большасьці выпадкаў уплыў на сялян рабілі не дваране, а сябры трэцяга стану, якія стаялі бліжэй да народу: невялікія людзі, якія жывіліся каля збору фэўдальных падаткаў і судовых спраў, а таксама і ніжэйшыя судовыя пласты. Уплыў гэтага пласта на зьмест сялянскіх наказаў быў вельмі вялікі.

Другой крыніцай такога ўплыву была буржуазная інтэлігенцыя. Каралеўскія судзьдзі, нотарыусы, літаратары, розныя агітатары, людзі вольных профэсій. Гэты пласт, ня будучы матэрыяльна зацікаўлены захаваньнем фэўдалізму, ня вельмі разумеў, дый мала цікавіўся патрэбамі селяніна; часта, з палітычных меркаваньняў тактыкі буржуазіі, яны лічылі ня зусім зручным запісваць скаргі сялян на фэўдальны парадак, а калі сяляне дамагаліся свайго, то яны імкнуліся прыцэрці, згладзіць гострыя бакі пытаньня, закрануць яго мімаходам і між іншым. Але затое яны імкнуліся надаць наказам палітычны характар, у такіх наказах на першым месцы ставяць вымаганьні канстытуцыі і лібэральных свабод.

Значны ўплыў на складаньне сялянскіх наказаў мела ніжэйшае духавенства. Выступаючы часам разам з абаронцамі сэньёрыяльнага

радку ў большасьці выпадкаў, калі яно ўмешвалася ў выбары, то яно станавілася на бок сялян і было абаронцам і выказьнікам інтарэсаў сялянскіх. Бо тут інтарэсы самога ніжэйшага духавенства ня толькі не супярэчылі такому яго павядзеньню, а, наадварот, супадалі з ім: не атрымліваючы ніякіх выгод ад вялікіх сэньёрыяльных маёнткаў, жывучы бедна, гэтая частка духавенства шчыра жадала, каб палепшылася матэрыяльнае палажэньне сялянства, бо тады і яго даходы маглі-б павялічыцца. Часам сьвяшчэньнікі дапамагалі сялянам у іх барацьбе з прадстаўнікамі судовымі, фэўдальнымі, ды іншымі, што былі чужыя для сялян.

Напрыклад, у Цэрн-эн-Дармуа (прыход) сьвяшчэньніку ўдалося абараніць сваіх прыхажан ад вяльможнага муніцыпальнага сындыка, які ў прыходзе быў самым вялікім зямляўласьнікам. Апошні спачатку быў абраны дэпутатам, але калі ён паехаў у вакругу, то просты народ зноў сабраўся і абраў двух сялян, якія ў акрузе былі прызнаны сапраўднымі прадстаўнікамі гэтага прыходу. У Брэтаніі ў Ст. Долей сьвяшчэньнік у барацьбе з судзьдзёю так узрушыў народ, што старшыня павінен быў уцячы з сходу, каб яго не пратурылі гвалтам. Ігэткіх выпадкаў было шмат. Зразумела, духавенства ў гэткіх наказах не запамінала заявіць і аб сваіх уласных інтарэсах.

Была яшчэ адна група, якая зрабіла ўплыў на наказы, выступаючы па большай частцы за сялян. Гэта так званыя вясковыя юрысты (praticien), лепш было-б іх назваць вясковымі грамацеямі. Гэта людзі як-бы вольнай профэсіі, якія давалі сялянам розныя парады, выступалі на судзе, пісалі прашэньні, лісты, гэта вясковыя хадатаі.

Вось у якіх умовах складаліся першастковыя наказы сялянства. У горадзе было больш самастойнасьці, а таму і праўдзівасьці ў наказах.

Ці можам мы глядзець, значыцца, на першастковыя наказы, як на сапраўднае выяўленьне пажаданьняў тых абіральнікаў, ад імя якіх пісаліся гэтыя наказы? Гісторыкі наказаў у вырашэньні гэтага пытаньня разыходзяцца паміж сабой. Самую ядавітую крытыку на складаньне наказаў напісаў Бэньёт—сучасьнік складаньня наказаў. Як камісар па складаньні акруговага наказу, ён разгледзіў некалькі дзесяткаў прыходзкіх наказаў Шамонскай акругі і „нічога выдатнага“, г. зн. самастойнага там не знайшоў. Усе яны былі сьпісаны з узораў, ды мелі некалькі дадаткаў, якія заўсёды пісаліся судовымі на мясцох (praticien). Аднак, ён прызнае ўсё-такі, што ў гэтых дадатках выявілася пэўная самастойнасьць і што ў іх асабліва ўпарта дамагаліся. скасаваньня некаторых абмежаваньняў, зьвязаных з паляваньнем, г. зн., з фэўдальнымі правамі. Ацэньваючы погляд Бэньёта патрэбна прыняць пад увагу, што ў часе выбараў яго не абралі ў Генэральныя Штаты, чым ён і быў вельмі незадаволен.

Вельмі адмоўна адносіцца да наказаў гісторык Валь, які лічыць, што наказы зьяўляюцца вынікам працы агітатараў, якія пасьля выклікалі сялянскі рух. Валь спрабуе паменшыць значэньне тых сялянскіх

наказаў, у якіх сустракаюцца скаргі на фэўдальны парадак. Ён спрабуе давесьці, што ў старыя часы сялянам жылося нядрэнна, а іх скаргі на фэўдальны ўціск ёсьць ня больш, як вынік дэмагогіі сярдзітых агітатараў.

Шарэ і Шампіён надаюць вялікую вартасьць наказам 1789 году, як праўдзіваму вырашэньню настрояў народу.

Вядомы знаўца старой Францыі Бабо, які перагледзіў 251 наказ акругі Труа, зазначае, што ў наказах гэтае акругі вельмі мала самастойнасьці. Паводле думкі Бабо, гарадзкія наказы галоўнае акругі былі больш рознастайныя, больш выяўлялі жаданьні і менш прытрымліваліся ўзораў. Узяўшы пад увагу тое, што існавала шмат розных узораў для наказаў, Шарэ робіць вынік, „што калі абіральнікі ня маюць заслугі творчасьці, то яны маюць поўную свабоду выбару“ паміж тым, або другім узорам.

Прызнаючы наяўнасьць несамастойнасьці і суб'ектыўнай невераrоднасьці большай часткі першастковых наказаў, агульна адмоўнага пункту погляду прыняць зусім нельга. Часта на першастковых сходах адбывалася моцная барацьба за зьмест наказу. Яна адбывалася як паміж рэдактарамі за ўплыў пры пасыўных адносінах самых абіральнікаў, так і паміж абіральнікамі ды людзьмі, якія імкнуліся навязаць ім нежаданыя для іх пункты. Ужо вышэй зазначалася, што сяляне мелі прыхільнікаў і сярод адукаваных людзей: сьвяшчэньнікаў, вясковых грамацеяў, а часамі і сярод інтэлігенцыі. Былі выпадкі, калі на першастковыя сходы сялян, а ў гарадох гэта было і досыць часта, не рабілася з боку ніякага ўплыву. Протоколы сходаў і самы зьмест наказаў сьведчыць аб тым, што немалая частка наказаў сапраўды цалкам адбівала настрой, скаргі і пажаданьні абіральнікаў. Сам Бэньёт, які адмаўляе вераrоднасьць наказаў, прызнае, што ўсё такі тыя дадаткі, якія пісаліся пры дапамозе praticien'а маюць пэўную шчырасьць.

Значыцца, прыходзіцца прызнаць, што частка наказаў выяўляе сапраўдныя пачуцьці і пажаданьні іх непасрэдных укладальнікаў і што яны суб'ектыўна вераrодны.

Такога пункту погляду прытрымліваецца Ону, адзін з лепшых знаўцаў наказаў і ўмоваў іх складаньня. Адносна вясковых наказаў ён кажа: „Тыя наказы, якія прасякнуты нянавісьцю (да памешчыкаў і сэньёрыяльнага парадку, нянавісьцю ня станавага, а клясавага характару) суб'ектыўна вераrодны“.

„Пытаньне-ж адносна об'ектыўнай вераrоднасьці наказаў,—кажа Ону,—у сучасны момант ня можа быць вырашана ні ў той, ні ў другі бок“. „Полеміка, якая разгарэлася з гэтай прычыны паміж Лучыцкім і Кавалеўскім сьведчыць, што пры сучасным становішчы вывучэньня наказаў і экономічнай гісторыі вырашыць гэтае пытаньне покі што немагчыма“. Ону лічыць, што наказы, якія ня могуць быць дакумантамі, што

дакладна адбівалі-б, асабліва, экономічны бок жыцьця, то ўсё-ж такі яны могуць быць добрым дапаможным матэрыялам пры вывучэньні тагачаснай Францыі.

Што тычыцца акруговых наказаў, то тут поўным гаспадаром была буржуазія, інтарэсы якой бадай выключна ў іх адбіліся. Аб якім-небудзь уплыве чужых элемэнтаў на гэтыя наказы, аб іх, значыцца, суб'ектыўнай верагоднасьці і гаварыць ня прыходзіцца.

II

Па ўказу караля ад 24-га студзеня абіральнікі павінны былі вылажыць у наказах усе свае патрэбы і жаданьні. Наказы былі як-бы інструкцыямі сваім прадстаўнікам, якімі яны павінны былі кіравацца ў Генэральных Штатах. Аб чым-жа, такім парадкам, кажуць наказы і які іх зьмест?

Яны мелі дзьве часткі. Перш за ўсё канстатавалі, што ёсьць, як жывецца абіральнікам, ад імя якіх пісаўся наказ. У другой частцы наказаў пісалі, чаго не павінна было быць, што і як трэба зьмяніць.

Разгледзім, як абіральнікі адносіліся і вырашалі пытаньні соцыяльна-політычнага жыцьця, як гэтыя пытаньні вырашаліся станамі, клясамі ці клясавымі групоўкамі.

Перш за ўсё, як адбіліся ў наказах пытаньні, зьвязаныя з сельскай гаспадаркай, якою займалася самая большая частка насяленьня Францыі.

Пры вырашэньні гэтага пытаньня адразу-ж сьціраецца падзел Францыі на станы і зьяўляюцца клясы і клясавыя групоўкі. Барацьба адбываецца ня толькі паміж станамі, але і ў стане паміж яго групамі. Гэта паказвае, наколькі ўжо пастарэў і аджыў стары падзел на станы.

Перш-на-перш, што кажуць па гэтым пытаньні наказы самога сялянства?

Падыходзячы да разгляду гэтага пытаньня, прыходзіцца агаварыцца, што ў гэтым выпадку трэба карыстацца тэй групай наказаў, якія можна прызнаць цалкам, або часткова, шчырымі, суб'ектыўна верагоднымі, г. зн. сапраўды сялянскімі наказамі.

Перш за ўсё сялянства бадай аднагалосна скардзіцца на сваю беднасьць, малазямельле і цяжкае жыцьцё, абцяжанасьць рознымі паборамі, якія часам паглынаюць цалкам прыбытак ад земляробства. На першым месцы стаяць пытаньні фэўдальнага характару: чынш, права на паляваньне, галубятні, баналітэты, судовае бязладзьдзе сэньёрыяльнага суду, яго сваволя і г. д. Далей ідуць скаргі на дзесяціну і цяжар дзяржаўных падаткаў, асабліва скардзяцца на „габель“ (падатак) на соль, на віны ды інш., на сваволю чыноўнікаў пры спагнаньні гэтых падаткаў, хоць самыя падаткі сялянства плаціць згодна. Так жыхары вёскі Жуэ-эн-

Пуату скардзяцца, што яны скрабуць зямлю на пяшчанай глебе і жывуць у хатках, падобных на труны.

Наказ грамады Ст. Андрэ (акруга Оцюн) скардзіцца: „8 чалавек складаюць гэтае сельскае вобчаства і ўсе безьзямельныя, а таліі і падушных падаткаў яны плацяць каля 160 ліўраў, ня лічачы дзесяціны, дарожнай павіннасьці і рознага роду фэўдальных павіннасьцяй. Для безьзямельных людзей гэта вельмі значная сума. Праўда, з гэтых 8 чалавек тры земляробы, але яны... суб'арандатары. Рэшта-ж жыхароў: адзін шарстабіт, які мае сям'ю і дорага плаціць за памяшканьне, адзін стары пачтальён з жонкай і сынам, адзін дробны крамнік, які ня мае ўласнасьці, але мае восем чалавек дзяцей, адзін булачнік без зямлі з дзецьмі ад двух шлюбаў, адзін гароднік, а вядома, што гэтая маемасьць мала зыскоўная. Пералічаныя жыхары заяўляюць толькі адно, што яны протэстуюць „супроць злаўжываньняў, якія зьяўляюцца прычынай іх жабрацтва, злаўжываньняў у часе збору падаткаў, натуральных павіннасьцяй, злаўжываньняў у дзесяцінах і сэрвітутах". Яны просяць дэпутатаў зьвярнуць на гэта ўвагу і трое з іх падпісваюцца разам з пісарам. Гэты кароткі наказ тыповы, як сялянскі непасрэдны наказ. Яны ведаюць, што цяжка ім жывецца, што ўсе з іх лупяць, усюды злаўжываньні; трэба, каб так ня было, а дэпутатам там лепей будзе відаць, як усё гэта зьнішчыць. Вёска Ніён (тэй-жа акругі) тлумачыць, што ў ёй 22 дымы, а зямля неўрадлівая, зрэзаная равамі, кожны дым павінен даць абшарніку, акрамя цэнзу ды іншых збораў, мерку пшаніцы і 35 су серабром, аплата якіх спаганяецца сэньёрыяльным судом. Яшчэ больш цяжкія павіннасьці тыя, якія бярэ Отэнская Колегія, дзесяціну трэба плаціць чатыром розным асобам у разьмеры $^{1}/_{14}$ ураджаю, што цяжка пры беднай глебе. У выніку насяленьне згалела і просіць міласьці монарха, каб ён паменшыў усе гэтыя зборы. На астатак жыхары не запамінаюць прасіць аб зьмяншэньні цаны ня толькі на соль, але і на тутун. Малапісьменны наказ Ст. Эмійанд коратка, але выразна малюе бязвыхаднае палажэньне жыхароў, якія, апрача дзяржаўных падаткаў, абцяжаны сэньёрыяльнымі рэнтамі, мэнморт'ам, і фэўдальнай паншчынай, пры малаўрадлівай глебе.

Такім самым духам прасякнуты і ўсе сапраўдныя сялянскія наказы. Ня знойдзецца амаль што ніводнага наказу, у якім, пасьля скаргаў на беднасьць і цяжкае жыцьцё, на першым месцы не стаялі-б пытаньні сэньёрыяльнага характару і скаргі на іх. Часамі патрабавалі, каб сэньёрыяльныя правы былі скасаваны дармова. Аднак, у пераважнай большасьці выпадкаў нават самыя рэзкія з сялянскіх наказаў па гэтым пытаньні ня ішлі далей вымаганьня абавязковага выкупу. Куды часьцей просяць аб урэгуляваньні збораў, як фэўдальных, таксама і іншых, аб зьнішчэньні ўсякіх злаўжываньняў і сваволі. У некаторых мясцох чынш і іншыя фэўдальныя павіннасьці браліся пры дапамозе кругавой парукі, супроць чаго наказы паўстаюць самым рашучым чынам. Апрача таго,

асабліва зварочвае на сябе ўвагу тое, што чынш з нядоімкамі можна было адразу спаганяць за тэрмін да 29 гадоў. Наказы вымагаюць скасаваньня гэтага звычаю, або абмежаваньня даўнасьці 5-ма ці 10-ма гадамі.

Наогул у сялянскіх наказах зусім яскрава вызначаецца пачуцьцё нянавісьці да абшарнікаў і да сэньёрыяльнага ладу. Жыць так далей сялянству нельга, усюды беднасьць, забітасьць, сваволя. Трэба ўсё гэта зьмяніць, палепшыць.

Паданыя вышэй наказы зьяўляюцца тыповымі сялянскімі наказамі. У іх ані слова аб палітычных пытаньнях больш шырокага характару.

Як вырашалася на акруговых сходах трэцяга стану пытаньне аб фэўдальных правох, якое найбольш цікавіла сялян?

Ужо зазначалася, што на акруговых сходах тон задавала буржуазія. Буржуазія з дваранствам, асабліва з перадавой яго часткаю, знаходзілася ў нейкім блёку для сумеснай барацьбы з абсолютызмам. Гэтае паразуменьне ўжо адбілася ў агітацыйнай кампаніі тады, калі пад так званымі інструкцыямі лібэральнага герцага Орлеанскага была ўнізе дадана прыпіска палітычнага правадыра буржуазіі абата Сіэйса аб тактыцы, якое павінна была прытрымлівацца буржуазія ў часе выбараў. Буржуазія разумела, што фэўдалізм трэба зьнішчыць. Але яе палітыка паразуменьня з дваранствам, тое, што ў шэрагах самой буржуазіі быў пласт зямляўласьнікаў, зацікаўленых у захаваньні фэўдалізму, што гэтае пытаньне больш тычылася сялянства, а не яе, то з гэтым пытаньнем можна было пакуль пачакаць. У вакруговых наказах, хоць і вымагаецца, пад ціскам сялянскіх дэпутатаў, скасаваньне фэўдальнага парадку, але гэтае пытаньне ставілася ня ў першую чаргу і нават ня ў другую,—яно было прыцёрта, аб ім гаварылася так, паміж іншым. Скасаваньне фэўдальных правоў прызнаецца канечна пры ўмове выкупу іх.

Лібэральнае дваранства ў гэтым пытаньні трымаецца яшчэ больш правых поглядаў, але усё-ж такі згодна на яго скасаваньне толькі пры ўмове добрага выкупу і гатовымі грашыма.

Большая частка дваранства нічога і слухаць не хацела аб скасаваньні сэньёрыяльных правоў.

Затое сялянства знаходзіць падтрыманьне сярод ніжэйшага духавенства.

У барацьбе супроць сэньёрыяльнага ладу, у нянавісьці да абшарніка, супроць вялікіх падаткаў, супроць сваволі і злаўжываньняў агентаў ураду сялянства выступала адзіназгодна. Але былі і такія пытаньні, на якіх такое згоды ня было. Вясковая Францыя таго часу ўжо прадстаўляла з сябе нешта неаднастайнае, былі сярод сялянства клясавыя групоўкі, якія ўжо вызначаліся, было сярод яго разьмежаваньне. Селянін „laboureur“, — „cabaretier“ — (кабатчык) альбо „fermier“ (фэрмэр) былі вельмі далёка ад „métayer“ (палаўніка), „manouvrier“ (парабка), „censitaire“ (чыншавіка), дробнага рамесьніка або скупоўшчыка,—кажа Ону.

У гэты час сярод сялянства можна знайсьці тры групоўкі: заможнае сялянства,—тые laboureur'ы і фэрмэры капіталістычнага ці поўкапіталістычнага тыпу гаспадаркі (тут і заможныя ўласьнікі і арандатары), сярэднія сяляне, арандатары, палоўнікі і дробныя ўласьнікі, і сялянская беднята, якая, працуючы на сваім невялічкім кавалку зямлі або толькі гародзе, перабівалася, наймаючыся часова да заможнага гаспадара, або займаючыся саматужным і часовым адхожым промыслам, знаходзячы пэўнае падтрыманьне ў зьбіраньні пасьля жніва каласоў на полі.

Апроч уласна сялян, у Францыі таго часу быў ужо пласт вясковага пролетарыяту.

Барацьба гэтых груп таксама адбілася ў наказах, хоць у куды меншай сьцепені, чым вышэйразгледжаныя пытаньні. Барацьба выявілася, галоўным чынам, па пытаньнях аб грамадзкіх землях, аб праве на агароджваньне і аб праве на зьбіраньне беднатою каласоў з поля, якія заставаліся пасьля жніва.

Сяляне разам абаранялі грамадзкія землі ад памешчыкаў, але разыходзіліся ў пытаньні, як ім самым выкарыстоўваць гэтыя землі. Заможнае сялянства лічыць для сябе выгодным выдзеліць сабе вучастак з агульнага карыстаньня, агарадзіць яго. Гэта падтрымліваецца часамі і беднякамі, якія часта былі зусім безьзямельныя і ня мелі жывёлы, якім таксама выгадней атрымаць вучастак зямлі хоць-бы для невялікага гароду.

Сярэдняе сялянства рэзка выступае за тое, каб захаваць ранейшыя грамадзкія формы карыстаньня гэтымі землямі, гэта супадае з яго інтарэсамі. У некаторых наказах гэтая барацьба зафіксавана даволі рэзка. Тое самае адбываецца і наконт пытаньня аб праве на агульную пашу і зьбіраньне каласоў, якія застаюцца пасьля жніва. Бедната скардзіцца, што ў апошнія часы некаторыя сяляне (вышэйшы пласт) не дазваляюць зьбіраць каласы і выпрошваюць сабе на гэта права. Наадварот, гэты парадак абараняюць больш вышэйшае сялянства і буржуазныя больш-менш вялікія ўласьнікі ды памешчыкі. Так, у наказе вёска Пэн скардзіцца на абмежаваньні пры зьбіраньні каласоў: „Арандатары, піша наказ, маюць лютасьць дазваляць падбіраць каласы толькі тады, калі іх скаціна пасецца на полі; гэта робіць вялікую шкоду бедным жыхаром, у якіх адбіраюць магчымасьць вольна зьбіраць каласы, што засталіся на зямлі. Арандатары маюць дрэнную прывычку прымушаць касіць збожжа, замест таго, каб яго жаць сярпом, а прыдумалі яны касіць толькі для таго, каб атрымаць салому, якую яны прадаюць па вельмі вялікай цане ў Парыжы і такім чынам пазбаўляюць вясковае насельніцтва значнай колькасьці саломы“. Тут, як і ў іншых спрэчных пытаньнях такога-ж характару, беднята выступае прыхільнікам консэрватызму ў земляробстве. У наказе Вільеронскага прыходу чытаем, што „бедныя пазбаўлены права зьбіраць каласы з тых палёў, на якіх яны не працавалі. Яны пазбаўлены і саломы з тых палёў, інакш кажучы, апалу“. У Бульлёне дваранства ў сваім на-

казе рашуча выказваецца супроць збору каласоў: „Калі-б каласы зьбіралі толькі дзеці і непрацаздольныя людзі, кажа наказ, то супроць гэтага зямляўласьнікі нічога ня мелі-б, бо глядзелі-б на гэтую асаблівую дзесяціну, як на справу міласьці, якой зусім-бы не пярэчылі-б, але ў сучасны момант гэта зрабілася рамяством для дармаедаў і валацуг. Яны ня толькі не чакаюць пакуль хлеб зложаць і зьвязуць, але прыходзяць ноччу і бяруць каласы з снапоў. У часе жніва зямляўласьнікі і арандатары не гаспадары над сваёй маемасьцю, у той час, як для земляробства не хапае працоўных рук, дармаедаў—зьбіральнікаў каласоў шмат і яны моцныя, іх ня стрымліваюць ні скаргі, ні нагляд; нішто ня стрымлівае іх драпежніцтва; пазбаўленыя сумленьня і гонару, яны даюць перавагу гэтаму рамяству перад рамяством жанца, бо жанец атрымлівае за працу менш, а працуе больш, чым зьбіральнік каласоў“. Якое прызнаньне. Работнікі-жанцы атрымліваюць за сваю працу так мала, што больш выгадна падбіраць на ніве каласы.

У наказах ад Роны, а таксама і Сійі (у Ліёне) кажуць аб недахваце для земляробства працоўных рук і аб гультайстве працаўнікоў.

Але вясковыя рабочыя вядуць барацьбу за павялічэньне заработнай платы. Так, у наказе вёскі: Дам Мары э Фойо (Ліён) жыхары называюць сябе фэрмэрамі і скардзяцца на сваіх „domestique“, якія ўсе патрабуюць павялічэньня заработнай платы, але зьмяншаюць посьпех працы, патрабуюць срогай кары для парабкоў, якія кідаюць сваіх гаспадароў, не дабыўшы да канца году.

Так адбілася ў наказах клясавая барацьба ў вёсцы сярод самога сялянства.

Пытаньне прамысловасьці і гандлю разглядаюць, галоўным чынам, наказы трэцяга стану. Найбольш гострымі пытаньнямі былі пытаньні аб прамысловасьці, рэглямантацыі, аб гандлёвым мыце, гандлёвых корпарацыях, палітыцы замежнага гандлю.

Па пытаньні аб свабодзе працы і аб цэхавых корпарацыях, паводле падлічэньняў Пятрова, выказваецца 136 гарадзкіх і зводных наказаў. Трафарэту тут няма, розныя, нават супярэчныя, думкі. Большасьць наказаў вымагала зьнішчэньня цэхавых організацый і свабоды працы, гэтыя вымаганьні грунтаваліся на довадах з тэорыі натуральнага права. У наказе бальяжу „Домфру“ пішацца: „Нішто так не перашкаджае разьвіцьцю і ўдасканаленьню рамёстваў, як монополіі, якімі карыстаюцца корпарацыі рамесьнікаў. Кожнаму чалавеку прырода дала неаднімнае права карыстацца падарункамі прыроды. За ўжываньне, якое ён з іх робіць, ён адказвае перад усёй грамадой. Але дарэмна ён будзе старацца выканаць гэты сьвяты абавязак, калі, апрача таленту, ён ня мае яшчэ багацьця. У яго няма свабоды ў выбары занятку, ён ніколі не дасягне жаданага палажэньня, бо прывілейнае невуцтва купіла права душыць і мучыць талент... Гэтая незаконная дачка захапіла спадкі гэнія

і атручвае яго. Злаўжываньні гэтыя спыняцца тады, калі зьнішчацца цэхі і г. д.

У наказе бальяжу „Ісудэн“ (у Бэры) гаворыцца: „Цэхі, якія нясуць пагібель для талентаў, што ня маюць грашовых сродкаў, а таксама і шкодныя для разьвіцьця прамысловасьці, павінны быць зьнішчаны і гэтым самым няхай будзе зьвернута кожнаму грамадзяніну натуральная свабода“. У наказе „Халэ“ у разьдзеле, прысьвечаным „астачам нявольніцтва“, зазначаецца: „Трэба зьнішчыць назаўсёды званьні майстра“, гэтыя монополіі, якія робяць рабочых жабракамі, якія ня маюць магчымасьці іх купіць. Тымчасам гэтыя рабочыя і ёсьць самыя лепшыя...“ Наказ сэпэшальства Ажэн заяўляе: „Існаваньне цэхаў у вялікай сьцепені пярэчыць грамадзянскай свабодзе і шкодна для разьвіцьця прамысловасьці, памылкаю было іх заснаваньне, фіскальны інтарэс прымушаў падтрымліваць іх. Пара, урэшце, зьвярнуцца да сапраўдных пачаткаў і зусім зьнішчыць цэхі“.

Такі-ж самы характар маюць і іншыя наказы, якія абараняюць свабоду працы.

Аднак, стары, аджыўшы лад прамысловай організацыі так лёгка не здаецца. Чуюцца і зусім супярэчныя галасы. Цікава, што яны карыстаюцца тэй-жа тэорытычнай зброяй.

Так, наказ „Ст. Сэвер-ен Бігор“ выкладае дагаворную тэорыю ўтварэньня дзяржавы, а потым кажа:

„З гэтага (г. зн., з мэтаў грамадзянскага дагавору) вынікае карысНасьць саюзаў і асобных корпорацый, як парукі і апоры для асобы... чым вузей асобныя саюзы, тым цясьней зьвязаны паміж сабой асобныя члены і тым лягчэй заўважваюцца тыя несправядлівасьці, якія ім (членам) робяцца.

Выказваюцца нават погляды, якія вымагаюць, каб сельская прамысловасьць падпарадкавалася цэхавай організацыі.

Цікава, што нават такія людзі, як Таржэ, Бальі, Гільётэн стаялі за захаваньне прамысловых корпорацый. Марат таксама быў прыхільнікам захаваньня цэхавай організацыі.

Згодна падліку Пятрова з 136 наказаў, якія закранулі пытаньне аб свабодзе працы, 56 так ці інакш выказваюцца за захаваньне цэхаў, 65—супроць і 15—выказвалася няпэўна. Прычым захаваньне такога ладу абараняюць такія вялікія і прамысловыя гарады, як Мэтц, Ліён, Марсэль, Труа і інш. Але цікава, што Парыж „extra muros“ г. зн. па-за, так званай, гарадзкой мяжой выказваўся супроць цэхавай організацыі. Е. Пятроў, які спэцыяльна займаўся гэтым пытаньнем, прыводзіць, як правіла, што за захаваньне цэхавых парадкаў выказваюцца прамысловыя месцы, у той час, як свабоду працы вымагаюць прамыслова адсталыя месцы. І сапраўды, прамысловыя гарады ў большасьці выпадкаў зьяўляюцца прыхільнікамі захаваньня старых парадкаў організацыі прамысловасьці.

Але цікава вось што. У той час, як самі гэтыя гарады выказваліся, як прыхільнікі цэхавых парадкаў, акруговыя сходы, якія адбываліся ў гэтых самых гарадох, прытрымліваюцца ў гэтых выпадках процілеглых поглядаў. Так, напрыклад, акруговыя сходы Парыжу, Ліёна, Труа і іншых акруг выказваліся за зьнішчэньне цэхаў.

Калі агульная лічба гарадзкіх і акруговых наказаў прыхільнікаў цэхавага ладу была 56, а іх супраціўнікаў—65, то першая група складалася з 26 гарадзкіх наказаў і 30 акруговых, у той час, як другая—з 14 гарадзкіх, але затое з 51 акруговага.

Такім чынам, мы бачым, што пераважная большасьць акруговых сходаў зьяўляецца прыхільнікам зьнішчэньня цэхавага ладу, у той час, як супроцьлеглага погляду трымаюцца гарады.

Прызнаючы значную інэртнасьць тагачаснай Францыі ў справе організацыі прамысловасьці, з гэтых лічбаў ні ў якім разе нельга рабіць вынік, што бадай не палавіна прамысловай Францыі абараняла старыя парадкі, як робіць Пятроў. У гарадох, як правіла, яшчэ захоўвалася цэхавая організацыя прамысловасьці, хоць, праўда, яна мела соткі выключэньняў, якія ламалі цэхавыя асадкі. Дзякуючы гэтаму, новыя формы прамысловасьці, свабодныя і капіталістычныя яе формы, павінны былі концэнтравацца ў вёсках і ў аколіцах гарадоў.

Гэта і адбілася ў наказах. Апрача таго, падобныя суадносіны паміж старым сярэднявяковым укладам і новымі капіталістычнымі формамі прамысловага жыцьця паказваюць на ступень прамысловага разьвіцьця дарэволюцыйнай Францыі, на панаваньне дробна-буржуазных формаў вытворчасьці, асабліва ў гарадох.

Куды з большай згодай выказваліся ў наказах за зьнішчэньне прамысловай рэглямантацыі. Вельмі поўна і яскрава адбіты рэзка варожныя адносіны да рэглямантацыі ў наказе галоўнага цэнтру лянгдодзкай прамысловасьці,—каркасонскага сэпэшальства: „З тае прычыны, што мануфактура і гандаль зьяўляюцца важнейшымі крыніцамі соцыяльнага багацьця, неабходна скарыстаць абсолютна ўсе сродкі, каб узмацніць іх; з гэтых сродкаў самым лепшым зьяўляецца даць ім свабоду; *яна-ж іх родная стыхія,* яна дае ім жыцьцё, неабходна захаваць іх ад розных замахаў, якія мог-бы прадпрыняць дух фіскальных разьлікаў і рэглямантацыі. Значыцца, трэба зьнішчыць рэглямантацыі і бюро інспэкцый, якія зьвязваюць мануфактуры: бо яны-ж робяць спробы перашкодзіць разьвіцьцю прамысловага гэнія тым, што адбіраюць ад яго сілы і супярэчаць тэй жвавасьці, з якой ён павінен дапасоўвацца да густу публікі і нават сам выклікаць яго“.

Ёсьць наказы, якія прытрымліваюцца консэрватыўнага пункту погляду, але такіх наказаў вельмі мала. Затое вельмі вялікая група, якая прытрымліваецца пункту погляду рэформы: яна адмоўна адносіцца да парадку, які існуе, але хоча ўтварыць новы парадак, на падставе ўдасканаленьня

існуючага інстытуту інспэкцыі. Рэглямантацыя захоўваецца, аднак людзі, якія займаюцца гэтай справай, інспэктары абіраюцца буржуазіяй з колаў самой-жа гандлёва-прамысловай буржуазіі.

Такім чынам, урадавая рэглямантацыя прамысловасьці бадай аднагалосна была асуджана, і выстаўлялася патрабаваньне яе скасаваньня. Прыхільнікаў існаваўшага парадку з ліку 59 наказаў, якія выказваліся па гэтым пытаньні, было толькі шэсьць наказаў.

Аднак, калі буржуаязія і выказвалася супроць шкоднай рэглямантацыі, то яна ўсё-ж нічога ня мела супроць таго, каб дзяржава ўмешвалася ў прамысловую дзейнасьць. Яна, наадварот, у сваіх наказах вымагае, каб дзяржава была протэктарам прамысловасьці, але ня ў форме прывілеяў і рэглямантуючага дзейнасьць умешваньня, а ў выглядзе дапамог, прэмій і ганаровых адзнак.

Яшчэ больш згодна наказы выказваюцца за зьнішчэньне мытных застаў у сярэдзіне дзяржавы і за вольны ўнутраны гандаль. Нямурскі наказ трэцяга стану, які прадстаўляе з сябе даволі паважны трактат, падаўшы гісторыю гэтага пытаньня, у канцы выказвае перакананьне, што „не паступова патрэбна зьнішчаць гэтыя перашкоды, небясьпечныя для гандлю і земляробства; абы толькі грамадзянская думка паведаміла аб гэтай процьме зла, зараз-жа здольны і адважны ўрад, які мае давер'е сярод народу і дзякуючы якому ўсе сілы нацыі яднаюцца на агульным сходзе, павінен зьмясьці іх адным ударам, падобна магутнаму чырвонаскураму, што здымае скальп з свайго ворага“.

Наказ „Орэшы“ заяўляе: „Трэба забясьпечыць за ўсімі таварамі свабоду звароту, якая так страшна абмежавана ўсімі гэтымі заставамі на ўнутраных межах дзяржавы і вялізнымі мытамі, якія там прыходзіцца плаціць“. Шэраг наказаў вельмі наможліва зазначае, што ўнутраныя мыты перашкаджаюць конкурэнцыі францускіх фабрыкантаў з чужаземнымі. Усе гэтыя наказы згаджаюцца з тым пунктам погляду, што зьнішчэньне ўнутраных мытніц справа сапраўды патрыётычная“, бо гэтыя перагародкі адчужаюць аднаго француза ад другога.

Выходзіць, што ў пытаньні аб унутраным гандлі француская буржуазія сапраўдная фрытрэдэрка.

Інакш стаіць справа з політыкай замежнага гандлю. З усіх наказаў толькі наказ аб'яднаных станаў г. Бойёны без абмоўкі вымагае, каб былі зьнішчаны мытніцы і каб чужаземныя купцы мелі такое самае права карыстацца францускім рынкам, як і французы. Нават прасякнуты фізыякратыяй наказ ад Нямурскай акругі лічыць магчымым часовае захаваньне замежнай мытніцы, каб ухіліцца ўзрушаньня фінансавай гаспадаркі краю. Бадай для наказаў 3-га стану патрэбнасьць замежных мытніц не выклікае ніякіх сумненьняў. Адносна гэтага пытаньня ў наказах звычайна гаворацъ аб пераглядзе існуючых тарыфаў. Тыповы наказ бальяжу „Ко“ бачыць задачу ўпарадкаваньня тарыфу ў протэктарстве айчыннай апра-

цоўчай прамысловасьці. Сьвядомасьць слабасьці французскай буржуазіі ў яе барацьбе з чужаземнаю буржуазіяй, асабліва з ангельскай, і вызначыла яе адносіны да фрытрэдэрства.

Ведаючы, што наказы 3-га стану воража адносяцца да палітыкі фрытрэдэрства, можна адразу вызначыць іх адносіны да дагавору 1786 г. з Англіяй, які іменна і быў пабудаваны на прынцыпах гэтай палітыкі. Ні ў адным наказе трэцяга стану ня знойдзем абароны гэтага дагавору. Наказы не шкадуюць фарбы для намаляваньня яго згубіцельных вынікаў.

У наказе сэпэшальства „Шатэль-ле Роль“ зазначаецца што: „гандлёвы дагавор з Англіяй зруйнаваў наш гандаль, бо наш гандаль далей ня можа вытрымліваць гэтага дагавору; у Руане, Труа, Ам‘ене, Ліёне тысячы людзей бяз сродкаў, бо прамысловасьць ня вытрымлівае ангельскай конкурэнцыі...

Далейшае існаваньне гэтага дагавору пагражае Францыі вялікай бядой. Наказ бальяжу „Этамі“ прапануе не баяцца „выклікаць вайну, парушыўшы гэты дагавор... і ці ня лепей рызыкнуць, чым паступова падцінаць асновы дзяржавы захаваньнем гэтага зьнішчальнага дагавору, які ўзбагачвае нашых суседзяй“. Наказ сэпэшальства „Рэінь“ сумуе аб лёсе тых рабочых, якіх „дагавор давёў да галаты... Трэба асьцерагацца, каб гэтыя каштоўныя для дзяржавы людзі не палічылі сябе прымушанымі эміграваць заграніцу, пераносячы туды нацыянальную вытворчасьць“.

Рабочае-ж пытаньне, як такое, амаль што зусім не прыцягнула да сябе ўвагі ўкладальнікаў наказу буржуазіі: з акруговых і гарадзкіх наказаў трэцяга стану толькі пяць закранаюць яго. Крыху лепш высьвятляюць пытаньне першастковыя наказы вялікіх гарадоў, дзе так ці інакш удаецца выказвацца самім рабочым: сярод марсэльскіх наказаў знаходзім тры наказы, якія належаць рабочым. Два наказы марсэльскіх рабочых рашуча патрабуюць скасаваньня цэхавай монополіі. Гарадзкі наказ зьмяшчае скаргу марсэльскіх рабочых на тое, што шмат у якіх гарадох ім прыходзіцца плаціць грошы за пасьведчаньне аб добрай моральнасьці, без якога яны ня маюць права нідзе працаваць; а каб не палічылі іх за валацуг, яны павінны ахвяроўваць усім, абы толькі атрымаць гэтае пасьведчаньне. Да гэтае просьбы рабочых марсэльская буржуазія аднеслася ня вельмі сурова. У наказе гораду Марсэлю так гаворыцца: „Гэтая карысная частка трэцяга стану заслугоўвае самай вялікай зычлівасьці, а дзяржава зацікаўлена ў тым, каб папярэдзіць эміграцыю, таму гэтую частку патрэбна добра забясьпечыць, быць яе абаронцам і палепшыць яе становішча“. Тут выяўляецца старая боязьнь буржуазіі, каб рабочыя, якія ведаюць сваю справу, не перайшлі ў другое месца. Але затое другая просьба „гэтай карыснай часткі трэцяга стану“ аб аднаўленьні рабочых брацтваў, ужо ня мае такога спачуцьця. Наказ толькі зазначае, што рабочыя просяць аб аднаўленьні гэтых саюзаў. Наказ г. Німа і німскага сэпэшальства па гэтым пытаньні выказваецца больш рашуча: яны патрабуюць, каб „зьнішчылі незаконныя зборні падмайстраў, а таксама вымa-

гаюць зьнішчэньня саюзаў вядомых пад назвай „dévoirs“ і „gavots“, а для гэтага патрэбна пашырыць на ўсё каралеўства тыя правілы, якія існуюць у Парыжы“. Такой самай клясавай нянавісьцю да рабочых і падмайстраў, якія імкнуцца да організацыі, прасякнуты і другія нешматлікія па гэтым пытаньні наказы (Монпелье, ды інш.). Наказ ад бальяжу ст. Пэр-дэ Муціс, каб дабіцца памяншэньня заработнай платы рабочым, прапаноўвае зьнішчыць усе сьвяты.

Так адбілася ў наказах рабочае пытаньне, адбілася яно даволі слаба, бо рэглямант амаль што зусім не дапусьціў рабочых да выбараў; а буржуазіі тут асабліва прасіць і жадаць ня прыходзілася, бо абсолютызм дапамагаў ёй у значнай меры прыдушаць узрушаньні рабочых.

У сваёй політычнай частцы, усе наказы амаль што аднагалосна ад імя ўсіх трох станаў асуджваюць стары лад і патрабуюць конституцыі.

Што тычыцца ўлады караля, дык амаль што ўсе наказы згодна выказваюцца за захаваньне караля, усе прасякнуты духам роялізму. Толькі некалькі першастковых наказаў аказаліся прасякнуты радыкальным кірункам з простымі пагрозамі па адрасу караля. Але яны ня мелі зусім ніякага ўплыву на складаньне акруговых наказаў. З усіх наказаў вылучаецца па сваёй выключнай рэзкасьці адзін вясковы наказ, які выклікаў сэнсацыю на Шымоньскім акруговым сходзе вымаганьнем „déroiter“ (абескаралевіць) караля, г. зн. адабраць ад яго прастол, калі ён будзе супроць рэформаў. Цікава, што на сходзе спачатку гаварылі аб рэпрэсаліях з гэтай прычыны, але прокурор баяўся „страціць популярнасьць“, г. зн. усьвядомліваў, што рэпрэсаліі зробяць дрэннае ўражаньне і ўсё скончылася добрадушнымі жартамі па адрасу гэтага злавеснага слова déroiter. Потым гэтае слова паказалася нават пацешным і гаварылі яго жартуючы.

У сапраўдных сялянскіх наказах політычныя пытаньні амаль што зусім не закранаюцца. Але затое ў акруговых наказах яны стаяць на першым месцы. Наказы ад дваранства і духавенства таксама аднагалосна ў тэй ці іншай форме патрабуюць конституцыі. Супроць абсолютызму выказаліся ўсе тры станы.

У Парыжы дваранства пачынае „ўладнай заявай аб асновах, на якіх павінна быць угрунтавана конституцыя“. У Мо яго (дваранства) воля знаходзіцца ў тым, каб ня была зроблена ніякая пастанова аб якімнебудзь падатку раней, чым у Генэральных Штатах ня будуць прапанованы асновы конституцыі... „Асноўнае палажэньне,—кажа дваранства Камбрэ ў пачатку свайго наказу,—зводзіцца к таму, каб Генэральныя Штаты, разам з яго вялікасьцю, заняліся раней за ўсё, распрацоўкай і вызначэньнем кодэксу конституцыйных законаў... Ні адно пытаньне аб падатках ці аб пазыцы ня будзе разглядацца да таго часу, пакуль ня будуць аформлены органічныя часткі кодэксу—рэдагаваны і абнародаваны, як асновы конституцыі“.

Аднак, за гэтымі канстытуцыйнымі вымаганьнямі дваранства далёка не заўсёды ляжалі прогрэсыўныя думкі. У большасьці выпадкаў, побач з сапраўднымі лібэральнымі запатрабаваньнямі перадавой часткі дваранства накшталт прыхільнікаў герцага Орлеанскага, якія выступалі ў пэўным контакце з буржуазіяй, за гэтымі выступленьнямі хаваліся рэакцыйныя мэты. Выказваючыся за канстытуцыю, яны маюць на ўвазе аднаўленьне провінцыяльных штатаў з іх станавым складам, узмацненьне ўлады парляманту, гэта значыць, урэшце усяго, аднаўленьне панаваньня прывілейных станаў, экспропрыяваных абсолютызмам.

Ва ўсякім выпадку, дваранства, як і духавенства, вымагае канстытуцыі і ў Генэральных Штатах ставяць яны гэтае пытаньне на першым месцы, што наогул было карысна для справы канстытуцыі.

Трэці стан па гэтым пытаньні выказаў поўнае адзінства. Трэці стан Мэлену і Морэ „рашуча прадпісвае сваім дэпутатам не прыступаць да абгаварваньня якіх-небудзь пытаньняў аб падатках, нават і часовых, да таго часу, пакуль ня будуць прызнаны стацьці, якія датыкаюцца канстытуцыі, і пакуль ня будуць абнародаваны тыя законы, якія будуць прызначаны да выданьня; але ні ў якім выпадку ня лічыць абавязковым для сябе выконваць тыя дзеяньні, якія будуць супярэчыць гэтаму артыкулу, хаця можа на гэтыя дзеяньні дэпутаты і згодзяцца“. А вось што кажа аб канстытуцыі адзін з самых левых наказаў ад Парыжу „extra muros“ (за сьценамі): „Самая магутная з Эўропэйскіх нацый выпрацоўвае для сябе палітычную канстытуцыю, інакш кажучы, моцнае існаваньне, у якім злаўжываньні ўлады зробяцца немагчымымі... Усе падаткі, што бяруцца з нацыі, будуць абвешчаны незаконнымі, аднак, зьбіраньне гэтых падаткаў будзе дазволена часова, але толькі да апошняга дня пасяджэньня Генэральных Штатаў...

... Законадаўчая ўлада належыць нацыі, і закон павінен зьяўляцца, як выражэньне агульнай волі, зацьверджанай каралём. Ніводзін закон ня будзе абнародаваны бяз формулы, якая выражае вярхоўнае права нацый... Бяз згоды нацыі, прадстаўленай Генэральнымі Штатамі, ня будзе зацьверджан ніякі просты або ўскосны падатак, ня будзе зроблена пазыка, альбо заснаваны які-б там ні быў грамадзянскі банк, ці створана якая-б там ні была грамадзкая служба, або ўтворана камісія“. Дэталізуючы гэтае пытаньне, у наказе вымагалі адказнасьці міністраў, інакш кажучы, зьнішчэньня тае сваволі ўлады зьверху да нізу, супроць якой скардзілася ўся Францыя, асабліва сялянскія наказы, пэрыодычнага склікаmakaньня (у 3, 5, 10 і нават 20 гадоў) Генэральных Штатаў, свабоды асобы, недатычнасьці ўласнасьці, рэформы суда, а часам і провінцыяльных штатаў і г. д.

Як мы ўжо бачылі, пытаньні аб падатках былі тэй зброяй, пры дапамове якой хацелі вырваць ад абсолютызму канстытуцыю, інакш кажучы, зьнішчыць абсолютызм.

У пытаньні аб зьнішчэньні падатковых выняткаў для першых двох станаў трэці стан увесь, як адзін, патрабаваў роўнасьці ў абкладаньні станаў. Дваранства і духавенства ў агуле згодна было прыняць гэтае ўраўнаваньне, аб гэтым яны выказваліся ў сваіх наказах. Але... за гэта патрабавалі компэнсацыі, як палітычнага, так і матэрыяльнага характару, аж да таго, каб дзяржава ўзяла на сябе царкоўную завінавачанасьць, якая даходзіла да 123 мільёнаў, абвясьціўшы яе нацыянальнай. Нават вышэйшыя станы прадбачылі, што іх протэст зусім ня будзе мець посьпеху і таму ня толькі ў наказах, але ўжо ў прадвыбарнай агітацыйнай літаратуры сьпяшаюцца заявіць аб сваім адказе ад налогавых прывілеяў, выстаўляючы гэты свой учынак, як добравольную ахвяру на карысьць дзяржаўных інтарэсаў, але затое гэтая ахвяра павінна быць аплачана так, каб, урэшце ўсяго, прывілейныя станы нічога ад яе ня страцілі.

Па пытаньні аб спосабе галасаваньня, трэці стан таксама выказваўся аднагодна, у большасьці выпадкаў наможліва, часамі катэгорычна, вымагаючы, каб усе чыста падавалі галасы у Генэральныя Штаты. Што датычыцца дваранства, то яно ня было аднагодна ў гэтым пытаньні. Усяго дваранству было прапанована скласьці дзьвесьце наказаў. Шампіён зрабіў падлік па $^3/_4$ гэтых наказаў, якія ёсьць. З іх 39 наказаў вымагаюць, або гатовы вымагаць, галасаваньня па станах. 19 вымагаюць такога галасаваньня, як агульнага правіла, але гатовы зрабіць з гэтага правіла выключэньне. 24 наказы вымагаюць, каб галасы падавалі ўсе чыста, 23 хочуць гэтага бяз усякіх абмежаваньняў, 12 з абмежаваньнем у васобых выпадках, 25 прымаюць яго з больш-менш значнымі агаворкамі і 12 наказаў па гэтым пытаньні зусім ня выказваюцца.

У шмат якіх наказах няма выразнасьці па гэтым пытаньні. Наогул, вырашэньне першымі двума станамі пытаньня аб галасаваньні, аб падатковых вынятках ды іншым сьведчыць, што сярод пануючых клясаў перад рэволюцыяй было пэўнае замяшаньне.

Трэці-ж стан, асабліва выказваючыся ў пытаньнях аб форме галасаваньня, даваў адчуваць, што ён моцны, што ўласна ня тры станы прадстаўляюць нацыю, а ён, трэці стан, іменна і ёсьць нацыя. „Цяпер,— кажа наказ Пуату,—вядома, што такое трэці стан;—гэта нацыя без духавенства і дваранства, альбо 24 мільёнаў французаў без аднаго мільёну, інакш кажучы, $^{23}/_{24}$ каралеўства“. Першыя станы адносяцца да трэцяга „як дзьвесьце тысяч да дваццаці мільёнаў“, кажа трэці стан Бруйера з Лётарынгіі. А вось што пішацца ў парыскім наказе extra muros. Трэці стан тут протэстуе... „бо (г. зн. протэстуе супроць таго, што) нацыянальнае прадстаўніцтва было ўтворана незаконным парадкам: духавенства і дваранства назначалі сваіх прадстаўнікоў непасрэдна, тымчасам, як прадстаўнікі ад трэцяга стану назначаліся...“ Далей паказваецца, як адбываліся ў трэцім стане выбары, а потым у наказе вымагаецца, каб цэрэмо-

ніял у Генэральных Штатах пры спатканьні караля быў аднальковы для прадстаўнікоў усіх трох станаў.

Перад выбарамі адбывалася ўзмоцненая агітацыя, каб прадстаўнікі першых двух станаў не маглі быць абраны ад імя трэцяга стану і гэта бадай абсолютна было ўсюды выканана. Вымагаючы, каб усе чыста галасавалі ў Генэральных Штатах, трэці стан не хацеў рабіць агульнастанавых сходаў прадстаўнікоў для распрацоўкі агульнага наказу ад акругі і ў большасьці выпадкаў аб'яднаныя сходы не адбыліся.

Наогул, трэці стан разумеў, што надышоў ужо час, калі ён з „нічога" павінен зрабіцца „ўсім", г. зн. гэта разумела буржуазія.

Паводле рэгляманту караля станы ў сваіх наказах павінны былі выказаць свае *просьбы* і *пажаданьні*, але ў вогуле атрымаліся ня просьбы, а *вымаганьні*. Буржуазія *вымагала* буржуазнай монархіі, але яна *хацела*, каб кароль пайшоў насустрач гэтым „вымаганьням", яна хацела дабіцца патрэбнага ёй парадку мірным шляхам, без рэволюцыі.

---

Такім парадкам, у наказах, у тэй ці іншай сьцепені для розных соцыяльных груп, выявілася соцыяльна-політычнае становішча дарэволюцыйнай Францыі.

Грамадзкая атмосфэра была насычана агульным нездавальненьнем, прагай перамен у існаваўшых парадках. Буржуазія ўсьвядомлівае сябе, як сілу, якая мае права прэтэндаваць аднолькава з першымі двума станамі на політычную ўладу. Дваранства, дабіваючыся сваіх станавых мэт, памагае буржуазіі расхістваць падмуркі абсолютызму, таго абсолютызму, які доўгі час быў апорай іх выключных правоў.

Урад-жа Людовіка XVI выяўляе зданьнёвасьць свае самаўладнае магутнасьці. Як падрыхтоўчыя мерапрыемствы да выбараў, так і самыя выбары адбываюцца ня столькі па волі караля, колькі міма яго волі. Прадвыбарная праца грамадзкае думкі, ход самых выбараў, хаотычнасьць і бесталковасьць іх адміністрацыйнага правядзеньня, з аднаго боку, энтузіязм і адназгоднасьць протэсту—з другога, паказалі поўнае замяшаньне ўраду.

Усе вымагалі зьмены парадкаў, але покі што ў часе выбараў і ў наказах толькі праз караля.

Аб рэволюцыі ў наказах яшчэ не гаварылі, але дух іх быў рэволюцыйны.

**Літаратура на расійскай мове**

1. *Е. Тарлэ*—Крестьяне и рабочие во Франции в эпоху Великой Революции. Часть I, гл. III и часть II., гл. II.

2. *А. Матыс*—Французская революция, гл. III.

3. *И. Кореев*—История Французской революции, гл. III.

4. *Ж. Жорес*—История Великой Французской революций т. I, гл. II—выборы и наказы.

5. *Э. Шампион*—Франция накануне революции по наказам 1789 г.

6. *К. Ону*—Выборы 1789 г. и наказы 3-го сословия.

7. *Е. Петров*—Вопросы промышленности и торговли в наказах депутатов 3-го сословия Генеральных Штатов 1789 г. (Статьи в „Журнале Министерства Народного Просвещения“, 1911 г., №№ 6 и 7).

8. *Кореев*—Положение французского крестьянства накануне революции 1789 г.—соответств. глава.

9. *Э. Шерэ*—Падение старого режима, т. II, гл. XXII, XIV, XV и XVI.

10. *И. Лучицкий*—Состояние земледельческих классов во Франции накануне революции, гл. IX.

11. *В. Герье*—Идея народовластия и Французская революция. Соответствующая глава.

12. *Кореев* — История Западной Европы в новое время, т. III, гл. XXXIII.

13. *Хорошук*—Наказы дворянского сословия 1789 г. во Франции.

# КНІГАПІС

**Віцебскія мастацкія выданьні**

**Д-р Іппэль. Беларускае мастацтва.** (D-r A. Ippel. Zur weissruthenischen Kunst.). *Пераклад з нямецкае мовы З. Гарбайца і М. Касьпяровіча. Віцебск, 1925. Стар. 26.*

**М. Касьпяровіч. Беларуская архітэктура.** *Абрыс з прадмоваю М. Шчакаціхіна. Віцебск, 1925. Стар. 52.*

**І. П. Фурман. Крашаніна.** *Матэрыялы да гісторыі яе ў Віцебшчыне. Пад рэдакцыяй члена-корэспондэнта Інстытуту Беларускае Культуры М. І. Касьпяровіча. Выданьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. Віцебск, 1925. Стар. 30+15 табліц.*

**А. Шлюбскі. Крашаніна (Набіванка).** *Пад рэдакцыяй М. Касьпяровіча. Віцебск, 1926. Стар. 32, з 12 малюнкамі.*

**І. П. Фурман. Віцебск у гравюрах С. Юдовіча.** *Выданьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. Віцебск, 1926. Стар. 46, з 28 малюнкамі.*

За апошнія два гады наша спэцыяльная літаратура ўзбагацілася шэрагам выданьняў Віцебскага Акруговага Т-ва Краязнаўства, прысьвечаных проблемам беларускага мастацтва. Калі адкінуць некаторыя іх недахваты, амаль што няўхільныя ў провінцыяльных умовах,—дык можна лічыць, што выданьні гэтыя варты самай зычлівай увагі. Галоўная вартасьць іх—гэта тое, што яны зьявіліся наогул першымі беларускімі выданьнямі ў данай галіне і тым падалі вядомы прыклад для краязнаўчых організацый, паказаўшы, што нават і ў провінцыі, досыць далёка ад асяродку нашага навуковага і культурнага жыцьця, ёсьць магчымасьць, пры добрым жаданьні і належнай энэргіі, зрабіць карысную і сур'ёзную працу. З другога боку, выданьні гэтыя зьявіліся глыбака сваячаснымі; з усіх элемэнтаў нашай культуры, ласьне мастацтва да апошніх часоў заставалася найлепей вядомым у шырокіх колах, так што з нашага пункту погляду можна цалкам вітаць кожную спробу разьбіць сьцяну гэтае несьвядомасьці, пашыраючы для чытача-неспэцыялістага напалову популярную літаратуру, дзе-б пытаньні беларускага мастацтва трактаваліся ў належным асьвятленьні і ў поўнай згодзе з вынікамі сучасных навуковых дасьледзін у гэтым напрамку. У працы гэтай магчымы два розныя, аднолькава патрэбныя ўхілы: популярызацыя асноўных агульных вед і самастойная распрацоўка ў популярнай, агульназразумелай форме некаторых больш дробных паасобных пытаньняў. Віцебскае Краязнаўчае Т-ва паставіла сабе спачатку задачу першага роду, выдаўшы дзьве невялічкія працы ў сэрыі танных кніжак малога формату, якія зьявіліся першай спробай яго выдавецкай дзейнасьці ў галіне мастацтва.

Раней за ўсё зьявіўся пераклад нямецкага артыкулу д-ра *А. Іппэля* аб беларускім мастацтве, зьмешчанага ў зборніку „Weissruthenien“ (Бэрлін, 1910). Праца гэтая, не гледзячы на нязначнасьць яе памераў і нават вядомую павярхоўнасьць зьместу, мае ў гісторыі вывучэньня беларускага мастацтва асаблівае значэньне. Артыкул Іппэля

зьявіўся ў свой час першым прыкладам цалкам об'ектыўнага, пазбаўленага ўсялякае тэндэнцыі, падыходу да правільнае пастаноўкі проблемы беларускага мастацтва,—прыкладам тым болей цікаўным, што ён належаў пяру чужаземца, і да таго-ж быў вынікам параўнальна кароткага і няглыбокага азнаямленьня аўтара з адпаведным матэрыялам. Тымчасам, аднак, не бяз удзелу, праўда, некаторых беларускіх культурнікаў, Іппэль здолеў сур'ёзна і правільна намеціць шляхі дасьледваньня гэтага матэрыялу і першы, нават, адважыўся ўвесьці ў літаратуру раней невядомыя тэрміны: „беларускае мастацтва“ і „беларуская школа малярства“ (у дапасаваньні да старадаўняга іконапісу), якія, такім чынам, яшчэ раней, як зьявіцца ў нашай літаратуры, атрымалі пэўныя „правы грамадзянства“ ў сваёй нямецкай вопратцы. Апублікаваньне гэтага артыкулу асобнай кніжачкай у беларускім перакладзе можна, зразумела, вітаць,—паколькі, пакуль што. ён заставаўся мала вядомым у шырокіх колах, ня гледзячы на тое, што першы беларускі пераклад яго (М. Байкова) ужо некалькі гадоў назад быў надрукаваны ў часопісі „Вольны Сьцяг“ № 1 (3). На жаль, аднак, віцебскія перакладчыкі ня зусім дакладна справіліся з сваёй задачай: пераклад мае шмат памылак, часта досыць грунтоўных, якія зьявіліся вынікам незразуменьня адпаведных месцаў аўтэнтыку; памылкі гэтыя часам скажаюць сэнс: напрыклад, на стар. 14 (перакладу) аўтар кажа, што ў Беларусі ня было спагадных умоў, каб тут маглі добра *захавацца* помнікі мастацтва і культуры, у перакладзе-ж, замест: *захавацца* мы знаходзім: *усталявацца*; на стар. 18 замест: *царкоўны музэй* перакладзена: *храм-музэй;* на стар. 19 замест: *рызы—плашчаніцы;* на стар. 20 замест: *срэбныя вырабы—сярэбраныя тканіны* і г. д. Не здавальняе і самая мова перакладу, дзе сустракаюцца такія няўдалыя формы і выразы, як, напр.: *аднаўляючыя, аддаленае, множ, засьведчываюць, прыемственна, разнавобразныя,* і шмат што іншае. Апроч таго, значна псуе ўражаньне чыста выпадковы, і зусім неадпаведны зьместу, падбор ілюстрацый. Аднак, як дадатныя бакі выданьня можна адзначыць яго прыгожы надворны выгляд (крыху запсаваны, праўда, адсутнасьцю беларускага шрыфту ў віцебскіх друкарнях), а таксама хоць і кароткую, але сьціслую зьместам прадмову перакладчыкаў, дзе закранаецца гісторыя пытаньня.

Другой па чарзе надрукаванай Віцебскім Краязнаўчым Т-вам кніжкай зьявілася „Беларуская архітэктура“ *М. Касьпяровіча.* Праца гэтая дае кароткі агляд гістарычнага разьвіцьця беларускага будаўніцтва з XIII ст. да канца XVIII ст. і ў большасьці сваёй пабудавана на выніках зробленых мною ў 1923-24 г. досьледаў, вядомых аўтару яе ў рукапісах. Крытыка зьместу яе, з гэтай прычыны, выходзіць, зразумела, за межы маёй компэтэнцыі, паколькі за тыя ці іншыя вывады яе, разам з аўтарам, таксама і я асабіста нясу адпаведную адказнасьць. Магу паўтарыць толькі тое, што мной было ўжо вызначана ў прадмове да гэтай кніжкі, а ўласна, што ў якасьці першае спробы кароткай популярызацыі сучасных навуковых досьледаў у данай галіне, яна зьявілася зусім сваячаснай і патрэбнай, тым болей, што і самае выкананьне пастаўленай аўтарам задачы мае характар цалкам здавальняючы. З знадворнага боку кніжка падобна да першай, з тымі-ж вартасьцямі і хібамі, і зноў-жа з выпадковым падборам ілюстрацый, далёка няпоўным, што крыху перашкаджае чытачу скласьці сабе належнае ўяўленьне аб прадмеце.

Далейшыя віцебскія выданьні адыходзяць ужо ад чыста популярнага тыпу, і маюць характар хаця і дробных, але ўсё-ж больш-менш сама-

стойных прац. Дзьве з іх ліку прысьвечаны пытаньню аб крашаніне (друкаванай тканіне, або набіванцы) і належаць пяру *І. Фурмана* і *А. Шлюбскага*. У вабедзьвюх кніжках, што асабліва каштоўна, выкарыстаны ў якасьці ілюстрацыйнага матэрыялу адбіткі з друкаваных дошак, якія знаходзяцца ў зборах Віцебскага аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю, што зьяўляецца, такім чынам, першаю спробаю шырокага апублікаваньня гэтых надта цікавых мотываў беларускага народнага орнамэнту. З боку-ж зьместу кніжкі пабудаваны парознаму. Праца Фурмана болей вузкая па тэме, ахапляе толькі пытаньне аб крашаніне ў Віцебшчыне, прычым з належнаю паўнатой вычэрпвае яго з этнографічнага боку; разьдзелы аб разьвіцьці крашаніннага майстэрства ў Віцебшчыне і аб тэхнічных прыёмах яе выпрабленьня, пагрунтаваныя на асабістых досьледах аўтара, зьяўляюцца досыць каштоўнымі, падаючы пэўныя фактычныя весткі, яшчэ ніколі не агалошаныя ў літаратуры; значна слабей маленькі разьдзел аб крашанінных рысунках, дзе зусім няма належнага аналізу форм і параўнальнага іх разгляду; нарэшце, зусім непатрэбным зьяўляецца, па нашай думцы, увесь першы разьдзел, з агульнымі развaжаньнямі аб народным мастацтве, дзе аўтар або трактуе агульна-вядомыя рэчы, або палемізуе з няіснуючымі фактычна супярэчнымі поглядамі, даводзячы тое вялізарнае значэньне народнай мастацкай творчасьці, у якім, зразумела, ніхто не сумляваецца. У другім месцы вядомая блытаніна ў поглядах аўтара выяўляецца ў тым, што ён чамусьці лічыць магчымым адносіць крашаніну да галіны „сялянскага малярства“ (стар. 11), у той час, як фактычна трэба яе разглядаць, як адзін з адменьнікаў гравюры. Але гэтыя дробныя недахопы не памяншаюць агульнай вартасьці кніжкі, вельмі прыгожай, да таго-ж, і з знадворнага боку, дзякуючы добрай вокладцы і аздобам у тэксьце, зробленым мастаком Е. Мініным.

Кніжка А. Шлюбскага мае болей шырокі зьмест і мае на мэце агульную пастаноўку пытаньня аб беларускай крашаніне ў яе ўзаемаадносінах з адпаведнай вытворчасьцю Заходняй Эўропы, Усходу і Маскоўшчыны. Зьяўляючыся толькі першай весткай аб досьледах аўтара ў данай галіне, яна ня мае яшчэ характару канчаткова аформленай і выяўленай сыстэмы поглядаў і толькі намячае шляхі, якімі павінна ісьці далейшае вывучэньне. Асабліва цікаўнай зьяўляецца пры гэтым думка аўтара, што крыніцы маскоўскае крашаніны трэба шукаць у Беларусі, а не наадварот, паскольки шляхам старадаўніх гандлёвых зносін уласна гэтая апошняя павінна была раней запазычыць набіўное мастацтва з усходніх краін (Сярэдняй Азіі). Думка гэтая мае, бясспрэчна, рацыю, але патрабуе яшчэ пацьвярджэньня на конкрэтным матэрыяле, чаго ў данай працы, на жаль, яшчэ няма. Наогул-жа трэба заўважыць, што пытаньне аб беларускай крашаніне ў першую чаргу павінна быць яшчэ распрацавана ў сэнсе гістарычна-мастацкага вывучэньня самага яе орнамэнту,—брак, чаго ў віцебскіх выданьнях нельга, аднак, лічыць недахватам, паскольки аўтары іх вызначалі сабе, перш за ўсё, іншыя, болей абмежаваныя мэты, якіх належным чынам і дасягнулі.

Апошнім Віцебскім выданьнем зьявіліся гравюры Юдовіна з тэкстам *І. Фурмана*. Кніжка гэтая—найлепшая з тэхнічнага боку, і дасканаласьцю свайго знадворнага выгляду магла-б зрабіць гонар усякаму, а ня толькі провінцыяльнаму выдавецтву. Добрая папера, прыемны формат, чытэльны шрыфт і строга дапасаваныя да цэлага аздобы — надзвычайна ўдала ўзгоднены з самым зьместам кнігі, асновай якой зьяўляецца цікаўная і талентная сэрыя віцебскіх дрэвары-

таў Юдовіна, у адносінах да якіх самы тэкст грае толькі службовую ролю. Аўтар гэтых дрэварытаў, ленінградзкі мастак, родам з Віцебшчыны (Бешанковічы), зьяўляецца адным з вядомых і вельмі здольных яўрэйскіх гравёраў, у працах якога моцная тэхніка злучаецца з глыбока-нацыянальнай стылістычнай афарбоўкай. Віцебская сэрыя гравюр асабліва каштоўна пры гэтым стылёвым выяўленьні характэрнага аблічча гэтага прыгожага, і так непадобнага да інш., беларускага места, узятага, праўда, з некалькі спэцыфічнага і звужанага пункту погляду. Таму-ж мастаку належыць і вокладка, а таксама аздобы кніжкі, што надае ёй поўную суцэльнасьць індывідуальнага майстэрства і робіць яе каштоўным укладам у нашую мастацкую літаратуру. Тэкст кніжкі складаецца з трох частак: нарысу віцебскага мастацкага жыцьця ў часы рэволюцыі, кароткай біографіі Юдовіна і, нарэшце, агляду яго графічнай творчасьці ў дапасаваньні да зьмешчаных у кніжцы дрэварытаў; апошні разьдзел паўтораны ў канцы кніжкі ў добрым нямецкім перакладзе; таксама ўсе подпісы да гравюр дадзены ў беларускім і нямецкім тэксьце, што робіць выданьне вельмі „культурным“ з знадворнага выгляду. На жаль, толькі, тэкст мае неаднолькавую вартасьць у паасобных частках, і ў той час, як першыя два разьдзелы зьяўляюцца вельмі каштоўнымі сваім фактычным матэрыялам,—апошні—у сутнасьці самы важны—напісаны надта коратка і павярхоўна, без належнага разбору творчасьці мастака, у чым адчуваецца, магчыма, праца неспэцыялістага. Ня кажучы ўжо аб тым, што творчасьць Юдовіна, бясспрэчна, заслугоўвала-б больш-менш падрабязнага разгляду,—трэба зазначыць, што ў даным выпадку адсутнасьць яго асабліва перашкаджае чытачу кніжкі зрабіць належную ацэнку ўласна віцебскай сэрыі дрэварытаў, паскольку, напрыклад, аўтарам зусім не падкрэсьлена надта характэрная асаблівасьць юдовінскага мастацтва: частае, наўмыснае перакручваньне, скажэньне і перавялічэньне архітэктурных форм, у мэтах наданьня ім пэўнага спэцыфічнага адценьня, што грунтуецца на апрыорным падыходзе Юдовіна да Віцебску, як да *выключна* яўрэйскага места, чаго фактычна няма. Не вызначаючы гэтае асаблівасьці да незнаёмага з Віцебскам чытача, аўтар не адхіляе ад яго небясьпекі адносіць у гравюрах Юдовіна да нібыта сапраўдных уласьцівасьцяй Віцебску—тое, што фактычна зьяўляецца толькі вынікам яго праламленьня праз творчую прызму мастака. З другога боку, аўтарам надта мала аддадзена ўвагі чыста тэхнічным рысам рэпродукаваных дрэварытаў, а таксама пытаньню аб сувязі Юдовіна з тымі ці іншымі майстрамі сучаснай графікі і аб уплывах, якія мае яна на яго творчасьць. Усё гэта, аднак, як і ў папярэдніх выпадках, не памяншае агульнай каштоўнасьці кніжкі, дадатныя бакі якой пераважваюць над адмоўнымі.

Наогул, можна лічыць, што выданьнем пералічаных кніг Віцебскае Т-ва Краязнаўства зрабіла пахвальную і карысную працу. На жаль, здаецца, праца гэтая ў сучасны момант неяк спынілася; у кожным выпадку, невядома нічога аб далейшых замерах Т-ва ў даным напрамку. Хочацца, аднак, спадзявацца, што перапынак гэты будзе кароткім, пасьля чаго Т-ва здолее пасунуць надалей сваю ўдала распачатую справу, а таксама, што добры віцебскі прыклад не загіне дарэмна і выкліча, можа, належнае перайманьне ў практыцы іншых краязнаўчых організацый.

**М. Шчакаціхін.**

**Рэволюцыя 1848 году Францыі ў асьвятленьні ахраньніка Мікалая І.**

Падзел гісторыі на пэрыоды занадта ўмоўны і выцякае з задач, якія ставіць сабе даная навуковая

праца, а таксама і клясавага характару працы. Калі буржуазныя гісторыкі пачынаюць эпоху новага часу з рэволюцыі 1789 году і яе ставяць вадападзелам паміж старым і новым сьветам, дык гэта зусім зразумела, дзеля таго што з гэтай рэволюцыяй сябе зацьвярджае на контынэнце Эўропы новы буржуазны парадак. Адналькава-ж зразумела, калі ідэолёг рабочай клясы Ф. Лясаль кажа аб новым пэрыодзе ў гісторыі, які пачаўся рэволюцыяй 48 году і іменна гэтую рэволюцыю, або, праўдзівей, той адрэзак яе, які ўкладаецца ў даты паміж 4-га мая 48 году (адкрыцьцё Ўстаноўчага Сойму) і 23—27 чэрвеня 48 году (чэрвеньскае паўстаньне рабочых у Парыжы)—робіць вадападзелам паміж старым і новым сьветам; старым сьветам буржуазных адносін і новым сьветам, які пачынае барацьбу за соцыялістычнае грамадзтва. У гэтай рэволюцыі ўпяршыню з вышыні вялізных барыкад чэрвенскага паўстаньня прагучэў лёзунг дыктатуры рабочай клясы[1]). Гэта была першая рэволюцыя, у якой пролетарыят адкрыта выступіў супроць буржуазіі і ўсіх тых грамадзкіх элемэнтаў, якія з ёю солідарызуюцца. Вось чаму ўсё тое, што датычыць да рэволюцыі 1848 году, прадстаўляе асаблівую цікавасьць для марксыцкай гістарычнай навукі. Буржуазія, якая баіцца ўсякага рэволюцыйнага руху і сьвядома ставіць перашкоды вывучэньню рэволюцыйных процэсаў мінулага, старанна беражэ пад вялікімі замкамі сакрэтных аддзелаў сваіх архіваў мноства і пры гэтым самых каштоўных дакумантаў, якія маглі-б асьвятліць рэволюцыйныя рухі мінулага, у васаблівасьці рэволюцыю 1848 году, адну з бліжэйшых, і ў шмат якіх выпадках, ня згубіўшую надзеннасьці. Мноства рэакцыйных падзей нашых дзён упіраецца простым шляхам у рэакцыйныя падзеі рэволюцыі 48 г.

Рэволюцыя 1917 году ў Расіі, раскрыўшы патайнікі царскіх архіваў, зрабіла грамадзкай маемасьцю дакуманты, якія хаваліся ў гэтых архівах, шмат абагаціўшы гістарычную навуку і, між іншым, тую важнейшую яе частку, якая выўчае рэволюцыю 1848 году.

Выўчэньне і навуковае выданьне паказных навуковых матэрыялаў патрабуе выдаткаў большай колькасьці разумовай працы і матэрыяльных сродкаў, а дзеля гэтага, большага часу дзеля папаўненьня іх апублікаваньня.

Яшчэ ў пачатку 1923 году ў выданым выдавецтвам „Красная новь“ зборніку артыкулаў, прысьвечаных 75-годзьдзю рэволюцыі 1848 году, М. Н. Пакроўскі, у артыкуле „Ламартин, Кавеньяк и Николай“ [1]), крыху паднімае заслону над матэрыяламі, якія захоўваюцца ў цэнтраархіве СССР і якія маюць адносіны да рэволюцыі 48 году ў Францыі.

Адносна гэтага матэрыялу Пакроўскі ў сваім артыкуле піша наступнае: „Ён складаецца з дзьвюх частак: паведамленьняў патайнога агента расійскага ўраду Якава Талстога III аддзяленьню, з аднаго боку, і перапіскі расійскага паверанага ў справах Кісялёва з сваім Пецярбурскім цэнтрам, з другога“. Далей, параўноўваючы паведамленьні Кісялёва і Талстога, Пакроўскі, паміж іншым, піша: „Паведамленьні Талстога яскравей, колёрытней—гэта як-бы „Записки очевидца“ аб лютаўскай рэволюцыі, іх варта надрукаваць цалкам, што цэнтраархіў, вядома, і зробіць, але політычная іх вартасьць куды ніжэй папер Кісялёва [2]). Гэтае жаданьне М. Пакроўскага цяпер ажыцьцёўлена Дзярж. Выдавецтвам.

[1]) К. Маркс. „Барацьба кляс у Францыі“. Зборнік творў т. III, стар. 51.

[1]) Да 75-годзьдзя рэволюцыі 48 г. Зборнік артыкулаў, выд. „Красная Новь“. Масква, 1923 г.

[2]) Ibidem. Стар. 66, 67.

Паведамленьні Я. Талстога выданы з выпаўненьнем патрабаваньняў гістарычнай навукі, якія маюць адносіны да паведамленьняў, з прадмовай, дадаткамі, падрабязнымі ўвагамі і іменным паказацелем, які дае магчымасьць з поўнай зразумеласьцю чытаць дакуманты асобам, нават мала знаёмым з ходам рэволюцыі 48 году.

Мы ня будзем спыняцца на асобе аўтара паведамленьняў, Я. Н. Талстога, таварышу Пушкіна, удзельніку, хаця-ж бы і ня дужа актыўным, руху дэкабрыстых, які з прычыны гэтага зрабіўся політычным эмігрантам і прыяцелем „многіх рэволюцыянэраў", і асобе, якая карысталася давер'ем Маркса і Энгельса. Нам даволі сказаць, што на службу ў Мікалаеўскую ахранку ён пайшоў з разьлікаў матэрыяльных і, бязумоўна, не ўва ўсім згаджаючыся політычна з Мікалаем і яго сатрапамі, добра да іх падрабляўся і ладзіў з імі, але ўсё-ж, бязумоўна, быў шчырым у сваёй нянавісьці да рабочай клясы, паколькі апошняя праяўляла сябе ў рэволюцыі ў комуністычным руху. Аўтары прадмоў к паведамленьням кажуць, што „каштоўнасьць іх ня вычэрпваецца аднымі толькі літаратурнымі вартасьцямі; у іх, перш за ўсё, *занадта правільна заўважаны сэнс здарэньняў, якія адбываліся* (падкрэсьлена мною. І. Г.). Аўтару зразумелы рухавыя сілы рэволюцыі, характар клясавых супярэчнасьцяй, якія разьядаюць францускую грамадзкасьць; ён дужа добра бярэ пад увагу значэньне рабочай клясы і ролю рэволюцыйна-комуністычных тэорый". Цяжка згадзіцца з гэтымі словамі. Рэволюцыя 48 году не адкрыла Я. Талстому сваёй і ўсяго XIX ст. таямніцы—„*вызваленьне пролетарыяту*". Ён бачыў клясавую барацьбу, але ў рачаіснасьці яе не разумеў, таксама як і не разумеў, чаму комуністычныя навучаньні маюць такое вялізарнае значэньне ў рэволюцыі і маюць такі непераможны ўплыў на рабочых. Зразумела, што вельмі разумны, з вялікай жыцьцёвай практыкай, ён далёкі ад манілаўскіх адносін да фактаў і разьбірае адносіны паміж асобнымі адзінкамі і грамадзкімі групамі, выходзячы з іх матэрыяльных і іншых інтарэсаў; ад гэтага ён ня губляе звычайна жыцьцёвага правільнага пункту погляду, але ад сапраўднага разуменьня клясавых супярэчнасьцяй ён надта далёкі. І тыя радкі яго паведамленьняў, якія датычаць клясавых супярэчнасьцяй і рабочай клясы, дышуць надзвычайнай наіўнасьцю. Выступленьні рабочых кваліфікуюцца ім, як нейкае бесталковае і бясэнсавае бязладзьдзе, якое можна наогул адхіліць некаторымі політычнымі способамі.—„Усе буйныя гарады, у якіх урад меў неасьцярожнасьць дапусьціць адкрыцьцё шматлікавых фабрык, зьяўляюцца, асабліва ў дні, калі работа не адбываецца,—арэнай шумлівых зборышчаў, якія звычайна служаць папярэджаньнем бунтаў. Наогул, фабрычныя рабочыя складаюць самую неспакойную і самую нясумленную частку гарадзкога жыхарства; вось дзеля чаго патрэбна-б было абмежаваць лік рабочых у сталіцах і ўтвараць ізоляваныя фабрычныя цэнтры. „Тут агент III аддзяленьня ня ўзьнімае вышэй мары свайго самаўладнага пана аб тым, што як-бы было добра, калі-б можна было абыйсьціся без рабочай клясы, або адхіліць яе ад усякага ўплыву на грамадзтва і грамадзкія адносіны.

Талстой злуецца на ход здарэньняў, больш усяго іменна тады, калі яны вядуць да выступленьняў пролетарыяту. Але ня гледзячы на ўсё гэта, паведамленьні ўключаюць у сябе ня столькі яго асабістых разважаньняў, колькі праўдзівых апісаньняў здарэньняў, якія прад ім раскрываліся. Ён дае поўны абраз рэволюцыі, твар якой яму не ўдаецца сказіць, ня гледзячы на яго відавочныя на гэта стараньні ў злосьлівых або

пагардлівых разважаньнях вышэй у апісаных здарэньнях. Гэтыя атрутныя стрэлы хваравіта і бясьсільна гінуць перад веліччу здарэньняў, якія апісваюцца. Вось, напрыклад, месца з паведамленьня 9—21 сакавіка, дзе Талстой апісвае вядомую рабочую дэмонстрацыю 17 сакавіка 48 г.— „Быць можа ніколі, нават у часы Конвэнту, ваколіцы „Тюільері“ не зьяўлялі сабой відавішча такога мноства, такога вялікага скапленьня мас. Яно налічалася да 200.000 чалавек; ня будзе перавялічэньнем, калі сказаць, што яно даходзіла да 170.000 чалавек“; і далей: „Сярод сьцягаў, упрыгожаных дэвізамі, патрыотычнымі надпісамі і злавеснымі эмблемамі, зьвяртаў на сябе ўвагу зялёны сьцяг з рысункам арфы і надпісамі *„Ірляндыя“* каля сьцягу ішлі вучні ірляндзкай каталіцкай сэмінарыі, апранутыя ў свае сутаны. Гэты паганскі натоўп, гэтае зборышча атэістых вітала іх аплёдысмэнтамі; *у той дзень, калі яны сталі-б прапаведваць масам старыя законы веры і абавязкі моралі, ён-бы іх аддаў сьмерці; але сёньня яны прымучыліся да шумнай процэссіі, якой ім, быць можа, не здаралася бачыць на ўласнай радзіме, і дзеля гэтага мелі сабе ласкавую ўхвалу*“. Гэтыя падкрэсьленыя мною словы Талстога робяць уражаньне адваротнае таму, якое ён хоча зрабіць. Яны кажуць аб тым, як наўкола паўстаўшай рабочай клясы зьліваюцца ўсе прыгнечаныя масы бяз розьніцы веры і нацыянальнасьці і як радасна рабочая кляса ўключае ў свае шэрагі цёмныя адсталыя элемэнты, каб весьці іх разам з сабой да вызваленьня ад моральных і матэрыяльных ланцугоў.

„Банды рабочых,—апісвае Талстой,—рассыпаліся па цэлых радох кварталаў, выкрыкваючы пагрозы сьмерці. У ваколіцы Сэн-Жэрмэн яны застанавіліся перад самымі багатымі асабнякамі, пагражаючы і крычучы, што „магнаты і дваране, спустошыўшы касу банку, закапалі свае грошы, але яны сілай прымусяць іх зьвярнуць утоенае“. Але дзеля таго, што ён раней правільна перадаў кіраўніцтва буржуазіі, дык правільнасьць рабочых зразумела сама па сабе. Талстой і не стараецца адмаўляць правільныя нараканьі рабочых па адрасу буржуазіі, дзеля таго што некалькімі старонкамі вышэй ён сам піша: „Я даведаўся, што сягоньня, 16 сакавіка, банк закрыўся; усе мяняла таксама пазачынялі свае крамы, *грошы хаваюцца, закопваюцца* (падкрэсьлена мной. І. Г.). Золата ў нязвычайнай цане“ і г. д.

Талстой адносіцца падазрона да „сумленнасьці і безынтарасоўнасьці народу“ і прыводзіць цэлы рад асобных выпадкаў рабункаў, але „на другі дзень“, піша ён, *некалькі сумленных людзей* (падкрэсьлена мною. І. Г.) прынялі энэргічныя меры, каб забараніць рабунак; з дзесятак грамілаў былі расстраляны, і гэткая мера спыніла іх хцівасьці“. Захаваць народ, які змагаўся з бандытамі і рабаўнікамі, пад словамі „некалькіх сумленных людзей“,—спроба надта няўдалая, і з агульнага для ўсякага непракананага наперад чалавека рысуецца натуральнае становішча справы.

Як ні няпрыязна адносіцца Талстой да крайняй левай рэволюцыйнага руху, ён ня можа іх збэсьціць, а можа пісаць аб тым, што яны лятуценьнікі, людзі непрактычныя, і толькі трэба абазваць іх дэмагогамі. У паведамленьні ад 29/II (12/III) ён піша аб крайняй левай. „Люі-Блян—комуністы-лятуценьнік, але кажуць, што ён чалавек парадачны. Усе іншыя—фанатычныя і экзальтаваныя рэспубліканцы, якія зусім не ўяўляюць сабе аб адміністратыўным, політычным і дзяржаўным кіраваньні; праўда, „у іх шмат стараньня і адданасьці ідэі“. Занадта злосна адносіцца да Барбеса, часта называе яго „подлым забойцам“, але ўсё-ж не з-за забойства ў асабістай

справе. „Барбес“,—піша ён,—„які стаяў на чале паўстаньня 1839 г., пагарджаецца ўсімі сумленнымі людзьмі, якія лічаць яго подлым забойцам за тое, што ён, кіруючы атакай на караул каля Ратушы, ня гледзячы на тое, што жаўнеры, займаўшыя яе, не працівіліся, падышоў да афіцэра, начальніка караулу, і забіў яго стрэлам з рэвальвэра ў упор“.

Разам з гэтым аб шмат якіх дзеячах буржуазіі ён гаворыць з выстарчаючай яснасьцю і пэўнасьцю, як аб людзях асабіста нясумленных, але цікавы вобраз Лямарціна—Керанскага рэволюцыі 48 г.—надта яскравы—„Лямарцін далёкі ад рэальнага разуменьня рэчаў, ня здольны сам разьвязаць якую-б то ні было труднасьць, чытае з рухамі скомароха дыфірамбы ў чэсьць самому сабе“ і г. д.

Так, па-за залежнасьцю ад асабістых сымпатый і антыпатый, хоць колькі-небудзь правільная перадача фактаў рэволюцыі няміnуча апраўдвае гістарычны яе аналіз, прароблены марксыцкай гістарычнай навукай з часу клясычных гістарычных прац К. Маркса і выяўляе гэроізм барацьбы рабочай клясы за сваё вызваленьне.

**І. Герчыкаў.**

**L' Europa Orientale, Roma. 1926 г. №№ 1—6.**

„Усходняя Эўропа“—часопісь, якая выдаецца Інстытутам Вывучэньня Усходняе Эўропы, заснаваным у 1921 г. ў Рыме, зьмяшчае ў першых шасьці выданьнях шэраг артыкулаў А. Пальміеры, прысьвечаных Савецкаму Саюзу, напісаных на аснове аграмаднага матэрыялу, пераважна савецкага, вывучанага аўтарам з вялізарнаю ўвагаю.

Пяру А. Пальміеры (Palmieri) належыць пяць артыкулаў: 1) Політычная геаграфія Савецкай Азіі (№ 1), 2) Політычная геаграфія Савецкай Украіны (№ 2), 3) Савецкая Беларусь (№ 2), 4) Савецкі Каўказ, 5) Сярод Савецкіх рэспублік. Аўтар дае зусім об'ектыўнае і ўсебаковае апісаньне вывучаемай ім рэспублікі, альбо вобласьці.

Гэта летапісная об'ектыўнасьць і робіць артыкулы А. Palmieri вельмі каштоўнымі для Заходня-эўропэйскага чытача. У артыкуле „Савецкая Беларусь“ (La Bielorussia sovietista) А. Palmieri, на аснове літаратуры, якая выдана ў Беларусі і за яе межамі, даў вельмі здатны нарыс, які дазваляе скласьці ўпаўне яснае ўяўленьне аб Савецкай Беларусі. Аўтар дае кароткую політычную гісторыю Беларусі ўключна да нашага часу, кранае этнографічны склад насельніцтва, нацыянальную політыку, адміністрацыйны падзел Беларусі, лічбы насельніцтва наогул і па гарадох у васобнасьці, а таксама і асноўных культурных дасягненьняў Савецкай Беларусі: Унівэрсытэту, Інбелкульту, Інстытуту Сельскай Гаспадаркі, Дзяржаўнай Бібліотэкі. І ў гэтым артыкуле А. Пальміеры выявіў знаёмства з усёй літаратурай аб Беларусі. З іншых артыкулаў заслугоўваюць увагі артыкулы Е. In. Gatto „Стефан Жеромский“ і „История литературной дружбы (Storia di un'amicizia litteraria) Пушкина и Мицкевича“.

**У. П.**

**Кузьма Чорны.—Пачуцьці.** *(Апавяданьні). ДВБ. Менск, 1926 г. Старонак 163. Цана 75 кап.*

Глыбінямі чалавека ды асэнсьненьнем таямніц жыцьця насычан увесь новы зборнік апавяданьняў К. Чорнага. „Жыцьцё ты маё шырокае, без краёў, глыбіня мая бяздонная“. Стаіць перад ім і захапляецца пісьменьнік, і мерае яго праз думкі ды „пачуцьці“, праз развагу, а гэта дарога да суму, да спакою і эпічнасьці. І больш суму, здаецца, чым радасьці ў зборніку, таму, ма-

быць, падзеі ўсе і разьвінаюцца на фоне восені, у той час, калі яна плача „сьнегавымі сьлязамі“, калі „ўсё спакойна неяк“, калі „менш зьвінючай вясёласьці і больш ціхай радасьці“. І не таму толькі сум, нейкі спакой, што думкі ды „пачуцьці“ мераюць глыбіню бяздонную. Дно-ж для гэтай глыбіні пісьменьнік бачыць у „кальцаваньні“: пяньчук і конь Буланы нішто іншае, як „матэрыял для жыцьця і жыцьцё, і матэрыял для жыцьця ад жыцьця“. І Буланы зрабіўся матэрыялам для жыцьця, як зробяцца ваўкі, што зьелі яго мяса, ды каровы, якім скасіў Самахвал „куст сіняй травы“, што ўзбуяла там, „дзе ўпаў Буланы“. Сум яшчэ й таму, што ў чалавека шмат „паскудзтва, што ўрасло ў яго з самых цёмных даляй вякоў“, якое, „будучы часам нават малым, псуе вялікае харство чалавека“.

Пісьменьнік узяў на сябе цяжкую задачу. Але разьвязвае яе размашыста, шырокімі мазкамі. Так напісана апавяданьне „Вечар“, напрыклад. Гэрой гэтага апавяданьня— Зеніч, уласна ня гэрой, а глядач, об'ектыў, які фіксуе чалавецкія пачуцьці ды абразкі з жыцьця грамады, з жыцьця паасобных людзей— жыцьцё. Вось сталяр Грабіч, якому „ня трэба ні казы, ні шмазы“—ён вясёлы пасьля цяжкай дзеннай працы і „цьвяліцца“ таму з жонкі, ён вясёлы і ў клюбе, хоць і "вельмі-ж натузаўся за дзень у майстэрні“. Чаму-ж ня быць вясёлым кавалю новага жыцьця? Кіпіць вуліца. Па ёй пад вясёлую песьню ідуць „комсамольцы з нязжытай вясёласьцю жыцьцяздольнасьці“. Потым „абазваўся гул бубённы“—гэта „прамаршыравалі два атрады піонэраў“. „А ззаду за імі беглі яшчэ „штацкія“ хлапчукі“—што „чакалі больш сталага ўзросту, каб маршыраваць у ногу пад бубённы гул“. Потым насустрач „штацкім“ „папалася рота вайсковых“, радасных ад песьні ды сілы, і сьлед радасьці, захапленьня „штацкіх“ выліўся, перанятай ад вайсковых, песьняй.

„Пасьля Манька, а яй лес, а ёй зук панцоху ўлез“... „От, братка, наярваем“, пырснула далей жыцьцё. „А той „братка“ часамі сівы дзед“, адыходзіў у бок ды з любасьцю глядзеў на дзяцей“. Гэта пырскае радасьць новай грамады, жыцьцяздольнасьць моладасьці, праца Грабічай.

І зусім ня тое, калі пісьменьнік закранае думкі ды пачуцьці „матэрыялу для жыцьця“, які жыве мінулым, бо „жыць-жа гэтым мінулым, калі яно толькі мінулае, цяжка“. Такая Антаніна, „сястра Болеслава Гельца“ з яе пачуцьцямі, што „здольны лавіць у жыцьці толькі журбу ды смутак“. Такі і былўшы пан жыцьця „здаровы і моцны мужчына гарадзкі поп Парфір Кіяцкі“. „Быўшыя людзі“ гэта. І лёс іх—карчма, смутак; лёс іх рабіцца гноем, „матэрыялам для жыцьця“. Такімі іх і намаляваў Чорны К.

У апавяданьні „Буланы“ пастаўлена проблема жыцьця і сьмерці. Апавяданьне „Пачуцьці“—уецца каля каханьня.

Але гэта толькі адзін бок твораў Чорнага К. Другі іх бок—выкрываньне сутнасьці „пачуцьцяў“, як пачуцьцяў. Іх не заўсёды можна растлумачыць, і пісьменьнік гэта ведае, калі піша—„То гэта ты думкі можаш растлумачыць, а пачуцьці хіба заўсёды можаш?“.

Цікавай асаблівасьцю зборніку, між іншым, зьяўляецца захапленьне пісьменьніка музыкаю, і спроба выражэньня яе існасьці (ап. „Парфір Кіяцкі“).

Гэтым зборнікам пісьменьнік вышаў з меж нацыянальнага ў межы агульна-чалавецкага і зрабіў тым багаты ўклад ва ўжо значную скарбніцу беларускага мастацкага слова.

**К. Гарабурда.**

**Проф Ів. Огієнко. Історія Українського Друкарства.** *Том 1. Львів, 1915 г.*

Початкі Книгопечатаня на Землях Україні. В память 350-ліття першої друкованої книжкі на Україні у Львові 1573—1574 року. Замыслом, трудом і заходами Іларіона Сьвеціцского. У жовкні 1924 року.

**П. М. Попов. Початкі друкарства у Славян.** *Кіев, 1924.*

**В. Барвінок. Загальный огляд стародруків Кіевскіх Бібліотек.** Ludwik Abramowicz. Cztery wieki drukarstwa u Wilnie, 1525-1925. *Wilno, 1925.*

350-годзьдзе з дню выйсьця ў Львове першай Украінскай друкаванай кніжкі дало штурхач зьяўленьню шэрагу каштоўных дасьледваньняў, прысьвечаных гісторыі Украінскага кнігадрукарства. 400-годзьдзе з дню зьяўленьня першай кнігі ў Беларусі, надрукаванай Ф. Скарынай у Вільні, у сакавіку 1525 г., таксама дало штурхач зьяўленьню шэрагу прац па гісторыі беларускага кнігадрукарства. Досьлед проф. Агіенка абхоплівае сабою эпоху да канца XVIII веку. Ён адрозьніваецца зборам аграмаднага матэрыялу, усебакова апрацаванага і высьветленага, і прадстаўляе сабою найкаштоўнейшую кнігу па гісторыі кнігадрукарства на Украіне. Кніга Агіенка шырэй свайго загалоўку. Яна датычыцца ня толькі друкарань уласна-украінскіх. У працы выдзелена месца і беларускім друкарням, а таксама гісторыі кнігадрукарства, як славянскіх народаў наогул, так і тых нацыянальнасьцяй, якія жылі на тэрыторыі Украіны і мелі ўласныя нацыянальныя друкарні. К гісторыі кожнай друкарні дададзен вялікі бібліографічны матэрыял. К кнізе прыкладзен вельмі добра складзены ўказчык, які дазваляе даволі лёгка разабрацца ў той масе фактычнага матэрыялу, які маецца ў кнізе. У сваім уступе аўтар знаёміць з распаўсюджаньнем кнігадрукарства, іначай, з адчыненьнем першых друкарань у тым ці іншым горадзе. А потым, аўтар знаёміць з дзеяльнасьцю славяна-польскага друкара Швайпольта-Хіоля.

Разьдзел I прысьвечаны Беларускаму кнігадрукаваньню, ня зусім правільна названага аўтарам беларуска-украінскім. Тут дадзена кароткая характарыстыка першага кнігадрукара Францішка Скарыны, а потым дадзены агляды дзейнасьці друкарань: Віленскай, Несьвіскай, Васіля Цяпінскага, Заблудоўскай, Еўей, Магілеўскай, Куцейнскай, Буйніцкай, Супрасельскай. Другі разьдзел прысьвечан друкаваньню кніг у Галіцкай зямлі. Тут прыводзіцца падрабязная гісторыя жыцьця і дзейнасьці Маскоўскага першадрукара Івана Фёдарава, а потым разабраны ўсе працы, прысьвечаныя Івану Фёдараву, асабліва ў зьвязку з 300-годзьдзем кнігадрукаваньня ў Маскве і 300-годзьдзем з дню яго сьмерці. Затым ідзе падрабязны агляд Галіцкіх друкарань, сярод якіх першае месца займае горад Львоў. Разьдзел III прысьвечан кнігадрукаваньню на Валыні, пры гэтым аўтар ня толькі разглядае славянскія і украінскія друкарні, але таксама і яўрэйскія друкарні на Валыні. Аўтар выявіў імёны ўсіх вядомых друкароў на Валыні. Разьдзел IV прысьвечан кнігадрукаваньню на Кіеўшчыне. Тут на першым месцы стаіць гісторыя Кіева-Пячэрскай друкарні. Затым друкарня Кіеўскай Духоўнай Акадэміі, а таксама друкарні, якія знаходзяцца на тэрыторыі Кіеўшчыны: Фастове, Бердзічаве і ў Махноўцы. Разьдзел V прысьвечан Чарнігаўскім друкарням (Ноўгарад-Северск, Чарнігаў, мястэчка Глухаў). У разьдзеле VI апісваецца становішча друкарскай справы на Падольлі. Аўтар адзначае 9 друкарскіх асяродкаў: у сяле Паніўцах, мястэчку Ярышаве, Тульчыне, мяст. Мінькоўцах, мястэчку Дунаеўцы, Магілеве, мяст. Янаве, Па-

дольску. Апроч таго, у мястэчку Мяжырэчча, Мінькоўцах, Янаве дзейнічалі яўрэйскія друкарні. Разьдзел VIII разглядае друкарні Усходняй Украіны (Елізаветград, Крэменчуг, Харкаў, Мікалаеў, Ясы і Дубосары), Палтава, Глухаў, друкарня-перасоўка князя Пацёмкіна. Разьдзел IX прысьвечан кнігадрукаваньню славянскіх гарадоў). Тут прагледжаны замежныя Кірылаўскія выданьні ў Вэнэцыі, потым ідзе кароткае пералічэньне Кірылаўскага кнігадрукаваньня на славянскіх землях. Затым даецца гісторыя паўднёва-славянскага кнігадрукаваньня, малдава-валоскага і заходня-славянскага і затым ідзе асобны спэцыяльна вялікі разьдзел, прысьвечаны друкаваньню кніг у Маскоўшчыне. Аўтар гаворыць аб уласнамаскоўскіх друкарнях, потым аб друкарнях агульна-расійскіх, друкарнях Іверскага манастыра і стараверскіх друкарнях у Клінцох. Нарэшце, у вапошнім разьдзеле аўтар дае паведамленьні аб польскіх, яўрэйскіх і рускіх друкарнях на Украіне таго часу. Праўда, уласна-расійскіх друкарань на Украіне ня было, але, дзякуючы распараджэньням улады, украінскія друкарні пачалі адчуваць на сабе моцны ўплыў Масквы. Праца Сьвянціцкага прадстаўляе сабою таксама выдатнае юбілейнае выданьне, у якім частка кнігі (85 старонак) прысьвечана гісторыі кнігадрукаваньня, а другая частка кнігі—здымкам старадрукаваных кніг. Усяго дадзена 152 табліцы.

Першая частка ўступу дае кароткую гісторыю украінскага кнігадрукаваньня. Аўтар пачынае з разьвіцьця кнігадрукаваньня ў немцаў і ў суседзяў. Потым пераходзіць к славянскім першанадрукованым кнігам, вельмі падрабязна разьбірае дзейнасьць Івана Фёдарава наогул і ў Львове ў прыватнасьці, дэтальна малюе кнігадрукаваньне ў Астрозе і Дзермане, а таксама друкарню „Брацкую“ ў Львове. Потым ён дае апісаньне маленькіх друкарань у Галіцыі і на Валыні, у Вільні і на Беларусі. Далей аўтар дае агульную характарыстыку стара-друкарскіх кніг і заканчвае першую частку сваёй працы разборам манастырскіх кніга-друкарань: Кіева-Пячэрская Лаўра, Чарнігаў, Пачаеў, Унеча. Другая частка ўступу знарок прысьвечана гісторыі тэхнікі друкарскай справы ў гэты час. Аўтар закранае пытаньні аб выдавецкім капітале, аб цэхавай арганізацыі, аб друкарскай монополіі, разглядвае дагаворы Львоўска-Усьпенскага брацтва на друкаваньне кніжак з кніжнымі друкарамі. Далей аўтар тычыцца абсталяваньня друкарань і рабочай сілы, расходаў па выданьню, паперы, рысавальнікаў і правераў і, нарэшце, кніжнага гандлю ў Львове. Аўтар з вялікаю ўвагаю разьбірае дзейнасьць Івана Фёдарава і адзначае той аграмадны ўплыў, які зрабіла Маскоўскае кнігадрукаваньне на Украінскае. 152 гравюры складаюць альбом славянскага кнігадрукаваньня, пачынаючы з першадрукаваных кніг Фіоля, Скарыны, вэнэцыянскіх выданьняў і канчаючы украінскімі старымі выданьнямі канца XVIII веку. Табліцы выпаўнены дасканала і зьяўляюцца ўпрыгажэньнем выданьня. Кіеўскі дасьледчык даў невялікую працу аб пачатках друкарскае справы ў славян. Аўтар тычыцца зараджэньня друкарскае справы ў заходніх славян, потым пераходзіць к зараджэньню так званага Кірылаўскага кнігадрукаваньня ў асобе Фіоля, дае агульныя зьвесткі аб друкарскай справе ў паўднёвых славян, на Беларусі і ў Маскве. Кніга заканчваецца агульнымі заключэньнямі адносна старых друкаваных славянскіх кніг і падзяляе іх на некалькі катэгорый адносна шрыфту. Аўтар падкрэсьлівае, што першыя славянскія выданьні мелі рэлігійны характар і з гэтае прычыны першымі друкарамі былі духоўныя асобы. Аўтар падзяляе выдаўцоў славянскіх першадру-

каваных кніг на наступныя катэгорыі: на комэрсантаў, прыкладам, як віленскія купцы Мамонічы, на абаронцаў свае рэлігіі і люднасьці, як Чарнагорскіх ваяводаў—Юры Чарноев, Іван Грозны і князь Астроскі, пропагандыстых новых рэлігійных ідэй, падобна Буднаму і Цяпінскаму, і, нарэшце, асобных друкароў, якія былі фанатыкамі свае справы. Затым аўтар дае пералічэньні са здымкамі ўсіх славянскіх інкунабул, якія хаваюцца ў Кіеўскіх бібліотэках.

Праца Барбікова мае мэтаю разгледжаньне ўсіх стара-друкаваных кніжак Кіеўскіх бібліотэк: 1. Быўшай Кіеўскай Духоўнай Акадэміі, бібліотэкі Кіеўска-Пячэрскай лаўры і бібліотэкі Кіеўска-Сафійскага Сабору, Бібліотэкі Кіеўска-Міхайлаўскага манастыра і бібліотэкі Кіева-Выдубіцкага манастыра. Апроч таго, маюцца стара-друкаваныя кнігі ў быўшай бібліотэцы Кіеўскага Унівэрсытэту, бібліотэцы Кіеўскай Духоўнай сэмінарыі, Першага Дзяржаўнага Музэю і ў асобных Кіеўскіх цэрквах. Аўтар у сваёй працы абмежаваўся пералічэньнем тых стара-друкаваных кніг, якія знаходзяцца ў памянёных бібліотэках.

Беларускі юбілей кнігадруку выклікаў зьяўленьне кнігі Абрамовіча, якая выдана ў Вільні. Аўтар даў кароткую гісторыю ўсіх друкарань у Вільні да 1915 году, біручы к справе зусім новы матэрыял і зрабіўшы крытычны агляд матэрыялу, які друкаваўся раней. Найбольшую ўвагу аўтар надаў друкарні Францішка Скарыны і братоў Мамонічаў, друкарні Віленскай Язуіцкай Акадэміі. Кніга выдана вельмі прыгожа, на вельмі добрай паперы і ілюстравана здымкамі з асобных выданьняў, пачынаючы з выданьня Францішка Скарыны. Нарэшце, наконт 400-годзьдзя Беларускай кнігі ў бліжэйшым часе выйдзе ў Менску вялікі том, прысьвечаны Францішку Скарыне і яго часу, у якім будзе зьмешчаны артыкул аб Беларускім кнігадруку ў XVI і XVII стагодзьдзях.

**У. Пічэта.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### Сярод пісьменьнікаў

* *Янка Купала* здаў Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву для друку III том Збор твораў, у якім зьмешчаны ўсе драматычныя творы.

* *Якуб Колас* здаў у друк зборнік апавяданьняў пад назвай „На прасторах жыцьця“.

* *Пайлюк Трус* здаў у Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва для друку свой зборнік вершаў „Ветры буйныя“.

* *М. Чарот* падрыхтаваў да друку асобнымі выданьнямі свае поэмы „Чырвонакрылы вяшчун“ і „Беларусь лапцюжная“.

* *Н. Чарнушэвіч* перадаў для друку Беларускаму Дзяржаўн. Выдавецтву зборнік вершаў „Дзіва“.

* *М. Гарэцкі* здаў у друк Беларускаму Дзярж. Выдавецтву зборнік сваіх п'ес з сучаснага жыцьця.

* *М. Грамыка* напісаў п'есу пад назвай „Над Нёмнам“. П'еса малюе жыцьцё і барацьбу ў Заходняй Беларусі. „Над Нёмнам“ уключана ў рэпэртуар першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру.

* У хуткім часе на тэрыторыі БССР організуецца ўсебеларуская фэдэрацыя пісьменьнікаў.

Апошняя будзе яднаць беларускіх, расійскіх, яўрэйскіх і польскіх пісьменьнікаў.

* Полацкі маладняковец С.-Хурсік напісаў вялікую аповесьць з жыцьця першага беларускага друкара Францішка Скарыны. Твор *Хурсіка* хутка будзе выданы.

* У хуткім часе маюць выйсьці апавяданьні С. Хурсіка „Ціна“ і вершы маладога поэты А. Звонака „Веянь“.

* Літаратурная камісія ІБК атрымала ад Ромуальда Зямковіча нізку вершаў М. Багдановіча „Каханьне і сьмерць“. Нізка складаецца з 14-ці паасобных вершаў; яна мела быць зьмешчана ў „Вянку“, што відаць з некаторых лістоў да поэты. Знайдзеныя вершы ўвойдуць у першы том твораў М. Багдановіча.

* Утворана пры Наркамасьветы БССР камісія для падрыхтоўкі сьвяткаваньня 20-гадовага юбілею літаратурнай творчасьці пісьменьніка Якуба Коласа.

* У новае беларускае літаратурнамастацкае згуртаваньне „Узвышша“ ўвайшлі наступныя поэты і пісьменьнікі: А. Бабарэка, Зьмітрок Бядуля, П. Глебка, С. Дарожны, Уладзімер Дубоўка, Крапіва, М. Лужанін, Язэп Пушча, Кузьма Чорны і В. Шашалевіч. Для кіраваньня працаю згуртаваньне вылучыла тымчасовы прэзыдыум у складзе Кузьмы Чорнага (старшыня), Крапівы (нам. старшыні) і Адама Бабарэкі (сакратар).

* Вышлі з друку апавяданьні К. Чорнага ў двух зборніках—„Пачуцьці“ і „Хвоі гавораць“.

* *А. Бабарэка* падрыхтаваў да друку: „Творчасьць Ул. Дубоўкі“— крытычна-дасьледчая праца, і „Думкі ў голас аб сучасным становішчы нашае літаратуры“.

### Тэатр, музыка, мастацтва

* Пры доме працасьветы з 1 кастрычніка пачала студыйную работу Беларуская Дзярж. Вандроўная Трупа

пад кіраўніцтвам У. Галубка. У рэпэртуар трупы ўключающца новыя п‘есы: Ільлінскага—„Лес цёмны“ і комэдыя—„Пінская Мадона“.

* З Масквы ў Менск прыехаў запрошаны на пасаду балетмайстра Бел. Дзярж. Тэатру Б. В. Шчарбінін. Новы балетмайстра прыступіў да праверкі балету і яго падрыхтоўкі да пастановак „Вір“ і „Стралок Тэль“.

* Выкладчык Віцебскага Беларускага Мастацкага Тэхнікуму т. В. Волкаў зрабіў па заказу ІБК алеёвы портрэт Леніна. Апрача таго, т. Волкаў зрабіў портрэт Ігната Буйніцкага, які мае быць пераданы ў тэатральны музэй.

* Тэатральная падсэкцыя ІБК вызначыла цэлы шэраг дакладчыкаў, якія распрацоўваюць пытаньні гісторыі беларускага тэатру. Між іншым будуць распрацаваны гэткія пытаньні: беларуская батлейка, тэатр часоў Марцінкевіча, тэатр часоў паншчыны, дзейнасьць беларускага тэатру часоў адраджэньня, эпохі Ігната Буйніцкага, тэатр „Беларускае Т-ва Комэдыі і Драмы“ і інш.

Апроч таго, падсэкцыя адчыняе тэатральны музэй, для якога ўжо сабрана шмат каштоўных матэрыялаў.

* Камісія па вывучэньню беларускага танцу мае камандыраваць на вёску новага балетмайстра БДТэатру Шчарбініна, які будзе знаёміцца з беларускімі танцамі пад кіраўніцтвам этнографа Сэрбава.

* Зараз праводзіцца запіс жадаючых паступіць у хор, які павінен палажыць аснову будучай беларускай *народнай капэлы*. Хорам будзе кіраваць тав. В. Сэлях. Сябры хору будуць весьці тэорытычныя і практычныя заняткі. Для працы запрашаюцца музыкі: Грыневіч, Тэраўскі і Ягораў.

* Выехаў у Гомель Беларускі Вандроўны Дзяржаўны Тэатр пад кіраўніцтвам У. Галубка. Тэатр думае абслужыць Рэчыцкі і Нова-Зыбкаўскі раёны Гомельскай губ.

* Беларуская Дзяржаўная студыя, якая была ў Маскве, рэорганізавана Наркамасьветы БССР у 2-гі Беларускі Дзяржаўны Тэатр. Дырэктарам тэатру назначан т. Мікола Красінскі.

* 13 кастрычніка г. г. адбыўся першы сымфонічны концэрт злучаных оркестраў Беларускага і Яўрэйскага Дзяржаўных Тэатраў пад кіраўніцтвам вядомага дырыжэра Макса Купэра. Такія концэрты будуць ладзіцца кожны месяц.

* Адчыніўся 7 кастрычніка зімовы сэзон Беларускага Дзяржаўнага Тэатру—п‘есай т. Е. Міровіча „Перамога“. Зьмест п‘есы ахоплівае 4 этапы жыцьця Беларусі: окупацыю палякаў, наступленьне і перамогу чырвонай арміі, разруху і мірнае будаўніцтва БССР.

## Друк

* У сьнежні месяцы гэтага году адбудзецца *пяцігадовы юбілей беларускай часопісі „Полымя“*.

* Вышаў з друку шосты (15) сшытак часопісі „Маладняк“.

* Польаддзел Інбелкульту здаў у друк матэрыялы вядомага 3 аддзяленьня царскай канцэлярыі ад 1863 г. на Меншчыне.

Апрацоўваюцца матэрыялы таго-ж аддзяленьня, якія датычацца паўстаньня 1863 году ў Віцебскай губ.

Акрамя гэтага, прыступлена да складаньня „біо-бібліографічнага слоўніка дзеячоў паўстаньня ў Літве і Беларусі“.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва мае сёлета выдаць па пляну 1.250 друкаваных аркушаў; з гэтага ліку 75 проц. беларускай літаратуры (875 друкаваных аркушаў), 15 проц. яўрэйскай—(187,5 друкаваных аркушаў), 8 проц. расійскай—(100 аркушаў), 5 проц. польскай (62,5 аркушаў) і 2 проц. латыскай (25 аркушаў).

З кніг на беларускай мове мае быць выдана 350 друкарскіх аркушаў (171.500 экзэмпляраў): падручнікі па гісторыі беларускай літаратуры і

поэзіі, гісторыі ЎсеКП(б) і інш.; мастацкай літаратуры—115 аркушаў, поэзіі—45 аркушаў, ленінскай літаратуры—120 аркушаў, сялянскай—80 аркушаў, популярнай і палітычнай—70 аркуш., комсамольскай—60 арк., вайсковай—15 аркушаў і літаратуры па жанаддзелу—20 арк.

* Бабруйскія маладнякоўцы рыхтуюць да друку першы нумар сваёй часопісі. У часопісі будуць удзельнічаць усе літаратурныя сілы Бабруйшчыны.

* ЦБ „Маладняка“ рыхтуе да друку твор проф. Барычэўскага—„Тэорыя сонаты“. Дагэтуль на нашай мове ня было падручніка па гэтаму пытаньню.

* З першага лістапада часопісь „Маладняк“ будзе выходзіць як орган ЦБ маладнякоўскай організацыі і як дадатак да газэты „Савецкая Беларусь“. У часопісі будуць друкавацца літаратурна-грамадзкія і палітычныя матэрыялы. У новы склад рэдакцыі ўвайшлі т.т. М. Чарот, М. Зарэцкі і Дудар.

* У хуткім часе ў Менску пачне выходзіць популярная бібліотэчка для піонэраў на беларускай мове.

* 31 лістапада г. г. урачыста адбыўся юбілей 25-гадовай навуковай працы рэктара Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту проф. Ўл. Ів. Пічэты.

* Пры Народным Камісарыяце Асьветы ўтворана камісія па выданьні дзіцячай літаратуры. У працах камісіі будуць прымаць удзел усе выдатнейшыя пісьменьнікі БССР. Акрамя выданьня орыгінальных твораў, камісія будзе рабіць пераклад лепшых твораў для дзяцей з украінскай літаратуры.

* 30 га кастрычніка споўнілася 5-годзьдзе з дня заснаваньня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Юбілей, які адбудзецца 27 лістапада г. г., будзе мець агульна-рэспубліканскі характар. Для правядзеньня юбілею ўтворана камісія пад старшынствам Наркамасьветы т. Баліцкага.

**Рознае**

* 4 верасьня 1926 г. адбыўся Пленум Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

* У хуткім часе ў Ленінградзе сярод беларускіх студэнтаў адчыніцца філія „Маладняка“.

* Беларускі аддзел Дзяржаўнай Бібліотэкі атрымаў з Ленінградзкага кніжнага двара партыю новых кніг аб Беларусі, паміж якімі ёсьць шмат вельмі рэдкіх выданьняў. Усяго атрымана каля 100 кніг.

* Зацьверджана Народным Камісарыятам Унутраных спраў „Беларускае т-ва драматычных пісьменьнікаў і композытараў“. Для бягучай работы абрана часовае праўленьне ў складзе т.т. Ф. Ждановіча (старшыня), А. Міровіча, М. Красінскага (сябра) і В. Шашалевіча (сакратар).

* Профэсар Шыраеў канчае нарыс з беларускай архітэктуры XII стагодзьдзя.

* Полацкі акруговы выканаўчы камітэт перадаў Белдзяржмузэю надзвычайна рэдкую карціну з старасьвецкага Сафійскага сабору „Убійства Сьцяпана“. Прозьвішча і імя мастака невядомы.

* Саюз эспэрантыстых Беларусі прыступіў да перакладу твораў літаратурнага аб'яднаньня „Маладняк“ на эспэранцкую мову. Пераклады друкуюцца ў замежнай эспэранцкай прэсе.

* Наркамасьветы пастанавіў выдзеліць з 1 кастрычніка са складу Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту Беларускую Дзяржаўную Бібліотэту, як самастойную адзінку, непасрэдна падпарадкаваную Наркамасьветы БССР.

Дырэктарам Бел. Дзярж. Бібліотэкі зацьверджан т. Сіманоўскі.

* З пачатку новага навучальнага году пры Комуністычным Унівэрсытэце Беларусі адчыніўся факультэт

журналістых. Мэта факультэту—падрыхтаваць кваліфікаваных працаўнікоў для савецкага друку.

* Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка атрымала ад бібліотэчнага конгрэсу Вашынгтону 414 томаў апошняй замежнай літаратуры. У парадку абмену Бел. Дзярж. Бібліотэка высылае ў Вашынгтон апошнія навінкі беларускай літаратуры.

* Ул. Галубок, кіраўнік Бел. Дзярж. Вандроўнага Тэатру перадаў у тэатральны музэй Інбелкульту архіў трупы. У архіве сабраны матэрыялы за 10 год існаваньня трупы.

* Менская акруговая філія „Маладняка" яднае 42 мададнякоўцы. Філія выдала 23 зборнікі, у якіх зьмешчаны творы 18-ці маладнякоўцаў.

* Пасьля летняй працы ў Ленінградзе распачаў сваю дзейнасьць беларускі навуковы дасьледчы гурток, які пасьля думае выдаць зборнік аб Беларусі.

* Інбелкульт набыў бібліотэку проф. Доўнара-Запольскага ў ліку 11.000 томаў. Бібліотэка мае вельмі каштоўныя кнігі па беларусазнаўству, у тым ліку старынныя выданьні Віленскага Унівэрсытэту.

* 14 верасьня ў ІБК адбылося ўрачыстае пасяджэньне, прысьвечанае 20-годзьдзю першай беларускай газэты „Наша Доля". У сувязі з юбілеем рэдакцыяй газ. „Звезда" былі выпушчаны адкрыткі з адзнакай 1-ай старонкі „Нашай Долі".

* Кракаўская Акадэмія Навук па хадайніцтву проф. І. Пічэты і С. Некрашэвіча апавясьціла Беларускую Дзярж. Бібліотэку аб згодзе высылаць усе свае выданьні на абмен на беларускія выданьні.

* Знойдзен сярод кніг Я. Смайкевіча рукапісны „каран" 1725 году з падрадковым беларускім (а часткай і польскім) перакладам, напісаным арабскімі літарамі.

* 23 лістапада г. г. літаратурная організацыя „Маладняк" будзе сьвяткаваць 3-гадовы юбілей свайго існаваньня.

**У Інстытуце Беларускай Культуры**

* Згодна пастановы Прэзыдыуму ІБК, Акадэмічная конфэрэнцыя ў справе беларускага правапісу і азбукі склікаецца 14 лістапада. На конфэрэнцыю запрашаюцца выдатнейшыя навуковыя сілы, якія знаходзяцца як у межах СССР, так і па-за межамі яго. З Заходняй Беларусі запрашаюцца: прадстаўнікі Віленскай навуковай рады—проф. Б. Тарашкевіч, Ан. Луцкевіч, А. Станкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, Г. Абрамтовіч, Г. Трэпка; з Чэха-Славакіі запрашаюцца—доктар філёлёгіі Ян Станкевіч, прадстаўнік навуковага т-ва імя Францішка Скарыны і рэдакцыі часоп. „Промень"; з Латвіі запрашаюцца—К. Езавітаў, В. Пігулеўскі і прадстаўнік беларускага навуковага т-ва ў Рызе; з Літвы—В. Ластоўскі, А. Галавінскі і іншыя. Паслана запрашэньне беларускаму нацыянальнаму камітэту ў Чыкаго (Амэрыка).

Апрача вядомых філёлёгаў БССР, на конфэрэнцыі маюць быць—ад Расійскай Акадэміі Навук з Ленінграду—акадэмік П. А. Лаўроў і Е. Карскі і профэсары Б. Ляпуноў, Л. Шчэрбу, Гарчынскі і А. Сяржпутоўскі.

З Масквы—проф. Растаргуеў, Д. Ушакоў і акадэмік Дурноў.

З Кіева і Адэсы—акадэмік А. Крымскі, проф. Курыла, Тышчэнка, Ганцоў, Немчынаў, акадэмік Тамсон, проф. Грушэўскі.

Пастаноўлена запрасіць з Нямеччыны вучоных філёлёгаў — Фастэра і Бэрнэхера, з (Чэха-Славакіі)—Гуера, А. Беліча, проф. А. Чарэдні—рэдактара „Slovenski Přehled"; проф. В. Вандрака (Брно), профэсара праскага унівэрсытэту Дарашэнка, проф. Е. Ляцкага (беларускі этнограф), беларускага пісьменьніка Ул. Жылку і беларускае навуковае т-ва Ф. Скарыны ў Празе; поэту Я. Райніса з Рыгі

(Латвія); з Польшчы—Яна Развадоўскага (Кракаў), проф. філёлёга Галомбэка, проф. Лосю.

Інбелкульт распачаў падрыхтоўчую працу да скліканьня конфэрэнцыі; усім запрошаным на конфэрэнцыю асобам рассылаецца адпаведны навуковы матэрыял.

Конфэрэнцыя мае працягнуцца тры дні.

* У бібліотэку Інбелкульту паступіла 27 старасьвецкіх рэлігійных рукапісаў 15—17 стагодзьдзя, якія маюць вялікае значэньне да гісторыі Беларусі.

* Правапіса-тэрміналёгічная камісія ІБК апрацавала наступны сьпіс дакладаў, якія будуць рабіцца на беларускай акадэмічнай конфэрэнцыі: 1) „Рэформа беларускага правапісу“—даклад Я. Лёсіка і садаклад С. Некрашэвіча; 2) „Правапіс чужых слоў“—У. Чаржынскі і Я. Станкевіч (Вільня); 3) „Рэформа беларускай азбукі“—проф. Растаргуеў і Я. Лёсік; 4) „Стан беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў“—проф. Бузук; 5) „Сучасны стан дасьледаваньня беларускай мовы“—С. Некрашэвіч; 6) „Гісторыя беларускай літаратуры“—проф. Піотуховіч і М. Гарэцкі; 7) „Сучасны стан літаратуры Заходняе Беларусі“,—Дварчанін.

Апроч таго, у камісіях конфэрэнцыі будуць рабіць даклады: доцэнт Воўк-Левановіч, Багдановіч, Ластоўскі, Езавітаў і інш.

* У наступным месяцы ў першым паверху памяшканьня былой архірэйскай царквы адчыняецца музэй прыроды Беларусі.

Музэй будзе мець тры аддзелы: па ботаніцы, зоолёгіі і геолёгіі.

* ІБК камандыруе ў Расійскую Акадэмію Навук зоолёга проф. Фядзюшына. Апошні мае прабыць у Ленінградзе ладны час для апрацоўкі колекцый беларускіх птушак.

* Геолёг Бліадуха закончыў геолёгічныя досьледы Калінінскае акругі. Сёлета былі дасьледаваны месцароды крэйды каля в. Воранева, дзе таўшчыня слою дасягае 12 с.

Цалкам дасьледаваны вадападзел ракі Остры, дзе таксама знойдзены месцароды крэйды добрай якасьці (каля в. в. Наноскава, Стара-Дзедзіна і інш.), бурыя жалязьнякі і фосфарыты.

Супольна з Калінінскім АВК праведзены досьледы фосфарытных месцародаў, якія яшчэ летась знайшоў геолёг Бліадуха каля г. Клімавіч.

Знойдзеныя фосфарыты добрай якасьці і зьмяшчаюць у сабе ад 20 да 28 проц. фосфаравага квасу (фосфарыт уздоўж чыгункі Ворша—Унеча).

Апроч таго, знойдзена шмат месцародаў фасфарытаў і ў іншых мясцох. У зьвязку з гэтым пабудова фосфарытнага млыну каля Клімавіч зьяўляецца магчымай і мэтазгоднай.

Геолёг Бліадуха таксама дасьледваў глаўканітавыя пяскі, якія дасягаюць 4-х мэтраў таўшчыні. У вадападзеле ракі Бесядзі, каля в. Сасноўка, знойдзен выхад палеозойскіх вапнякоў, месцароды белых кварцавых пяскоў (в. Бяседзкі-Пруд, Бахраны, Парэчкі і інш.). Паміж р. р. Бесядзьдзю і Лабажанкай выяўлены месцароды тэхнічнай гліны.

Усяго дадаткова зарэгістравана 48 месцародаў розных мінэраляў, якія маюць прамысловы характар.

* У прыроднай сэкцыі ІБК распрацоўваецца пытаньне аб організацыі ў Менску ботанічна-зоолёгічнага саду.

Вядуцца перамаўленьні з адпаведнымі ўстановамі.

* Камісія па захаваньні помнікаў мастацтва і старажытнасьці сфотографавала па БССР 300 такіх помнікаў. У хуткім часе будзе выдавацца спэцыяльная часопіс, у якой будуць зьмешчаны гэтыя фотографіі. У першым нумары часопісі будуць зьмешчаны Менскія помнікі.

* Кіраўнік геолёгічнае экспэдыцыі Інбелкульту проф. Б. К. Тэрлецкі,

які гэтым летам дасьледаваў Бабруйскую акругу, выявіў вялікія паклады жалезнае руды ўсьцяж р. Пцічы ў Глускім раёне (ля вёскі Жолвінец і Сімановічы), а таксама па р. Дняпры ля м. Стрэшын. Далей, усьцяж Дняпра ад Жлобіну да Стрэшына, на поўдзень, ён выявіў паклады высокагатунковае ганчарнае і цагляное гліны, якая знаходзіцца ў вельмі спагадных для эксплёатацыі ўмовах. Гэткія-ж гліны знойдзены ў шмат якіх мясцовасьцях на р. р. Сьвіслачы і Бярэзіне ад м. Лапічы да м. Сьвіслач і далей да Бабруйску. Апрача таго, Б. К. Тэрлецкі выявіў вялікія паклады крэйды ў ваколіцах Бабруйску (ля в. в. Кастрыцкая-Слабодка, Кісялевічы і інш.).

Аднак, самай цікавай вынаходкай сёлетняга году трэба лічыць выяўленьне двух выйсьцяў дэвонскіх вапнякоў. Аб адным з гэтых выйсьцяў коратка зазначана ў геолёгічнай літаратуры, і сучасныя дасьледзіны пацьвярджаюць знаходжаньне яго ў ваколіцах ст. Дараганава. Другое выйсьце зьяўляецца зусім новым, дагэтуль невядомым, і знаходзіцца ля вёскі Стаішча, што на поўдзень ад разьезду Дзераўцы.

Усе пералічаныя карысныя выкапні павінны мець, і часткаю ўжо маюць, вялікае экономічнае значэньне для краю.

Экспэдыцыя знайшла ля м. Стрэшына, на крутым правым беразе Дняпра, вялікую стаянку старажытнага чалавека; адсюль прывезена для музэю Інбелкульту колекцыя костак млекаедных, пташак і рыб, шмат рэштак глінянае пасуды і іншых рэчаў, сярод якіх варта адзначыць голку з косткі і мэталёвую стралу.

**Беларуская культура за рубяжом**

* Беларускі драматург Аляхновіч, які нядаўна вышаў са складу Паўлюкевіцкай „Беларускай нацыянальнай рады“ ўзяўся за рэорганізацыю „Беларускае хаткі“ ў Вільні, якая дагэтуль была пад уплывам пана Паўлюкевіча.

* Беларускае культурна-асьветнае таварыства „Прасьвета“ наладзіла 4 верасьня ў Дзьвінску *вечарынуспэктакль.*

* У Вільні пачынае выходзіць новая беларуская газэта „Наша Справа“, якая зьяўляецца органам Беларускае Сялянска-Рабочае Грамады.

* У Коўні зорганізавалася новае беларускае культурнае таварыства „Гурток“. Старшынёй гэтага таварыства абраны М. Радзевіч.

* Проф. Варшаўскага унівэрсытэту Галомбэк напісаў кніжкі „Беларускі сярэднявяковы тэатр“, „Беларускія дзяды“. Гэтыя дзьве кніжкі вышлі ўжо з друку. Гэтым-жа проф. падрыхтаваны да друку вялікія дасьледчыя працы аб беларускім пісьменьніку Дуніну-Марцінкевічу.

* Вядомы перакладчык Краўцоў Макар, зрабіў пераклад на беларускую мову твор выдатнага польскага пісьменьніка Г. Сенкевіча—„Бартэк Пераможнік“.

* У Латвіі (Рыга) зорганізавалася „Беларускае выдавецтва“, якое ставіць сваёй мэтай друкаваньне беларускіх падручнікаў і розных кніг, прыстасаваных да беларускае школы ў Латвіі.

* У Вільні 18 верасьня г. г. адбыўся ўрачысты сход, прысьвечаны 20-годзьдзю пэрыодычнага друку.

На сходзе, акрамя беларускіх грамадзкіх і палітычных дзеячоў, прысутнічала шмат прадстаўнікоў літоўскага, польскага і яўрэйскага друку Віленшчыны.

* У Дзьвінску 25 верасьня адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 5-годзьдзя беларускае нацыянальна-адраджэнскае працы ў Латвіі.

## ХРОНІКА З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* У верасьні месяцы гэтага году адбыўся 20-гадовы юбілей літаратурнай працы вядомага украінскага поэты і крытыка Зьмітро Загула.

* Адэская фабрыка ВУФКУ выпускае кіно-фільму „Тарас Шэвчэнка“ ў пастаноўцы рэжысэра Чардзініна.

* 30 верасьня адбыўся 40-гадовы юбілей навуковай працы вядомага украінскага акадэміка М. С. Грушэўскага.

* Пачаў сваю працу ў Кіеве Дзяржаўны Тэатр імя Івана Франка— п'есай „Белая Гвардзія“ маскоўскага драматурга Булгакова. П'еса малюе эпоху Скорападзкага на Украіне.

* У Кіеве намечана ўладзіць выстаўку украінскай графікі. На выстаўцы будуць экспонаты мясцовых і закардонных мастакоў.

* Першага кастрычніка адчыніла опэрай „Аіда“ свой сэзон Кіеўская Украінская-Дзяржаўная Опэра.

* У наступным годзе пры Кіеўскім тэатральным тэхнікуме адчыніцца факультэт яўрэйскай драмы.

* Украінскі вядомы мастак Лукомскі прыяжджае з Парыжу ў Кіеў і прыме ўдзел у пасяджэньні, прысьвечаным творчасьці мастака Нарбута.

* Я. Мамантаў напісаў новую п'есу „Рожево павутиння“—комэдыя ў 4 дзеях. П'еса будзе зачытана на адным з бліжэйшых пасяджэньняў Драмсэкцыі Украінскай Асоцыяцыі Рэволюцыйных Драматургаў.

* Л. Улагай-Красоўскі напісаў новую комэдыю „Шершень в павутинні“. У комэдыі адбіт новы быт. П'еса прынята да пастаноўкі ў украінскім народным тэатры.

* Ірчан (Амэрыка) канчае інсцэнізацыю аповесьці пісьменьніка шахцёра Дж. Велша „Підземий світ“.

* Композытар Я. Яцэновіч напісаў араторыю на словы П. Тычыны „Скорбна мати“ для хору і оркестру.

* Згодна пастановы НКА адзінай дзяржаўнай харавой капэляй будзе прызнана толькі „Думка“. А харавая капэля „Дух“ будзе мець мясцовае значэньне.



*Рэдакцыйная Калегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі.**

*Выдавец:* **Дзярж. Выд. Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 7

Стар.